# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ



## ЛЮТЫ

## КНІЖКА
## ДРУГАЯ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК —— 1929

# ЗДАРЭНЬНЕ З КАМІСАРАМІ

## Цішка Гартны

### I

— Заходзьце да мяне... Так... хоць-бы заўтра каля полудню... Ха-ха-ха!.. Які вы цікавы чалавек... Вота-ж, во... Мой, пытаецe?.. А ўжо-ж, на паляваньне, пэўна... ¡У гэтым яго ўсё жыцьцё... Ды няхай—я мала дбаю...

Паруля цалкам аддалася тэлефону, пільна глядзючы ў залатую марку фірмы. Яна не заўважыла, як за дзьвярыма ў калідоры празьвінеў за-цяглы рэзкі званок; не дагледзела, як на пальчыках шмыганула ля яе работніца Ліза, бягучы адчыніць дзьверы. Што ў габінэт увайшоў Юстын Паруля заўважыла толькі тады, калі той незнарок кінуў порт-фэль на пісьмовы стол і сьпіхнуў з чарнільніцы вечка; яно скінулася на падлогу і гучна дзвынкнула. Паруля схамянулася, ажно з яе рук вы-валіся трубка тэлефону. Яна з жахам уперылася вачмі ў здаровую, вы-прастаную постаць мужа і глядзела на яго, як на цуда якое. Нейкі час маўчаў і Юстын. Яго востры зрок напружна калоў Парулін твар, бляды і зьбянтэжаны ад нечаканасьці. Пад шырокім маршчыністым лобам Юстына варушылася пагрозная думка, якая вось-вось мела распру-жыцца сярдзітымі словамі на адрас Парулі. Паруля інстынктыўна адчу-вала гэта, заміраючы ў чаканьні.

Але запанаваўшую ў габінэце цішу зьнянацку парушыў новы дзвынк званка. Юстын крута павярнуў з месца і вышаў у дзьверы. Паруля ўкрадкам агледзелася вакол, хутка пачапіла трубку і адышлася ад тэле-фону. Глыбака ўздыхнула, усё яшчэ ў боязьні перад наступным. „Ён пачуў, пэўна... А-яй, ліха на яго...“ мільганула ў яе галаве. І, ня веда-ючы, што рабіць, што мужу адказаць, калі ён чэпіць яе тэлефоннай гутаркі, заварожана паводзіла галавой.

Яе апаска ня збылася. Усё пайшло ня так, як таго можна было спа-дзявацца. Паруля не пасьпела і падабраць слова да магчымага запы-таньня к мужу, як той з калідору запытаў зусім спакойным тонам:

— Паруля, ці нам абеду хопіць на чацьвярых?

— На чацьвярых?—не зразумела маладзіца, будучы пад уражаньнем спатканьня:—Я запытаю Лізу.

— Прышоў Лукаш... Ужо сабраным, акурат. Во—глядзі, што за па-ляўнік... На яго цураха, і дубальтоўку выпараў недзе, на яць... Бачыш?

Паруліным тварам прабеглі палоскі ружовага заспакаеньня. Выраз вачэй зьмяніўся к вясёламу. Яна порстка крутнулася на месцы і ступіла два крокі насустрэч мужчынам.

— Лукаш не паляўнік, а сапраўдны лыцар... Як да вас ідзе паляўнічы гарнітур, вы ведаеце—адумыслова...

Лукаш прывітаўся і тут-жа зьняў з плеч дубальтоўку.

— Абедаць, абедаць, Паруся, — падагнаў жонку ласкавым тонам Юстын і сеў пры стале.

— Зараз, перабірайцеся ў сталовую,—адказала яна і шмыганула ў бакавыя дзьверы.

— Ідзем да стала,—паклікаў Юстын Лукаша.

У сталовай, пакуль быў паданы абед, яны перакінуліся некалькімі думкамі наконт заўтрашняга паляваньня, пасьля селі за стол.

— Ну, і пагода-ж, браток, проста—золата,—цешыўся Юстын.

— Важна, што сьняжок цярусіць... Заўтра чуць сьвет...

— Я вельмі рада, што вам сама прырода дагаджае, — паільсьціла Паруля.

Зараз ні на яе твары, ні на повертах яе малажавай зграбнай постаці ня відаць было жаднага адбітку нядаўнае зьбянтэжанасьці. Ласкава-прывабная і ў той-жа час манлівая ўхмылка сонечным зайчыкам бегала па яе белым, далікатным твары, хаваючыся ў складках умераных губ, пад брывамі сіняватых вачэй і ў прывабных ямках на шчоках.

— Вы абодва, ну, праўда-ж, мэрам-бы створаны для паляваньня,— кпіла яна з мужчын.

І толькі таму, што Юстын з Лукашом сапраўды былі заняты маўкліваю развагаю аб заўтрашніх посьпехах паляваньня, яны прапусьцілі незаўважанай Паруліну гіронію. У яе словах выпірала наповерх тая зьнявага да мужа, якую выклікалі яе зносіны з зухаватым начальнікам другога раёну міліцыі, Жвавым. Здавалася-б, што аднакія стасункі да зброі як з боку Юстына, гэтак сама і з боку Жвавага—маглі-б роўна ўплываць на Парулю. Тым ня меней маладзіца ня лічылася з гэтым, калі накіравала сваю сымпатыю на стройнага прыгожага мужчыну ў асобе начальніка міліцыі. Ня ўзважвала Паруля гэтага і з боку службовае важнасьці. Камісарства мужа хоць і надавала ёй ганаровы эпітэт „камісаршы“, аднак у справе афармленьня яе пачуцьця гэта адыгрывала малую ролю. Грамадзкае значэньне мужняга становішча патрэбна было Парулі ня болей, як на кожны выпадак... Яно, магчыма, надавала некаторай пікантнасьці і Жваваму. Але, каб гэтым узмацняўся Юстынаў уплыў на жонку—нельга сказаць. Праўда, таго Юстын і не дамагаўся з належнай стараннасьцю. Ён мэрам-бы згадзіўся з тэю рысаю Парулінага характару, якая сьведчыла аб яе надворнай вернасьці мужа. Да таго яшчэ і чапіцца за маральны рудымэнт буржуазных часоў—ці варта. Увогуле, для абаіх іх, Юстына і Парулі, было зазвычай уступаць адзін аднаму. Якраз гэтыя ільготы ня выходзілі за межы, дзе канчаўся хатні, сямейны лад, а таму

з імі можна было згаджацца. Нічым іншым трэба тлумачыць і тое, што Юстын пакінуў бяз скуткаў жончыну тэлефонную гутарку. Яго настрой ад першага ўражаньня выявіўся ва ўздыме злосьці, але злосьць была няглыбокая. Яна вельмі лёгка растала на сталёвай рулі Лукашовай дубальтоўкі. Лукаш і зараз затульваў сабою Парулю,—Юстын перакідаўся з ім сказамі, выключна прысьвечанымі бягучым падзеям.

Звычайна сямейнае пачуцьцё ў яго ўздымалася пасьля звароту з паляваньня. Пры гэтым яно рэгулявалася посьпехамі апошняга.

Паруля добра ведала ўсе бакі Юстынавай істоты. Ведала і кіравалася гэтым у сваіх паводзінах.

На гэты раз яна ахвотна, жвава, магчыма, у аддзяку за спакойнае выйсьце са становішча напружнасьці пры яго ўваходзе ў кватэру—памагала Юстыну зьбірацца ў дарогу. Рупліва знайшла яму скураную калітку, абцерла яе анучкаю; клапатліва ўлажыла на дарогу сьпехам зробленых бутэрбродаў, агледзела жукетку, ці ня вырваны дзе-колечы гузік. Выказала вострую зацікаўленасьць у пытаньні аб падводзе—хвіля ад хвілі пазірала ў акно. Пытала па чарзе—то Юстына, то Лукаша—ці далі яны ў камісарыяце належныя загады наконт гэтага. Калі выявілялася, што час мінае, а пад вокнамі фурмана Піліпкі ня відаць, яна сур'ёзна праказала да мужа:

— Юсьця, мне здаецца, што ты забыўся вызначыць Піліпку час, калі ехаць. З табою гэта часта бывае.

— Кінь... Гэта маруда заўсёды спозьніцца на некалькі гадзін... Пагнаць-бы, на добры лад...

Лукаш бараніў фурмана.

— Тут не яго віна — Атацюк не падганяе... Ды яшчэ пасьпеем— трыццаць вёрст—ня так далёка...

— Твае вёрсты занадта кароткія... Ты падумай, Лукаш, да Баковічаў колькі, а там яшчэ... Да Грамызнае дачы ад гораду ня менш, як вёрст дваццаць. А зараз маем тры гадзіны. Да восьмай-бы хоць даехаць.

Паруля намякнула аб тэлефоне—каб падагнаць з канём, але Юстын адгаварыў яе „дарэмна званіць“. Праўда, гэта і не патрэбна было, бо зусім хутка пачуўся званок. Усе ўтрох кінуліся да дзьвярэй, якія ўжо Ліза пасьпела адчыніць і з якіх уваходзіў дробны, сівы, хударлявы мужычок, фурман Піліпка. Гэтым яго зьяўленьнем было лёкалізавана пачуцьцё нездаволеньня. Юстын мігам адзеўся і быў напагатове.

— Ты не запозьнішся панядзелкам?—выпускаючы зграбных паляўнічых з дзьвярэй, запытала Паруля.

— Як-бы табе была розьніца, калі я прыеду не акурат у дзесяць гадзін раніцы?

— А ўсё-ж такі...

— Юстын Хведаравіч заспакоены пра вас...

Лукаш кпліва ўсьміхнуўся, бяручы пад казырок. Ён заўсёды гэтым манэўрам выказваў сваю „таварыскую“ блізкасьць да Парулі.

Паруля матнула галавою, ажно яе падстрыжаныя косы закрылі разьвітальны погляд вачэй. Сьледам бразнулі дзьверы, і толькі стук падкаваных ботаў даходзіў да яе вушэй.

## II

Пілiпка ўвiшна ўсеўся на прыладжаным месцы і моцна тузануў лейцамі. Дасьціпны конь, выстаяны на аўсе, лёгка рушыў з месца і паімчаў усьцяж доўгае роўнае вуліцы, у кірунку да электрычнай станцыі. Плаўнасьць бегу санак закалыхвала ездакоў, але яны не паддаваліся дрымоце. Гутарка мела досыць об'ектаў, каб яе хапіла калі не на дваццаць—дваццаць пять вёрст, то на вёрст дзесяць напэўна. У абсягу гораду, які, чым далей ад цэнтру, драбнеў, расплываўся, пераходзячы ад муроў да драўляных домікаў, ад шчыльных сьцен кварталаў да прагалаў пустых гародаў, у гутарцы пераважалі тэмы з паляўнічых здарэньняў.

За рогам апошняга будынку вуліцы раптам паляўнічыя зрабіліся заўзятымі плянёрамі прамысловага жыцьця акругі і нават рэспублікі. З вуснаў абодвух, крыжуючыся, плылі натхненныя тырады пра тэхніку, пра індустрыялізацыю, пра паветраныя зносіны. Кожны з іх вынаходзіў найпэўнейшыя сродкі і найкарацейшыя шляхі да хуткага пабудаваньня цэлых складаных сыстэм прамыслова-гаспадарчага жыцьця рэспублікі. Усё тое, што робіцца зараз, лёгка ўдзесяцёрыць—варта толькі прыняць іх пляны і меркаваньні. Далі-б права і волю Юстыну ці Лукашу—не далей, як праз тры гады, абмінулі-б нашчэнт прагніўшую Заходнюю Эўропу...

— Анархія капіталістычнага гаспадараньня,—заўзята даводзіў Лукаш, глытаючы сьнежную пацяруху,—увачавідкі вядзе буржуазныя краіны да заняпаду. Энэргія працоўных гушчаў нашае рэспублікі—непамерная. Ёй толькі не хапае патрэбнага дапасаваньня...

Пры пераезьдзе чыгункі Лукашовы думкі абарваліся. Іх компэнсаваў Юстын развагаю аб чыгунках і іх сучасным стане. Ён з поўным аўторытэтам знаўцы чыгуначнага гаспадарства казаў таварышу:

— Па-мойму, чыгункі ўжо набылі пэўную ступень свайго паступовага разьвіцьця і рацыяналізацыі... Мы дамагліся цягніковай хады да шасьцідзесяці вёрст у гадзіну... Скасавалі адзін званок... І цяпер—дзеля павялічэньня хуткасьці прабегу ў гадзіну—трэба адмаўляцца ад старых нікому непатрэбных формальнасьцяй з адпраўкамі, спынкамі ды іншае... Развой нашага жыцьця мусіць вызначацца найбольш узмоцненай хуткасьцю руху... Прабег наш да соцыялізму куды даўжэйшы, чымся прабег капіталізму да свайго зьнішчэньня... Няпраўда, мо'?

Здарылася так, што ў адзін голас падмацавалі Юстынаву думку і і Лукаш і фурман Пілiпка. Як і чаму надало фурману ўмяшацца ў гэта, было незразумела ні Лукашу, ні Юстыну; але апошняму фурманоў трапны

вымаў пад'ільсьціў. Развага была грунтоўнай. Няхай-бы хто хоць калі абверг яе... І гэтага выпадку хапіла для Юстына на тое, каб прызнаць свае погляды на розныя бакі будаўніцтва непарушнымі. Дык чаму, усё-ткі, яму даручылі меней адпаведную працу, чым тая, на якую ён здатны? Юстын часта закранаў гэтае пытаньне, і толькі плойма абавязкаў па камісарыяту не дазваляла яму як належыць заняцца гэтым пытаньнем. Адны штотыднёвыя паездкі на паляваньне выдзялялі рэдкія хвіліны на чапаньне яго. Рупела і зараз падумаць аб ім, а, магчыма, паставіць на абгавор з Лукашом. Бадай гэта памагло-б у выпадку чаго быць грунтоўней падрыхтаваным. Юстын хутка перабіраў думкамі, шукаючы падставы сваім крохкім намерам. Гэта забрала ад яго шмат часу, што вымушала маўчаць і Лукаша. Апошні драмаў, панурыўшы галаву.

— Кіраваць да Міхаліча?

Запытаньне фурмана настаражыла абодвух.

— Зразумела,—адказаў Юстын.

Здалёк справа мігцела кропка чырвонага праменю. У згусьцеўшым змроку яна была выразнай, як прасьвідраваная дзірка ў дошцы.

— Яшчэ далёка?—запытаў Лукаш фурмана.

— А яшчэ вярсты дзьве...

— Дык мы едзем недалёчка ад лесу?

— А вось, ганоў з двое зьлева... Ды ці-ж можна разгледзець што ў гэтай завірусе.

— Затое каню лёгка...

— Дарога ня дрэнная... Бывала, вакол былі адны лясы... А зараз на сотні вёрст, як яблыка—галеча. Яшчэ гадоў два-тры і паляваньне сыдзе на пшык. Гадоў дваццаць таму якія аблавы наладжвалі! Тысячы чалавек зганялі, а войдуць у лес—і ані знаку. А гэта... Каб ня вы—хто-б дапомніў аб мінулых аблавах...

Юстын з Лукашом моўчкі слухалі Піліпку. Яго гутарка расказытала іх абодвух. Індустрыялізацыя і паляваньне. Уздым чыгуначнае гаспадаркі і спакойны бег затомленае каняkі. Як усё ўмоўна ды расьцягла ў нашым жыцьці!

Юстын на момант перанёсься думкамі ў будынак свайго камісарыяту. Раптам у яго выабражэньні замігаліся бязьлікія паперкі, зазьвінеў тэлефон, затупалі палахлівыя і нядбайныя служачыя. Дзесяткі дробных пытаньняў камісарыяцкага жыцьця заскакалі чорнымі міглівымі кропкамі ў яго ваччу; сьледам за імі вышчарылася рэшата буйнейшых і меншых дзірачак—гэта недахопы, якіх не залатаць, колькі Юстын ні стараецца... А мо' ён не з таго боку падыходзіць?.. Ці-ж тое можа быць?

Кругабег думкі пагражае быць бясконцым.

Годзе аб ведамственых інтарэсах... Яны набываюць якасьць нявычэрпанай клапатлівасьці. Хоць раз у тыдзень адарвацца ад іх, забыць, мо' і не па праву, і на паляваньне. Ну, дома-ж...

Вобраз Парулі глянуў празрыстымі вачыма яму ў твар—як не апёк.

— Ты дрэмлеш?—штурхнуў Юстына Лукаш:—прыехалі.

— Няўжо задрамаў? Браток... Ты ня можаш сабе ўявіць, як я змардаваўся. Здаецца, каб гэта хоць-бы на адзін тыдзень мне вырвацца з камісарыяту—ня вылазіў-бы з лесу...

Юстынаў голас заглушыў заядлы брэх сабак. Яны выскачылі, як з-пад зямлі, і закруціліся вакол іх, не адбягаючы ад санак.

III

— А я ўжо думаў, што вас, таварыш Швэбік, на сёнешні раз мне не дачакацца. Прыгатаваў вячэру, настроіўся і ўсё пазіраю ў вакно—а ў полі—ані знаку. Махнуў рукою і нарыхтаваліся павячэраць ды на адпачынак,—як раптам чую—брэша Каштан... Ну, думаю, госьці... Нарэшце...

Здаровы, высокага росту, зарослы круглаю рыжаватаю барадою, з пляскатым носам, але сымпатычны з твару—казаў гэта зычным голасам Міхаліч, прапускаючы наперад у сенцы Юстына і Лукаша.

— Прызнацца вам,—казаў ён далей,—мяне панталыжыла завіруха. Думаў, памяркуеце і пабаіцеся выбірацца ў дарогу.

У хаце абудва паляўнічыя прывіталіся з жонкаю лясьніка, атрэсьліся ад сьнегу і зьнялі з сябе паляўнічую амуніцыю. Знаёмыя абставіны настроілі Юстына на спакойны лад; ён адчуваў сябе добра і вольна. Лукаш, які радзей бываў у Міхаліча, нейкі час аглядаў прасторную цёплую хату стражніка. Яму здавалася, мэрам-бы за апошнія пяць тydняў, у якія ён ня быў у Міхаліча, нутраны выгляд хаты палепшаў. Мэрам-бы зрабілася шмат прытульней ад ранейшага. Шырокі драўляны ложак, памалёваны цёмнаю фарбаю, шчыльней туліўся да тыльнае сьцяны, пакідаючы больш месца для пастаўленае побач шафы. Люстра ад дваровае сьцяны было перастаўлена да вулічнае, а каля пабеленае грубкі зьявіўся тапчан. На палацях, завешаных дыванамі ад хаты, спалі Міхалічавы дзеці, а жонка завіхалася каля печы. Бляск проміну, які адбіваўся на сьценах у мыцельніку, то яскрэў, то сумнеў, паглынаючы бляск лямпы. Па хаце насіўся пах сьвежых ячных бліноў і раздражальнае верашчакі. Зусім не пасаваўся да гэтых пахаў густы імпад толькі што залітае паранкі.

Міхаліч не пасьпеў увесьці гасьцей у хату, як мігам зьнік. Яго адсутнасьць чамусьці на першы час нікога ня цікавіла. Лукаш не зважаў на адсутнасьць Міхаліча, бо раптам зацікавіўся ўнутрыхатнім выглядам. Юстын забыўся аб Міхалічу з прычыны намагаўшага на яго ўтому. Жонка стражніка, дык тая не заўважыла-б, каб хто выцягнуў з хаты ня толькі дробныя рэчы, але і печ разам з ёю. Не заўважыла-б ні за што, бо заўзята сачыла за шэрагам гаршкоў, якія заставілі сабою ўвесь чарон у печы. Раз-ад-разу мерскалі яе рукі, соваючы ў печ, то

высоўваючы з печы чорныя кіі вілак, чапялы і веніка. З боку яе рытмічныя ўзмахі дапаміналі бойку на рапірах ці спрытную атаку рымскага воіна на свайго ворага.

Праз гэта ніводны з траіх ня чуў дагэтуль яшчэ нясьціхшага брэху сабак. Мэрам-бы злы чараўнік—зімовая ноч, паступова, але моцна наступала на іх, як на адзіную праяву жыцьця, што задзёрыста не здавалася перад неаглядным прасторам маўчанкі.

Вось побач Юстына прысеў і Лукаш. Хвілін са дзьве ён пазіраў на маўклівую, але порсткую маладзіцу каля печы. Пасьля адчуў, што дрымота ад Юстына перакідаецца і на яго і міжвольна абапёрся рукамі на стол. Увішнасьць Міхалічыхі падавала рэдкія стукі і бразгі то вілкамі аб цэбар, то конаўкаю аб вядро, толькі паляўнічыя гэтага не заўважалі таксама... Толькі тады яны раптам паўскакалі з лавы, калі стук дзьвярэй заключыў сабою ўваход у хату Міхаліча з Піліпкам.

— Яны сьпяць?—гучна запытаў стражнік жонку.—Няхай-бы ты ім...

— Да не, дзе там сьпяць,—зьнябыткаваным голасам пасьпяшыў адказаць Юстын.

— Ведаеце, пакуль мы з Піліпкам уладзіліся з канём—дык і час мінуў,—мэрам-бы апраўдваўся Міхаліч:—Чорт яго ведае—у лесе жыву, а ніяк хлява людзкага паставіць не зьбяруся. Як у тэй прыказцы—шавец бяз ботаў.

— А чаму-ж гэта?—ведаючы добра прычыну таму, запытаў Лукаш.

Стражнік у момант пераменіў выраз твару, пасьля загадліва і разам упікліва адказаў.

— Ці-ж знойдзеш канцы нашым часам...

Сьледам, адчуўшы непатрэбнасьць падобнага настрою, адвярнуўся да жонкі.

— Дар'я, ты-б нам вячэру змайстравала, а то людзям спаць час.

У кабеты словы былі напагатове—яна мэрам-бы і чакала таго, каб яе чапілі.

— Ды ў мяне-ж вячэра ўжо даўно згатавалася,—з мінаю шчырае гасьціннасьці адказала яна.

— А чаму-ж ты?..

— Што чаму?—перапыніла Міхаліча жонка, ведаючы сэнс яго запытаньня:—Таму, што ты запрапаў дзесьці на дварэ, а людзі змарыліся ў дарозе і хацелі спакою. Ласьне магла я іх чапаць?.. Во, можна зараз-жа ўладжвацца...

Кабета раптам адарвалася ад печы і апынулася каля стала. У некалькі кароткіх адрыўных повертаў яна прыладзіла стол да вячэры, расклаўшы на ім лыжкі і лусты белаватага аржанога хлеба. Мужчыны не агледзеліся, як у асяродку прыладаў і хлеба стаялі дзьве фарфуровых працёртых талеркі з роўнымі крыжэнікамі сала. Сьледам, ужо з боку Міхаліча, ачулася між талерак стройная бутэлька закрашанай гарэлкі.

Прысеўшы за грубкаю, Піліпка хціва пазіраў у бок стала, скрадаючы зыркасьць поглядаў палоскаю ценю ад канта грубкі. Разагналі зьнябыткаванасьць і Юстын з Лукашом. Першы ўпэўнена тупаў упоперак хаты, а другі далёка не аднакава пазіраў на Дар'ю.

Пад расплыўлівым колерам сьвятла Лукаш знаходзіў у стражнічыхі своясаблівае хараство ў твары. Прычэсаныя гладка, прадзелам, русыя косы ані не пярэчылі сучаснай модзе стрыжак і не адбіралі ад Дар'і рысак, вельмі дапамінаўшых Джыоконду. Праўда, постаць стражнічыхі зусім не адпавядала хараству і сымпатычнасьці твару — яна ступавыглядна спускалася ад шыі да ног. Прытупляла вострасьць Лукашовага пачуцьця і бруднаватая хатняя вопратка гаспадыні. Падатканая драпястая спадніца і мешкаватая сьвітка скрадалі формы яе фігуры. А закасаныя рукі, ня вельмі дагледжаныя, і прыпах дыму з паранкаю, які цягаўся ўсьлед Дар'і, паралізавалі ўвачу Лукаша дадатнасьці гаспадыні. Тымчасам усё гэта не перашкодзіла яму назіраць за кабетай.

— Будзем вячэраць,—перапыніў Міхаліч развагі Лукаша:—Я прашу прабачэньня, што столькі часу змарнавалі... Тут частка віны на маёй кабеціне...

— Кіньце, таварыш,—хапіўся за магчымасьць пагутарыць аб Дар'і Лукаш:—Ваша жонка ў гэтым ні каліва ня вінна... Ды... хто думае каго вінаваціць? І за вошта? Вы хіба лічыце нас за якіхсьці готэнтотаў... Годзе...

— А ён у мяне...—памкнулася казаць Дар'я і перапыніла гутарку выйсьцем на момант у сенцы.

Міхаліч пераняў жонку, паведаміўшы гасьцей:

— Яна ў мяне заўсёды знойдзе чым апраўдацца... Вось і зараз—намякне на маю дзікасьць, напэўна, і выпучыць сваю культурнасьць... Няпраўда, мо'?

— А такі і гэтак,—зачыняючы дзьверы, падмацавала мужніну здагадку Дар'я:—Мо'-ж няпраўда, што мяне гэтыя абставіны зусім засмакталі? Ты паглядзі на мяне—куды я варта стала... А гэтулькі было ў мяне жыцьця... Абрастаю, як купіна мохам, во... І ты ня любіш, калі я намякну пра гэта... Мужчыны...

Лукаш пільным праверачным поглядам абмераў падышоўшую да стала кабету. Сапраўды ў ёй змагаліся два пачаткі—гарадзкі, грамадзкі, і палявы, адзінотны. Контраст між бялізнаю і клясычнасьцю рысак твару і замурзанаю, прапахшаю кухняю ды хлявамі, вопраткаю пацьвярджаў гэта.

— Давайце вып'ем за лепшую будучыну,—сказала Дар'я, калі ўжо вячэра ўвайшла ў свае правы.

— Са здаваленьнем!—падтрымаў Лукаш.

Усе аднагодна выпілі, палажыўшы гэтым пачатак жвавага настрою і пачуцьця добрасуседзкае шчырасьці. Адпаведна гэтаму разьвязаліся языкі і адкрыліся намеры. Пашлі пляны і развагі, якімі абмывалася сучаснасьць, як галька вадою ў горных рэчках.

— Я вам скажу, таварышы,—настойна даводзіў сваю тэорыю Міхаліч: — Было-б усё добра, каб наш урад пільней сачыў за пытаньнем роўнасьці. У нас гэтага бракуе. Скажам, я лясьнік, а Янка ці Грышка загадчык аддзелу: чаму ён лепшы за мяне і шчасьлівейшы? Таму, што вышаў недагляд і нашы ролі памяняліся? Няроўнасьць зайшла глыбока, маючы нутраныя чалавечыя штуршкі. Ні спрыт, ні сымпатыі не павінны мець месца ў справе нашага будаўніцтва. Гэта ня мерка людзкае якасьці, таварышы, не. Трэба мераць па здольнасьцях чалавека працаваць і па шчырасьці яго працы, во... Мне даручаны для вартаваньня абсяг дачы даражэй за ўсё. Запытайце жонкі—я забываю прыватныя інтарэсы, а дрыжу за цэласьць мне даручанага дабра. А вось, скажам, загадчык лясною гаспадаркаю ці раз пацікавіўся гэтым? Магчыма, і ня ведае зусім, што і ёсьць дзесьці ў яго падначальны Міхаліч з цэлаю дачаю лесу... Тымчасам, кажуць, ён заслужоны ў мінулым... Ці-ж гэта грунт? Не... Кожны час вымагае сваіх здольнасьцяй. Зараз патрэбны будаўнікі, а не ахоўнікі дваццаць год таму нажытых вартасьцяй. Га?.. Вы, пэўна, не падзяляеце гэтых маіх разважаньняў. Ну, ваша служба, абавязкі...

— Кінь ужо філёзофію... Пятро, кінь... кажу я... На яго цураха, на яго... Кожны раз і ўсім адно і тое...

Дар'я хапіла мужа за руку і стукнула ёю па стале. Зьнянацку разьлілася недапітая чарка...

— Няўжо ты хочаш пераканаць каго, прапаведнік ты мой лясны...

Кабета глянула на Лукаша і прывабна ўхмыльнулася. У яе ўхмылцы таіўся намер разагнаць, як ёй здалося, нявыгоднае ўражаньне ў гасьцей ад вострых гутарак мужа.

Лукаш адказаў тым-жа, азадачыўшы кабету нявыразнасьцю—хітруе ён ці проста ня лічыць Міхалічавых слоў абразьлівымі для сябе.

Яшчэ горай заблытаў справу Піліпка, які, не дачакаўшыся адказу Міхалічу ад другіх, сказаў:

— Вось я разумею цябе, Пятро. Ты, браток, дай бог табе здароўе, цалкам маімі думкамі жывеш. Няўстрояў многа-многа... і многа-многа гультайства. Я стары, во, косьці адны,—ён працягнуў над сталом патрэсканую, мазалістую, але худую, касьцістую руку і затрос рэдкаю барodкаю:—а працую, дальбог-жа, за траіх... Працую, бо ведаю, што толькі ў гэтым наша збавеньне... Гутарак меней, а болей працы... Зразумела, мая праца—пустое, ноль... Запрагай-распрагай каня, вазі начальства... Але трэба ведаць, як запрэгчы і як распрэгчы...

Паварот галавы Юстына ў бок Піліпкі быў бліскавіцаю, якая асьляпіла вочы фурману. Яго язык у момант адранцьвеў і прырос да паднябеньня. Як і дагэтуль, стары абярнуўся ў статуй з паднятаю праваю рукою на ўзровень вуха. Статуй усё-ж чаўкаў ротам.

Лясьнічыха ня ўстрымалася, каб не засьмяяцца, але раптам зрабіла сур'ёзную міну. Няёмкасьць гэтага яна замяла сказам:

— Ой, я і забылася падаць на трэцяе... Ха-ха-ха! Атарапела...

— Ты заўсёды...—намерыўся ўпікнуць жонку Міхаліч, але быў пераняты Лукашом...

— Таварыш Міхаліч,—пачаў той і паглядзеў на Юстына:—Я скажу ад дваіх... Юстына Хведаравіча я добра ведаю і лічу, што ён не пакрыўдуе, калі я зазначу ад дваіх, што ты... як табе сказаць, магчыма і маеш рацыю. У нас ёсьць, і многа ёсьць, аднаго граху—гэта нядбайнасьці да нашых ідэалаў. Табе адзін прыклад. Я ведаю людзей, якім даручана адпаведнае заданьне ў справе нашага будаўніцтва... дык вось... яны вучылі нас... мяне ў тым ліку, як змагацца за тое, што ў нас ёсьць ужо, здабыта... Казалі—-усё прэч ад чыстасьці ідэалаў соцыялізму, а зараз... майго ранейшага настаўніка засмакталі інтрыгі, падседжваньні, дробныя інтарэсы мешчаніна-карысьніка... Мэрам-бы ад таго, што ён ня ўсё ў сваёй акрузе—дык павінна траціць сваё значэньне ідэя і зьмест рэволюцыі... Так... ёсьць гэткія, хто мерае сваю ідэёвасьць адказнасьцю пасады...

Лукаш паглядзеў на Юстына і ў тым-жа настроі адвярнуўся назад да Міхаліча...

— Мяне ня раз упікалі ў розных грахох... А ты думаеш, якім чынам? Проста, бяз жадных довадаў. Ты выказаўся там і там і не падкрэсьліў таго ці іншага слова. Мэрам-бы зьмест ідэі заключаецца ў шаблённых сказах?.. Ха-ха-ха! Вось я наглядаў на паседжаньнях хоць-бы нашае колегіі. Я выступаю, а Тодар Жменя ўвесь абяртаецца ва ўвагу, каб з мае прамовы выцягнуць хоць кропельку нявытрыманасьці... Ён ня цікавіцца тым, што служыць асноваю сказу, а... І бачыш, як асалодна ён ухмыляецца, калі, з яго пункту гледжаньня, я ня так сказаў... Ці-ж на гэтым будуецца цеснае супрацоўніцтва?.. Так, Пятро, ты магчыма і маеш рацыю... Чуеш, Юстын?

Юстын даслухоўваў Лукаша з пэўнай нэрвовасьцю. Ня то, каб яму не падабалася Лукашова думка,—не, той казаў трапна і праўдзіва, але... Вось нейкая нявідочная муха кусанула Юстына, і ён ускіпеў, закапрызіўся. Раптам падняўся з лавы і злосна гукнуў на Лукаша:

— Ты... ты маніш... Нагавор, а не... По-омні... У табе прабіваецца меншавізм...

Лукаш зьдзіўлена паглядзеў на Юстына і паціснуў плячыма.

Сьледам вышла так, што Юстын сеў, а Лукаш устаў і намерыўся нешта сказаць, пахіліўшыся ў бок Юстына.

Міхаліч забаяўся, каб госьці не распачалі непатрэбнае сваркі, і ўгаварыў Лукаша сесьці.

Але гутарка мацнела і ўпартасьць спрэчак паміж Юстынам і Лукашом расла. Трэба было гэтаму паперашкодзіць.

— Я запрашаю вас спаць, дарагія госьці. Першая гадзіна!—умяшалася Дар'я і неспадзявана, як рукою, зьняла нарастаўшую вострасьць у завячэрнай гутарцы.

## IV

Юстын не пасьпеў легчы, як ужо драмаў. Праз дзьве хвіліны, ня болей, ён хроп. Хроп і сьніў блытаны, але няпрыемны сон. Мэрам-бы ён дома. Сядзіць у сваім габінэце і распрацоўвае плян працы камісарыяту. А збоку, за сьцяною, надзвычайны шум—ні то баль, ні то кірмаш. Паруля захлынаецца ад радасьці. Чуцён голас Жвавага. Да гэтага Юстын і ў вочы яго ня бачыў, а гэта ён гаспадаром тупае па яго кватэры. Тупае і ябедна, злосна пацьвільваецца з яго... Юстын злуецца, памыкаецца вылаяць няпрошанага госьця, але не варушыцца язык. Мэрам-бы ў яго заняло мову. Тады ён хапаецца за выпадкова ўгледжаны званок і моцна ім звоніць. Званок, якраз, памагае. У кватэры цішэе, але галас пераносіцца на вуліцу... Паўз яго ваччу мільгае да бессаромнасьці аголеная Паруля, а за ёю чарада людзей... Юстын напружвае сілы, каб скокам скочыць у вакно і там... ды прачынаецца.

У хаце Міхаліча цёмна. Заслоненыя маццамі вокны не прапускаюць і каліва надворнага начнога водсьвіту. Чуваць смачны храп сьпячых.

Юстын ня бачыў і ня цікавіўся, дзе хто клаўся спаць. І зараз, наогул, у цемні, цяжка было орыентавацца. Ды ці варта займаць гэтым думкі...

Ён успомніў праляцеўшы сон і сплюнуў. Ніколі нічога падобнага яму ня ўлазіла ў галаў. Адкуль, чаму і што ўсё гэта—ён дзівіўся.

Пасьля раптам адапхнуў няпрыемнае адчуваньне і нежадана ўлавіў успаміны з нядаўнага мінулага. „Так, як цяпер, начаваў у аднаго лясьніка ў Дуброўках. Была восень. Падмярзала. У глухую поўнач пастукалі ў акно. Лясьнік адчыніў і ўвёў у хату пецярых бандытаў. Яны абудзілі Юстына, паглядзелі і зусім выпадкова, пэўна па ўгавору ці па абману іх лясьніком,—яго не чапілі. А так-бы... Вось і цяпер—крый чаго, і мы, рабы божыя... Ды ці-ж могуць быць зараз бандыты!“ Юстын зноў сплюнуў, адмахнуўся ад думак і наладзіўся спаць... Праз хвіліну абмацаў пасьцель і пад падушкаю, ці не забыўся палажыць рэвольвэра. Нешта цьвёрдае трапілаў руку і было досыць, каб далей ня думаць пра самаахову. Кожны, хто-б прышоў у Міхалічаву хату, мог-бы браць усіх голымі рукамі.

Юстын спаў мацней за ўсіх. Яго выпадковы просып да таго паспрыяў далейшаму сну, што ён доўга ня чуў гутаркі заехаўшага да Міхаліча і абудзіўшага ўсіх паштавіка з кальцоўкай. Магчыма, ён не пачуў-бы гэтага зусім і ня ведаў-бы нават, што паштавік заяжджаў, каб не раптоўны крык абуджанага дзіцяці. Юстын расплюшчыў вочы і паглядзеў на хату.

— Міхаліч, гэта ты?—запытаў ён, не зразумеўшы, у чым справа.

— Сьпі, сьпі, нас ніхто не зачэпіць,—пажартаваў Лукаш.

Паштавік уголас засьмяяўся, але раптам сьціх...

Зноў Юстын салодка драмаў, калі яго асьцярожліва раскатурхаў Міхаліч, каб разьвітацца.

— Што, ты едзеш куды?—зьдзівіўся ён.

— Найдзеш ты толк. Лясьніцтва выклікае на заўтра а дванаццатай гадзіне,—адказаў Міхаліч:—Мушу ісьці.

— Ісьці?

— А на чым паеду?

— Каня бяры... Пілі́пка-а!—гукнуў Юстын.

— Ня трэба,—пераняў яго Міхаліч:—Няхай стары сьпіць.

— Высьпіцца... Пілі́пка-а!

Фурман падбег да ложку.

— Адвязі Міхаліча ў раён.

— Добра...

— Напэўна, толькі... Міхаліч, а ты пачакай... ня ідзі...

— Дзякую... Добра...

Ці доўга ці не зьбіраўся Пілі́пка ў дарогу, Юстын не заўважыў. Даўшы загад, ён зараз-жа заснуў і ўжо абудзіўся на золку, калі Лукаш зацікаўлена гутарыў з Дар'яю.

— Добра сьпіш, няма чаго казаць,—пасьмяяўся з Юстына Лукаш.

— Каб табе гэткага сну,—адказаў Юстын:—Ты хроп бяз просыпу, а я дык два разы прачынаўся. Адзін раз сасьнілася нейкая брыдота. А па другі раз—надало ліха паштавіку заехаць.

— У нас часта трапляюцца гэткія госьці, як паштавік,—заўважыла Дар'я.

Яна старанна ўвіхалася каля грубкі. Тут-жа стаяў услончык з дзежачкаю.

— Хоць-бы блінец вам сьпячы на сьнеданьне,—сказала лясьнічыха.

— Кіньце клопаты, Пятрусіха,—адгаварыў Лукаш.

— Не, ня пушчу вас, нізашто ня пушчу галоднымі... На цэлы дзень у лес... Мала што можа здарыцца... Пасьнедаем і тады...

— Калі жанчына захоча, яна паставіць на сваім,—пажартаваў Лукаш.

— У гэтай справе і на сваім і на вашым,—адказала Дар'я.

Было вочавідна, што спрачацца бескарысна—пасьнедаць прыдзецца. Юстына з Лукашом клапаціла адно—што яны надазаляюць, людзям спаць не даюць і яшчэ вымушаюць іх на клопаты. Яны выказалі ёй свае думкі аб гэтым, але гаспадыня зрабіла выгляд, што злуецца за падобную думку аб ёй. Прышлося змоўчыць... Адмовіцца ад Дар'інай ласкі—значыла пакрыўдзіць маладзіцу. Ды яна мела рацыю, калі намякала на даўжыню дня, у які прыдзецца блытацца па лесе, і на магчымыя здарэньні на паляваньні.

Цёплы блінец не пашкодзіць ніводнаму.

На гэтых думках сышліся моўчкі і Юстын і Лукаш. Заставалася чакаць гаспадынінага распарадку.

Хутка Дар'я пасадзіла гасьцей за стол і частавала іх пульхнымі ячнымі блінцамі са сьмятанай.

— Я раю вам і з сабою ўзяць некалькі штук блінцоў,—угаварвала яна паляўнічых.

Але тыя наадрэз адмовіліся ад надмернае гасьціннасьці кабеты. За сьнеданьне шчыра падзякавалі і сьпешна сабраліся ісьці.

— Я папрашу вас аднаго, цётка Міхалічыха, гэта каб вы далі перакусіць майму фурману, як ён вернецца. І скажэце яму, калі ласка, што мы адвячоркам вернемся з паляваньня і паедзем дамоў.

— Добра, добра,—адказала Дар'я, праводзячы іх у двор:—А вы-ж адно не заблудзецеся або не напаткайце ліхіх людзей,—дадала яна ўсьлед мужчынам.

Яны ўжо адчынялі засьнежаныя вешніцы, калі да іх даляцеў Дар'ін сказ. Юстын мігам выраўняўся і азірнуўся на маладзіцу. У яго нутры заварушылася няпрыемнае пачуцьцё. Мігнулі вобразы з забытага сну, які вярзіўся яму ўночы.

— А гэта можа здарыцца?—падозрана запытаў ён Дар'ю.

Лясьнічыха ці не расчула яго пытаньня, ці мо' не зразумела, бо нічога не адказала. Лукаш адчуў непатрэбнасьць яго і тузануў Юстына за полу.

Хутка яны бралі нацянькі да густое неагляднае сьцяны абсьнежанага лесу. Яшчэ далі ня вызваліліся ад цягучага ночнага змроку. Золкая імгла вісела над роўнядзьдзю заскарузлага за ноч сьняжку. Пад нагамі трускала яго тонкая анталяжная скарыначка, чапляючыся за высокаабсацныя юхтовыя боты двух зграбных, здаровых мужчын. Гэта абцяжала хаду, але разам і бадзёрыла паляўнічых. Саманагрэў змагаўся з вострай золкасьцю і расьцьвітаў на іх твары ружовымі плямамі.

Юстын праз поўганоў ад лясьніковае хаты расстаўся з мігнуўшым перад ім сумненьнем у добрым канцы паляваньня. Ён бяз усякага зьвязку з гэтым абярнуўся назад, да лясьніковае хаты, злавіўшы над ёю выгінастую стужку сіняга дыму. За імі шнуравала сьлядовая сьцежка, якая нідзе не ападала ў лагчынку і ня ўзьнімалася на ўзгорак. Наперадзе ляжала тая самая роўнядзь да самае гранічкі лесу.

Падыходзячы да яго, паляўнічыя пачалі меркаваць, як павесьці манэўры. Згаварыліся на тым, што Юстын заверне направа, кіруючыся на яловы гушчарнік, што ляжыць за Круглым балотам; Лукашу трэба было адхіліцца тупым кутом улева, абыйсьці вярсту-другую і пераняць Юстына на ператочнай сьценцы пасярэдзіне гушчарніку... Не пазьней як праз поўгадзіны Лукаш павінен будзе даць сыгнал аб сабе падвойным стрэлам.

Плян паляўнічага манэўру абодвум здаваўся дужа трапным. Палішчаныя ім, разьвяселеныя, яны адначасна пераступілі граніцу лесу і схаваліся паміж зграбнымі, убранымі сьнегам елкамі.

## V

Урачыстая цішыня, што скоўвала сабою і тоўстыя высокія хвоі і нізкія ядлоўцавыя ды арэхавыя кусты, дазваляла чуць самы слабенькі трэск. Скідаўся прагніўшы сучок з камяля хваіны ці стукаў дзяцел у завяўшую асіну, ці шоргала лапкаю вавёрка па хваёвай кары—аднакава

настарожвала спрактыкаваных паляўнічых. І той, і другі азіраліся ў тым кірунку, дзе, па іх думцы, павінен быў ісьці яго таварыш. Ніводзін, аднак, да ўмоўленага часу не дазволіў сабе гукнуць другога. А прайшоўшы хвілін дваццаць, як Юстын, так і Лукаш кінулі ўслухацца ў шоргат крокаў таварыша. Тым болей гэта не выпадала Юстыну, які натрапіў на сьвежы заячы сьлед. Інстынкт паляўнічага цалкам захапіў яго, і вузкая нітка ямак у сьнезе пацягнула Юстына ўсё далей ды далей у лясную гушчэчу. Ён ня спускаў вачэй, ідучы схіліўшыся, натыкаючыся тварам на калючкі елак, спатыкаючыся на пні і ламаччо.

А сьлед, як заварожаны, цягнуў Юстына бясконца, мэрам-бы знарок. Узятая ў руку дубальтоўка зрабілася цяжкай, і ён павесіў яе зноў на плечы. Рэвольвэр на поясе муляў левы клуб і рабіўся лішнім. ПацІху з глыбіні нутра пачало нарастаць нездаволеньне і лёгкая злосьць—нямаведама на каго: бліжэй за ўсё—на зайца, які не здагадаўся, што яго будуць шукаць, каб прыстрэліць, і ня стаў на прагаліне выразнаю цэльлю...

— Каб ён здох!—вылаяўся Юстын:—Няўжо я яго не насьлежу?..

Юстынаў няўпэўнены сказ трапіў на добры момант: яшчэ не пасьпеў закруціцца пытальнік па-за гукам „жу“, як з-пад нізкае карчыстае ялінкі выбег вушасты русак і адвярнуў да яго шырокі зад. Юстын у момант, са спрытам дасканалага стралка, хапіўся за дубальтоўку і выраўняў яе пад правым вокам. Вось-вось мігне пучок агню, сыпнуцца гарошыны шроту і заяц ахварбуе чысты сьнег сьвежаю крывёю... Адзін міг... Ужо палец рукі абмацаў халодны цынгель, як раптам, зусім недалёка ад Юстына, грымнуў нечы стрэл. Цяжка было-б паверыць, што стрэл не з яго дубальтоўкі, але было так. Юстын адставіў і зьдзіўлена ды злосна вылаяўся па адрасу Лукаша:

— Што ты з-пад рук рвеш? Ччо-орт-бы цябе...

Лаянка не затрымала яго на месцы і жывасілам пацягнула ў бок стрэлу.

Юстын не прайшоў і двух сажняў, як пачуў вокліч:

— Хто ідзе? Сто-о-й!

— Я, Юстын.

— Які Юстын? Рукі ўгору і ні з месца!!.

Сур‘ёзнасьць загаду гукаўшы падмацаваў падвойным стрэлам. Юстын не апамятаўся, як з яго рук выпала дубальтоўка і рукі ў постаці мусульман на модлах выцягнуліся ўгору, да спакойных галін пахмурнае елкі. Замёр на баку забыты рэвольвэр, і хаос нявыразных думак ды пачуцьцяў, ускаламучаных раптоўнасьцю гэтага выпадку, абярнулі ваяўнічага камісара ў беспараднае і бязвольнае стварэньне.

Юстын не заўважыў, як каля яго апынулася двое здаравенных аброслых, замурзаных, у мокрых скарэлых кажухох, узброеных бамбізаў. Не пачуў ён, як яны зьнялі з рамуха яго рэвольвэр, абмацалі чатыры кішэні, падабралі ляжаўшую на сьнягу дубальтоўку. Толькі апамятаўся

тады, калі незнаёмыя пашлі побач у кірунку да таго месца, дзе, па Юстынавай думцы, трэ' было сысьціся з Лукашом.

Пэўна, цяпер гэтага ня будзе—справа ясная. Юстын разумеў усю складанасьць захапіўшых яго ўмоў і ўзмоцнена пачаў абдумваць становішча. Яго ганаровы кортэж не даваў сумненьня ў бандыцкім пахаджэньні. З гэтага можна было меркаваць, да чаго ўсё пахіліцца. Ці-ж, сапраўды, Юстыну ўпяршыню падобныя гісторыі? І калі ранейшыя канчаліся нечакана без благіх скуткаў, то зараз...

Юстын скасіў вочы направа і ўлавіў погляд заўзятага разьніка, у якога, чамусьці, усю драпежнасьць складала мяккая ўхмылка. Гэтай ухмылцы поўнасьцю гарманавала дабротная спакойлівасьць на твары другога ляснога ваякі. Гэтага было досыць, каб яго душа адчула тую ці іншую надзейнасьць на людзкасьць пачуцьця, якое, магчыма, не замерзла пад карэлымі кажухамі двух дзікіх гальяфаў.

— Вы куды і чаго мяне ведзяце?—нечакана для самога сябе вылецела з вуснаў Юстына.

— А табе цікава?—сурова праказаў правы.

— Чаму-ж не пацікавіцца, калі справа датычыць мяне?

— Так, цябе, паважаны камісар,—пагіронізаваў левы.

Юстын не на жарты зьбянтэжыўся ад сказанага. У яго галаве маланкаю пранёсься шэраг ня зусім прыемных думак. Але ён не пасьпеў спыніцца ні на чым выразным, як пара сініх, калючых бляскам сталі вачэй на далікатным пад валосьсем твары пераняла яго погляд.

— Ты, напэўна, не чакаў таго, што адбылося?—запытаў ён тонам, у якім было поўна зьдзеку і глуму над Юстынавай істотай.

— Я папрашу не насьміхацца з майго „я“!—перамог іншыя пачуцьці Юстын.

— Ты просіш... а дзе твая камісарская ўлада? Ха-ха-ха! Загадай!

Тут усё казала за тое, што Юстыну ня варта спрачацца. Схіляўся да гэтага і ён сам. Толькі занадта ўжо крыўдна было слухаць пагардлівыя кпіны нечаканых паганцаў. І Юстын ня змоўчыў, каб яшчэ раз запытаць.

— Дык вам, грамадзяне, ня велена знаёміць мяне з вашымі намерамі?

— Хутка будзеш у курсе справы...

## VI

Уявіць сабе наўздагад, колькі пашло часу на хаду пад кортэжам узброеных бамбізаў, было немагчыма. А гадзіньніка Юстын ня мог дастаць, бо трэба было паднімаць руку, у чым маглі-б убачыць замах. Ды ён ня быў упэўнены, што гадзіньнік ёсьць там, дзе павінен быць. Адсутнасьць рэвольвэру пры боку была наяўнаю. Дубальтовая руля стрэльбы таксама сьведчыла аб тым, што належыць новаму ўласьніку, лежачы на плячы левага кортэжнага. Абставіны зусім ня спрыялі таму, каб думаць аб нейкіх там выгодах. Юстын мігам забыўся пра гадзіньнік—ці ня ўсё роўна было яму, колькі ў даную хвіліну часу. Было таксама

бясьцікаўна, якая вакол пагода. Можа і вельмі плённым аказаўся-б гэты дзень, каб не падобная жахлівая прымха. Да чаго яна давядзе? Вакол гэтага пытаньня круціліся думкі Юстына, яго намеры, яго няпэўныя, адрыўныя плянаваньні. Выразная няўпэўненасьць у сваім лёсе напружна шукала дадатных, паратунковых нечаканасьцяй. Тут-жа выпуклілася цікавасьць, як-жа з Лукашом? Дзе ён, што гэтак доўга ня чуваць яго сыгнальнага стрэлу? А можа ён ужо і страляў, а Юстын не дачуў.

Міжвольны поціск пляча прыцягнуў да Юстына ўвагу чулых яго павадыроў. Паскуднасьць гісторыі ня мела межаў. „Хоць-бы яна не цягнулася доўга, а хутчэй прыходзіла да таго ці іншага канца“, падумаў ён.

Але раптам яшчэ болей занэрваваўся, калі перад імі вырасла густая сьцяна ельніку. Незнаёмцы сьцішылі хаду і агледзеліся навокал.

— Магчыма, за нашым камісарам вядзецца нагляд,—праказаў правы.

— Гэта камісара ня выратуе,—адказаў левы.

Сьледам Юстын улавіў зьлітны гук абодвух:

— Наперад, марш!

Юстын прашоў праўцом на сьцяну ельніку—спрачацца ня было як. Бандыты працягнулі наперад дулы вінтовак. Калі елкі насядалі на іх, пусьціўшы ў іх твары моцны струмень смалістага паху, Юстын не заўважыў, як у адным месцы сьцяна раздвоілася і прапусьціла ў вузкую прагаліну ўсіх траіх. І разам перад Юстынавымі вачыма вынікла нязвычайная карціна: прасторная, цёмная будка. Справа нешта накшталт стала з мільгацеўшым на ім агаркам сьвечкі. У калыханьні ценяў выглядалі рулі разьвешаных стрэльбаў. Нейкія лахманы нявыразнага колеру і формы, нейкія рэчы, абкіданыя імі і галінкамі елак. Зьлева быццам-бы палаці ці ложкі... І цяжкае, не нагрэтае, а сапсутае, правялае, няпрыемнае паветра.

— Сядай,—падаў адзін з прывёўшых Юстыну тоўстага нізкага пянчука.

Трэба было слухацца. Юстын сеў і, сеўшы, у тую-ж хвіліну, пад уплывам успыхнуўшае ў ім злосьці і адчаю, гукнуў:

— Калі скончыцца гэта комэдыя?

Адказам быў глумлівы рогат бандытаў.

— Комэдыя яшчэ не пачалася.

— Вы хочаце яе разыграць поўнасьцю?

У напружнасьці іх гутаркі раптам уварваўся водгук недалёкага стрэлу. Юстын хапіўся за думку пра Лукаша. Нават самы тон стрэлу паказаўся яму знаёмым і ўпэўненым; а тое мімалётнае ўражаньне, што скаланула яго вартавых, адгукнулася ў ім прыемным адчуваньнем. Але Юстын тут-жа зьмяніў яго настарожанай развагай: хаця-б не злавілі і Лукаша. Тады абодвум капут, а выскаўзьне—паведаміць аб яго лёсе. Трывога Юстына дайшла да адказу, калі з мярлогі нечакана вышмыгнуў адзін з бандытаў, пакінуўшы іх адзін на адзін. Цяпер у Юстынавай галаве мігнула асьцярожлівая думка—выбраць момант, кінуцца на пільнага вартаўніка свайго і зламаць яго пад сабою. У гэтай думцы варушылася надзея, праўда, вельмі коўзкая і няпэўная. Але незалежна ад Юстына-

вага хаценьня яго вочы абвострылі погляд і правялі ім па хаотычнасьці будкі. Праз адзін міг рухнула амярцьвела ляжаўшая на каленях правая рука; уздрыганула, мацаючы мацнейшы ўпор, левая нага; і, магчыма, чарговы момант быў-бы зьвязаны са здарэньнямі, за якімі ішло невядомае, страшнае і крывавае... Толькі яго, як па пісанаму, пераняў хрыпаты кашаль... Юстын адразу астыў і крута павярнуў голаў назад. Адкуль і што мог зьявіцца да іх новы чалавек, Юстын ні за што ня мог-бы ўявіць сабе, каб то было ў нормальных умовах. Як чарвяк з моху, вынырнуў ён з нейкае нявыразнае кучы лахманоў і ламачча і зьмяіным поглядам улавіў Юстынаў зрок. Цяжка было адвярнуць назад галаву, каб не глядзець на новага тыпа.

— Гэта наш атаман! Прашу ўстаць! — гукнуў вартаваўшы Юстына.

Юстын падняўся і абярнуўся да атамана. Абодва яшчэ раз паглядзелі адзін аднаму ў твар, ніводзін не прамовіў ні слова.

— Сядайце!

І калі Юстын зласьліва, дэмонстрацыйна, паціху апускаўся на пянчук, яму раптам успомнілася, што дзесьці, калісьці атаманаў вобраз ён ужо бачыў. Пачуцьцё цікавасьці да таго ахапіла яго, што Юстын ня стрымаўся, каб не абярнуцца яшчэ раз на атамана. Той сядзеў пры стале, падпёршы кулаком бараду. Поза, якую Юстын не забудзе ніколі— Юрка Лапата...—так і мігнула ў Юстынавай галаве і разам адагнала ад яго частку небясьпекі і казачнасьць умоў. Ён устаў і ўжо разявіў рот, каб гукнуць атамана, але вартавы груба яго ўсадзіў. Атаман, напэўна, гэта заўважыў, але-ж прапусьціў бяз увагі. І толькі тады, калі Юстын знарок кашлянуў—ён тэнаровым голасам праказаў:

— Здаецца, і пагода сухая, а людзі прастужваюцца,—і сам закашляўся.

— Трэба нагрэць памяшканьне,—кінуў атаман вартавому і абярнуўся да Юстына.

— Табе холадна?

— Холадна і агідна,—адказаў Юстын.

— Што-о-а? — падняў голас атаман да хрыпоты: — не па-камісарску-у?..—дадаў ён і стукнуў па стале кулаком.

Але Юстын яшчэ не пасьпеў уявіць сабе, які справа бярэ наварот, як атаман праз сьмех праказаў:

— Вось, брат, ты цяпер у маіх руках... Прыпомні момант, калі я быў у тваіх... Ха-ха-ха!.. Здароў, калі хочаш...

Перад Юстынам мігнула мурзатая рука атамана.

## VII

Затрускалі крокі каля мярлогі і з вострым струменем надворнага паветра ўляцеў у яе з гадзіну таму выбегшы бандыт.

— Паляваў на другога камісара. З вярсту гнаўся, дзьве пачкі патронаў зглуміў... І, сволач, уцёк,—засопшыся, далажыў ён атаману.

— Уцё-о-к?!.—злосна прагукаў атаман.

— Ня мог нагнаць, атамане...

— Сво-алач!—гукнуў атаман, і Юстын убачыў спрытны замах атаманавай рукі, цяжка лёгшай на аброслай мордзе бандыта:—Я цябе ў момант расстра-аляю, паску-уда ты... Ты паганіш нашых гвардзейцаў... Прэч!..

Бандыт у момант змыўся з бярлогі, а тарчаўшы пры Юстыну—абярнуўся ў драўлянага асталопа, замёршага на месцы.

— А яшчэ марацъ, паганцы, рэспубліку заваяваць... Прэч з маіх вачэй!—загадаў атаман вартавому:—Бяз вас бясьпечней з палонным...

Юстын застаўся ўдваіх з атаманам. Пакалькі можна было бачыць і чуць, прысутнасьці каго-колечы іншага нельга было заўважыць. Але ў Юстына ня было сумненьня, што атаман заставаўся не ізоляваным. Гэта відаць было па ўсім настроі, у якім ён знаходзіўся.

А атаманаў настрой выразна сьведчыў за сілу і моц, прынамсі на абшары вёрст пяці ад месца іх знаходжаньня. Гэта можна было лёгка чытаць на атаманавым сухарлявым, з рэдкаю белаватаю бародкаю твары, на яго трапяткіх порсткіх рухах у одыёзным палацы свайго валаданьня.

— За гэтыя тры гады я не адзін дзесятак падобных дурняў выправіў на той сьвет,—загутарыў атаман да Юстына, калі крыху супакоіўся:— Другая шэльма рвецца ў атрад, а з яго ваяка, як з чапялы машына... Пашлеш з заданьнем, намуштруеш, а ён табе, сукін сын, возьме ўсё і правaліць. Вось і гэты—ужо колькі разоў ён даставаў ад мяне падобную нагароду... Няхай толькі яшчэ раз праваронiць ахвяру — парабэлюм заплача над яго трупам...

Разбойніцкі жэст рукі паказаў дугу перад Юстынавымі вачыма. І ў расплыўлівым зеленкаватым змроку мігнула сумненьне—няўжо гэта, ўсё-ж ткі, Юрка Лапата? Нагэтулькі зьдзічэлы ды азьвярэлы? „Ці мо' напалоханае ўражаньне маё з'асоцыявала гэта падабенства? Быў-бы Юрка Лапата, ласьне ён не пазнаў-бы мяне? А можа гэта звычайны бандыцкі манэўр? Цікава, да чаго былі яго словы аб тым, што мэрам-бы ён быў у маіх руках? Ці не абазначае гэта якога-колечы намёку на расправу, якая мае быць са мною?“

Юстын яшчэ пільней агледзеў атамана,—портрэт знаёмага Лапаты—дый годзе. Гэта балюча інтрыгавала яго і ў той самы час азадачвала.

Маўчанка, якая надыходзіла пасьля кожнае адрыўнае фразы заўзятага разбойніка, вешчавала Юстыну аб нядобрых скутках ракавога здарэньня. Юстын губіўся ў часе, ня ведаючы, колькі яго мінула. Упэўненасьць у набліжэньні ночы асабліва азадачвала яго. Вострасьць перажываньняў, напружнасьць пачуцьця і нэрваў сьцягнулі многа сілы, нагналі ўтомы.

Ніяк не пазбыцца моцнае цягі да адпачынку, вельмі небясьпечнага. Седзячы на пянчуку, як прыціснуты да яго, Юстын мімаволі перакідаў увагу на роздумы а бліжэйшых хвілінах наступнага. „Няма-ж нічога, у чым-бы ня было канчатку“, пераказваў ён сам сабе, не выпускаючы з поля гледжаньня атамана.

А той паважна тоўкся каля Юстына, то пракозваючы колькі слоў учуткі, то раздумліваючы над нечым.

— Але я цябе, прызнацца, не чакаў у госьці, — неспадзявана для Юстына загутарыў атаман.

— Ї я таго не чакаў!—спакойна адказаў Юстын.

— Тым болей павінна быць цікава для абодвух. Няпраўда?

— Як сказаць...

— Значыць, няпраўда?

Ужо Юстын міжвольна асвойтваўся з неспадзяванымі абставінамі— людзкая натура,—як тут-жа атаман зноў нарушыў яго настрой.

— Варта, сюды!—гукнуў ён на ўсю бярлогу.

Ї не пасьпеў Юстын азірнуцца, як каля яго з атаманам стаялі знаёмыя бамбізы з вінтоўкамі ў руках, перапалоханыя.

— Уладзіць для госьця вячэру! Даю на гэта поўгадзіны часу!..—загадаў атаман.

— Слухаем!—у адзін голас адрапартавалі малайцы і зьніклі з Юстынавых вачэй. А мо' і былі яшчэ нейкі час каля яго, толькі ён іх ня бачыў.

Дзіўнасьць загаду, які зрабіў атаман, ашаламаніла Юстына. Якімі выхілясамі разгортваецца гэта цудоўнае здарэньне! Што-ж, нарэшце, яно значыцьме? Ці сыдзе яно на комэдыю, ці кончыцца трагедыяй? Пакуль пэрспэктывы не выяўляліся.

Атаман далей тупаў узад ды ўперад каля Юстына. Тупаючы, часчасам праз доўгія паузы выпускаў з сухіх губ трапунковыя сказы. Адны з іх суцяшалі Юстына, другія наводзілі на прыкрыя роздумы. У паводзінах атамана наглядаўся сьвядомы манэўр, разьлічаны на пэўны эфэкт. Праўда, дзякуючы гэтаму, у нутры ў Юстына паступова кондэнсавалася душэўная роўнавага. Напружнасьць пачуцьцяў, якая ціснула на ўсю постаць яго, слабнула. Побач з гэтым прытуплялася балючасьць цікавасьці...

Юстын не заўважыў, як мінуўся вызначаны атаманам для ўладжаньня вячэры тэрмін. Сотню раз прамігнуўшыя паўз яго разбойніцкія постаці не прыцягалі да сябе яго вачэй. Многія сказы атамана праляцелі міма вушэй. Ї толькі страсянулі Юстынаву істоту гучныя атаманавы словы:

— Хлопцы, пасадзіць камісара на куце.

Юстын не пасьпеў маргнуць векамі, як быў падхоплены двума здаравякамі-мужчынамі, у момант пасадзіўшымі яго за стол. Гэткім-жа тэмпам пашлі разгартацца далейшыя здарэньні.

## VIII

Юстын ня траціў волі, ня траціў ён і яснаты разуменьня свайго стану. Вакольнае ня ўплывала на бясьпеку. Тым ня меней ён хутка адыгрываў ролю, адпаведную абставінам. Цэлы дзень галадухі даваў сябе адчуваць, і багата сэрваваны стол дражніў вочы. Золкасьць, якая сьціснула яго гумалясткавым мяшком і тысячамі шашаляў, прабіралася да касьцей, спакушала на featuresнастайныя колеры вінаў. Не адхілялася ў бок ад агульнага тону, вобразу і надзвычайная гасьціннасьць атамана. Яго мяккае, прыкра-гасьціннае запрашэньне быць, як у сваім доме, адбівала ўсякую магчымасьць спрэчак. Пікантней усяго быў наступны сказ, урачыста агалошаны атаманам пасьля трэцяй чаркі віна:

— Сябра камісару, ты будзь спакойным за сваю цэласьць. Ня думай, што я ці мае таварышы—людзі бяздушныя. Тваё жыцьцё нам не патрэбна.

Цэлы пук думак, разгорнутым фэйервэркам у галаве Юстына, выклікалі гэтыя атаманавыя словы.

Калі-б добра заўважыць разгортваньне падзей з моманту захопу Юстына двума ўзброенымі бамбізамі—вось гэтымі, што зараз бясьпечна і нядбайна, разам з новымі пяцьма, сядзяць каля яго за сталом—да моманту абвяшчэньня атаманам гэтага ўрачыстага сказу, можна было-б бачыць у гэтых падзеях значную дозу нязвыклае прымхі. Як-бы там ні было, а Юстын хутка знайшоў падставу, каб кінуць казлытнае запытаньне атаману:

— Мне здаецца, атаман, што ў цябе сядзіць дух майго даўнейшага знаёмага Юркі Лапаты?

Зацяжны, разухабісты рогат сухарлявага круткага чалавечка зьвярнуў агульную ўвагу васьмі лясных апосталаў. Усе настаражыліся, стрымалі ў сабе бязвольныя калыханьні, што навеяла п'яная слодыч віна, і ўтароплена глядзелі атаману ў вочы.

А пара шэрых бліскучых галачак, закочаных у глыбокія ямкі орбіт на твары атамана, туманелі ў пялёнцы няспыннага рогату. Паступова гэты рогат атамана пераходзіў на другіх, выклікаючы ў іх зьдзіўлена пужлівыя ўхмылкі...

Ніводзін з прысутных не заўважаў, што Юстын хаваў на сваім твары суровую міну,—яна скрадалася ў сумоце мігаючага агенчыка. Юстыну зрабілася канчаткова ясным, што перад ім той самы нэрвова-хваравіты сьмяхун, былы камандзір батальёну, Юрка Лапата. Апошні раз—Юстынава памяць спрытна аднавіла мінулае—яны мелі спатканьне з ім у Ленінградзе, пасьля ўсьмірэньня кранштадзкага бунту. У кампаніі ўдзельнікаў усьмірэньня Юрка Лапата апавядаў аб сваіх паводзінах з часу барацьбы з Карніловым на Кубані. Яго featuresнастайныя штукі захаплялі слухачоў... Але Юркаў захлябісты рогат няпрыемна адбіваўся на зацікаўленасьці яго апавяданьнямі... Вось і зараз у Юстынавым нутры адры-

гаецца асадак жоўці... Юстын стараўся ўкрадкам разглядаць атамана, адначасна не расстаючыся з плянаваньнем аб сваім наступным. Ужо Юстынавы думкі пачыналі акрэсьліваць некаторую выразнасьць, як раптам яму акрэсьліўся дапамінак атамана пра момант, калі ён быў у Юстынавых руках... Калі-б тое было?

— Але ты настойны ў сваіх намерах і непераможны ў сваіх пастановах, браток Юстын...—перапыніў яго атаман у заціхаючых спазмах рогату.

Сьледам атаманава рука перакінулася праз стол і лягла на Юстынавым плячы.

— За спатканьне ў нечаканым месцы,—падняў ён шклянку з віном.

— Гурра-а! Гурра-а!—раздалося навакола тонучы ў густым пляцельніку сьцен.—За спатканьне ў нечаканым месцы!—звон шкла ўзмоцніў агульны шолам.

Але мігам усё змоўкла. Заспакоеная міна атамана вяшчала прыход сур'ёзнага моманту.

— Паслухай, Юстын,—пачаў атаман:—ці ты думаў пра нашу стрэчу? Ці спадзяваўся яе? Або мог здагадвацца, што я ўжо каторы час трывожу ваша камісарскае жыцьцё, седзячы вось у гэтым лесе... Ты чуў пра атамана Збанка і толькі... Напэўна, так... Збанок зарэзаў вашага камісара грашовых спраў. Збанок нядаўна забіў траіх чакістых... Дзівішся? Ня верыш, што я мог да гэтага дайсьці? Скажы, Юстын, га?

Юстын адчуваў атаманаву прагу выслухаць ацэнку свае чыннасьці; утаропленасьць у яго твар атаманавага зроку, сабранасьць у яго твары пякучае ўвагі, маршчлівасьць яго лобу—вымагалі ад Юстына неадкладнага раскрыцьця вуснаў.

Атаман скмеціў яго нясьмеласьць.

— Хлопцы, пакіньце нас. Пара да адпачынку!—гукнуў ён да бандытаў.

Асьцярожлівымі паваротамі, з неадпаведным далікацтвам, вышлі з-за стала семера здаравенных асоб у імпозантнай адзежы дапатопных людзей і зьніклі ў змроку.

— Не чакаў і ня думаў,—адказаў спакойна Юстын.

— Затое чакаў для сябе страшнага прэзэнту?

— Я думаю, Юрка, табе гэтага тлумачыць ня прыходзіцца.

— Вось то-та... Я ўжо нагэтулькі поўна разумею людзкую псыхолёгію, настолькі разьбіраюся ў нутры кожнага, што... Давай, браток, вып'ем за тое, што лучыць чалавека па-за ўсім тым, што празываецца яго зьместам...

Абодва згодна апаражнілі нелапыя шклянкі.

— Ты камісар, а я... няхай я буду атаман... Ты кіруеш арміяй у некалькі тысяч чалавек, а я вось гэтымі арыштантамі з выгляду, а сьвядомымі людзьмі з нутра... Ты будуеш патвойму, а я руйную табою пабудаванае... Ці ня думаеш ты, што ў гэтым агульны вобраз людзкога жыцьця?..

Юстын нявыразна пацяў плячыма і закусіў кавалачкам хлеба.

— Юстын, прызнайся, аднак, ці ты глядзіш на мяне, як на бяздушнага разбойніка-бандыта, галаварэза, ці дапускаеш захаваньне ва мне тых або іншых ідэй?

— Як табе сказаць...

— Так, я анархісты, калі хочаш ведаць... магчыма, адзічэлы крыху, але ідэёвы, зразумела, не ў шаблённых рамках... Быў час—ішоў разам з табою, падзяляў ідэі адраджэньня народу пад сьцягам яго самачыннасьці і колектыўнай творчасьці, а зараз... Гм... Я бачу, што табе гэта мала цікава... Годзе... Я разумею, што ты глядзіш на мяне з захаванаю агідаю і цэніш маю асобу на кошт трапунковай кулі спрытнага чакістага...

— Што ты, Юрка... Чалавек... Няўжо ты забыў маю ацэнку чалавека, як індывідуума?..

— Але-ж наколькі-б чалавек ні быў высокаорганізаваным стварэньнем, ён цалкам залежны ад умоў... Я вось гэту ісьціну вашага Маркса адчуў у натуральнай цеганіне майго жыцьця... Або думаеш, ты застаўся ранейшым і хаваеш нязьменнасьць сваіх былых поглядаў? Дазволь успомніць час афіцэрства ў царскай арміі... Твой ваяўнічы задзёр, тваё захапленьне знадворнаю бліскучасьцю... Тваё мары і імкненьні... Або... Ленінградзкае спатканьне... Твой погляд на лёс гэтае краіны, дзе ты камісарам... Твае кепікі з вышэйшых прынцыпаў, што яны рэгулююць разьвіцьцё народаў... Ты стаміўся, я бачу?

— Кажы, кажы, я з увагаю слухаю,—адказаў Юстын, сапраўды мала рэагуючы на ўзьнёслую філёзофію бандыцкага атамана.

— Чалавек мусіць старанна шукаць свайго ідэалу... Калі імкнуцца, то трэба ведаць, да чаго, і трэба ведаць, якім шляхам. Мне здаецца. што многія пераацэньваюць сваю ролю, выпіраючы яе з супольнага цэлага... І далей відаць, як чыннасьць некаторых мае намерам аформіць ідэал, а не ідэалам афармляюць яны сваю чыннасьць... Ты, Юстын, агідуеш з маіх размоў... Добра, я гэта аднавіў у нутры сваім пераджытае натхненьне... Плюнем-жа на яго... так?

— Дарма ты думаеш, Юрка. Я ніколі...

— Скажы яшчэ мне, Юстын, ці пазнаў ты мяне летась, калі я стрэў цябе па дарозе ў павет і недалікатна спыніў твайго каня?

— Калі тое было?—зьдзівіўся Юстын.

— Так, гэта дробны інцыдэнт, але ён мог каштаваць мне жыцьця... Той выпадак вельмі падобны да сёньнешняга, няпраўда?

— Даю слова, што ня помню...

Юстын пазяхнуў.

— Ён больш, зразумела, абыходзіў мяне... Ну, над мінулым крыж, а зорка над будучынай... Давай, браток, спаць... Я бачу, ты моцна замарыўся.

## IX

Юстын Швэбік быў моцна змораны, але ня мог не рэагаваць павышаным зьдзіўленьнем на абыходзіны з ім хоць і старога знаёмага, але ўсё-ж заўзятага бандыта. Было сапраўды дзіўным для Юстына, што Юрка Лапата як быццам-бы ня чужы некаторым прынцыпам людзкое моралі. Яшчэ больш дзіўнейшым рабілася яго чалавечнасьць ва ўмовах разбойніцкага жыцьця. Вось-жа вось Юрка Лапата, спакойна гаворачы аб забойствах людзей, апратаў яго дзяругаю і супакойваў ад магчымае небясьпекі. Ён-жа ўпэўнена пакінуў яго аднаго, згінуўшы ў змроку мярлогі, адкуль раней зьявіўся. Юркавы спадручныя таксама не давалі аб сабе чуць, робячы Юстыну адпаведныя абставіны для спакою.

Праўда, гэта не памагала: спакой ня ўнімаў камісара гадзін каля дзьвюх. Час, калі ён кінуў горад, дом і жонку ды выехаў на паляваньне, траціўся ў недасяжным далеку. Лес, у якім ён дажываў пору, адгараджваў ад яго ўвесь сьвет, згладжваў яскравыя перажыткі мінулага. Трэба было натужваць памяць, каб аднавіць у ёй падзеі, якія прывялі яго ў гняздо бандытаў.

Юстын з цяжкасьцю прагнаў ад сябе ўражаньне апошніх перажываньняў, занядбаў золкасьць, якая пралазіла да яго праз важкае акрывала, і перанёсься ў цёплы габінэт свае кватэры. У яго нутры выявілася яснае пачуцьцё адданасьці сваёй жонцы. Перад гэтым пачуцьцём сьцёрліся ўсе шурпатасьці іх адносін, усе непаразуменьні сямейнага жыцьця. Ці вольны ад гэтага хоць адзіны сем'янін? Усяго розьніцы, што ў кожнага з іх бываюць свае асабістыя прыкрасьці. На Парулю найшла трапунковая дурасьць з гэтым лабатрасам—начальнікам другога вучастку міліцыі... Ды ці ёсьць яшчэ гэта сапраўды?.. Мала што, калі ён сустрэў іх дваіх тым вечарам на Савецкай вуліцы... Мала што ён зьявіўся ў сьне... А ці гэта мусіць быць забаронена?.. Нічога-ж не казала Паруля, ведаючы выпадкі яго, Юстына, з артысткаю наяжджаўшае опэрэты. Болей усяго Лукаш раздувае гэту справу... Дзіўны, аднак, ён... гэты Лукаш! Так!.. Але, вось, цікава, як і што зараз з Лукашом? „Я ўяўляю сабе, як гэта ён уцякаў, калі за ім гналіся бандыты"...

Юстын прыадпрануў твар і пільна ўтаропіўся вачыма ў гушчэзную цем... Настаражыў вушы... Было ціха... „А мо' Лукаш і не дабег да стражніка... Дзьве абоймы патронаў не маглі праляцець міма... Ах,—пагіранізаваў ён,—цікава ўсё-ж, калі-б бачыць, як чалавек, надзелены сілаю і ўладаю над сотнямі ці тысячамі, уцякае ад дваіх.. Праўда, улада—гэта ўмоўная рэч. У горадзе ён начальнік, здаецца, над вялізнай губэрняй, а, тым часам, за вёрст трыццаць ад гораду—бясьсільны, як напалоханы заяц... Стаў-бы і ўлажыў абодвух бамбізаў, навошта ўцякаць... Хоць, хто яго ведае, як злажыўся манэўр, калі Лукаш спаткаўся з імі. Добра-б, каб ды ўцёк... Здолеў-бы падняць на ногі адпаведныя ўстановы. Няўжо ён ня скеміць, у чым сэнс? Не павінна таго быць. Напэўна, ужо Лукаш узьняў належ-

ную трывогу і, магчыма, хутка будзе знак яго прыезду на паратунак. Абы ён здолеў дабегчы да стражнікавай хаты... Стражнікавай... хаты... Глядзі, што і Міхалічы добрыя цацы... Сам спрытна змыўся сярод ночы, а жонка для нагляду... Ды чаго гэтыя ягоныя скаргі на сваё становішча?.. Сірата казанская... падумаеш... Ведамы ўжо падобныя размовы... Вось служыць у нас, а, напэўна, зьвязан з Юркам Лапатаю. Больш, як пэўна... Ня было-б таго, ці-ж бы жыў ён спакойна сам на сам?.. Тут, напэўна, не абышлося без яго... Яшчэ невядома, як з Лукашом абыдзецца... Тады будуць дзялішкі... Тады, адно-б вырабіцца з рук, я нізавошта не пакінуў-бы гэтага..."

У меру таго, як Юстын набіраўся злосьці, выразна ня ведаючы, супроць каго накіраванай, сон забіраў яго ў свае абоймы. Хутка ён не разьлічыў тае мяжы, якая на момант блеснула між роздумамі і сном, соладка захропшы...

Блытаныя, хаотычныя пераплёты адбіткаў перажытага за дзень працягвалі яго роздумы ў выглядзе яскравых сноў праз усю ноч. Момантамі яны да таго ўзмацняліся, што варочалі Юстына з боку на бок, падымалі яго галаў, прымушалі гаварыць, уводзілі ў стан, які мяжуе між сном і сьвядомасьцю.

Апошні гук, які яго абудзіў, воклiч Юркі Лапаты, на нейкі час у адзнаньні Юстына не выдзяляўся з гамы гукаў, спароджаных снамі...

— Устава-ай! Уставай і ідзі!—праказаў нераскатурханаму Юстыну атаман:—Ідзі, каб ніхто не заўважыў. Мае хлопцы яшчэ сьпяць, і ты пакінеш нас незаўважаным... Юстын!

Было цяжка адрывацца хоць і ад мала прыемнае пасьцелі. Але намёк на свабоду ўзяў сваё. Ён ёмка ўскочыў на ногі, вобмацкам адшукаў шапку і павярнуўся направа.

— Бяры дубальтоўку. Вось яна...

Юстын пачуў яе даткненьне з правага боку і ўзяўся за халодную рулю.

— Бывай, Юрка!—ціха, укорна для сябе праказаў ён атаману і ткнуўся галавою ў калючы ельнік.

Непраглядная цемра не перашкодзіла бачыць Юстыну мігаючы вобраз Юркі... Адбіткі яго размножанай колькасьці насіліся вакола.

— Не маракуй, што прымусілі крыху пахваляваіца,—кінуў Юстыну ўсьлед атаман.

— Забудзецца,—згодліва адказаў Юстын.

Але гэта слова ён прамовіў да таго асьцярожліва, што ня быў упэўнены, каб яго пачуў Юрка. Ды аб гэтым ня варта было думаць...

Праз хвіліну, ня болей, Юстын, ачуўся ў вільжным сумнаватым золку надыходзячага дня. Зграбныя хвоі, паднімаючыся ўгору, не адрозьніваліся ад цёмных палос, праведзеных па шэрані фону пэндзалем мудрагеля мазьніка. У іншых бакох разьюшанае выабражэньне Юстына выглядала ў хвойных станах калматыя аблічч бандытаў. Чаго добрага, яны разь-

бегліся ва ўсе бакі, і толькі Юстын аддаліцца ад салаша, як трапная куля супыніць яго пры кусьце. Для самаўпэўненасьці і асьцярогі Юстын з украдчывай аглядкай, не сьпяшаючы, прайшоў першую вярсту. І толькі перарэзаўшы, як яму паказалася, знаёмую сьцежку, прысьпешыў хаду, лягчэй уздыхнуўшы...

X

Мешаніна з утомы, сполаху і неразьведзенага пачуцьця ціснулі на мазгі Юстына. Ён ішоў лесам і ня мог ясна орыентавацца, куды і што павяртаць. Ужо аднаўляўся неспакой, каб зноў не наткнуцца на Юркавых малайцоў. Тады Юстын спыніўся ў прагальлі між трыма елачкамі і мо' хвілін дзесяць меркаваў, куды-б яму пайсьці. Ва ўсіх кірунках марылася небясьпека. Нарэшце, гэта засароміла яго і ён рашуча, з адзнаньнем свае годнасьці, ступіў управа. І вось труск яго нагі па зачарсьцьвелым сьнегу зусім нечакана зьліўся з гучным стрэлам. Юстын міжвольна прысеў, адчуўшы перад сабою спэцыфічны подых учарашніх бамбізаў.

— Няўжо зноў яны?—запытаў ён самога сябе.—А можа Лукаш?

Апошняя здагадка-надзея ўзяла верх. Юстын мігам падняўся на ногі і сьпешнымі крокамі накіраваў у бок стрэлу. Напэўна, не ўцячэш. Ідучы, ён рашыў адгукнуцца на стрэл стрэлам, але, зьняўшы дубальтоўку з плячэй, убачыў, што яна не набіта.

— Хітра зрабілі, паганцы, вылаяўся ён:—рэвольвэр забралі, з дубальтоўкі вынялі набой... Магчыма, іх думкі кіраваліся зусім ня ў той бок, куды іх павярнуў Лапата... Цікава!..

Яго пераняў раптоўны выгук:

— Прашу стаць!

Юстын замёр на месцы.

Паўторы ўчарашняга! Але не заўважыў, як да яго падбег Лукаш.

— Юстын?!. Гэта ты-ы?!

На нейкі момант працягнулася напружная маўчанка. Яе нарушыў Лукаш посьвістам піскляваі сырэны.

— Я ўжо з дому з аддзелам. Тут нас чалавек дваццаць. Я думаў, што з табою прыкончылі...

Яны павярнулі да выйсьця з лесу.

Праз хвілін пяць іх нагнала пара коньнікаў, адзін з якіх данёс:

— У лесе нікога.

— А дзе больш нашы?

— Яны ўдарыліся ўлева і, памойму, таксама накіруюць да граніцы... Спрытная свалатня... Таварыша камісара, напэўна, расходвалі...

— А во ён!—Лукаш ткнуў пальцам у грудзі Юстына.

— Няўжо? Якім чынам?—зьдзівіліся абодва коньнікі і сьледам шчыра разрагаталіся.

— Адваявалі?—абярнуўся адзін з іх да Лукаша.

— А вы думалі што?

— Дзе-ж бандыты? Драпанулі?

— Я думаю... Паведамеце камандзіра аддзелу...

Коньнікі пакінулі іх і трушком панесьліся наперад.

Лукаш з Юстынам пайшлі ўсьлед іх.

— Я не чакаў, Лукаш, што ты здолееш выцерабіцца...

— Чаму?—зьдзівіўся Лукаш.

— Бо цябе гналі?

— Гналі. Каля вярсты гналі, паганцы... Я думаў, што духу ня хопіць уцячы...

— Вось тое... Я замёр, калі пачуў, што за табою была пагоня.

— Усё-ж дзіўней, што ты выбраўся з іх рук, Юстын,—праказаў Лукаш.

— Я выбраўся... Са мною здарылася цэлая гісторыя, пры гэтым— рэдкая і дзіўная,—адказаў Юстын.

— Цікава!

— Вельмі цікава...

— Ты іх, нябось, абдурыў, Юстын?—здагадваўся Лукаш.

— Ня так лёгка абдурыш... Мне здаецца, а мо' і ня так, што яны мяне абдурылі...

— Няўжо?

— Падобна да таго, хоць я і дагэтуль не магу разабрацца, у чым справа... Мяне, ведаеш, самі адпусьцілі на ўсе бакі.

— Бандыты?

— Самыя, як ёсьць... На чале з іх атаманам.

— З умоваю, вядома...

— Бяз жаднае ўмовы, Лукаш. З адным пажаданьнем сустрэцца...

— Ці маеш ты лад... Дзе?

— Кажу табе, Лукаш.

— Расказаў-бы падрабязьней, Юстын. Тут нешта таемнае...

Абодва заінтрыгавана маўчалі, калі да іх данеслася страляніна. Камісары настаражыліся. Як можна было здагадвацца, стралялі зьлева.

— Мэрам-бы крычыць нехта, чуеш?—запытаў Юстын.

— Падобна да таго... Напэўна спаткаліся з бандытамі... Ня думаеш?

— Але чаму зьлева?—зьдзівіўся Юстын.

Лукаш змаўчаў.

— Давай павернем на страляніну,—параіў ён Юстыну.—Нябось, дубультоўка спраўная?

— Каб-жа была спраўная; вынялі набой, паганцы...

Лукаш расьсьмяяўся.

Нейкі час яны прайшлі прысьпешанымі крокамі па тых-жа конскіх сьлядох, па якіх ішлі. А толькі намерыліся збочыць улева, як страляніна сьціхла.

— Хадзем праўцом,—параіў Юстын.

У надышоўшай цішы іх крокі шорпалі па сьнягу, выклікаючы досыць гучны водгалас. Відочна крапчэў мароз. На чорных ангельскіх вусіках

Лукаша лягло некалькі срабрынак. Аднак, абодва адсоўвалі цёплыя шапкі на патыліцу і расшпільвалі гузікі каўняроў. Нутраное цяпло, як у разгойданых рухавікох, грэла іх постаці, ружовячы маладыя твары. Кожны з іх, зграбны і здатны, выказваў сваім выглядам мужнага рыцара, якому ў сьвеце няма страхаў. Сустрэнь яны разам каго-хоць, хоць цэлую банду разбойнікаў—ня ўступяць. Зусім было слушным, што гэтыя два ваякі-рэволюцыянэры, атрымаўшыя адзнакі на франтох грамадзянскае вайны, мелі на сабе вялікія абавязкі прадстаўнікоў улады. Тымчасам, адваротным быў іх вобраз учора. Гэтыя супярэчнасьці абставін разумеліся абодвума камісарамі, пралазячы ў іх нутро агіднымі прыкрасьцямі. Адначасна абодвы яны натужваліся знайсьці якоесьці апраўданьне незалежным ад іх выпадкам і са смакам перапытвалі адзін другога пра ўчарашнія здарэньні, забыўшы нядаўнюю страляніну.

— Ну, ведаеш, так усё вышла зьнянацку,—казаў Юстын:—мэрам, з неба звалілася. Я ня мог пацяць плячыма, як два галаварэзы паставілі мяне паміж сабою. Ці-ж крыкнеш?

— Я думаю,—згаджаўся Лукаш:—Вось і дзівам стае, як яны цябе пусьцілі жывым.

Юстын памаўчаў, абдумваючы адказ.

— Выпадак, які сваім канцом перамудрыў пачатак.

— Гэта значыць?

— Значыць тое, што я спадабаўся атаману банды.

— Не сьмяешся?

— А чым-жа іншым я магу табе вытлумачыць скутак здарэньня, калі ня гэтым?..

Яны захапіліся размоваю, ажно не пачулі гутаркі, якая ішла зусім недалёка. Наперадзе іх выясьнялася граніца лесу.

— Чакаюць нашы!—узрадваўся Лукаш.

Каб праверыць, ён прысеў і пільна ўтаропіў вочы ў прагаліны між кусьцікаў.

— Нашы ня нашы, а пойдзем на граніцу,—дадаў ён адважна.

Плаўкі зык трубкі ўпэўніў камісараў у тым, што гутарылі свае.

Яны пашлі сьмялей.

## XI

— Таварышы-і каміса-ары, урра-а! Наша-а перамога-а! — прагукаў начальнік аддзелу, угледзеўшы вышаўшых з лесу Юстына і Лукаша.

Аддзел у дваццаць чалавек, адзетых у жоўтыя кажушкі, са шлемамі на галаве, роўным шнурком працягнуўся ўздоўж граніцы. Тут-жа стаяла пара коняй, запрэжаных у сані.

Гук „ура-а!!“ мігам праляцеў з канца ў канец шнурка, як па струне.

Толькі ён сьціх, як начальнік аддзелу, лёгкі і спрытны красавец, спраўна ўсеўшыся на тонкім гібкім гнедым ангельцы, аддзяліўся ад другіх і пад‘ехаў да камісараў.

— Маем здабычу! Атаман Збанок вам кланяецца!..

Юстын ня мог стрымацца, каб не здрыгануцца ад нечаканасьці. Па ўсёй яго істоце пранеслася ручаінка калючага, ледзянеючага холаду. Мігам выблісnуў уваччу яго неразгаданы ім портрэт Юркі Лапаты. У вушы прайшоў Юркаў цьвёрды сухі тэнаровы голас. Памяць аднавіла сказаныя ім учора Юстыну словы: „Я разумею, што ты глядзіш на мяне з захаванаю агідаю і цэніш маю асобу на кошт трапунковай кулі спрытнага чакістага“.

Лукаш спыніў паглыбленьне гэтага настрою ў таварыша, праказаўшы:

— Яшчэ адна гадзіна раздушана пераможнаю каляскаю рэволюцыі. Урра-а!

Начальнік аддзелу махнуў шабляю ў бок коньнікаў, і іх шнурок прапусьціў па сабе гэта бадзёрае, рэзвае, урачыстае слова.

— Што-ж рабіць з трупам бандыта? — запытаў у Лукаша начальнік аддзелу.

— Павязем у горад. Няхай пагосьціць у бальшавікоў!—адказаў Лукаш і засьмяяўся, зірнуўшы на Юстына.

А той маўчаў, захоплены эфэктам напатканага. Паварот здарэньняў, якія, пачаўшыся ўчора, сёньня скончыліся падобным фіналам—сапраўды набылі надзвычайны характар, каб ім ня зьдзівіць Юстына. Перад гэтым ня ўстояў-бы ніхто, а тым болей ён, адчуўшы на сабе вострыя эпізоды цікава скончанай гісторыі.

Аднак, з-пад плёнкі навеяных настрояў Юстын хутка вызваліў цьвёрды погляд рэволюцыянэра і праказаў:

— Філёзофія бандытызму мае заўсёды несамавітыя вывады...

Яны апынуліся перад трупам атамана Збанкі. Лукаш уперыў вочы ў застыглы зялёны худы твар бандыта і зларадасна ўсьміхнуўся. Юстынжа мігам правёў вачмі па мерцьвяку і сказаў бяз адрасу:

— І чым толькі кіруецца іх думка, вядучы паслухмяныя ногі ў густыя кусты лясоў!

Пара спрытных чырвонаармейцаў ускінула труп атамана ў сані.

— А вы, таварыш камісар, вартуйце яго,—пажартавалі яны, гледзячы на Лукаша.

Лукаш лісьліва засьмяяўся.

— Едзем!—тут-жа праказаў ён начальніку аддзелу.

Коньнікі перастроіліся ў падвойныя рады і рушылі паўзьлес ціхім крокам.

Лукаш з Юстынам уселіся ў сані абапал цела бандыцкага атамана і паехалі за аддзелам.

А ў гэты час з Юстынавае кватэры Паруля ласкава праводзіла вясёлага і задаволенага начальніка раёну міліцыі Жвавага.

Менск, 10-VI—28.

## ПЛАКАЛІ БЯРОЗЫ

**Сяргей Нарлінскі**

Над Зарэччам заснула верасьнёвая ноч. З бору веяла смольлю, журавінамі і верасам. Мястэчка спала. Спала тым салодкім сном, які бывае пасьля цяжкай доўгай працы. Спала, бо гаспадары к гэтаму часу ўхадзіліся ў полі, засталася толькі адна бульба, але з ёю сьпяшацца няма чаго. Хутка загудзе малатарня ў гумне, заляскаюць увіхныя цапы досьвіткамі, падымуць гаспадара першыя пеўні, а зараз ён сьпіць додня. І сьпіць Зарэчча, нібы хоча адаспацца за лета.

Было ціха, так ціха, нібы ўсё вымерла; ніводны нават певень не азавецца, ніводны сабака не забрэша. Ціха. Толькі зрэдку лёгка зашастае залатымі кудрамі гонкі беразьняк, як жартаўнік-вецер прабяжыць па іх сваімі тонкімі нябачнымі пальцамі, расчэша іх, абарве ўжо адкрасаваўшае лісьце і рассыпле яго золатам па доле. Залатымі сьлязамі-лісьцямі плакалі бярозы.

* * *

Ужо днее. Зоркі гаснуць адна за аднэю. Так спачатку пабялее, нібы канае, задрыжыць і згасьне. І так адна за аднэю, нібы нехта нябачны на высокіх, высокіх ценкіх дыбах па чарзе іх тушыць. Але, як на зло гэтым зоркам, яны гаснуць, а навокал сьвятлее. Надыходзіць дзень. Ужо зусім пасьвятлела. Добра відаць ужо будоўля, сады, высокія вочапы зарачан.

Мястэчка Зарэчча здаўна расьселася праваруч ад гасьцінца, пры самай рэчцы. На другі бок рэчкі раскінулася і цягнулася далёка, упіраючыся ў цёмны лёс, сяло Зарэчча, так што мястэчка і сяло разлучаліся рэчкаю і адно аднаму былі „Зарэччам“.

Мястэчка Зарэчча стаяла наводшыбе гоняй на двое ад шляху і злучалася з ім дарогай, абсаджанай з абодвух бакоў бярозавымі прысадамі.

Праўда, прысады гэтыя багата парадзелі і сьвяцілі сваімі лысінамі. Яны былі ўжо ня тыя маладыя гонкія раскошныя прысады, якія гадоў некалькі назад вабілі ў свой цень пасьля апэтытнага полудню сытую постаць айца Мітрафана, або якія ў срэбныя ліпнёвыя ночы выслухвалі мядовыя прызнаньні тутэйшага вурадніка яго каханай пісаранцы. Так, гэта былі ўжо ня тыя прысады! Ім давялася быць сьведкамі вірлівых гадоў рэволюцыі. На іх камлёх жыцьцё запісала шмат жудасных праяў. Багата, багата даведаўся-б чалавек, каб ён здолеў расчытаць усе

зарубіны і раны на гэтых камлёх! Ды не расчытае ён! А жыцьцё ўсё косіць і косіць прысады. Парадзелі прысады. Толькі некаторыя, бадай, больш маладыя, на камлёх якіх было меней упісана дзён і падзей, стаялі яшчэ, і то ціха шапталіся, то з енкам ды стогнам плакалі ў зімовыя і вясновыя ночы, скардзячыся на сваю долю, нібы яны хацелі расказаць людзям пра сваё жыцьцё і падзеі, якіх яны былі сьведкамі.

У дажджлівую восень нудна плакалі бярозы.

Абапал прысад разьлеглася поле. Блішчэла тут залатая пожня, чарнела ральля і зелянела маладая аксамітная рунь.

Да самага шляху, у тым мейсцы, дзе ад яго ішлі прысады ў мястэчка, прылягаў хмуры таемны лес. Гэта быў вялікі „скарбовы“ лес у некалькі тысяч маргоў. Ён цягнуўся далёка на поўдзень і гінуў дзесь у балотах. Гэты лес даваў гасьцінны прытулак бандытам. Яны часта вылазілі адтуль, рабілі наскокі на мястэчкі, вёскі, пакідаючы пасьля сябе крывавадымны сьлед. Яны наводзілі жах на зарачан, асабліва на яўрэйства. Праўда, яўрэйства засталося тут ня шмат, бо больш заможныя, хто мог, выехалі ў горад, засталася толькі адна беднота. А Абрама-бальшавіка, вясёлага ды ўдалага каваля, найлепшага майстра на ўсю ваколіцу, расстралялі палякі; расстралялі, а хату спалілі. Яшчэ і зараз ляжаць гэтыя руіны, абгарэлая пэч толькі падымае над імі тоўсты палец-комін, палохаючы коняй і падарожнікаў.

* * *

На дарозе між прысад паказалася некалькі дзесяткаў узброеных бандытаў. З сабою яны цягнулі пару кулямётаў. Гэта быў адзін з аддзелаў капітана Караткевіча.

Заняўшы мястэчка і расставіўшы варту, аддзел разьбіўся на часткі і кожная з іх драпежна рабавала мястэчка.

Дзесятак галаварэзаў накіраваўся да аднэй хаты, што стаяла на краі мястэчка і дзе жыў загадчык вайсковага аддзелу Валвыканкому Васіль Мятліцкі. Гэта была звычайная сялянская хата на дзьве палавіны. Уваднэй з іх, ад вуліцы, і жыў Васіль. Ён позна вечарам вярнуўся з аблавы на бандытаў, якую наладзіў Валасны Камітэт разам з міліцыяй, і зараз, зьнябыты, соладка спаў.

Бандыты спыніліся ля хаты. Адзін з іх, што быў апрануты ў зграбную жоўтую скураную ватоўку з афіцэрскімі наплечнікамі, адабраўшы трох галаварэзаў, ціха, але грозна скамандаваў: „Вы хлопцы, за мною, а рэшта—пад вокны!“

Як дзікія кошкі, сыпанулі да вакон бандыты. Начальнік з трыма галаварэзамі ўскочыў на ганак. Ён быў абчэплены бомбамі, пры баку шлёпаў „маўзэр“, а ў руцэ сярдзіта блішчаў „браўнінг“.

Затрашчалі ад напору бандыцкіх плячэй дзьверы, і голас начальніка зароў: „Адчыняй!“ і нібы рэха, звонам шыб і трэскам рам азваліся

шасьцёра вакон. Гэта вартаўнікі, як было ўмоўлена, адначасна прыкладамі павысаджвалі рамы.

Ад гэтага груку і звону ачнуўся Мятліцкі. Яго мазгі адразу-ж апаліла жудасная думка—„Бандыты!“ Яны для яго былі ня зусім нечаканымі. У суседніх валасьцёх яны скрозь пагасьцілі, і можна было спадзявацца спаткаць іх і ў Зарэччы, тым больш, што да Зарэчча падыходзіў лес і бандытам сюды было лёгка дабрацца.

Васіль схапіўся з ложка. Раптоўны і такі зьверскі наскок бандытаў зьбянтэжыў яго. Ён ня цяміў, за што хапіцца, што рабіць. Як электрычны ток, прабегла дрыготка па целе. Перад вачыма на момант усплыла постаць таварыша з расьсечаным польскай шабляй тварам. Ад гэтага ўспаміну ахапіла жудасьць Васіля. Яму зрабілася холадна; на лобе выступіў буйны пот, кашуля, здавалася, абледзянела і прыліпла да цела. У гэты момант некалькі бандыцкіх куль упілося ў сьцяну. Замест бомбы або вінтоўкі, Васіль камячыў у дрыжачых руках сваю кашулю. У хаце было ўжо відно. Разьбітыя вокны сьвяціліся, як белыя зубы нейкага страшнога вялізнага зьвера, які гатоў быў вось-вось глынуць Васіля.

З другое палавіны хаты вышаў у сенцы гаспадар і адкінуў завалу. З громам расчыніліся дзьверы, і бандыты, як галодныя ваўкі, кінуліся да ложка Мятліцкага.

„Рукі ўгору!“ выгукнуў начальнік і наставіў галодную пастку „Браўнінга“. Тымчасам другія раптоўна, як жалезнымі абцугамі, ахапілі драпежнымі рукамі Васіля. У яго ў галаве ўсё зблыталася. Пацямнела ўваччу. Хата і гэтыя нязваныя госьці калыхаліся.

„Бач, як узброіўся, сабака!“ лаяўся старшы, агледзеўшы зброю Мятліцкага.

„Ну, марш, жыдоўскі камісар!“ закамандваў ён, абшукаўшы ўсе куткі хаты. Мятліцкі, ледзь перастаўляючы ногі, хістаючыся, вышаў на двор.

„Я вас чырвоным пеўнем пусьціў-бы, каб не адамкнулі“, пагразіў гаспадару начальнік. Той маўчаў.

Вышлі на вуліцу і накіраваліся да воласьці, дзе меў быць зараз капітан.

Сьвежая раніца абвеяла Мятліцкага. Лёгкі ветрык забаўляўся яго валасамі—кудлачыў і часаў іх. Над галавою зьвінелі жоўтым лісьцем прысады. У суседнім гайку абудзіліся птушкі і радаснымі песьнямі-літаньнямі віталі дзень. Гэтая раніца асьвяжыла Васіля, яна вярнула яму прытомнасьць ды сілы. На душы толькі было нейк прыкра і цяжка, нібы камень які цісну на сэрца. Ён ішоў больш цьвёрда, ня хістаючыся ў бакі. У галаве праляталі ўжо зьвязныя думкі. Было прыкра на самога сябе за гэткі сполах. Прыкра было разумець, што ён гіне і гіне так дарэмна, так бескарысна для справы.

Ну як-жа! Колькі разоў ён з такой самаахвярнай адвагай лавіў бандытаў! Колькі разоў ён быў на валасок ад сьмерці і ніколі не палохаўся яе! Ён заўжды ішоў сьмела, гледзячы сьмерці ў вочы. Небясьпека прыводзіла яго ў стан шалёнай адвагі ды экстазу.

А зараз? Халодная сьмерць абхапіла яго жалезнымі рукамі, глядзіць на яго сваімі ледзянымі вачыма, сьмяецца з яго дзікім сьмехам. І ад гэтага ён страціў мужнасьць і адвагу, страціў волю над сабою.

„Няўжо—сьмерць? Сьмерць—і больш нічога. Глыне яго халодная страшная сьмерць!“ Мітусіліся думкі ў Мятліцкага і жудасьць зноў ахапіла яго.

„Не, ня можа гэтага быць!“ зьяўлялася надзея ў Васіля. „Што-небудзь выратуе ад сьмерці. Напэўна, выратуе. Мо‘ ўжо дзе чырвоны аддзел надыходзіць сюды“.

І Мятліцкі пачаў уважна прыслухоўвацца—ці ня чутно дзе чаго. Але ўсюды было ціха. Ды гэта ня ўрвала надзеі Васіля. Ён нават уявіў сабе жывым-здаровым, на волі.

Эх, як прыгожа ды радасна жыцьцё! І такім прывабным і дарагім стала яно Васілю. Перад яго вачыма ўсплыў вобраз Марылі,—дзяўчыны, з якою ён меў пабрацца,—і, як жывы, стаяў перад ім. Ды раптам гэты вобраз зьнік. Яго разбурыў моцны выбух, што пачуўся ля воласьці і пакаціўся па ўсёй ваколіцы. За гэтым выбухам пачуліся то там, то сям адзіночныя сухія стрэлы.

Гэты выбух і стрэлы ўсьцешылі Мятліцкага.

Бандыты зьбянтэжыліся. Яны ня ведалі, што рабіць. Некалькі чалавек адлучыліся і разьбегліся ў розныя бакі, а рэшта спыніліся, спыніўшы і арыштаванага, ды палахліва разглядаліся па баках. Над галовамі трывожна шапацелі залатым лісьцем бярозы.

Тымчасам да іх падбег, засопшыся, чырвоны, як рак, начальнік. У яго руцэ блішчэў халоднай стальлю „браўнінг“.

„Застрэліць хутчэй сволач!“ загадаў ён.

Мятліцкага паставілі сьпіною да бярозы.

Усе надзеі і мары яго разьляцеліся, як дым, і толькі засталася ад іх нейкая прыкрасьць і страх. Зноў апаліла мазгі жудасная думка: „Сьмерць, сьмерць! Няўхільная сьмерць! Няма ратунку!“

Халодны пот пакрыў яго і на лобе выступіў белым гарохам. Васіль стаяў, недалужна апусьціўшы ўніз вялыя, як скруткі ануч, бяскрэўныя рукі. Адзін момант, і яго погляд спаткаў халоднае вока дула „браўнінга“. Думкі заблыталіся ў галаве, яны насіліся нейкімі цёмнымі ўрыўкамі бяз жаднай сувязі. Увачу пацямнела. Усё захісталася—і зямля, і будынкі, і гэтыя зьвяры, усё расло ды расло і зацягвалася цёмнай плёнкай.

Раптам, бяз жаднай відочнай сувязі, чамусьці ўсплыў на памяць адзін абразок юнацкага жыцьця. Зусім нязначны абразок.

Сьвяточны дзень. Зарэчча гуляе. Маладыя дзяцюкі і дзяўчаты сабраліся за сялом. Забаўляюцца, дурэюць. Васіля яны ня прымаюць у свой гурт—блазнота; дый сам ён неахвотна да іх далучаецца—сорамна. Толькі песьні разам сьпяваюць.

І так выразна паўстаў перад Васілём гэты абразок, нібы гэта быў не ўспамін, а ўсё гэта цяпер стаяла перад яго вачыма. Вось сам ён,

Васіль, хлапчук, на ім зрэбная кашуля і шарачковыя штаны. Стаіць, абапёршыся на плот.

Вось яны зацягнулі песьню:

„Паны, паны,
О-ё-ей, паны“!

Васіль, як зачарованы, слухаў дзіўныя мэлёдыі гэтай глыбокай сумнай народнай песьні... Але сухі траскучы кашаль „браўнінга“ абарваў гэтыя мэлёдыі, абарваў і жыцьцё.

Бандыт нацэліў Васілю ў галаву. Куля ўпілася ў белы лоб над правым вокам, адшчапіўшы з патыліцы кавалак чэрапа і вырваўшы камяк мазгоў. Гэта была разрыўная куля. Мазгі шлёпнуліся аб камель бярозы і павісьлі на шурпатай кары. Мятліцкі апусьціўся на зямлю і зараз-жа сканаў.

Абудзілася сонца і лена выплывала з-за лесу. Яго пасмы працягваліся да зямлі, абліваючы крывавай пазалотай палову неба. Каля прысады зялёным аксамітам расьцілалася маладая рунь і кроплі буйнай расы пераліваліся брыльлянтамі на ёй. Мятліцкі ляжаў, скурчыўшыся, пры тоўстай бярозе, тварам дагары. Губы яго былі пакусаны. Вочы глядзелі ў крышталёва-чыстае неба застыглым поглядам. На твары застыў жах. Белая кашуля была падпяразана пад пахамі шырокім крывавым поясам.

Над ім, як два шэрагі сьвечак, стаялі бярозы. Іх верхавіны гарэлі ў ранічным сонцы і сьцякалі буйнымі жоўтымі васковымі кроплямі. Гарэлі васкова-бярозавыя сьвечкі, лёгкі вецярок гойдаў іх полымя-кудры. І ціха, ціха шапацелі бярозы, павольна ківаючы сваімі галовамі, нібы яны вымаўлялі якісь прысуд нядаўным падзеям, якіх яны былі сьведкамі. І ціха, ціха варушылі яны сваімі галінкамі, як касьцьлявымі рукамі, нібы запісвалі на сваіх камлёх гэтыя падзеі.

Жаласна плакалі белыя бярозы залатымі сьлязамі.

Плакалі бярозы...

* * *

Тымчасам, як гэты гурт бандытаў чыніў свае злачынствы над Васілём, другі напаў на кватэру старшыні валвыканкому Аксёна Дубінскага.

Дубінскі толькі гадзіны са дзьве як вярнуўся з павету. Здаўшы бандытаў, якіх злавілі ў часе аблавы, усе вявнуліся дадому, а Аксён затрымаўся ў укоме. Там ён забавіўся і вярнуўся дадому як пачало віднець.

Зайшоўшы ў свой пакой, Дубінскі скінуў з сябе зброю, палажыў яе пад рукамі на кожны выпадак, распрануўся ды лёг.

Трохдзённая аблава змардавала яго, і сон зараз-жа апаноўваў ім. Але заснуць не даваў яго таварыш, які спаў у гэтым-жа пакоі, сакратар выканкому, малады дзяцюк, Міхась Гардзейчык. Ён прачнуўся і пачаў пытацца пра аблаву. Аксён, не разьнімаючы павек, неахвотна, праз сон, коратка адказваў на дакучлівыя пытаньні таварыша. Часам пытаньні заставаліся без адказу. Міхась, паждаўшы хвілінку, паўтараў пытаньне галасьней і ўсё-ж дамагаўся адказу.

„Ну цябе к ліху з тваімі пытаньнямі!“ агрызнуўся сярдзіта Аксён: „Я спаць хачу!“

Міхась не пакрыўдзіўся за гэта і яшчэ з большай назолай засыпаў пытаньнямі таварыша.

Так першы сон прайшоў, Аксён разьняў павекі. З часам сон зусім адляцеў, і Дубінскі, ажывіўшыся, з захапленьнем апавядаў пра сваю ўдачу на аблаве. Ён нават падняўся на локаць, падпёршы шчаку далоняй.

„Дзікая адвага ахапляе яго“, казаў Аксён пра Мятліцкага, „калі ён трапляе ў небясьпеку. Дзіўлюся яго самаахвярнасьці. Усе трое сутак ён не заснуў ні на волас, жыў толькі справай. Сапраўдны барацьбіт!“

Так таварышы пагутарылі гадзіны паўтары.

Раптам Аксён пачуў ля вакна чыесь затоеныя крокі, а за імі і нейкі шолах ля ганку. Ён борзда ўскочыў з ложка, абы-як апрануўся, схапіў стрэльбу і ціханька вышаў на калідор.

Гэта быў былы папоўскі дом. З калідору побач дзьвярэй вялі ў зашклёны ганак пара вакон. У вадным з іх была фортка. Праз гэтае вакно і шкляны ганак Дубінскі ўбачыў некалькі чалавек. Гэта былі бандыты. Яны аб чымсьці раіліся.

Прага барацьбы ахапіла Аксёна. Ён моцна сьціснуў у руках стрэльбу і ледзь стрымліваў сябе, каб ня стрэліць. Цяпер стрэл быў-бы дарэмным.

Падышоў Міхась. Ён калаціўся, як асіна, ад страху.

— Братачка, што будзе?—пытаў ён дрыжачым голасам; язык яго блытаўся, зубы ляскалі, на вачох, здавалася, блішчэлі сьлёзы.

— Маўчы, смаркач, а то сваімі рукамі задушу!—сярдзіта ўняў яго Аксен:—ідзі шынэль мне прынясі, прыкрыцца, каб ня так быў відаць, і бомбы, ды ціха-ж толькі!

Міхась паслухаў.

Тымчасам адзін бандыт прыладзіўся і пачаў абразаць кіт, каб выняць шыбу і праз яе адкінуць засоўку ад дзьвярэй ганку.

Аксён ахінуўся шынэлем, ціханька адшчапіў фортку ў ганак, злажыўся і чакаў. Нецярплівасьць мучыла яго. Хацелася як найхутчэй пусьціць кулю ў ворага. Але Аксён цьвёрда трымаўся і чакаў. Каля яго сядзеў зьбялелы Міхась. Бандыт асьцярожна адняў шыбу і перадаў яе другому, потым усадзіў галаву ў дзірку, перагнуўся ды ўзяўся за засаўку.

Сухі трэск вылецеў з калідору, забраджжалі шыбы, і бандыт, як гляк, паваліўся на зямлю. Бандыты спалохаліся і кінуліся наўцёк, кінуўшы свайго таварыша.

Адвага ахапіла Аксёна.

Ён, як кошка, спрытна ўскочыў на дах.

Гэты дом стаяў акурат супроць валвыканкому, крокаў на трыццаць ад яго. Аксён праз вакенца з даху глянуў у той бок. Глянуў і ледзь ўстояў на нагах.

— Вось сволачы! Падпалілі!—сарвалася ў яго з языка. І сапраўды, вялікі драўляны будынак валвыканкому быў ахоплены полымем. Чырво-

ныя вялізарныя языкі, нібы казачнага зьмея, лыпалі праз вокны ды лізалі сьцены. Густы буры дым клубамі паднімаўся ўгору і каціўся па крышталёва-чыстым блакіце ранішняга неба.

Аксён, як зачараваны гэтым прагным разгулам агню, некалькі хвілін стаяў і глядзеў. Дзікая злосьць і помста агорнулі яго. Ён да скрыгату сьціснуў зубы.

Водаль пажару, крокаў на дваццаць, стаяла куча бандытаў. Аксён размахнуўся і шпурнуў у іх бомбу. Цьвёрдая рука яго і на гэты раз ня схібіла. Падняўся слуп пылу і засьціў бандытаў ад яго вачэй.

Потым Аксён спрытна спусьціўся на зямлю і, падабраўшыся паўз платы бліжэй да дарогі, шпурнуў яшчэ пару бомбаў ды пачаў страляніну.

Зьбянтэжныя бандыты трывожна забегалі па мястэчку. Пачуліся адзіночныя стрэлы. Нікому ня было вядома, хто і дзе страляе. Страх апанаваў імі. Кожны кідаў усё ды ўцякаў з мястэчка. Нават кулямётаў і сваіх забітых таварышоў адцураліся.

А будынак канчаў гарэць. Як вялізная жывёла, ён сьцякаў крывёю і таяў. Замест яго цяпер ляжала груда чырвонага вугольля, па якім бегалі крывавыя языкі полымя і лізалі яшчэ недагарэлае. Вецер сьціх. Празрысты лёгкі дым раўнюткім слупам падымаўся ўгору. Абгарэлыя пні прысад, што стаялі калісь ля вакон, адзінока тырчалі чорнымі пальцамі.

Водаль стаялі бярозы і ціха шапацелі. Здавалася, плакалі бярозы.

* * *

Назаўтра дзень быў ясны і цёплы. Сонца шчодра разьлівала на зямлю сваё апошняе цяпло. На небе ні хмурынкі. Сонца каціласся к спаду.

Гульлівы лёгкі ветрык расчэсваў залатыя кудры бяроз. Даль зыбалася густым паветрам. Загоны ўсаляліся бельлю баваўняных красён. Стаяла сытая восень.

У гэты час некалькі сот зарачан сабіралася ля будынку школы, дзе цяпер часова зьмясьціўся валвыканком. Сабраліся, каб аддаць апошняе прывітаньне сваім лепшым таварышом-барацьбітом, каб прайсьці з імі разам іх апошні шлях.

У першых шэрагах стаялі пахмурныя супрацоўнікі выканкому, далей стаялі пажарнікі, школа, сяляне. Паўшчапляўшыся на платы, пазірала з цікавасьцю зарачанская „неарганізаваная“ моладзь.

Чырвоныя сьцягі былі ў жалобе.

Раптам пранеслася ў натоўпе журботнае—„нясуць, нясуць!“ Гэтае кароткае слова электрычным агнём апаліла мазгі, тузанула нэрвы. Усё сьціхла. Оркестра зайграла жалобны марш. Паліліся жалобныя гукі музыкі, урываючыся ў душу і кратаючы сумныя струны яе. Павольна, у тахт музыцы, праходзяць апошні свой шлях нашы дарагія таварышы.

Наперадзе несьлі Васіля, а за ім—другіх.

Нярухомы, астыўшы ляжыць ён у труне, усыпаны кветкамі.

А гукі жалобнай музыкі ўсё льлюцца ды льлюцца, разносячы ў прасторы смутак, уліваючы ў сэрца жалобу.

Вось ужо пройдзены і апошні шлях. Усе спыніліся ля вялікай брацкай магілы. Усё сьціхла, нават вецер і той сьціх, толькі звонкая медзь оркестры заліваецца жальбай; урэшце, анямела і яна.

„Дарагія таварышы!“ зьніжаным голасам пачаў Дубінскі: „Мы сягоньня апушчаем у магілу некалькі сваіх найлепшых таварышоў і адданых барацьбітоў за справу працоўных!“ Гэтыя простыя, усімі часта чутыя, словы набывалі ў гэты момант якісь асаблівы, глыбокі зьмест, заражаючы ўсіх электрычнай сілай. Вострымі голкамі калолі па нэрвах гэтыя словы. Па целе прабягала дрыготка. Здавалася, уставалі дыбка валасы.

„За што загінулі гэтыя таварышы?“ пытаў Аксён і сам адказваў: „Яны загінулі за рэволюцыю! Яны загінулі ад зладзейскае рукі панскіх наймітаў. Яны загінулі на варце!“ казаў усё больш і больш захапляючыся Дубінскі.

„Ды не вярнуць паном і фабрыкантам былога. Іх зорка ўжо закацілася. Зараз ужо ўзьнялася новая зорка—зорка рабочае клясы ды сялянскае беднаты! Няхай сабе гэты зброд вырве ад нас з-за вугла яшчэ ні аднаго нашага лепшага барацьбіта, няхай спаляць яшчэ ні адзін будынак, але не спаліць, не разбурыць ім справы працоўных!“

Зараз ужо голас Аксёна гуў гнеўна, поўны сілы ды надзеі.

„Мы ад нашага нявольніцкага „ўчора“ праз крывавае змаганьне „сягоньня“ прыдзем да сьветлага шчасьлівага „заўтра!“ скончыў Аксён, і апошнія яго словы пакрыліся жалобнымі гукамі музыкі.

Пасьля Дубінскага гаварылі і другія. У іх простых словах вылівалася багата шчырага пачуцьця і глыбокага зьместу. Гарачыя словы прамоўцаў моцна краталі душу. Далёка ў прасторы разьліваліся жалобныя гукі оркестры.

Апушчаюць таварышоў у дол. Халодная цемра глынула іх. Ці-ж лёгка згадзіцца?! Між намі іх болей ня будзе! Застукаў халодны пясок, падаючы на векі, застукаў, як молат, па сэрцах блізкіх.

Схіляюцца нізка галовы над сьвежай магілай, схіляюцца ў жалобе над ёю чырвоныя сьцягі.

Схіліліся над магілай і стромкія бярозы.

Сонца падала за лес. На захадзе гарэла крывавая паласа. Косыя праменьні аблівалі золатам бярозы, і яны васковымі сьвечкамі гарэлі над магілай. Лёгкі ветрык зрываў адкрасаваўшае лісьце ды рассыпаў яго золатам па зямлі. Плакалі агнёвымі сьлязамі бярозы.

Плакалі бярозы.

## ТАВАРЫШЫ

**А. Галоўка**

— Шляхам ісьці—хіба касьцякі конскія абгрызаць будзем? Трэба на бок зварачаць, дзе глушэй.

О, Мірон добра гэта цяміць:—не маленькі ён—13-ты пашоў. А Якубка меншанькі. Таму пакорліва зірнуў на таварыша і ледзь кінуў паціху і нясьмела:

— Можа-б і наняліся дзе хутчэй.

— Але, так!

Змоўклі. Памалу брылі шляхам і ўзіраліся сабе пад ногі. На зблытаныя пасмы каляін у гразі, на хітрыя цацкі нязьлічаных чыіхсьці ног... Думалі. Пра што?

О, смутныя і трывожныя думкі! Таму і па абліччах змарнаваных блукалі цені, а вочы туманам заслала... Раптам Міронавы бліснулі, бы ветрык дзьмухнуў на іскаркі ў попеле. Вусны бледныя паціху зварухнуліся і застылі ў ціхай усьмешцы.

Сказаў ён:

— Ай, добра-б жа было!

І рукой адапхнуў аблезлую пляцёнку, што насоўвалася на вочы. Якубка зірнуў скоса на яго.

— Што—добра?

— А вось калі-б наняцца дзе...

Ён прыжмурыў вочы і лятуценна глядзеў перад сабой. Казаў:

— Эх, і добра-б жа было!.. Торбачку зразу—вобземлю. Ды, ведаеш, гэтак увечары вярнуўся-б са стэпу (аралі, ці-што). Гаспадар валоў выпрагае, а ты хуценька сянца схапіў, падкінуў. А тады—у хату. На століку ў вялікай місцы галушкі гарачыя, і хлеб ляжыць тут-жа. Хочаш—адны іх, а хочаш—еж з хлебам... Добра!

Мірон ціха ўздыхнуў. Як водгук, уздыхнуў і Якубка. Ішлі і маўчалі. А ўгары ў тэлефонных дротах вецер блытаўся і выў маркотна. Навакол зелянела азіміна, чарнела ральля і па ёй, як мурашкі, людзі—сеялі, баранавалі... А бітым шляхам, што там спусьціўся ўніз у дол і далей-далей працягнуўся ў сінюю даль,—шэрыя постаці галодных: з дзяцьмі, з клункамі...

Збоку—хутарок. На гарбу вятрак крылы апусьціў, як птушка падстрэленая. І чаму Мірону раптам успомнілася яго далёкая родная вёска

з-за Дняпра на Кацярынаслаўшчыне? Можа таму, што такія-ж нямыя і стрынгаляватыя стаялі ветракі на выгане, як ён ішоў з сяла...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шмат ішло іх. Кабеты з дзяцьмі, дзяўчаты, хлопцы. І ззаду іх—ён, Мірон. Журботна ўзіраўся ў туманную далячыню, а ў вушох і дасюль бы дрыжэў плач мацеры хворай, што вачыма ў сьлёзах глядзела на яго з печы, злосны голас нявесткі ды жанатага брата. Выпраўлялі:

— Людзкія даўно ўжо „там“. Ужо і панаймаліся досыць, а ты ўсё брынды б‘еш. Ідзі.

Маці маркотна вачыма ў сьлёзах глядзела з печы.

Пашоў...

Вясьнела. Але было сьцюдзёна яшчэ. Вецер злосна шматаў убогае адзеньне, наскрозь нізаў цела. А вочы, што маркотна ўглядаліся ў туманную далячыню,—сьлязіліся.

Дзень ішлі, другі, яшчэ... А потым патрацілі дні. Былі яны шэрыя і такія падобныя адзін да аднаго. Ад сонца да сонца—ішлі. Па хутарох, па сёлах, што па дарозе, расходзіліся і прасілі па хатах: „хоць кавалачак гэтачкі!“ А потым ішлі далей. Аж пакуль за небасхіл закоціцца сонца і цені абгорнуць і стэп і шлях. Тады зварачалі да першых, што пападаліся, паселішчаў і начавалі. А заўтра чуць сьвет зноў торбы на плечы, зноў на шлях...

Занядужала ў гурбе кабета. Ішла яна з невялічкім хлопцам. Цюпалася памалу ззаду і ўсё стагнала. А хлопец тупа ўзіраўся перад сабой сумнымі вачыма.

Так ішлі дзень. А пад вечар, калі ўжо ногі абцяжэлі і, здавалася, ступалі не па балоце, а па разьлітай густой шавецкай смале, кабета раптам апусьцілася на зямлю і лягла. Усе спыніліся—абступілі. Хтосьці ўздыхнуў:

— Горанька гэткае: захварэць у дарозе. Ну, што тут рабіць?

Маўчалі ўсе. Недзе ўгары крумкалі журавы:

— Кру... кру...

І ўсё цішэй, цішэй... А за імі ціхутка падыходзіла ноч. Маўклівая і трывожная.

Гурба пашла. Распаўзьліся па хутарох нанач. А на краю шляху ў суценьні загорнутае сядзела хлапчанё над хвораю маткаю ў трантах. Побач—сядзеў Мірон. Як ён застаўся? Быццам забыўся. Ледзь апамятаўся, як зьніклі ўжо постаці ў змроку і сьціхла цёпканьне ног. Тады кінуўся вачыма ў цемру ўздоўж шляху і скурчыўся ад страху:

— А як-жа я?—Застаўся!

Нарадзілася думка—бегчы наўздагонку. Але зірнуў—сустрэўся з поглядам жудасным і поўным жаху. То чужы хлапец глядзеў на яго і маўчаў. А ў вачох—мальба.

Мірон застаўся. Чуў, як хваля цёпла хлюпнулася ў грудзёх. Гэта—літасьць. Прысунуўся блізенька да хлопца, аж плячом датыркнуўся да яго пляча, і заціх. Пытаўся шэптам:

— Дыхае яшчэ?

Хлопец моўчкі нахіліўся над маткаю, а тады падвёў бледы твар і таксама шэптам сказаў:

— Дыхае, ды трасецца.

Мяшком, што ляжаў на зямлі, укрыў ён паволі хворую. Мірон даў і сваю парожнюю торбу. Хлопец укрыў яшчэ і торбаю...

Сядзелі і маўчалі.

Маўчала і цёмная ноч. Глянула зоркамі так пяшчотна і ласкава, дый захмарылася. У маўклівасьці і журбе схілілася над дзяцьмі, што на краю дарогі. Чорныя пасмы спусьціла ім на галовы, на хворую... Яна траслася пад трантамі і цяжка стагнала. Часам у гарачцы мармытала штосьці і парывалася ўстаць. Ды не магла. Падала слаба на зямлю галавой і яшчэ мацней стагнала...

Апоўначы раптам прыціхла. Хлопцы мысьлілі—заснула, і адзін нагнуўся, каб укрыць, ды і крыкнуў, аж кінуўся: на яго мёртва глядзелі вялікія цёмныя вочы.

— Памёрла!—кінуў ахрыпла і шэптам і ціха падняўся. А ў вачох—жах.

Мірон моўчкі таксама стаў на ногі. Жудасна глядзелі на кучу трантаў.—Не варушылася. Тады ціха, задам, адышлі прэч і зразу, крутнуўшы што-сілы, пабеглі ў цемру...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А раніцой на хутарскіх могілках у сьвежую яму спускалі ўбогую труну, сівенькі поп з дзячком сьпяваў у нос нейкія сумныя малітвы. Дзьве-тры бабулькі старэнькія шамкалі і старанна хрысьціліся, а каля ямы барадатыя мужчыны з рыдлёўкамі стаялі бяз шапак. Побач стаялі двое хлапчанят. Абадраныя, з торбачкамі.

Загарнулі яму. Нехта тыркнуў хлапцом па шматочку ды і разышліся. І хлопцы пашлі. За ровам, што па ім—дзяруга, стаялі бяз шапак і журботныя. Доўга стаялі і маўчалі. А потым панадзявалі шапкі ды і падаліся ральлёй на бітую дарогу...

* * *

Так жыцьцё зьвязала Мірона з Якубкам. Няйначай нябачнымі ніткамі. І яны ня рвалі іх—ішлі ўдвох. Гэта ўжо сёньня трэці дзень. А ўсё не шанцавала. Заўсёды парожнія целяпаліся на іх торбы. Наняцца таксама нідзе яшчэ не траплялася: пасьвіць—рана, а больш—ну, нашто яны? Ды і бяз іх хапае—не патоўпішся. Тады хлопцы надумалі зьвярнуць з шляху і падацца глухімі дарогамі: можа хоць там іх менш.

У хутарох у даліне і зышлі з шляху. Паваротамі, што ўздымаліся ўгару, ля таго стрынгаляватага ветрака на гарбу, падняліся і вышлі на стэп.

Абапал вузенькай дарожкі чарнела ральля, зелянела азіміна і па ёй цені лёгенькіх хмарак нячутна гойсалі, бегалі, бы гулялі. Усюды наўкола

капашыліся людзі на ральлі. І нідзе—ні хаткі, ні дрэўца. Ледзь дзе, вёрст за некалькі, блішчэла на сонцы царква і два тапалі цямней вяршынкамі па бакох.

Ішлі хутка. Цяплілася надзея, ды кволенькая такая, боязная—усё трасецца: а спозьнімся, а другія надойдуць—панаймаюцца? Трэба хутчэй.

І шырэй ступалі хлопцы. А ў сярэдзіне ныла нешта. І як глытаць сьліну—горка так, бы палын разжаваны.

Сонца на поўдні. Падходзілі да сяла. У аселіцы ў садочкі загорнутае разьляглося яно па той бок рэчкі. На ўзгор'і на выгане ветракі крыламі махаюць. Лёгкія і бадзёрыя.

Мірон, як убачыў, аж усьміхнуўся. Нібы ў яго ў сярэдзіне штось затрапятала крыламі, і ад гэтага ўсё цела зрабілася зразу няйначай аж лягчэйшым. Павесялеў. Штрыхнуў локцем таварыша зьлёгку ды з усьмешкай:

— А ну, ну, Якубка, падмацуйся. Бачыш,—ён махнуў рукой на ветракі:—як у мяцеліцы закруціліся. Значыцца, людзі жывуць—хлеб маюць.

— А саломы скрозь,—кінуў Якубка і кіўнуў галавой на паселішча:— глянь, глянь. Няначай самыя буржуі!—і таксама ўсьміхнуўся.

Ішлі радасныя, хоць вурчэла ў жываткох. Марылі голасна:

— Прыдземо,—казаў Мірон:—зараз—даеш, бабка. Выпрасім. Як няма—„дасьць бог", а ёсьць—дадуць. А тады, ведаеш, у салому закапацца ды аж да ранку. А заўтра наймёмся.

— Як-бы гэтак,—уздыхнуў Якубка.

— А што-ж? і наймёмся. Раз людзі жывуць добра—што ім за харчы ўзяць. Бачыш, вунь ужо авечкі пасуцца на жыце. Тут—тыдзень адзін, а то так і зараве скаціна на стэп. Вось і нас трэба будзе. Пугі паўём.

І хлопцы марылі голасна і яшчэ шырэй ступалі.

Праходзілі міма воза. Стаяў ён парожны на дарозе, і вецер маркотна высьвістываў па лёстках.

Мірон спыніўся.

— Трэба запытацца.

— Што?

— Напытваць трэба, вось, можа, і гэты дзядзька найме.

Ён кіўнуў галавой у бок, дзе на ральлі недалёка ад воза парай здаравенных сівых валоў скародзіў чалавек. У чорнай шапцы, добрай, сівога сукна, жукетцы і ў ботах—паважна ішоў ён, плячом кранаючыся валовага пляча. Вось пугай зьлёгку крануў баразённага:

— Ну-у, сівы!

І далей памалу і паважна, бы паплыў па ральлі.

Хлопцы завярнулі таксама на ральлю. Дагналі барану і пашлі сьледам. Глядзелі, як чапурна барана, бы чорныя косы, часала. Маўчалі. Не адзываўся і чалавек, хоць бачыў, што тыя ішлі за ім. Дайшоўшы да канца, раптам павярнуў і пачаў абчышчаць барану, таксама моўчкі.

Мірон падышоў бліжэй.

— Дзядзечка, ці ня можна-б у вас наняцца?

Запытаўся гэта і прагавіта ўпіўся вачыма таму ў твар.—Што скажа? Дзядзька маўчаў. Зьлёгку пусьціў барану і ўзяў пугу ў рукі. Толькі тады глянуў.

— Кажаш: наняцца?

— Ага, дзядзя, можа можна?

Пільна глядзеў на хлапцоў чалавек. Сказаў:

— Наймі, то наймі, але куды вы прыгодны, хлопцы!

— Пасьвіць. А не дык—паганяць. Вось дайце.

Мірон працягнуў руку да пугі:

— Вось дайце—паглядзіце.

Чалавек усьміхнуўся:

— Бачылі ўжо,—ня вы першыя.

Ён сеў проста на ральлю і, вынуўшы капшук, пачаў закурваць. Хлопцы стаялі. Казаў ён:

— Служыў ужо ў мяне адзін з такіх, як вы вось—лётчык. Прышло, просіцца—ну і ўзяў. Дзень жыве, другі—нічога, а далей—ох! ды і ох! Абжорся, жэўжык. Вось табе і дапамога. Насілу з двара выправіў. То так і з вамі, хлопцы: захварэеш ды і вазіся тады з табой.

Мірон усхваляваўся:

— Мы? Захварэем? Вось, далі-бог, не, дзядзька! Вось месяц як з дому—халадзішча-ж якое, а мы-ж босыя. І хаця-б раз вам кашлянуў. У нас і дакуманты ёсьць.

Ён, сьпяшаючыся, палез за пазуху і выцягнуў нешта, загорнутае ў ганучачку. Разгарнуў—паперку падаў чалавеку ў рукі. Той узяў і доўга ўзіраўся на яе.

— Ты аж з Пятрусёўкі?—запытаўся.

— Але.

Мужык трошку падумаў, яшчэ паглядзеў на паперку, а тады падняў твар і сказаў:

— Ну, што-ж, хочаш—застанься, пабачым.

І аддаў паперку Мірону. Хлопец паказаў на Якубку:

— У яго таксама ёсьць такая паперка. Ён з Царычанкі.

— Ну, што-ж: ёсьць—і ён недзе наймецца. А ты хочаш—застанься.

Якубка стаяў нярухомы. Вачыма спалохана глядзеў на таварыша, а калі той глянуў—адразу спусьціў вочы да зямлі. Але Мірон убачыў—страх у іх. Пахіліўся галавой і маўчаў... Вецер рваў паперку, што ў руцэ, матаў парожняй торбачкай. Хлопец маўчаў. І адразу—чуе: зноў хлюпнулася цёплае нешта ў грудзёх, як тады сярод цёмнай ночы на краі дарогі...

Моўчкі пачаў загортваць у ганучку паперку. Схаваў за пазуху. А тады падняў галаву:

— Ну, дык няхай, значыцца, ён застаецца,—замнуўся:—у мяне яшчэ маці недзе... Мы пагубляліся. Трэба адшукаць...

Чалавек глянуў на Якубку.

— Дык ён-жа меншы яшчэ за цябе,—сказаў.

— Не, мы аднакавы.—І Мірон занепакоіўся.—Гэта ён, што маці ў яго вось пазаўчора памёрла. А ён хвацкі. Вось, ну, Якубка, вазьмі валоў.

Якубка, сьпяшаючыся, шморгнуў рукавом па вачох і падышоў да ярма.

— Гэй!

Рушыліся. Валы былі здаровыя, кузюлечкай здаваўся каля іх Якубка. Моцна трымаўся за повад, а пугай—сьцёб, сьцёб!.. Ззаду гукнулі:

— Соб трымай, соб!

О, Якубка ведае куды—соб. Пацягнуў за повад з усёй сілы і пугай махнуў.

— Соб, сівы!

Гаспадар не паганьбіў. Ня вельмі і пахваліў.

— Так сабе, неяк-жа баранue, з грахом папалам.

Ён расказаў хлапчуку, як баранавяць трэба—у дзьве бараны ўпоперак.

— Ды падчышчай часьцей, каб ня гаціла,—наказваў ён,—бо ў мяне з разьлікам нядоўга: надзяру вушы ды і марш на ўсе чатыры бакі. Паганяй!

Рушыўся Якубка, важна ступаючы падбітымі нагамі, павёў валоў па ральлі. Ды ўсё азіраўся, каб сьлед у сьлед класьці. Мірон доўга глядзеў яму ўсьлед. А пасьля павярнуў, ды зноў падаўся на дарогу. Думаў:

— Мне-ж такі 13-ты пашоў, недзе наймуся. А ён малы. Куды-б ён пашоў?!

Было надзейна.

* * *

Позна ўвечары Якубка з гаспадаром вярнуўся да хаты. Праехалі грэблю, за царквой завярнулі ў вулачку і каля дашчаных варот спыніліся.

— Скокні, вароты адчыніш,—сказаў гаспадар.

Якубка зьлез і адчыніў вароты, а як воз праехаў, пагаспадарску зноў зачыніў іх. А тады ішоў за возам па двары і зацікаўлена разглядаў наўкола.—Вялікая хата ў садочку, напроці—камора пад жалезам, хлявы. А далей, уніз на аселіцы—пуня вялікая.

Хлопец падумаў:

— Казаў я, самыя буржуі, а яно і сапраўды папаў да буржуя. Бач, як жыве здорава!—І ён цікава разглядаў падвор'е. Тымчасам гаспадар выпраг валоў і паставіў да ясьляў. Пашлі ў хату.

— Во, зноў прывалок здыхляціну,—гырканула тоўстая жонка, зірнуўшы на хлопца.—Ці табе яшчэ не абрыдала з імі! Ужо-ж адзін быў—нарабіў. Мала сваіх сялянскіх за харчы просяцца.

— Так-так, просяцца. А зьвяжыся з імі, ці разьвяжашся дабром?—адказаў мужык:—А гэты—то-ж бур'янінка. Каму ён патрэбны? Нам з такімі куды спакайней.

Таўстая жонка яшчэ памармытала нешта сабе пад нос і ўрэшце супакоілася. Дочку паслала ў каморку па сарочку ды па штаны для хлапца—пераапрануцца.

— Там-жа штаны ў кутку вісяць з трантамі,—гукнула ўдагонку ў сені:—дык высып у куток.

Праз хвіліну вярнулася дочка з штанамі і з сарочкай; тое і другое было—лата на лаце, рубец на рубцы. Якубка моўчкі забраў і пашоў на двор. Пераапрануўся. А сваё „барахло" аж пад паветку занёс. (Так гаспадыня загадала). Тады зайшоў у хату.

Сям'я ўжо вячэраць села за стол. Пасадзілі і яго—на лаве каля парога. У місачцы—боршч, і хлеба скібка. Хлапец аж затросься. Сьпяшаючыся ўзяў лыжку, а ў другую руку скібку хлеба, усю, не разглядаючы, і пачаў есьці. Трасьліся рукі ў яго і сківіцы не ўпраўляліся жваць. Так, не разжаваўшы, і глынаў.

Пасьля вячэры зразу-ж пакладіся спаць. Гаспадары на палку. Дачка ў каморку пашла, а дзятва—на печ. Якубка лёг ля прыпечка. Ды доўга ня спаў, хоць і намарыўся шмат. Усё прыпаміналіся чамусьці—то маці (тэлефонныя дроты гулі угары, а яна ўся траслася і стагнала)... то Мірон успамінаўся. Думалася:

— Дзе гэта ён? Можа галодны, можа і прытулку нанач ня мае...

Шкода было. Глядзеў у цемру хаты і думаў: Дзе гэта ён? Доўга настойліва думаў. А векі цяжэлі, спускаліся-спускаліся на вочы. І ўраз—хлоп, упалі і зачыніліся...

*
* *

Міналі дні.

Усеяліся. Цёпла глянула сонца і зазелянела буйна ў стэпе на выгане. Садкі зацьвілі белым цьветам.

Якубка ўжо пасьвіў. Рана да ўсходу сонца ўсхопліваўся (спаў ён у пуні) і бег да хлявоў. Як гаспадыня доіць, ён адганяе цялят. Пасьля дойкі забяжыць у хату—лусту хлеба ў торбу ўкіне, ды за кіёк і на выган.

Там ён і пасе. Не адзін—шмат іх. Гэта вось пакуль вербы і там да рову—яго гаспадара кавалак. Далей—таксама яго каліесь было Ды прышла рэволюцыя—адабралі сабе беднякі, і бач—колькі там жывёлы пасьвіцца.

А ля рову пад вербамі хлопцы-пастухі палілі пырнік і гулялі.

Якуб доўга нудзіўся на адзіноце. Нарэшце ня сьцерпеў—пашоў.

Хлопцы гулялі „ў вайну". Узброеныя стрэльбамі, шаблялі з палак, на кавалерыйскіх конях—лазінках, насіліся яны па выгане. Чуліся баявыя выгукі, страляніна: бах!.. та-та-та...

Побач на рове спакойныя сядзелі двое хлопцаў. Якубка падышоў да іх. Хлопцы на яго і ня глянулі. Адзін старанна ножыкам выстругваў нейкія тоненькія палачкі, а другі—рыжы, усё прыставаў нечага да яго:

— Ну, зрабі-ж, Юхім. Што табе значыць? Дам жалейку.

Юхім з пагардай глянуў на рыжага хлопца, а тады на жалейку, якую той трымаў у руцэ.

— Патрэбная якая!—сказаў і зноў пачаў майстраваць:—я ў пальцы мацней сьвісну, як у тваю жалейку. Ты мне ножык дай, той, што ў касьцяных тронках.

— То-ж ня мой. Бацька біць будзе.

— Дык што? Затое-ж і клетачку-б зрабіў.

Хлопец маўчаў. А Якубка ўважліва глядзеў на жалейку, якую той трымаў у руцэ, і таксама маўчаў.

Зьлёгку нагнуўся і хацеў папрасіць, каб глянуць на яе, аж падляцеў верхавік і закрычаў не сваім голасам:

— Наша ўзяла! Банда разьбіта... 100 душ у палон узялі.

Сапраўды—з выгану да рову вялі гурбу абязброеных у кругу верхавікоў. Вось падвялі пад вербы, над ровам паставілі, а тады Алесь, што ў Якуба пасьвіць, загадаў і сваім стаць у рад насупроць. Пачаў камандаваць:

— Рота, цэлься! Ра-аз, два-а... плі!

Залпам з паўдзесятка ратоў стрэльнула:—бах, і палонныя грымнуліся на зямлю. Толькі адзін крутнуў і што-сілы кінуўся ўцякаць.

Ой, які-ж галас узьняўся! Усе з крыкам кінуліся—пагналіся наўздагонкі. Расстраляныя бандыты паўсхопліваліся і, на бягу ўзбройваючыся, падаліся за імі. Нават Юхім не ўцярпеў—кінуў майстраваць і сам ветрам памчаўся...

Тады Якубка нясьмела зьвярнуўся да хлопца, што з жалейкай.

— Давай я табе клетку зраблю. Табе для птушак?

— Але. Толькі мне сапраўдную,—з дзьверцамі.

— Добра, я зраблю. Я ўмею як, а ты мне жалейку дасі?

— Дам. Вунь, глядзі якая.

Ён падаў Якубку жалейку, і той уважліва пачаў аглядаць яе. Узяў у рот і пасьвістаў трошкі.

— Добрая,—сказаў задаволена і, уздыхнуўшы, падаў жалейку „гаспадару“:—дык глядзі-ж, я буду рабіць,—дадаў потым, пільна паглядзеўшы на хлопца.

Той моўчкі кіўнуў галавой, а жалейку схаваў у торбу. Падняўся, каб гнаць ужо, бо вечарэла. Пашоў і Якубка да сваіх кароў, ды ўсё пра жалейку думаў. Успамінаўся чамусьці дзед Астап—пастух у іх там у Царычанцы. Бывала, пабяжыць да яго на выган, а ён на жалейцы грае. І яна ў яго аж плача-турчыць...

* * *

Цэлы тыдзень пасьля таго Якубка рабіў клетку. Схуднеў, начамі спаў трывожна. А работа туга ішла: нажа ня было. Вось у абед ды ўвечары і рабіць хіба. Раз такі быў і на пашу нож, крадучыся, з стала ўзяў, ды гаспадыня агледзелася і ўвечары, як прыгнаў—барджэй да

торбы, нож быў там. Угнявалася. Паскубла за вуха ды ўсё пагражала прагнаць, а словам Якубкі веры не давала:

— Брэшаш, што майстраваць узяў,—казала і лаяла:—добра, што кінулася адразу, а то так і прапаў-бы, як скрозь зямлю праваліўся-б.

Так трудна Якубку даводзілася рабіць. І ўсё-ж у суботу ўвечары ён клетку кончыў.

Было месячна. Сядзеў у пуні на белым палатнішчы, што месяц пасьцяліў, і, сьпяшаючыся, дамайстроўваў. А на аселіцы граў гармонік і сьпявалі песьні.

Позна скончыў. Уважліва агледзеў і аж усьміхнуўся: клетка была на дзіва добрая, і дзьверцы шчыльна прычыняліся, і седальца ёсьць, і ўсё-ўсё як належыць. Абы раніца хутчэй, ды на выган.

Ноч такою доўгаю здалася—ня спалася. Ледзь перад сьветам заснуў. І сьніліся яму хлопцы-пастухі, і ён, Якубка, сядзіць каля іх на рове з клеткай. Раптам Юхім як падбяжыць ды за клетку—хап, дык яна і рассыпалася. Хлопцы рагочуць, рагоча і Юхім і жалейкай дражніць... А Якубка аж самлеў, аж пахаладзела ўсё цела і ў горле засеў плач.

Прачнуўся—сапраўды плача. І ў целе холад такі, бо раскрыты ляжаў. Глянуў хутчэй на бок ды аж усьміхнуўся радасны: клетка стаяла цэлацалюсенька. Ён паволі ўзяў яе і яшчэ раз уважліва аглядзеў. Не, тое толькі сьнілася. Няхай яму! Лёгка ўздыхнуўшы, ён палажыў яе, а сам пабег да хлявоў.

На выган прыгнаў—барджэй пабег да хлапцоў. Аддаў клетку рыжаму хлопцу. Той доўга яе абглядаў, а тады кіўнуў галавой:

— Добрая.

Вынуў з торбы жалейку і падаў Якубку. Якубка моўчкі схаваў за пазуху і адразу-ж пабег да кароў. На бягу ўсё лапаў: ня верылася, што жалейка ў яго, ды ўсё ўсьміхаўся:

— Ёсьць, ёсьць, любенькая,—вось за пазухай ляжыць!

Пад трухлявай вярбой сеў і выняў жалейку. Аглянуў яе з усіх бакоў, а тады прылажыўся вуснамі да яе. Жалейка засьвістала, аж запішчала, няйначай яе хто прыдушыў. Аглянуў—падзьмуў яшчэ—сьвішчыць...

Доўга гэта мучыла Якубку. У соты раз аглядаў ён яе з усіх бакоў— ну, і ў дзеда Астапа такая-ж, а чаму гэта сьвішча дый годзе,—ня грае? Ужо-ж ён і пальцамі перабірае—сьвішча і ўсё...

Засмучаны хадзіў ён дзень—другі. Аж на трэці дзень сядзеў ён пад трухлявай вярбой і сьвістаў на жалейцы. Невясёлы такі, нават сярдзіты:

— Усе пальцы ў мазалёх: рабіў хапаючыся, начамі... думаў... а яно сьвісьцёлка, дый годзе...

Так думаў Якубка, нявесела пасьвістваючы на жалейцы. Раптам прыціх і абарваў думкі. На твары, у вачох—зьдзіўленьне. Што гэта? Ці то здалося яму? Дык-жа не, ён выразна чуў, як жалейка заграле неспадзявана. Спрабаваў яшчэ—сьвішча, а потым заграла зноў. Сумна так, ну—тужыць.

Апусьціў рукі хлапец і твар яго зазьзяў радасна. А вочы ў далячыню задуменна глядзелі і ў іх зьявілася ўсьмешка...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З таго дня Якубка не разлучаўся з жалейкаю. Навучыўся граць. І такая яна любая яму. Вось дастане з-за пазухі, пяшчотна па струпкох пагладзіць, дзе рашчэплена з краю, уважліва агледзіць і штось загавора да яе, пацешна так. А тады вуснамі прыложыцца...

І пальлюцца сумныя гукі нейкіх сьпеваў, што складаліся ў маленькай галоўцы адзінокага хлапчаняці, што засталіся пераблытанымі абрыўкамі з нядаўнага мінулага, адтуль, дзе хатка ўбогая, а над ёю ціхі шолах асіны. Дзе ў ноч зорную на пералазе ў змроку сястра сьпявала:

— Маруся атруцілась—
У больніцу вязуць...

Гэта была першая песьня, якую Якубка зграў на жалейцы. А тады:— другую, яшчэ... яшчэ... Шмат граў ён іх. І ўсе сумныя такія. Грае— а здаецца: два сябры маленькія прыгарнуліся, абняліся рукамі і тужацьтужаць, самотныя...

* * *

Міналі дні. Надышоў травень. Было нейкае сьвята. „Злыдзеньскае",— як казала дома злосная гаспадыня.

На пляцы каля царквы таўпіліся людзі, калі Якубка гнаў з полудню, разьвяваліся ў паветры чырвоныя сьцягі. На памосьце, што каля выканкому, нейкі чалавек валасаты штосьці гаварыў голасна і размахваў рукамі. А натаўп—не зварухнецца... Раптам—шум... Раздаўся сьпеў гучны, завіхорыўся на пляцы і панёсься па-над стрэхамі аж у стэп, дзе зялянела і налівалася збожжа...

Потым сьціх... Але водгук чуцен яшчэ.

Якубка прыслухаўся—аж то дзеці сьпяваюць тыя-ж песьні.

У натаўпе шмат іх, толькі галоўкі бялеюць на сонцы, а над ім маленькія чырвоныя сьцяжкі...

Якубка аж спыніўся і прагавіцей прыслухоўваўся. Але слоў ня мог разабраць. А мотыў схапіў. Бег за каровамі і напяваў. Раптам змоўк: прыпамятаваўся чамусь—на пляцы там, у Царычанцы, калісь даўно натаўп шумеў і сьцягі чырвоныя кудысь за ветрам рваліся... Каля варот праляцеў на жвавым жарабцы Ляўко, а за ім—яшчэ хлопцы конна... шаблі... істужкі чырвоныя на грудзёх уюцца... плакала маці за варотамі. А сястра з дзяўчатамі аж за млын пабеглі—доўга глядзелі ім усьлед...

Забілі Ляўко. А сястра...—Дзе гэта яна?

Сумна было.

На выгане швэндаўся зьбянтэжаны і не знаходзіў месца. А потым пад вярбою сеў і выняў жалейку. Граў. Доўга, мабыць, бо вунь ужо і дзеці прытулкавыя з пляцу аселіцай ідуць. Дадому — вунь-вунь на былую панскую дачу...

Раптам Якубка ўсхапіўся. Зірк—а ззаду стаіць, прытаілася жанчына якаясь (вочы сумныя). За рукі двох дзяцей маленькіх трымае.

— Грай, хлопчык, грай,—сказала і цёпла рукой дакранулася,—ты так добра граеш!

Зьбегліся дзеці. Маленькае хваліцца ім:

— Ой, грае-ж добра!

Пачалі прасіць:

— Хлопчык, заграй. Цётка Хрысьця, няхай заграе.

Цётка Хрысьця нагнулася да хлопца і папрасіла:

— Зайграй, мой маленькі, а вось гэтыя маленькія паслухаюць. Ну-ж, заграй!

Якубка не адважыцца. Вачэй шмат глядзіць на яго. Вялікія—вясёлыя... сумныя... (Адзеньне-ж убогае, у латках). Пасьмялеў. Схіліўся над жалейкай і заграў. Сумна, неразважна, што дагэтуль слухалі толькі вецер ды травы.

Калі скончыў—цішыня. І вачэй шмат глядзела на яго, а ў іх дрыжэлі іскрачкі... Цётка Хрысьця сказала:

— Вялікі музыка будзе з цябе. Беражы-ж гэту жалейку ды грай, ды грай...

Пасьля так цёпла ўсьміхнулася вачыма і пайшла, а дзеці за ёю. Ды доўга яшчэ аглядаліся і рукамі Якубку махалі. А ён глядзеў ім усьлед ціхі, задуменны...

Таго-ж дня Якубка позна вярнуўся дамоў. Паважна ішлі каровы ў пыле вулічным. Дзесь мэкалі авечкі, і страляў пугай пастух—разлучаў па дварох. Крычалі, сьмяяліся дзеці—„у гусей“ гулялі.

Каля тыноў насустрэч ішоў, сланяючыся, невялічкі хлопец. Якубка як глянуў,—аж спыніўся і вачыма вялікімі ўпіўся ў абшарпаную постаць.

— Мірон?!—гукнуў, і ў голасе пачулася радасьць.

Падышоў бліжэй—так: Мірон. Абадраны, худы і на жоўтым твары вялікія вочы ў сінякох.

— Скуль гэта ты ўзяўся?—і ўсьміхнуўся радасна, а вачыма прагавіта кінуўся да таварыша. І зразу занепакоіўся:—ды жоўты які. Ты, мабыць, хворы?

Той моўчкі кіўнуў галавой. Дадаў адгадна:

— Праз хваробу праклятую і месца згубіў.

Памаўчалі.

— А ты пасьвіш?

— Пасу.

Якубка панурыў галаву:

— Гэта-ж табе мелася тут служыць. Мо' і не хварэў-бы.

Мірон—як ня чуў. Пачаў распытвацца, як жывецца. Якубка, сьпяшаючыся, расказваў. А, пачуўшы, як бурая карова каля варот зараўла, узяў таварыша за руку і паклікаў:

— Хадзем да нас.

Мірон усьміхнуўся нявесела. Сказаў:

— Э, не! У цябе не гаспадыня—гадзюка. Я быў ужо раз сёньня. Так, кажа,—ведаем мы такіх таварышоў (гэта—гаспадыня). Ён красьці, а ты збываць... зразу выправадзіла. Буржуйка чортава!

Якубка ня ведаў, як яму быць, ды таварыш вызваліў яго:

— Ідзі адзін, а ўпарадкуешся—выбежыш. Я чакаць буду тут.

— Ну, глядзі-ж.

Якубка пабег у двор, а Мірон адразу-ж апусьціўся на зямлю і сеў. Глядзеў на дзяцей, што ў пыле гулялі, выбрыквалі, і прыпаміналася яму, можа, нядаўнае мінулае дома—там. А можа, трывожныя і шэрыя дні тут прыпомніліся... хто ведае.

Неўзабаве зьвярнуўся і Якубка. Падбег ды зараз:

— Хадзем, Мірон.

— Куды?

— Хадзем. Не пасярод-жа дарогі спаць ляжаш. Хадзем.

Мірон падняўся і моўчкі пайшоў за Якубкам. Пералезьлі праз тын, прайшлі па градках, між дрэў на аселіцы і апынуліся каля вялікай пуні, у якой былі насьцеж адчынены дзьверы.

— Вось тут я і жыву,—сказаў Якубка і павёў таварыша за сабой у пуню.

Вечарынь. З цемры нявыразна шарэлі асіны і таўстыя сохі. Пад сьцяной—веялка, нейкія драбіны, а поруч на кучы саломы цямнела транцё. Пасядалі. Якубка з-за пазухі вынуў кавалак хлеба і падаў Мірону. Той моўчкі ўзяў і пачаў прагавіта есьці. А Якуб глядзеў на яго і таксама маўчаў. Раптам усьміхнуўся.

— А ў мяне жалейка ёсьць,—сказаў.

— Жалейка?

— Але. Я Рыгорку зрабіў клетачку, а ён жалейку даў. Вось глядзі. Выняў яе і паказаў.

— А ты-ж граць умееш?—запытаўся Мірон.

Якубка кіўнуў галавой. Для чагось пацёр жалейкай аб рукаво, а тады паднёс да роту. Сумныя гукі напоўнілі пуню. Гойсалі ў паветры, енчылі, бы параненыя, і разьляталіся-хаваліся, дрыжэлі па кутках. Ціха ўздыхалі. А новыя нараджаліся—енчылі зноў, тужылі...

На дварэ шалясьцелі лісьцямі дрымотныя дрэвы, і месяц праз галінкі, у пуні на таку ткаў нейкія дзіўныя ўзоры...

Доўга ў тую ноч ня спалі хлопцы. Ляжалі, пазгіналіся пад падраным халатом і гаварылі, гаварылі. Паснулі, калі ўжо першыя пеўні прасьпявалі.

* * *

На другі дзень Якубка ўсхапіўся рана, як і заўжды, чуць сьвет. Мірон яшчэ спаў. Скурчыўся, галава аж да кален.—Шкода было будзіць.

— Змарыўся, небарака! Няхай сьпіць.

Хлопец паволі ўкрыў таварыша, а сам падаўся да хлявоў. Даілі кароў з гаспадыняю. А тады забег у хату. У хаце нікога ня было.

Гэта—добра. Ён адсадзіў ладны кавалак хлеба, каб на двох-жа, схаваў у торбу ды і—шмыг да пуні. Пачаў будзіць таварыша.

— Мірон, Мірон, уставай!

Той спаў, „як забіты“. Якубка пачакаў трошку—так шкода было. А трэба-ж. Пачаў зноў тармасіць. Хлопец прачухаўся:

— Га? Што, што?—усхапіўся і прадзіраў вочы.

— Гэта—я. Уставай, бо каб гаспадар не нарваўся... Папромся на выган.

Мірон, хапаючыся, пачаў нацягваць сваю падраную „кухвайку“, а Якубка навучаў яго.

— Ты-ж аселіцамі пройдзеш у бераг, а там сьцежачкай да грэблі. Ды і пачакаеш, пакуль я прыганю... А тады—на выган... Разложым агонь—цёпла будзе... І хлеб у мяне ёсьць... Хуценька-ж!

А сам—шмыг! І падаўся зноў да хлявоў.

...На грэблі сустрэліся. Мірон—сіні, як печань, і ўвесь тросься. Дзеля таго, прыгнаўшы на выган, адразу-ж расклалі агонь пад трухлявай вярбой і блізенька папрысуваліся да агню. Якубка казаў,што ён за ноч надумаўся:

— Будзем удвох, Мірон, жыць,—казаў ён,—бо дзе табе дзецца? А ачуняеш—недзе наймешся... І ім што станецца—сказана: буржуі.

Ён аж нахмурыўся:

— Голад скрозь, а ў іх хлеба—вось даль-бог—хто ведае і колькі! Як ноч, так і пачынаюць з мяшкамі цягацца, бо камітэтчыкі па дварох ходзяць... Будзем жыць удвох, Мірон. Яй-богу!

Мірон моўчкі глядзеў на таварыша, і вочы яго такімі бліскучымі сталі. А на твары—усьмешка журботная...

* * *

Было так:

— цэлымі днямі—на выгане. Сонца—цёпла. Смашна хрумскаюць каровы траву, а хлопцы сядзяць на грудзе, белыя галоўкі пад сонца падстаўляюць і робяць хоць што. Якубка з гліны жывёлу лепіць або на жалейцы грае. А Мірон капялюш пляце. І Якубку трэба ды і сабе-ж. Дакуль-жа ў аблезлай „пляцёнцы“ хадзіць. Часам хадзіў работы напытваць. Але вяртаўся заўсёды стомлены і расчараваны:—нідзе не траплялася. Якубка пацяшаў:

— Яшчэ знойдзецца. Вось пажывеш, паправішся. А то, бач—худы, жоўты... Куды табе яшчэ з „шпіталю“ і думаць. І ўсьміхаўся.

І, мабыць, таму, што ўсьмешка ў яго была такая ціхая і ясная, можа таму, што цёпла гладзіла сонца і ўсё навакол радавала, Мірон разгладжваў бровы і таксама ўсьміхаўся. А ў сэрцы было цёпла і надзейна...

* * *

Так было некалькі дзён. Ад серады да суботы. А ў суботу...

Зранку рушыўся вецер. Як пастух авечак, гнаў шыбка кудысьці чараду шэрых хмар. Раскудлычыў вербы на беразе і зашалясьцеў чаро-

тамі. Сьцюдзена было. У абед пайшоў дождж. Дробны, халодны, як увосень...

Змоклі хлопцы—рубца сухога ня было, хоць і хаваліся пад вербамі. Загортваліся ў мокрую, падраную адзежыну і трасьліся ад холаду. Потым дождж перастаў. Але сонца ня было і да вечару. Так і дамоў пагналі мокрыя і халодныя. Мірон усё кашляў ды аж схуднеў, нібы і пад вачыма яшчэ большыя парабіліся сінякі.

Зьвярнуўшы з грэблі на сьцежачку, бягом пусьціўся ён па аселіцы да пуні. А Якубка наўкола пагнаў па вуліцы.

Прыгнаў. Гаспадыня была асабліва нечага разьюшаная сёньня і ўсё гыркала дрэнна-дрэнна. Здавалася ёй, што і цялё бурую выссала, што і каровы галодныя.

— А падохлі-б яны! І калі ўжо яны табе панажыраюцца!?—думаў хлопец і пакорліва маўчаў, хоць ведаў, што гэта ўсё—дармо.

Пайшлі вячэраць. У хаце запалілі сьвятло, і сям'я кругом стала села. А Якубка на лаве ля парогу, як і заўсёды. Гаспадыня ўліла яму бурачкоў у місачку, а як выеў, укінула варэнікаў грэцкіх з сырам.

Якубку раптам так і ўспомніўся чамусь Мірон. Сёнешні—таксама. А то яшчэ даўнейшы Мірон, як ішлі яшчэ ўдвох шляхам гразкім... Ішлі... Было пад вечар і сьцюдзена так, і есьці—аж скура баліць. Ён і казаў:

— Эх, добра было-б, каб наняцца. Увечары вярнуліся-б з стэпу, а ў місе—галушкі гарачыя...

„Ото-ж небарака і зараз—калі ён гарачанькія еў!"—падумаў Якубка, і шкода так стала. Агляну́ўся да стала—гаспадары вячэралі, пра нешта размаўляючы, на яго не глядзелі. Тады ён у торбу, якая парожная вісела на ім—кідзель адзін варэнік, яшчэ, яшчэ... Потым раскромсаным, што застаўся, вымазаў у місачцы і зьеў. Устаў.

Гаспадыня сказала:

— Бач, як напхаўся, а служыш, як за кару.

Якубка маўчаў панура, а калі змоўкла—шмыгнуў у сені і яшчэ з сяней чуў:

— Малое такое, а жарэ—як за двох!

— Эгэ-ж: як за двох!—перакрывіў хлопец, усьміхнуўшыся, яшчэ і язык паказаў гаспадыні скрозь дзьверы. А тады пабег да пуні.

Мірон ляжаў, укрыўшыся халацікам з галавой, і дробненька трасься. Якубка падбег ды барджэй:

— Мірон, уставай вячэраць!

— Я не хачу,—адгукнуўся той з-пад халаціка і закашляўся.

— Вось табе і на. Уставай—варэнікі гарачыя. А то прастыгнуць. Ну-ж!

Ён раскрыў галаву таварышу і прыхіліўся да яго:

— Уставай-жа.

Торбачку зьняў і палажыў каля яго. Мірон устаў. Увесь трасься і корчыўся. Пачаў есьці. А Якубка сеў у яго ў нагах і глядзеў

задуменна ў дзьверы на аселіцу, дзе бегалі цені між дрэў, як у жмуркі з месяцам гулялі... Пасьля вынуў жалейку і заграў. Бы галубоў чародку выпусьціў—зашоргалі крылцамі... (то была песьня, што чуў,—дзяўчаты калісь сьпявалі каля рэчкі. Пра галубкоў, што разлучаліся—бруквалі...)—і такая сумная была тая песьня, і ціхая, ціхая...

Раптам усхапіўся хлопец. Яму здалося, што нехта нібы глянуў у пуню. Настаражыўся. Мірон таксама перастаў есьці і прыслухоўваўся.

— Нехта ёсьць,—сказаў ён.

Было ціха і цёмна. Аж вось—месяц сыпнуў блакітным пылам на аселіцу, поўную жменю кінуў і ў пуню праз дзьверы. Каля вушака заварушылася постаць і прасунулася ў пуню гаспадыня.

Якубку аж дух заняло і цела пахаладзела. А постаць перагнулася ўперад і, расставіўшы рукі, стала:

— А, дык ты і кватаранта пусьціў!—Ї прыгледзелася:—ды яшчэ і на харчох на гаспадарскіх! Га-а!

Якубка прыгнуўся і скурчыўся. Але здаравенная рука груба ўпілася ў валасы, а другая шмарганула па сьпіне, яшчэ... Потым выхапіла жалейку і ўдарыла па галаве, аж хруснула... Якубка ойкнуў, не ад болю—за жалейку. Спружыўся што-сілы і зубамі схапіў за нешта мяккае—грызануў. Жалейка звалілася далоў, і гаспадыня, ускрыкнуўшы, выпусьціла з рук. Хлопец крутнуўся, схапіў жалейку з-пад ног і пабег на аселіцу. А за ім бег, тупаў нагамі хтось другі. Гаспадыня—не. Тая-б моцна тупала.—Мірон.

Хлопец падбег да асіны і стаў, сьпіною прытуліўся да дрэва. Цяжка, запыхаўшыся дыхаў і прагавіта хапаў паветра... Мірон падбег і таксама стаў. А потым прыхіліўся і доўга разглядаў паміж дрэвамі—ня гнаўся ніхто. Тады ён сеў проста на зямлю і цяжка аддыхваўся. Маўчалі.

Ціха шапацела лісьцё ўгары над галовамі. Шумеў ля берагу ўнізе чарот, то заціхаў. Тады з-за рэчкі, з выгану, чуўся ціхі жаласьлівы сьпеў. „Нехта валоў пасе, ну і сьпявае“—чамусьці праняслося ў галаве ў Якубкі, і ён раптам кінуўся, паднёс жалейку да твару і пільна пачаў разглядаць. Унутры аж пахаладзела:—шчылінка, што раней была толькі з краю, цяпер наскрозь раскроіла маленькае цельца жалейкі, яшчэ і ў другім месцы трэснула... Сьпешна, аж са страхам узяў у рот і падзьмуў. Жалейка распачліва піснула і засапла. Падзьмуў яшчэ—сапе і ўсё... Ніводным гукам знаёмым не адгукнулася.

Хлопец скрывіўся і апусьціўся на зямлю. Усё цела траслося ад прыдушанага плачу. Адразу тварам схіліўся да кален і заскігліў і так тоненька, жаласьліва (так скігляць яшчэ шчаняты маленькія—сьляпыя дзе-небудзь у бур‘яне за попелішчам, ад сукі закінутыя...).

Гэта так—Якубка. А Мірон задуменна ўглядаўся ў цемру і маўчаў.

Пераклаў з украінскае мовы **П. Шукайла**.

# НЕДРУКАВАНЫЯ ДАРЭВОЛЮЦЫЙНЫЯ ТВОРЫ [1])

**Янка Купала**

## ПЕРАД ВІСЕЛЬНЯЙ [2])

Прыблуды з-пад Нявы крывавай,
Калі-ж апомніцесь, калі?
Зашто стапталі маю славу,
Зашто на вісельню ўзьвялі?

Я ў вёсцы жыў,—вы там душылі,—
Я быў там нем, я быў там сьлеп;
Жыцьцё ўвялі, як у магіле,—
Дзе ў вёсцы сьвет, дзе ў вёсцы хлеб?

І я пашоў, пашоў за хлебам...
Бяда, бразг путаў—дзе ня кінь;
Ня раз начлег пад голым небам
Я меў ў пустыні сам адзін.

Так брыў... Дзе-ж звалі небараку,
Апошняй сілы дабываў;
І вашых я страчаў служакаў,
Дзе толькі быў, дзе гараваў.

Жыву... Ўсё горай—чым жыў далей,
Пракляў прыгон паганы свой...
Што хвіля клікі далятал—
За волю клікалі на бой.

---

[1]) Ад аўтара. Паданыя тутака мае творы напісаны да рэволюцыі 1917 г., якія былі згублены і выпадкова знайшліся цяпер у вядомага апякуна беларускіх пісьменьнікаў дарэволюцыйнае эпохі Бр. Ігн. Эпімах-Шыпілы, у часе перагляду ім сваёй вялікай бібліотэкі. Рукапісы гэтыя былі пакінуты мною ў Бр. Ігн., калі яшчэ я жыў у яго ў 1909—1913 г. г. у Пецярбурзе, і аб якіх я сам ужо быў забыўся. Упарадкаваўшы і прарэдагаваўшы гэты знойдзены матэрыял, я палічыў патрэбным апублікаваць яго — з пэўнымі ўвагамі да некаторых вершаў—на старонках „Полымя“. Адначасна выказваю тут шчырую падзяку проф. Эпімах-Шыпілу за яго мілую для мяне неспадзеўку.

*Я. Купала.*

[2]) Орыгінал гэтага вершу не захаваўся, толькі знайшоўся выпадкова ў проф. Б. І. Эпімах-Шыпілы шапірографскі адбітак, які быў аўтарам зроблены ў 1908 г., у рэдакцыі „Нашае Нівы“ і размножаны сярод яго знаёмых. З гэтага адбітку з малымі папраўкамі верш гэты і друкуецца.

*Я. К.*

То падымаўся люд скаваны,
Дзе быў кат-цар і капітал,
Няволі рваліся кайданы,
За трупам клаўся трупаў вал.

Раз мне ўсе ходы зачынілі,
Ўсе ходы к зноснаму жыцьцю,—
Я напралом прашоў ў бясьсільлі
За праўду пастаяць сваю.

А вы, ўпыры, вы, крывапіўцы,
Мяне—сарваўшы з родных ніў—
Судзіць пасьмелі, як убіўцу,
Хоць я ваякам толькі быў?!

Каб мітры, скіпэтры, тыяры—
Што ўжо крывёй зьліваў і дзед—
Удзержыць,—вы ўзьвялі на нары
Унука, што йшоў за прасьвет.

Ну, што-ж?—пацешцесь, душагубы.
Я ўжо ня выйду з вашых рук,—
Вы давялі мяне да згубы,
Вы і збаўляеце ад мук.

Але ня стану біць паклонаў,
За сваю гібель не змаўчу;
Знаць не хачу вашых законаў,
Знаць вашых судзьдзяў не хачу!

Вы ў ланцугі ўсё закавалі—
І суд, і праўду, і закон!
Расправу правам вы назвалі,
А ласкай—пахавальны звон.

Вы задушылі дух народны,
Да сьлёз мільёны давялі,
Збылі з жыцьця вам няпрыгодных,
Зглушылі кліч—„волі, зямлі!“

Вы братняй кроўю ап‘янелі,
Усіх зьвярэй сталі падлей,—
Вы разьнікоў прашлі на дзеле—
Ў разьніцы гоніце людзей.

Завёўшы тысячы народу
Ў палёх манджурскіх палажыць,—
Вы на ваякаў за свабоду
Мячы патрапілі тачыць.

Пусьціўшы з торбамі на мукі
Сірот і матак, і ўдавіц,
Вы загасілі сьвет навукі,—
Давай вам катаргаў, цямніц!

Айчыну ўбраўшы ў пажарышчы,
Сынам прыпомніўшы ясыр,—
Спраўляйце з груганамі йгрышчы
На косьцях братніх на ўвесь мір!

Яшчэ прыбавіце сканаверье—
Прадсьмертны вашых рук абраз,—
Ня доўга-ж ваша панаваньне—
Загуба прыдзе і на вас!

Загубу крыўдаю, сьлязамі
Ў магільны выкапалі ніз;
Людзкой расплаты ўжо над вамі
Тапор адточаны завіс.

...Дзе-ж кат?.. Гэй, шэльма, вешай лоўка!..
Ня меў я волі, ні вугла...
Намыль з канца ў канец вяроўку,
Каб лепей шыю абняла!

Ў паветры ногі затрасуцца,
Байца ня стане аднаго,
Дый хоць званы й не адгукнуцца,
Не пахаваеце ўсяго!

Ня ўмруць ніколі грозны клікі
На сонца захад і на ўсход:
Тут сьпіць ваяк, ваяк вялікі
За волю, долю і народ!

1908 г.

## СЛУГАМ АЎТАРНЫМ

Не папе рымскаму служу
І не „сьвяцейшаму“ сыноду!
Я аддаю сваю душу
Свайму няшчаснаму народу!

І маіх песень судзіць сказ
Ня вам, ня вам, хрыстапрадаўцы!
Бо той, што прыдзе, лепшы час
На вас пятлю наложыць, здрайцы!

Вы ўсё на свой манер, капыл
Жадалі-б зьвесьці, атуманіць,
Жывых усіх ні трупаў з магіл
Перахрысьціць і апаганіць.

Лет сходзіць тысячы дзьве ўжо,
Як вы гандлюеце Ісусам,
І ўсё ў пятлю—нутром вужоў—
Цягнуць жадаеце прымусам.

Вы—для вітаньня ў чорнай хвале,
Для мітраў, персьняў і тыяраў—
„Інакомысьлячых“ каралі
Крывёй, крыжамі і пажарам.

Свабодзе, брацтву і сьвятлу
Калісь мо' звалі вас на службу,—
Вы-ж крывапіўцам, срэбру, злу
Запрадаліся ў вечну дружбу.

І вы свой важыцеся суд
Свабоднай думцы выдаваці,
Вы, што ўзьвялі у сьвятасьць кнут,
Сябе зьмяніўшы на пракляцьце?!
1911 г.

## ПЕРАД БУРАЙ [1])

Што бачу?—ўсё ціха, ўсё сьпіць пад няславай...
Ці-ж праўда?—няўжо гэта вораг асіліў?
Няўжо ўсе байцы за народную справу
Тыранамі зможаны леглі ў магіле?

Няўжо ўвесь народ упаў гэтак нікчэмна
І даўся бяз голосу дэспоту ў рукі?
Няўжо дух свабоды, дух сілы мяцежнай
Замёр і ня ўскрэсіш ніякай прынукай?

Ці-ж мала нясчасьцяў, ці-ж мала сьлёз мора?
Ці-ж мала кайданаў, мучэньняў ня ў меру?
О, не! штосьці сэрца іначай гавора,—
Я гэтакай цішы ня веру, ня веру!

Так толькі бывае прад летняю бурай—
І птушка замрэ й пагляд сонца нясьмелы,
На небе-ж зьбіраюцца хмура за хмурай,
І гром заграхоча, і дрогне сьвет цэлы!
14-VI-1907 г.

[1]) Верш гэты напісаны пасьля разгону царом другой Думы. *Аўтар.*

## ЗГІНУЛА СОНЦА...

Згінула сонца. Белыя, грозныя
Насыпы сьнегу ляжаць на зямлі.
Б'ецца завея аб шыбы марозныя,
Ў коміне жудка віхры загулі.

Гасьне лучына ў нізенькай хатачцы,
К матчыным дзеці льнуць грудзям худым;
Трудна са сьцюжай дзікаю збратацца
Хатцы і матцы і дзеткам малым.

Чорная доля з чорнымі хмарамі
Жудка завісьлі над гэтай раднёй;
Як груганы дзе па-над папарамі,
Носяцца ў хатачцы гора з бядой.

Там, дзе шалеюць вечна мяцеліцы,
Страшнай Сібіры дзе ўслаўся гушчар,
Дзе людзі з зьверам нараўне дзеляцца,—
Бацька там, муж там—радні гаспадар.

1907 г.

## ДЛЯ КУСКА ХЛЕБА

Для куска хлеба, чорнага хлеба
  Бядак прадаецца з душой,
Вольную волю, сьветлыя думы
  Ў нядолі ён топіць цяжкой.

Каб як пражыці, голад змагаці,
  Павінен забыцца на ўсё—
На сьветляныя душы парывы,
  На ўсё чалавецтва сваё.

Царскі нявольнік, панскі нявольнік,
  Нявольнік, слуга абадвух,—
Цару—салдатам, парабкам—пану,
  А кепска, ох, жыці для слуг.

На другіх мусіць век працаваці,
  А дзе што ня так, не ўгадзіў,—
Плюнуць пагардай, выганяць з хаты,
  Ідзі ў сьвет, бядак, як хадзіў...

Музыка, песьні чутны з палацу—
  Гуляюць за труд бедакоў,
Мучыцца-ж бедны думкай штодзённай,
  Каб голад са сьвету ня зьвёў.

11-VI—1906 г.

## ХЛЕБ

Мы і з сошкаю ішлі і з баронкаю йшлі
Заслужыцца на ласку ў цябе,
Ї гной везьлі, трасьлі на пусьцейшай ральлі—
Сеяць шлі аж па трэцяй арбе.

Ї сьвяньцілі цябе, ідучы засяваць,
Выбіралі к сяўбе лепшы дзень,
А на лета цябе ўсёй сям'ёй шлі зьбіраць.
Сьцераглі хмары, ўбачыўшы цень.

У калядны-ж мароз, як шум дзікай зімы
Слаў пракляцьце і нам, і жыцьцю,
Шлі ня гледзя на ўсё на ток досьвета мы,
Шлі з цапамі па плату сваю.

Ї ўсё шчыра табе паслугоўвалі так,
Каб на воку нас бедных ты меў...
А ты што нам зрабіў, адплаціўся ты як?
Ці ты нас хаця чуць пажалеў?

За наш труд над табой, за пот, кроў пад табой,
Як прышлося ды легчы на стол,—
Ты спынуўся ад нас за дзесятай гарой,
Ты счураўся замучаных сёл.

25-VII—1907 г.

## НЯ ТУЖЫ

Эй, дзяцюк малады, ня тужы,
Не глядзі ты скрозь сьлёзы на сьвет,
Ідзі ў двор і там пану служы,
Як служыў і твой бацька, і дзед.

Там працуй і гаруй, маладых
Сваіх сіл на чужых не жалей,
Мазалёў не жалей ты сваіх,
Як крыві не жалеюць тваей.

На багатых папекайся век,
Век сваёй цемнаты знось глушу,
Ї забудзься, што ты чалавек,
Ї забудзься, што маеш душу.

Хай палац за твае за труды
Гучнай музыкаю загрыміць,
Хай сагнуцца сталы ад яды,
Песьня п'янае ўцехі хрыпіць.

Хай твой пот, якім росіш зямлю,
З сытых твараў пальлецца цурком,
Хай за горкую долю тваю
Вінаградным уп'юцца віном.

Дык, дзяцюк малады, ня тужы,
Не глядзі так скрозь сьлёзы на сьвет,—
Ідзі ў двор і там пану служы,
Як служыў і твой бацька, і дзед!

16-X—1906 г.

## НА СЛУЖБЕ

Эх, праклятая доля мая,
Ненавісная служба—прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як зьмяя,
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

За ліхую заплату з душой
Маю радасьць, быдлё, абакраў,
І, ў палон мяне звабіўшы свой,
Крыві мала—жыцьцё-б адабраў.

Ці нядзелька, ці сьвята мне ёсьць,
Ці як людзі гуляў я калі,
Ці ў мяне пагасьціў добры госьць,
Ці мне добрае слоўца далі?

А ня з дзерава сэрца маё,
Не вада ў маіх жылах жыве,
Мае вочы і твар ня трухлё,
Замест дум не сьмяцьцё ў галаве.

Як і людзі, хацеў-бы я так
Пагуляць, на бяседзе пабыць,
Пасьпяваць аб жыцьці небарак
І з дзяўчынай-красой падружыць.

Ды праклятая доля мая,
Ненавісная служба—прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як зьмяя
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

1906 г.

## НЯ ДРУЖЫ...

Ня дружы з панамі,
Бедзен мужычок,
На дружбу з багатым
Вузак твой шнурок.

У палацы белым
Табе ня гуляць,—
Там народ вясёлы,
Песенькі зьвіняць,

Там віно ліецца
Пеністай ракой,
Ад яды сталы там
Гнуцца дарагой.

Сядзяць за сталамі
Паны ў грамадзе,—
Сытыя ўсе твары.
Тваё-ж месца дзе?

Стаіш у парозе
З шапкаю ў руках,
Прытухлыя вочы
Водзіш па панах.

Пазнаеш, гаротны,
Што ты не такі,
Не тваё тут месца,
Не твае дружкі.

1907 г.

## ЗЛАЖЫЎШЫ РУКІ...

Злажыўшы рукі накрыж,
Стаім, як вехі ў полі,
І з дня на дзень чакаем,
Чакаем лепшай долі...

А дні за днямі сходзяць,
У вечнай гінуць далі...
Чакалі мы, чакаем,
І што-ж мы дачакалі?..

6-III—1912 г.

## НЕ ЧАКАЙ...

Не чакай пацехі скорай,
Думкам дай заснуць,
Што паспагадае гору
Твайму хто-небудзь.

Не чакай ты ласкі братняй,
Што можа калі
Дабравольна і бясплатна
Дастанеш зямлі.

Не чакай, што ржа з гадамі
Паесьць ланцугі,
Што мінуцца сабой самі
Нагайкі, штыхі.

Не чакай... Знай, да магілы
Жывеш з сілы рук,—
Павер сіле, толькі сілай
Збудзешся ўсіх мук!

Рухне ўсё, што з веку сходзе,
Ляжа к шчасьцю сьлед;
Так з зімы вясны разводзьдзе
Аднаўляе сьвет.

14-VI—1907 г.

## ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

Даўней мы пану
Рабілі дзела,
Дый вось казны „уласьць“
К нам падасьпела.
І з клюшняў панскіх
Збавіла нібы,
Дала на ўласнасьць
Поле, сялібы.

*

Даўней мы знаці
Мусілі пана,
Каб карыстацца
З нівы ўспаханай.
Цяпер-жа ў двор сіл
Цягнеш астаткі,
Каб зарабіці
На ўсе падаткі.

*

Даўней у пана
Ў тагдышнім пекле
За правіненьне
Розгамі секлі.
Цяпер-жа земскі
Дый з казакамі
Чыніць расправу
Штодзень над намі.

*

Даўней нам „мамкай“
Двор быў з нагаем,
Цяпер казну мы
„Матушку“ маем.
Ох, маем шчасьце
На самым дзеле,
Век без апекі
Жыць не пасьмелі!

*

Пейма-ж, гуляйма,
Гулка, ня сьлёзна!
Скрышаны путы
Паншчыны грознай.
І ўсё мінецца,
Народ, крапіся,
Крыўды галосяць:
Паўстань і мсьціся!

## УСТАНЬ

Устань!
Ўсе, глянь,
Пашлі...
І вот—
Свобод!
Землі!

А ты—
Сьвяты—
Закісь,—
Зьвёў хлеб,
Асьлеп,
Азыс.

Эх, бой,
Як стой,
(Зазлуй),
Злаўчы,
Крычы,
Ваюй!

Ці так
Бядак
Прапаў,
А мо‘
Ты-б што
Дастаў?!

15-VII—1907 г.

## ПОКУЛЬ СОНЦА ЎЗЫДЗЕ...

Покуль сонца ўзыдзе,
Блудзіць цяжка ночай;
Той нас тут ня крыўдзе,
Хто толькі ня хоча.

Колькі поля, колькі
Ў тых, каму ня трэба!
А ў нас гэтак мала,
Што няма і хлеба.

Колькі лесу, колькі,
Дзе-б вокам ня кінуў!
А мы на‘т ня маем
І на дамавіну.

*

Сьвеціць сонца, сьвеціць
Падчас і ў ваконца,—
Бядак за сьлязамі
Ня бача і сонца.

Ой, ліюцца сьлёзы
І ў дзяцей, і ў маткі...
Ня плачце, працуйце
На чынш і падаткі.

Ня плачце вы, дзеці,
Ня плач і матуля,
Ў бядзе вас пацешыць
Ці астрог, ці куля...

26-VII—1907 г.

## З ПЕСЕНЬ БЕДАКА

Ой, кепска жыці
На сьвеце гэтым,
Долю зрабіці
З ясным прасьветам.
Цяжанька мне.

Молодасьць, радасьць,
Думкі, надзеі
Злажыў навекі
Праз жыцьця веі
Ў сэрцы на дне.

*

Хлеба шукаю,
Чорнага хлеба,
З краю да краю
Цягацца трэба,
А гора жме.

Дый калі хлеба
Потам здабуду,
Сільныя вырвуць
Злосьцю прыблудаў
Хлеб у мяне.

*

Працай крывавай,
Крыўдай людзкою,
Лжывай няславай
Змучан з душою
Ў жыцьцёвым сьне,—

Гляну—і столькі-ж
Хатаў ды поля...
Дзе-ж маё месца
З маёю доляй?—
Няма нідзе.

1906 г.

16)

## ПОЙДЗЕМ...

Пойдзем, сушачы вечных крыві й сьлёз разводзьдзе,
К лепшай долі з вялікай надзеяй,
Пойдзем, пойдзем туды, адкуль сонца ўсходзе,
Адкуль вецер прыветлівы вее.

Пойдзем, кінуўшы скаргі, а дружна і сьмела,
Вайну ворагам выдадзім дужым,—
Пойдзем, пойдзем усе на вялікае дзела,
Досыць гніць у сьне марным, ланцужным.

Пойдзем шчасьце сабе будаваць нябылое,
Пакуль крэпкі і вера, і сілы,—
Пойдзем, пойдзем крышыць ўсё абманнае, злое,
Будзіць праўду паўстаці з магілы

Пойдзем, узяўшы за сьцяг свой і роўнасьць і згоду,
Жыцьця лепшага покуль ня знойдзем,
Пойдзем, пойдзем сабе здабываці свабоду,
Як адзін, як адзін дружна пойдзем!

27-XI—1906 г.

* * *

Пакіньма напуста на лёс свой наракаць,
Скрозь сьлёзы скаргі сеяць па зямлі,—
Нам трэба жыць і долю папраўляць,
Каб нас патомкі з часам не клялі.

Блудныя сьцежкі цёмнага жыцьця
Навукі сонцам мусім расьсьятліць,
Каб мы і наша ў прышласьці дзіця,
Ня блудзячы, маглі свой век дажыць.

Штандар свабоды хай вядзе усіх
У сьвет на бітву з цемрай і са злом,
А гікі грозьб мучыцеляў глухіх
Глушым вольнай песьні пяруном.

Навукай, воляй зможам стогн бяды,
Засеем долю на роднай зямлі,
І зажывём шчасьліва мы тады,
Як прадзеды век нашы ня жылі.

22-X—1906 г.

## ДАЛЕЙ І БОЛЕЙ...

Далей і болей рвуцца і хочуць
К нечаму, нечага людзі,
Знойдуць, што хочуць, думкі зноў точаць:
А мо' ня то яшчэ будзе?

Дзіўныя людзі! проста, сьмех толькі,
Лезуць, куды не папала,
Вечна іх мучаць нейкія болькі,
Вечна ім нечага мала.

Хай-жа якому ў зубы сьмерць гляне,
Чорт за душу упляцецца,
І ўсё яго тут—дамоўка паняй,
Сьпіць ані-ні зварухнецца.

20-VII—1907 г.

* * *

Дзе ты схавалася, яснае сонца,
Ясныя, летнія дні дзе падзеліся?—
Сьцюжа гуляе па роднай старонцы,
Зімнія песьні расьпеліся.

Стогнуць мяцеліцы грозныя ў полі,
Цiснуцца думы пра шчасьце былое,
Сэрца лядзяніцца з жалю, з нядолі—
Беднае сэрца людзкое.

Беднае, беднае... Колькі мучэньня
Быт чалавечы табе пасылае...
Ох, каб ня сэрца, было-бы сьлёз меней,—
Шчасьліў, хто сэрца ня мае.

6-XII—1906 г.

## Я НЕ ДЛЯ ВАС...

Я не для вас, паны, о не,
Ў час вольны песенькі складаю,—
Што спала ў сэрцы там на дне—
Буджу і ў сьвет на суд пускаю.
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падчас збываюся спакою,
Калі ў вачох сьляза блісьне
Маркотнай вызвана душою,—
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Свае дні лепшыя марную,—
У вечнай з мукамі вайне
Жыву і радасьці ня чую
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусьціўшым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Над доляй плачу свайго люду,
З гразёй зьмяшалі-б вы мяне
Сваёй нікчэмнасьцю прыблудаў...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Пяю. Вам не паняць мучэньня;
Вам ваша сэрца ня дрыгне
На голас братняга цярпеньня,
О ня дрыгне, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!..
Аднэю ўцехаю жыцьцё вам,
Зьнячулі ў сытасьці, віне,
Вас не разжаліш праўды словам,
О, не разбудзіш вас, о не!

Я не для вас, паны, о не,
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
Ў адных закут з імі кайданах...
Я не дла вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!..
Я—для тых цёмных, нешчасьлівых,
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясох, па нівах,
А не ад вас, паны, о не!

8-VI—1907 г.

* * *

Калі ў сьвет я ні гляну прыгожы,
Кожны раз штось хвалюе душу,
Чуласьць дзіўная грудзі трывожа,
Ня любіў-бы—любіці сьпяшу.

І людзей, што ў трудзе, бы мурашкі,
Плечы гнуць, як братоў-бы туліў,
У нядолі, у працы іх цяжкай
Пацяшаў, песьні пеў, весяліў.

Але толькі, ці-ж хопіць мне сілы
Перажыць, не ахутацца ў цьму,—
Калі замест грудзей братніх, мілых
Я да сэрца гадзюку прыжму!?

16-VI—1907 г.

## ВЫ КАЖАЦЕ...

Вы кажаце: надта пяю я нявесела,
Пацехаў ніякіх ня бачу ў людзей...
Пакіньце сьмяяцца! Вас праўда ня ўсьцешыла,
Няпраўды-ж ня знаю ў душы я сваей.

Як пеў я дагэтуль, так пець ня сцураюся,
Жальбою маркоцячы песьню сваю;
Я ў долю народу свайго узіраюся,
І толькі аб гэтым для вас тут пяю.

Няхай сьвет пазнае ўсе песьні бяздольніка,
Хай вораг-мучыцель дрыжыць з праўды слоў,
Быць вольным хай родзяцца думкі ў нявольніка,
Хай быць чалавекам захоча брат мой

1906 г.

## НЕ КЛЯНЕЦЕ МЯНЕ...

Не клянеце мяне,
Што так смутна пяю,
Бо і так там на дне
Душу змучыў сваю.

Бо і так, бы ў агні,
Кроў і сэрца кіпіць,
Мукаў сьцелюцца дні,
Сон аб шчасьці бяжыць.

Цяжкіх дум, горкіх дум
Зваяваць не магу,
Людзкі плач, скаргаў шум
Ловіць мысьль на бягу.

Не магу маску ўзьдзець,
Крывіць роднай душой,
Песьні весела пець,
Калі смуцен брат мой.

Калі столькі бяды,
Столькі гора і сьлёз
Бачу ўкруг заўсяды,
Столькі й сам перанёс!

Вось стаіць удава,
Лахманы на плячох,
У шрамох галава,
Туман нейкі ў вачох.

Працягае руку:
„Дайце хлебачка мне,
Пашкадуйце ўдаву,
Згінуў муж на вайне“.

А тут сьлёзы кап-кап!
Абмахнула рукой...
Ну, будзь, браце, ня слаб,
З бяды сьмейся чужой!

Вось гуляе багач,
Аж палац той дрыжыць,
А пад брамаю плач—
Там сіротка стаіць.

Ня уздойме ўжо рук,
Мароз целам трасе,
Ногі гнуцца у крук,
Вецер скаргі нясе:

„Раз ішоў тут народ,
Песьні дзіўныя пеў,
Пеў ісьці напярод,
Сьмерці ў вочы глядзеў.

„Тата з імі пашоў—
І дагэтуль няма,
А тут холад тне кроў,
Сыпе сьнегам зіма.

„З хаты выгналі вон,
Няма есьці чаго,
Правясьці ночку, сон
Няма дзе у каго".

І тут сьлёзы кап-кап!
Абмахнула рукой...
Ну, будзь, браце, ня слаб,
З бяды сьмейся чужой!

Вось зноў нешта чуваць,—
Стаў дзядок пад вакном,
З плечаў торбы вісяць,
Бок падпёр кастылём.

І так песьню вядзе—
Голас хрыплы такі—
Аб сваёй аб бядзе,
Рукі жме ў кулакі:

„Сорак год я служыў,
Сілу змог без пары,—
Стаў служыць—молад быў;
Цяпер гляньце—стары.

„Эх, служыў пану я,
Працаваў за пяцёх,
Працаваў за каня,
Рана ўстаў, позна лёг.

„І араў, і касіў,
І канавы капаў,
Пушчу сек і вазіў,
Ня раз поўху папаў.

„Шла работа агнём...
Пан-жа, ведама, жыў:
Багацеў з кожным днём,
Смачна еў, смачна піў.

„А я чахнуў, бядак,
Галадаў, мёрз, як воўк,
І служыў верна так,
А цяпер“... І замоўк.

Толькі сьлёзы, кап-кап!
Абмахнуў іх рукой...
Ну, будзь, браце, ня слаб,
З бяды сьмейся чужой!

Дый ня сьмейся з мяне,
Што так смутна пяю,
Бо і так там на дне
Душу змучыў сваю.

15-IV—1906 г.

24

## З МАРКОТНЫХ ДУМАК

Ці вымкну я птушкаю з думкай пралётнаю
На тое поле, на роўнае тое,
Ці ўгледжуся ў хату убога-маркотную,
Смутна мне бачыці гора людзкое.

І жаль мне вас, людзі, што гэтак нявесела
Вам на радзімай зямельцы жывецца,
Што неба так хмары над вамі разьвесіла,
Што з вашых бедаў так кожны сьмяецца.

Хоць вас прыгнятае жыцьцё няпрыветнае,
Парыце косьці бяз часу ў магілах,—
Вы праз цемнату ўсю сваю непрасьветную
Бачыць свайго паніжэньня ня ў сілах.

О, жаль мне праз гэта вас, людзі загнаныя,
Цёмныя людзі, гаротныя людзі,
Жаль, што вы такія, праз сьвет пагарджаныя,
Жаль, што так жыцца 'шчэ доўга вам будзе.

1907 г.

## ДУМЫ МАРКОТНЫЯ...

Думы маркотныя,
Думы гаротныя,
Труціце быт мой сірочы,
Сьмех стогнам крыецца
І ў сэрцы ныецца
І плачуць жаласна вочы.

Сны неспакойныя,
Нядолі поўныя,
Спаць не даюць мне начамі.
Зданьні спужаныя,
Зданьні загнаныя
Цэлымі бачу палкамі.

Там працавітыя,
Хлебам ня сытыя,
Снуюцца людзкія цені,
На кій усьпёртыя,
Босы, абдзёртыя,
Трасуцца рукі, калені.

Адно з іх жаліцца,
Адно з іх хваліцца,
А тое дзік сьмяецца,
І неадзетыя,
Нелюдзі гэтыя,
Стаяць жывымі здаецца.

А далей гляну я—
Там закаваныя
Такія-ж сходзяцца мары,—
Звоняць кайданамі,
Сталяй каванымі,
Раны на целе, на твары.

Ланцуг ім колецца,
Галосяць, моляцца,
Вырваць іх з путаў, з няволі
І так здаваецца—
Стогн падымаецца,
Як-бы ня змоўкне ніколі.

І глянуць смутненька
І жыцці трудненька,
Здаецца-б згінуў з душою,—

Бачу бяздольнае,
Бачу бязвольнае
Над сваёй беднай зямлёю.

У сэрцы ныецца,
Сьмех стогнам крыецца,
І плачуць жаласна вочы...
Думы маркотныя,
Думы гаротныя,
Труціце быт мой сірочы.

1905 г.

* * *

Легла на сэрца гора нядольнае,
Легла і мучыць, гняце,
Ў думках замёрла скарга нявольная,
Боль не спажыта цьвіце.

Дзе я ня кінуся, з песьняй ня вылету,
Выхаду, сьцежкі няма,—
Лёдам гасьцінец мой выбіты, выліты,
Лёд—як магіла сама!

1909 г.

## ЗА ШТО?..

Маці мая, маці,
Што-ж ты мне зрабіла,—
За што гараваці
На сьвет парадзіла?
За што, за што
Твой сын бядак,
За што, за што
Ён плача так?
— Скажы!

Плача твой дзяціна,
Ты й сама ня скачаш,—
За сябе і сына
Плачаш маці, плачаш.
За што, за што
Твой сын бядак,
За што, за што
Ты плачаш так?
— Скажы!

Тваё гора знае
Сын твой ад пачатку,
Бядуе, ўздыхае
За сябе і матку.
За што, за што
Наш лёс такі,
За што, за што
Мы бедакі?
— Скажы!

Маці мая, маці,
Крыўды з нас сьмяюцца
І твае й дзіцяці
Горка сьлёзы льлюцца.
За што, за што
Льле не адзін,
За што, за што—
І маці й сын?
— Скажы!

31/X—1906 г.

## ЗАМАЎЧЭЦЕ, ДУМЫ

Як дуброваў шумы
Ўзімку ды марозы,—
Замаўчэце, думы,
Не наводзьце сьлёзаў.

Хоць так горка жыці—
Рэчкай гора льлецца,—
Кінь, сэрца, тужыці,
Над чым сьвет сьмяецца.

Ня ўслухайся, сэрца,
Ня ўзірайцесь, вочы,
Што у паняверцы
Даць жыцьцё захоча.

Няпраўдай вялікай,
Душа, ня смуціся,—
За агульным гікам,
Хоць і страшна, прыся.

Сэрцам к сэрцу пылка
Рынеш небарака,
Дый цярпі—памылка,—
Там лёд ці вужака.

Ой, хоць так балесьне,
Гаротнік, крапіся,
К канцу з думкай-песьняй,
Як птушка, ня рвіся.

Замре з жалю голас,
Вораг паб'е крыльле,
Будзеш, як той колас
Пасярод бадыляў.

Колас зломіць бура,
З зямлёю зьмяшае,
Табе жыцьцё збура
Нянавісьць людзкая.

Дык замрэце, думы,
Сэрца ня труцеце,
Куды ветраў шумы—
Туды ў даль ляцеце.

А далей ад сьвету,
Ад людзей найдалей,
І нясеце гэту
Песьню майго жалю.

Там хоць вецер можа,
Што гуляе ў полі,
Вас не патрывожа,
Пойме маю долю.

1907 г.

29

## З БЯДЫ І НУДЫ

Не даеш ты, бяда,
Мне спакойна цярпець,
Не даеш ты, нуда,
Песьні весела пець.

Мучце-ж, мучце мяне,
Не баюся я вас,—
Хай сьвет цэлы дрыгне,
Я ўжо выжыў свой час.

Не разбудзіць мне дум
Ні сьлязіна, ні сьмех,
Зьменнай радасьці шум
Не навее пацех.

Сіратой па зямлі
Снуючы бяспуцьця,
Мяне путы змаглі
Абрыднога жыцьця.

Мая моладасьць сьпіць
Пад пялёнкаю мук,
Аджывіць, узманіць
Няма чым думак, рук.

Дык-жа мучце мацней
Ты—бяда, ты—нуда!
З вамі дружбы маей
Не размые вада.

Сейце кожнай парой
Больш цярпеньня, трывог,
Снуйце зданьмі за мной—
Па маіх па сьлядох.

Забірайце ў мяне—
Як вам думкі ўзбрыдуць—
Калі можна яшчэ
Ў мяне ўзяць што-нібудзь.

Не баюся я вас...
А прыдзе бедаку
Надта трудненькі час—
Я ў магілу ўцяку.

4 VII—1907 г.

## МАЯ МАЛІТВА

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Расьпетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Я буду маліцца да яснага сонейка
Няшчасных зімой саграваць сірацін,
Прыветна па збожных гуляючы гонейках,
Часьцей заглядаці да цёмных хацін.

Я буду маліцца да хмараў з грымотамі,
Што дзіка над намі гуляюць ня раз,
Каб жаль над гаротнымі мелі беднотамі,
Градоў, пяруноў ня ссылалі падчас.

Я буду маліцца да зорак і жаліцца,
Што гасяць сябе надта часта яны,
Бо чуў, як якая з неба з іх зваліцца,
З жыцьця хтось сыходзе на вечныя сны.

Я буду маліцца да нівы ўсёй сілаю,
Каб лепшаю ўродай плаціла за труд,
Збагаціла сельскую хату пахілую,
Надзеі збытымі ўбачыў наш люд.

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Расьпетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ня вылі над роднай зямлёй, нада мной.

5/VII—1906 г.

## БЫВАЮЦЬ ХВІЛІ...

Бываюць хвілі горкіх жаляў,
Душа і ные і баліць;
Агонь пякельны грудзі паліць,
І нечым той агонь заліць.

У гэткай хвілі цяжкай, труднай
Нямілым робіцца жыцьцё,
Пракляў-бы цэлы сьвет злалюдны
І сэрца роднага біцьцё.

Пракляў-бы сьвет і быт, і долю,
Усё-б на лес сухі паслаў,
І даў-бы думам спаць уволю
І сам-бы спаў, навекі спаў.

1906 г.

## НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

**Якуб Колас**

IX

Сьвет дзівосны
Радасьць точыць,
Нехта-ж злосны,
Безжалосны
Сьледам крочыць,
Есьць нам вочы.

Шыр, прасторы
Перад намі,
А ты, гора,
З долу, мора,
Гнеш наш раме,
Б'еш нагамі!

Сьвет зачынен,
Воля скута
Хоць ня вінен,
Ды павінен
Піць атруту
І пакуту.

Ростань. Грані.
Цень. Зьмяркацьне.
Ды ў тумане
Золак гляне—
Пробліск раньня
І сьвітаньня.

---

Хваля скіне,
Хваля ўзьніме.
Ты-ж плыві на хвалі з хваль:
Ліха згіне,
Як у дыме.
Дык жыві, гартуйся ў сталь!

---

Пачутак востры нейкай страты
Навёў на прапаршчыка сум,

Як улілася Галя ў тлум,
Апошні раз кіўнуўшы „брату“.
Схаваў яе натоўп стракаты,
Дзе слоў акорды губіць шум.
Нападарожным шчырым словам
Ён павітаў не бяз прыкрас
У думках Галю яшчэ раз,
Бо на шляху яго жыцьцёвым
Яна мільгнула чымся новым,
Каб жыць у мысьлях доўгі час.
Ён вынуў кніжку запісную
Лісток той з адрасам дастаў
І Галін адрас прачытаў,
Адчуўшы крыўду патайную,
Што гэту радасьць, здань лясную,
Яму хтось зьнішчыў, ня спытаў.
Такое слаўнае спатканьне,
Такое дзіўнае зьвяно—
І абрываецца яно,
Каб з большай сілай пракананьня
Яму напоміць аб зьмяркаsuccessful:
Жыцьця-ж свайго няма даўно!
Бо што цяпер ён? пыл бязвольны,
Узьняты ў сонцавай касе,
Што вецер круціць і нясе
Або мяшае з прахам дольным.
І ён падпаў пад лёс супольны,
Перад якім бясьсільны ўсе.

На лад журботны думкі хіляць,
Нясуць к другому рубяжу
Героя нашага Дзяжу.

ДЗЯЖА

Хто волю сьмеў маю зьнясіліць
І дух мой вольны абяскрыліць
І палажыць яму мяжу?
Я жыць хачу, я прагну волю,
Хачу ў свае стаць берагі,
Мяне-ж вагналі ў абцугі,
Ад плыні ўласнай адкалолі.
Я—ліст сарваны і ня болей!
Нікчэмны пыл нямой смугі.
І я з нявольніцкай пакорай,
Адвыкшы быць самым сабой,

Іду на масавы убой
У імя Молаха-пражоры,
Протэст зацяўшы і дакоры,
І сам апраўдваю разбой.
За што-ж гібець? за чэсьць капралаў?
За махляроў, што ў старане
Турботы маюць аб машне,
Бо ім мільёнаў яшчэ мала,
Ім болей трэба капіталаў
І напляваць ім на мяне!
Дык што жыцьцё? адна хвіліна!
К чаму развага і журба?
Грымі-ж, ваяцкая труба!
Жыві, вайна і трасяніна,
Бо патрабуе так айчына
І... псыхолёгія раба!

У цішы ды ў адзіноце
Ходзяць думкі патаёма
І зьнікаюць у самоце,
І нікому невядомы
Ні узьлёты іх, ні громы,
Бо бясплодны па істоце.
Ды ўсё на сьвеце пераходна,
Адно зьмяняецца другім,
То часам добрым, то благім,
І тое, што сягоньня модна,—
Назаўтра станецца нягодна,
І сьмешным зробіцца, пустым.
Жыцьцё ў сваёй агульнай плыні
Знаходзіць рэчышча само
І запражэ цябе ў ярмо,
А тկань-узор пабочных ліній
Бяз жалю ўсякага адкіне
І скарбы возьме пад замок.

І наш Барыс Дзяжа, хоць-не-хаць,
Протэст гукнуўшы ў патайне,
Успомніць мусіў аб вайне.
Цяпер яму нядоўга ехаць,
І блізкасьць фронту, яго рэха
Ужо тут чуюцца ўдвайне.
Куды ні глянь—адны мундзіры,
Салдаты, сёстры, дактары,
І генэрал мільгне стары,
Слуга прастолу грозны, шчыры...

У сумятні у тэй, у віры
Душа ўнікае без пары.

### ДЗЯЖА

Складаная і страшная махіна!
А нейчая-ж рука
Кіруе здаляка—
Пад нумарам тут кожная людзіна!
Плыве, брыдзе,
Ня губіцца нідзе,
Пакуль не прападзе,
Як нейкая скаціна.
І гарката усьведамленьня,
Што ты—бязвольны пыл, труха,
Зноў падкрадаецца сьціха,
А ў душу сходзіць атупеньне
І з гэтым лёсам прымірэньне—
Заб'юць, скалечаць там—няхай.
Абы сыйсьці з дарог блуканьня,
Пазбыць стан гэты крыжавы,
Як лішні клопат з галавы—
Абрыдла быць на скрыжаваньні
У прыкрых думках-развażаньні.
Хутчэй-бы слуп той межавы!
На трэці дзень разлукі з Галяй
Спыніўся поезд і... канец!
Выходзь з машыны, маладзец!
Няма табе дарожак далей,
Ніхто ня выкажа тут жалю...
Этап. Маршрут.
Фронт блізка тут,
І—на позыцыях юнец!
Усе формальнасьці адбыты
І па парадку, як адны,
Па чыну рапарты зданы.
І ён на сьвеце не забыты:
Знашоў свой нумар тут—і квіта:
Ваюй, забыўшы мары-сны!
І тут Барыс адчуў адразу,
Што ён папаў на іншы сьвет,
Дзе кожны міг кладзе свой сьлед,
Дзе ўсе храбрацца для паказу
І трусасьць лічаць за абразу,
Хоць носяць трусасьці прыгнет.

У таварыстве-ж гэтым новым
Яго сустрэлі звысака,
Як сустрачаюць навіка,
І часта холадам зімовым
Ад жартаў веяла суровых,
Што так зьніжала юнака.

АДЗІН АФІЦЭР

Ну, што ў тылу? А як гульнулі?

ДРУГІ АФІЦЭР

Па вас даўно тут плачуць кулі.

ТРЭЦІ

А аўстрыяцкі „чамадан"—
Яго вы, баценька, ня чулі—
Такія тут падносіць дулі,
Што пылам ляжаш на дыван.

ЧАЦЬВЕРТЫ

Заробіш чын, здабудзеш крыж,
А сьмерць пакажа табе шыш.

ДРУГІ

Часьцей бяз крыжа і бяз чына
Пад крыж уложаць і—каюк!

ТРЭЦІ

Найгорш, калі бяз ног, бяз рук
Валяцца будзеш, як дубіна,
На хлебе сукінага сына,
Пакуль ня выкінуць на брук.

ПЕРШЫ

І прападзе жыцьця ўся асалода:
Хоць ня зусім ты будзеш слабы,
Ды не падкоцішся да бабы
І не прадоўжыш свайго роду!

ЧАЦЬВЕРТЫ

Пакута, большая за Дантаўскае пекла:
Вайна і сьмерць—прад ёю ўсё паблекла!
Дзяжа з усьмешкай напускною,
У тон ня трапячы ніяк,
Уважна слухае ваяк,
Ідучы сьценкаю глухою,
А сам з надзеяй патайною

Мяркуе ўсё-ж такі інак.
І сапраўды: ня ўсе-ж палягуць,
Ня ўсіх-жа вынішчыць вайна—
Людзкая псыхіка дзіўна,
І воля жыць абходзіць плягу:
Чым бліжай сьмерць—жыць больша прага,
І прагі той душа паўна.
Ідуць, жартуюць афіцэры.
Яны спаткалі юнака
У штабе гэтага-ж палка.
І раптам вораг замажджэрыў!
Яны на дол, а гэты „шэры“
Стаіць і зорыць звысака.

АФІЦЭРЫ

Ня варта, прапаршчык, рызыкаваць!

ДЗЯЖА

Мне трэба сьмеласьць гартаваць,
І гэта першае хрышчэньне
Ён, спакушаючы свой лёс,
Адважна, храбра перанёс
На зайздрасьць „храбрым“, на зьдзіўленьне,
І тым здабыў іх адабрэньне,
Адразу ў іх вачох узрос.

На фронце здраднае зацішша,
Акопы вымерлі нібы.
Няма напружанай стральбы.
Маўчаць даліны і узвышшы,
І толькі вецер дрот калыша
Ды гладзіць насыпы-гарбы.
Спакой бывае і прад громам,
Як замлявае сьпёка-вар.
Гатуюць ворагі удар,
Гатуюць скрыта-патаёма,
Калі-ж ён букне—невядома
І колькі возьме ён ахвяр?

Як нейкі сон, бязладны, тлумны,
Быў першы момант для Дзяжы
На гэтым новым рубяжы:
Дарога, фронт, крок неразумны,—
Усё ўспрыняў ён безраздумна,
Бы сам сабе ён стаў чужы.
І толькі тут, у першай роце,
Дзе ён залічан быў на ўзвод,

Пачаў разблутваць перамот
І меркаваць на адзіноце
Аб новай чыннасьці, рабоце,
Сабраўшы мысьляй той разьлёт.
І хоць ваенныя навукі
Ён там праходзіў у тылу
І меў за гэта пахвалу,
Ды тут ён чуўся, як бязрукі:
Вайна ў зямлі, яе тут згукі,
А не манэўры на далу.
Ён разглядацца стаў патрохі,
Шалопаць сам ды разважаць,
У чым спружыны тут ляжаць,
І аглядзеў акопы-лёхі,
Дзе чэзнуць людзі-замазохі—
Вайны жывая сенажаць.
І азнаёміўся са ўзводам,
З вучасткам ротным і сваім
І з гэтым месцам заклятым—
Між двух узгоркаў пераходам,
Дзе ўжо паклалі шмат народу,
І сёньня двух зьнялі на ім,
Бо фронт і ў часе перадышкі,
У дол урыўшыся, равы,
Бурліць, як віхар агнявы:
Не, не—ды выбухнуць успышкі,
Жыцьця нэрвовага адрыжкі,
Ці грозны покліч баявы.
А часам проста для забавы—
Акопы-ж іх—рукой падаць—
Каб аўстрыяку назаляць,
Салдацік знойдзецца рухавы,
На бруствер чучала паставіць:
Вось вораг, моў! прашу страляць!
Яны-ж таксама, з свайго боку,
Каб адплаціць за гэты зман,
У вочы пусьцяць нам туман—
І жарт і сьмерць ідуць на воку
У кожны час, на кожным кроку,
Дзе дух людзкі аплёў дурман.

Адзін выпадак тут балюча
Засеў у памяці Дзяжы.
Ён першы раз у бліндажы.
У бойніцу праз дрот калючы

Глядзеў Барыс на тыя кручы,
Адкуль нас вораг старажыў.
І вось з акопаў аўстрыяцкіх,
Ён бачыць, вылез аўстрыяк,
Ківае ў наш бок, робіць знак,
А выгляд бравы і ваяцкі.
Мядалі, крыж блішчаць, як цацкі,
А з нашай бойніцы—пак! пак!
— Но, но!—гукнуў ён і сярдзіта
Патрос на нашых кулаком.
Ваду бярэ ён кацялком,
Мундзір зьнімае дзелавіта—
Памыцца хоча тут і квіта,—
Залюбавацца сьмельчаком!
Яшчэ з дзесятак нашых стрэлаў,
Ды пудла ўсё даюць стралкі,
А кулі рэжуцца ў валкі.
А аўстрыяк хоць-бы што—цэлы,
Умыўся, вынуў ручнік белы,—
Страляць нейк проста ня з рукі.

НАШ САЛДАТ

Глядзі ты, чорт! замоўлены, ці што?
І не пападзе ў яго ніхто!
Вось штуку выкінуў, дык лоўка!

ДЗЯЖА

А ну-ка дай сваю вінтоўку!
Бярэ ён стрэльбу, жмурыць вока,
Наводзіць мушку ў сьмельчака
І пальцам дужку жме зьлягка,
Бух! грымнуў стрэл з нары глыбокай.
Асеў, зваліўся храбры дока
На белы покрыў ручніка.
Дзяжа ад бойніцы адходзіць
І атрасае рукавы,
А сам бляды, як васкавы—
Што-ж ён зрабіў, забойца, злодзей?!
І ён спакою не знаходзіць—
Прад ім забіты, як жывы.
Як цень, з ім ходзіць тое зданьне,
Бы непраглядная імгла
На душу цемраю зьлягла.
Няма, ня знойдзеш апраўданьня
Пры ўсіх аргумантах, жаданьні:

Забіў, як злодзей, з-за вугла,
Бяз помсты, злосьці, без падставы—
Што за чмута? што за чума?
Быў чалавек, цяпер няма!
З-за нейкай брудаснай забавы,
За грош цьвілы дзяшовай славы
Так загубіць жыцьцё дарма!
Ён ходзіць, шворыцца ў абхопах,
А прад вачыма—аўстрыяк
І не адчэпіцца ніяк,
Як-бы крывёю хто накропаў
Учынак злы ва ўсіх абхопах,
Навесіў каінаўскі знак.
Да афіцэраў свае роты
У схоў глыбокі земляны
Барыс, пануры і дзіўны,
Нясе пякельныя згрызоты,
Грэх неабдуманай дурноты—
Як прымуць гэта ўсё яны?
Іх трое тут, а з ім чацьвёра:
Сам падпаручнік Мурава,
На ўзводах прапаршчыкі два
Па прозьвішчу Гаец, Зажора.
На фронце сходзяцца ўсе скора,
Бо там абстаўка такава.
Гаец уголас ліст чытае
І сьлінкі з зайздрасьці глытае.

ПРАПАРШЧЫК ГАЕЦ

І піша—парадую цішком
Вас добраю навінай:
Шустоўскім каньяком
І Нежынскай рабінай.
Каньяк, рабіна—шык,
Апошні моды крык!

ПРАПАРШЧЫК ЗАЖОРА

Пашлі яму, гасподзь,
Георгія і рану!..
Эх, немачная плоць!
Яе не пабароць—
Нарэзацца-б да п'яна!
Бяз выпіўкі, бяз баб—
Нявольнік ты і раб!

ГАЕЦ

Лаўкач ён з лаўкачоў,
Наш прапаршчык Сычоў!
Хапіла ўсюды там яго
Натуры энэргічнай—
Палкоўніка пакрыўдзіў аднаго
У справе романтычнай!
Адважыўся на сьмелы крок:
З-пад носа кралю павалок!

ЗАЖОРА

Ах, што-б ён здох!
Ну, што за жох!..
Варочаўся-б скарэй
Выжыга наш, Андрэй,
Ды вёз-бы ўсе трофеі тыя
Пад пераможны клік—ура!
На славу бацюшкі-цара
На радасьць матушкі-Расіі.
Дзяжа сядзеў, маўчаў панура—
Што ім казаць? усе—зьвяры,
Зьдзічэлі, седзячы ў нары.
Сама ў душы сьціхала бура.
Хоць часта шорхне яго скура,
Як здань запусьціць кіпцюры...

ПАДПАРУЧНІК МУРАВА

Вы, прапаршчык Дзяжа,
Сягоньня на рабоце:
З дванаццаці гадзін
Дзяжурыце па роце.

6—19 I 1929 г.

# НАРАДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА [1])

*Роман*

**А. Александровіч**

Частка трэцяя

## Шофэр—за старно!

XVI

Ці чысты, як вока, апусьціцца вечар.
Ці дождж закрываў павуцінаю брызг.
Таварыш у фрэнчы (шырокія плечы)
хадзіў за Марылькай, вачмі яе грыз.

Марыля прайціся адна ці з Аўзорам
выйдзе за горад, ці ў парк, дзе народ,—
усьлед, ну, як быццам таемным дазорам,
таварыш у фрэнчы з паходкай, як шрот.

На вуліцы з голаду вецер заенчыць,
Выйдзе Марыля па шпроты ў ларок,
тут-жа за ёю таварыш у фрэнчы
заходзе ў ларок, выпівае сітро.

Ці сэрца агнём, ці прахладаю вочы
яго да Марылі цягнулі што-дня?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Таварыш у фрэнчы настойліва сочыць
адзін раз з агнём, а другі—без агня.

XVII

Поруч з Марылькай.
...Грукат кол...
Таварыш у фрэнчы.
...Душна ў вагоне.
Вецер прыльне на дзявочы прыпол
і голаву ветліва склоніць.

---

[1]) Гл. „Полымя" № 1.

Ў Марылі пад кофтай.
...Народу шмат.
Сакрэтны пакет.
...Цяплушка.
Пад гукі гармоніка ўсеўшыся ў рад
пяюць пасажыры частушкі.

Поруч з Марылькай.
...Сьцелецца змрок.
Таварыш у фрэнчы.
...Ахутвае змора.
— Далёка нам ехаць яшчэ ў гарадок?
— Раніцай заўтра, скора.

— Таварыш, скажэце.
...Пранёсься сьвісток.
— Мо' чулі дзе?
...Жмурацца вочы.
— Мо' чулі часамі Рыгора Клумок?
— А хто ён?—Ён лётчык.

— Не, ня чуваў.
...У вагоне храп.
Разгаварыліся.
...Сьвечкі гасілі.
— Весткі аб ім можа выдаць вам штаб,
дзе і ў якой эскадрыльлі.

Ночка імкненьняў.
...Марудны цягнік.
Ружовы пакет.
...Сэрца ня енчыць.
Штаб. Пакет. Рыгор бальшавік.
Поруч—таварыш у фрэнчы.

XVIII

І нэрвы аслаблі, і зморaны мускул.
Любіў ён гаранку, цяпер беларуску.

Кідаў ён гаранку, кідаў ён краіну,
прынесла гаранка кінжал на ўспамінак.

І помніць, як ціха дарыўшы, шаптала:
кінжал абароніць і ўспомніць пра скалы.

О, так! Успаміны ніхто не заслоніць.
Адно ці ў змаганьні кінджал абароніць?!.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чупрыну ўскудлачыўшы, ў марах крылатых
піша ён ліст на радзіму, да брата:

— Мой родны брат! Мой брат Заліс!
Выбач ты мне за гэты ліст!
Ты аполітык быў. А можа стаў другім,
адчуўшы арабочаны рэжым?
А я аддаў сябе
заўзятай барацьбе
за справу сьмерці
ўзбунтаванай чэрні.
Я ўпэўнены—жыцьцё
назад гісторыю паверне!
І праясьніцца неба,
і сонца гляне зноў
на сьвет,
без бальшавікоў
ганебных.

Мой родны брат! Мой брат Заліс!
Выбач ты мне за гэты ліст!
Такі настрой. Кіпіць запал,
як і калісьці сярод скал.
Зьдзіўлю цябе. Я стаў кахаць.
Яна дзівосная. Ня змог сябе ўтрымаць.
І я цяпер—як той юнак!..
Сапраўды—так,—
як той юнак.
Увязваць барацьбу з каханьнем зорнакрылым
проблема—як раса,
сівая вечнасьць!
Выбач ты мне! Я чую сам,
як б'ецца ў жылах
супярэчнасьць...
А хочацца ў каханьні стаць другім,
бо гэты гоман, гул абрыдзелі зусім.
Пакіну ўсё. (Ты дзівішся?). Выбач.
Па шчырасьці: змарыла барацьба.
Зьдзейсьню плян астатні раз
і з ёй прыеду на Каўказ.
Вітай усіх. Пішы.
Твой брат Кашыл.

Post scriptum

Ня зблытай адрас і фаміліі:
я тут—
Аўзор Дарубашвілі.

## XIX

Вось і станцыя. Ледзь золак румяны
над горадам сонным прыветліва глянуў.
Бязьлюдна... Часамі праедзе падвода.
А на вокзале жыцьцё поўным ходам.
Кожны сьпяшаецца, кожнаму некалі—
адны выяжджаюць,
другія прыехалі.

Ў натоўпе людзкім, з невялічкім вузлом,
з пакетам пад кофтай і думкай-агнём
Марыля прыехала стомлена ў горад
знайсьці-адшукаць дарагога Рыгора.
Аўзору падзяку адзначыць пісулькай
за хлеб і за соль і за цёплы прытулак.

Рана яшчэ. Сьпіць гоман людзкі.
На крамах, на складах ржавеюць замкі.
Сонейка глянула, скоса з-за стрэхаў,
з праменьнямі шэпчацца: нехта прыехаў.
І раптам праменьні ёй глянулі ў твар,
хапілі, цалуюць, вядуць на бульвар.
Ўсадзілі і ліпнуць, як мухі на мёд,
ну што-ж, і праменьні шукаюць пяшчот!

Марыля ўсміхнулася, лёгка ўздыхнула,
пад лёскат праменьняў шчасьлівай заснула.
Над ёй распусьціўся ўскудлачаны клён
з праменьнямі разам
зьвіў казачны сон:

На ўзвышшы гары векавечнай
стаіць мураваны палац.
З падзямельля яго кожным вечарам
вырываецца стогн і плач.

Драпежны жыве ваявода,
згінае народ да зямлі.
За гонар яго, за свободу,
вазёры крыві пралілі.

Ссылалі ў Сібір! Прападалі—
Беларускай зямлі мужыкі.
Іх сьлед на прадвесьні змывалі
вірлівыя хвалі ракі.

За гэтай гарой за крывавай
лясы акрыляюць купцоў.
Ні так што—ўчыняюць расправу,
шляхі афарбоўвае кроў.

Здаволены быў ваявода,
і сойм павятовы зьлічаў,
на колькі за косьці народу
іх скарб узбагачаны стаў.

Змагаўся за права пасвойму
майстра Бутрым-залатар.
За бедных стаяў перад соймам,—
за бедных—упарты змагар.

Любіўся з сялянкай Агатай,
народ іх каханьню спрыяў.
І што-ж? Не захоча багаты
і сіла твая не твая.

Сказаў ваявода аднойчы
Агату прывесьці ў палац.
Жадаў асалоды дзявочай,
жадаў маладосьцю палаць.

Успыхнуў Бутрым, як дазнаўся.
— О, крыўды такой не сьцярплю!
Агата сьлязьмі разьлілася,
сьлязьмі арасіла зямлю.

Загад быў:—Бутрыма стрыножыць,
загнаць у падземны падвал.
Агата на перыстым ложы
аддасьць свой дзявочы запал!

Слугі зьвязалі Бутрыма,
Агатавых сьлёз ня стрымаць.
Вязуць іх... А вецер нястрымны...
Сьвету з-за хмар ня відаць.

Бура найшла. Навальніца.
Вецер. Маланка і гром.
Слугі, схіліўшыся ніцам,
застылі ў віхры курганом.

Стаяць на кургане дзьве сосны;
то з любай Агатай—Бутрым.
Шчасьліва стаяць перад сонцам,
авітыя лёсам адным.

Сасонкі Марылі здаліся,
што стройна вартуюць прастор,
адна,—дык яна—Марыся,
другая—ўлюбёны Рыгор.

І тут успаміны каханьня
зайгралі ў дзявочай душы:
вось быццам з Рыгорам сьвітаньне
вітае ў расістай глушы.

Сонца шматструньнем праз веццьце
золатам выліла шлях.
І раптам—вецер, вецер...
Колецца глеба...
Страх...

Вочы прасьцерла, зірнула на сьвет.
Пад кофтай ружовы пацее пакет.
Трэба зьбірацца. З чаго вось пачаць?
аднесьці пакет
ці Рыгора шукаць?

Таварыш у фрэнчы бульварам праходзе
(сядзеў недалёка...) Марылька, як злодзей
падходзіць, пытае:—Дзе-ж гэты штаб?
Адрас згубіла. Даўно я пайшла-б
— Пойдзем, тут блізка, і я ў штаб іду,
там хутка любую даведку дадуць.

У сэрцы Марыльчыным б'юць малаткі,
наўкола віхурыцца гул гарадзкі.
На кожным рагу,
ў пякарні, ларкі
гаражане
бягуць

за харчамі
ў чаргу.
Другія рыхтуюцца,
хаты ўбіраюць.
Заўтра—
на вуліцу!
— Першае Мая.

## XX

Патруль прапусьціў... Калідор, як тунэль.
Па бакох толькі дзьверы й таблічкі.
То радасьць Марылі ўзьняла карусэль,
то страх атуляе аблічча.

Пакой невялічкі, ля сьценаў сталы.
Ля лёзунгаў—жмурыцца Ленін.
У вакне шарахцяць драцяныя вузлы,
ў вузлох мітусяцца праменьні.

У чырвонаармейца прасіла Марыля...
(Дзявочая рыска—заплакалі вочы).
— Зваць Рыгорам, Клумок па фаміліі,
чула, што ён самалётчык.

Словы дрыжэлі. У вачох цямнее.
Перапытаўся чырвонаармеец.
Глянуў дасьціпна
на постаць дзяўчыны
і стэрыотыпна:
— „Сядайце, хвіліну“.
Шукае Рыгора чырвонаармеец,
лісьця паперы ў руках шарахцяць.
Дзявочае сэрца ў трывозе слабее—
рашаецца права жыцьця!

. . . . . . . . . . . . . . .

— Берагла-захоўвала
ў цярплівасьці цяжкой.
Яму, Рыгору любаму,
дзявочы гонар свой.

А што, калі няма яго,
няведама дзе ён?
Як страшна сьцяць жыцьцё сваё
рукамі лютых дзён.

Аўзор? Ой, не, ніколі!..
Але пакет аддам.
Ён шмат зрабіў мне добрага,
калі зула бяда...

І думкі неспакойныя
зьмяняюцца, плывуць.
Нахмурыліся бровы,
схіліла галаву.
. . . . . . . . . .

— Знайшоў. Калі ласка, трымайце.
(Адрас далі ёй...)—Знайшла!
Як добра! Паеду... Вітайце!
Знайшла я пілота-арла!

Вось яна зор-зараніца.
Як добра! Мы будзема ўдвох.
І постаць Рыгора мігціцца
ў яе сьветлазорых вачох.

Таварыша ў фрэнчы агніста
гатова абняць, цалаваць.
І ў радасьці зьзяе, як ліст той
у сонечны дзень харства...
. . . . . . . . . . . . . .

Успомніла—рванулася
шукаць той дом, той двор,
аддаць пакет і крыкнуць:
— Бывай здароў, Аўзор!..
. . . . . . . . . . . .

— Дзе яна?.. Шко-ода...
— Ля брамы.
— Паклічце... Вярнулі. Яна
чуе:—Забыліся пра тэлеграму,
Клумок сёньня ў горадзе, ў нас.

Рабочых, з днём Першага Мая,
вялікі ўрачысты парад,
магутнасьцю сіл прывітае
авіяцыйны атрад.

Прышла тэлеграма з атраду,
чытайце, чацьверты радок,
у сьпісе каманднага складу—
па беламу чорным—Кл-лум-мок.

Упіўся ў сваю самакрутку,
схіліў галаву над сталом
і даў ёй гасцінна і хутка
пропуск на аэродром...
. . . . . . . . . . .

Сьпяшаецца Марылька,
сьпяшаецца грунём—
хутчэй, хутчэй прыбегчы
на той аэродром,

дзе стрэнецца—спаткаецца
з Рыгорам дарагім,
дзе шчодрымі пяшчотамі
раскажа аб усім?

Рыхтуецца-хвалюецца,
сьпяшаецца, бяжыць.
О, дзень неспадзяванасьцяй
шматструньнямі зьвініць!..

Таварыш (той, што ў фрэнчы)
за ёй пакорна ўсьлед.
Яна бяжыць-сьпяшаецца,
пад кофтаю пакет.

## XXI

Рашучы дзень! Ажыцьцяўленьне пляна.
(Аўзор рашыў ня йсьціся ў лазарэт).
Гуляюць нэрвы. Губы пакусаны...
Праз шчэлкі вакяніц пралазіць сонца сьвет...

— Прайграю? Што-ж! Згнію у цёмным лесе.
Перамагу? (сьмялей!) Зноў мне мая зямля!
Але свой страх адвагаю закрэсьліў,—
вера ў сілу звонкага рубля.

Шпіёны-наймiты (як чэрві грудзі смокчуць!)
з падходцам, разумеецца, пачнуць:
лісовым шэпатам брахаць на лад рабочы,
на рэволюцыю агіду плётак льлюць.

Дый мала штось ішло на іх спакусы,
хоць і даляр лісьліва шалясьціць.
На скуры на сваёй адчулі беларусы
і як і хто і што—даюць ім у жыцьці.

Сям'я бяз вырадкаў, зазвычай, ня бывае,
знайшліся, што за долерам пайшлі.
І, сёньня, папярэдні Першамая—
як брудна зрадзілі!.. Эх, танныя рублі!

Аўзор здаволены, што тут няма Марылі.
(Купіў ёй падарунак—срэбны бранзалет).
Джон Кейтан прыляцеў. (Апушчаныя крыльлі!..)
— Ці можна быць спакойным за пакет?

Ў выпадку што... Крый божа!.. (Каб ня ўблытаць
толькі Foreign ottise![1]) O,Handsott!..[2])
— Шаноўны мой, усе канцы зарыты,
далонь скрывавіць той, хто схопіць за лязо.

Дзе ваша ўпэўненасьць? Яна вас абароніць
у самы цяжкі час, калі дамо мы кліч
і выступім!
— О, так вы правы. Time is money![3])
Я ня зьбіраюся гасіць узьняты зьніч.

— Паверце мне, што скарбам капітала
мы можам сьвет купіць!
— Дзівосны вы, Аўзор!
— Нязрушны мы, як і нязрушны скалы,
якім гульнёй здаецца люты шторм...

Разьбіўка сіл прайшла ў іх перад бурай
каму завод, каму ўзарваць масты.
Аўзор (знэрвованы) чытае корэктуру—
контррэволюцыйныя лісты.

XXII

За горадам—аэродром.
На аэродроме строй самалётаў.
Марыля прышла, разглядае кругом,—
пілоты праходзяць, ня відна яго,
любага сэрцу пілота.

[1]) Міністэрства замежных спраў Ангельшчыны.
[2]) Рукі прэч.
[3]) Час—гэта грошы.

Яго ня відаць. Мо' спытацца аб ім?
Самой-жа схавацца ў кустох там.
Зьнянацку спужаць (бы ў гушчары лясным),
стуліцца яму на жыцьцё, назусім,
стуліцца на грудзі пілота.

Найшло дзетвары, адганяюць за плот,
а хто іх стрыножыць за плотам?
Як і ў Марылькі, жаданьне прышло,
дый толькі ў дзяцей аглядзець самалёт,
Марылі—сустрэцца з пілотам.

На аэродроме,—як шоўк, трава.
За аэродромам—балота.
— Ці праўда? Няўжо?.. І ў трывозе разваг—
Убачыла... Ён! Баіцца пазваць—
любага сэрцу пілота...

XXIII

...За гарой курганнаю
вырасла каліна.
Любага-каханага
ўбачыла дзяўчына...

Высокі і стройны.
Стройны і горды.
Упэўнена-цьвёрда ступае нага.
Красуе на куртцы чырвоны ордэн,
з правага боку—наган.

...Ля каліны сьцелецца
сонцам пуцявіна.
Клікнуць не асьмеліцца
любага, дзяўчына...

— Зусім стаў інакшым!
Нашто разлучылі?
Пазнаць нават цяжка, зьмяніўся зусім.
І страх за каханьне ўзбудзіўся ў Марылі.
— Змаўчаць? Абыйсьці? Не! Пагутару з ім.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

...Рыгор!.. Ры-горка! (Абое застыглі...)
— Ці праўда?..
Адкуль?
Гэта ты?

...Марыля!
Адзін да другога падбеглі
і слоў
ня стала, няма...
Толькі пеніцца кроў.
Ї ўспыхнулі вочы,
так міла і проста
абняў
лётчык
дзявочую
постаць.
Ї быць не магло,
не магло быць іначай:
злучыў пацалунак—
гарачы,
гарачы...

XXIV

Сонца залівала
рабочыя кварталы.
Лёзунгі, плякаты
з сьцягамі на хатах.
Народ—
бяжыць, сьпяшаецца
ў турботах завіхаецца.
Слупамі пыл віхурыцца
рыхтуецца і вуліца.
Ў сьвяточны выгляд скора
ўбярэцца гулкі горад,
сустрэне змрок маёвы—
электрай каляровай...
Доўга хадзілі... Прыемна было.
Шчасьце ў вачох расьцьвітала.
— Усё расказала,
і ўсё прайшло,
і лёгка на сэрцы стала.

Здаецца цяпер, што балючы такі
той час... пякельнай разлукі,
яго ня было... Ї чакалі бацькі...
(не дасказала—ўнука).

Скромна заплюшчыўшы вочы свае,
зноў-жа,—дзявочая рыска,

ў лёскаце-марах прад ёй паўстае
і ён, і яна, і калыска.

Набраўшы ў сваёй нутраной барацьбе
сілы, сказала з адвагай:
— Сябе зьберагла,
зьберагла для цябе,
ці помніш ты нашу прысягу?..

Рыгорка, мой любы, і ты раскажы,
раскажы—пра сябе што-небудзь.
У Рыгора ў вачох мітульга імжыць:
— Сказаць? А можа ня трэба?

— „Сябе зьберагла,
зьберагла для цябе“,—
магла, як і іншыя сотні,
за хлеб і за цукар, а то й за рубель
глуміцца ў глухіх падваротнях.

Сьціснута сэрца трывогай такой,
бы ў навальнічны вечар.
Думкі ў Рыгора ўзьнялі неспакой
гэтай раптоўнай сустрэчай.

Ні слова Рыгор не сказаў пра жыцьцё,
дый горла сьціскала адразу.
Страшных малюнкаў палотны прасьцёр,—
пра жудасьць вайны ёй расказваў.

Адна старана: адважны герой
за ўладу працоўных над краем.
І болей ні слова.
Ў грудзёх неспакой.
А дзе-ж старана другая?

На мост узышлі задуменна ўдваіх,
абаперліся на парэнчы.
Ліпавай сьцежкаю
(блізка ля іх)
вандруе таварыш у фрэнчы.

Доўга хадзілі... У горадзе гоман.
Сьвяточны настрой, узьняты.
— Дзе ты спынілася?

— Дзе? Вядома,
поруч з табой мая хата.

— Трэба мне, бачыш, на аэродром,
скокні ў гасьцініцу „Францыя“,
а я падыйду да цябе вечарком
і пойдзем
на дэмонстрацыю.

— Добра, ідзі... Ї хвілінаю, зноў
колькі прабегла ільлюзій!
Ї погляд вачэй іх
злучыўся ў адно,
ў адзін моцна-зьвязаны вузел.

— Прыемна цяпер! Вядзеш барацьбу
за сваё на зямлі існаваньне.
Працерпіш і голад,
і гора й журбу
за права ўладаць каханьнем...

Марыля рашыла (тут блізка якраз)
занесьці пакет, разьвязацца...
— За тым—назусім,
на жыцьцё, на ўвесь час
з любым Рыгорам застацца...

Дастала пакет. Вясёлай глядзіць,
як дробна алоўкам напісана:
Садовая вуліца, дваццаць адзін,—
Марку Пятровічу Рысіну.

## XXV

21. Невялікі будынак.
Перад будынкам—аўто-машына.

Падбегла. Стукнула. Скрыпнулі дзьверы.
У пакоі, як пер‘я,
рознай паперы.
Паадчыняны шуфляды у століках,
Людзі узброены.
— Што тут такое?
Простае рэч:
вобыск—і толькі—

у белагвардзейскіх пакоях...
— Хто вы?—спытаўся чэкіст незнаёмы,
— Тут дваццаць першы нумар дома?
Ці можа памылка?
Ў мяне пасылка...

Ружовы пакет узяла рука
прадстаўніка
ЧК.
Пакет абарваў
і толькі глянуў,—
сказаў:
— Вы арыштаваны!

Марыля заплакала, рукі ламае,
просіцца, ў роспачы кленчыць...
Чакісты паперу у скрыню складаюць,
зайшоў і таварыш у фрэнчы—
І праз хвіліну
ўсадзілі ў машыну
усіх адразу
І разам—Марылю.
Час невялікі прышлося чакаць:
Шофэр—за старно!
Шпіёны—ў ЧК!

XXVI

Вільгаць і змрочнасьць.У сэрцы шквал,—
Марыля ў ЧК ў сутарэньні.
За вокнамі чутка бурліць карнавал,
снапы каляровых праменьняў.

Марыля бяз сіл... А каго пазаве?
Хто вызваліць? Хто?.. чарадою—
думкі, як церні:—Ну, што-ж чалавек?
Лёс яго—стаць зямлёю...

Знаёмства заводзіць прайдоха адна
(шпіёнка, шыпіць з абурэньнем):
— Сказал и Толстой ведь когда то нам—
„жизнь—это сон, смерть—пробужденье“.

Над горадам прозалаць вольных зор...
Марыля у сьценах падвала...
Ў гасьцініцу бег, сьпяшаўся Рыгор...
На вуліцы—гул карнавала...

*Працяг будзе*

## КОЛЬКІ ЖЫЦЬ НАМ...

**А. Моркаўка**

Колькі жыць нам! Колькі ў сонцы плаваць,
Сеяць радасьць на шнурах поэм?!.
Тым, хто мэту знае—слава, слава,
Слава тым, хто, гінучы, пяе.

Дні змаганьня, дні вясёлай песьні,—
Плач застаўся ў тоўшчы пірамід.
Знаем, нас ніколі лёс ня песьціў,
Але песьня жыцьцю прагрымі.

Маўр дзьвярмі павінен дзіка бразнуць,—
Наша права, наш сусьвет цяпер...
На палёх неазыяцкіх Азій
Мур складаюць для інакшых эр.

Сьмела, сьмела да вялікай мэты,—
Сэрца бачыць залатую даль,
Новым сонцам будзе сьвет сагрэты,
Рытмам іншым пацячэ вада...

Тым, хто мэту знае—слава, слава,
Слава тым, хто, гінучы, пяе!..
Шчасьце жыць і шчасьце ў сонцы плаваць,
Рассыпаючы агні поэм.

8-XII—28 г.

# ФОРМАЛЬНА-МЭТАФІЗЫЧНАЯ ЛЕГІКА

*(З цыклю „Уводзіны ў філёзофію дыялектычнага матэрыялізму")*

**Б. Быхоўскі**

Сродкам пазнаньня рачаіснасьці зьяўляецца мысьленьне. Правільнае мысьленьне зьяўляецца канечнаю ўмоваю правільнага пазнаньня. Навука а правільнасьці пазнаньня называецца лёгікай. Іначай кажучы, задача лёгікі—устанавіць прынцыпы навуковага пазнаньня, прынцыпы, якія дапамагаюць дасягнуць ісьцінных ведаў і ахоўваюць ад памылковых. У гэтым артыкуле мы пастараемся выясьніць, чаму мы сталі пад сьцяг змаганьня супроць тае лёгікі, якая панавала ў навуцы амаль беспадзельна на працягу больш двух тысяч гадоў, чаму мы стаім пад сьцягам паўстаньня супроць традыцыйнай, школьнай лёгікі, якая панавала ў навуцы сьвядома яшчэ з часоў Арыстоталя.

Каб адказаць на гэта пытаньне, нам трэба будзе падзяліць проблему на дзьве часткі: папершае, чаму мы супроць усякага формалізму ў лёгіцы? Ды таму, што гэту традыцыйную лёгіку, якая мае назву формальнай лёгікі, мы ня прымалі як прынцыповыя супраціўнікі ўсякага формалізму ў лёгіцы. Падругое, нам трэба будзе выясьніць, чаму мы ня лічым магчымым карыстацца прынцыпамі, паложанымі ў аснову традыцыйнай лёгікі, для пабудовы рэальнай, не-формальнай, лёгікі.

Перш чым адказаць на гэтыя пытаньні, трэба будзе выясьніць сэнс ужыванага паняцьця, чаму гэта лёгіка называецца формальнай, што называецца прынцыпам формалізму ў лёгіцы. Я думаю, што гэта пытаньне будзе ясьней, калі замест абстрактных, агульна-тэорытычных разважаньняў, мы праілюструем некалькі простых наглядных прыкладаў, якія пакажуць, што складае формальны крытэры ісьціннасьці і памылковасьці нашых разважаньняў. Падам некалькі простых прыкладаў, якія памогуць выясьніць, што называецца правільным, ісьцінным, з пункту гледжаньня школьнай, формальнай лёгікі, якая нас цікавіць.

Усе настаўнікі пісьменныя. Сідараў—настаўнік, стала быць,—Сідараў пісьменны.

Вось тыповае розумазаключэньне, пабудаванае паводле ўсіх правіл гэтай традыцыйнай лёгікі. Тут мы маем два выходныя моманты: папершае, тое, што ўсе настаўнікі пісьменныя і, падругое, што Сідараў — настаўнік; адсюль робіцца правільны з пункту гледжаньня формальнай лёгікі вывад, што, стала быць, Сідараў—пісьменны. Каб выясьніць, што

тут называецца правільным і што называецца няправільным, возьмем другі прыклад. Усе настаўнікі няпісьменныя, Сідараў—настаўнік, стала быць,—Сідараў няпісьменны. Ці будзе гэта розумазаключэньне ісьцінным, правільным, з пункту гледжаньня формальнай лёгікі? Так, будзе ісьцінным, правільным, бо, калі ўсе настаўнікі няпісьменныя, а Сідараў—настаўнік, то адсюль няўхільна вынікае, паводле ўсіх правіл гэтай лёгікі, што Сідараў—няпісьменны.

Як бачыце, у даным выпадку формальную лёгіку зусім ня цікавіць пытаньне, правільныя ці няправільныя палажэньні па сутнасьці. Ці будзе правільным тое, што ўсе настаўнікі пісьменныя, ці тое, што ўсе настаўнікі няпісьменныя,—гэтым формальная лёгіка ня цікавіцца. Задача формальнай лёгікі—устанавіць унутраную правільнасьць розумазаключэньня, гэта значыць, *калі* выходнае палажэньне правільна, то якім чынам трэба тады разважаць, каб прыйсьці да правільных вывадаў; што-ж датычыцца таго, ці адпавядаюць *рачаіснасьці* самі выходныя палажэньні, то гэтай праблемы формальная лёгіка не закранае,—яна па-за сфэрай яе компэтэнцыі.

Яшчэ некаторыя прыклады. Возьмем такое (абсурднае з нашага пункту гледжаньня) розумазаключэньне:

усе бальшавікі вераць у бога (выходнае палажэньне);

рымскі папа—бальшавік (другое палажэньне—другая недарэчнасьць); адсюль няўхільна, з усіх правіл формальнай лёгікі вынікае вывад, што

рымскі папа верыць у бога.

Гэта розумазаключэньне абсолютна правільна з пункту гледжаньня тых палажэньняў, якімі карыстаецца формальная лёгіка, бо формальную лёгіку цікавіць зусім ня *зьмест* гэтых сьцьвярджэньняў, а ўнутраная сувязь, што існуе паміж выходнымі палажэньнямі, пасылкамі і заключэньнем у гэтым розумазаключэньні.

Паданы мною прыклад характарны яшчэ і вось з якога боку: тут відаць, што няма канечна патрэбнай і сталай сувязі паміж выходнымі пасылкамі розумазаключэньня і вывадамі яе. Можна было-б падумаць, што *калі* выходнае палажэньне будзе правільна, то формальная лёгіка, прынамсі, будзе няўхільна прыходзіць да правільнага вываду, калі выходнае палажэньне будзе няправільна, то вывад няўхільна будзе няправільны. Толькі што паданы мною прыклад паказвае, што зьмест выходнага палажэньня можа быць па сутнасьці зусім няправільным, а вывады, зробленыя з яго паводле ўсіх правіл формальнай лёгікі, могуць быць правільнымі,—бо вывад, што рымскі папа верыць у бога, па сутнасьці правільны, хоць асноўныя пасылкі і абсурдны.

Такім чынам, формальная лёгіка зусім не дае гарантыі таго, што калі мы давялі няправільнасьць выходнага палажэньня, то гэтым самым абвяргаецца *па сутнасьці* і вывад, зроблены на падставе гэтага палажэньня.

Каб ясна ўявіць сутнасьць формальна лёгічнага крытэрыю, я падам апошні прыклад, які будзе прыкладам няправільнага розумазаключэньня

з пункту гледжаньня формальнай лёгікі. Усе тры паданыя прыклады былі правільны: першы правільны са ўсіх пунктаў гледжаньня—і формальна, і па зьместу; другі быў правільны толькі формальна, але выходзіў з няправільных пасылак; паданае мною трэцяе розумазаключэньне было правільна па зьместу ў сваіх вывадах і правільна формальна, але зроблена з няправільных па зьместу абодвух сваіх выходных палажэньняў.

Нарэшце, чацьверты прыклад будзе прыкладам няправільнага, з пункту гледжаньня формальнай лёгікі, розумазаключэньня. Усе настаўнікі пісьменныя, Сідараў—пісьменны, стала быць, Сідараў—настаўнік. Гэта розумазаключэньне няправільна, памылкова, з пункту гледжаньня формальнай лёгікі. Чаму? Тое, што ўсе настаўнікі пісьменныя, гэта па сутнасьці правільна; тое, што Сідараў пісьменны, таксама правільна; тое, што Сідараў—настаўнік, гэта таксама, магчыма, правільна па зьместу. Але тут няправільна ўжыты словы „стала быць". Аб тым, што Сідараў—настаўнік, зусім нельга сказаць з паданай мною пасылкі. Сапраўды, там сказана аб тым, што ўсе настаўнікі—пісьменныя, але ня было сказана, што ўсякі пісьменны—настаўнік. З таго, што ўсе настаўнікі пісьменныя і Сідараў пісьменны, зусім нельга рабіць вываду, што Сідараў—настаўнік. Калі-б мы сказалі наадварот, што Сідараў—настаўнік, то адсюль вынікала-б, што ён—пісьменны.

Я падаў гэты прыклад, каб паказаць, што крытэры формальнай няправільнасьці іісьціннасьці зусім адрозьніваецца ад таго, што мы звычайна называем ісьцінным ці памылковым. У даным выпадку ўсе тры зьвяны гэтага розумазаключэньня, абедзьве выходныя пасылкі і вывад, зроблены з іх, па сутнасьці правільныя, адпавядаюць рачаіснасьці, сувязь-жа паміж імі няправільная; зробленае заключэньне ня мае выстарчальных падстаў, яно ніяк не вынікае з выходных пасылак.

Якія мы цяпер можам зрабіць вывады аб тым, што называецца формалізмам у лёгіцы? Вачавідна, формальную лёгіку зусім ня цікавіць пытаньне, ці адпавядае розумазаключэньне рачаіснасьці. Формальная лёгіка зусім ня цікавіцца зьместам тых суджэньняў, якімі яна опэруе, яе цікавіць толькі ўнутраная сувязь паміж паасобнымі зьвенамі ў ланцугу разважаньняў. Для формальнай лёгікі ўсё роўна, для яе ня важна, якавы зьмест таго, што гаворыцца ў заключэньні; для яе мае істотнае значэньне выключна знадворная, формальная сувязь.

Які вывад просіцца адсюль сам па сабе? Адсюль няўхільна просіцца сам па сабе той вывад, што калі-б нават тыя прынцыпы, якімі кіруецца формальная лёгіка, былі зусім правільныя (далей мы пакажам, што яны зусім няправільныя), то формальная лёгіка—зусім невыстарчальнае вучэньне аб правільным мысьленьні, бо яна разглядае толькі адзін яго бок, знадворную формальную сувязь у разважаньні, але яе трэба дапоўніць. Самага важнага формальная лёгіка не дае. Каб выканаць сваё навуковае прызначэньне, яна павінна цікавіцца зьместам суджэньняў, правільнасьцю розумазаключэньня па сутнасьці, бо гэта зьяўляецца самым

важным і вырашальным у процэсе ўсякай мысьліцельнай дзейнасьці, мэтаю гэтай дзейнасьці.

Такім чынам, калі-б формальная лёгіка і была абсолютна дакладнай, то яе, ва ўсякім выпадку, было-б зусім замала. Яе трэба было-б дапоўніць якой-небудзь іншай лёгікай, якую мы ў процівагу формальнай будзем называць рэальнай лёгікай. Формальную лёгіку трэба было-б уключыць, як разьдзел, у больш шырокую лёгіку, паколькі яна зусім ня вычэрпвае задачы стварэньня вучэньня аб правільным мысьленьні, бо для правільнасьці мысьленьня замала разглядаць яго толькі ў адносінах формальнай узаемасувязі сказаў,—патрэбен і аналіз зьместу.

Пяройдзем да другога пытаньня. Уся школьная лёгіка пабудавана на трох вядомых законах. Падобна таму, як геомэтрыя грунтуецца на некалькіх аксіомах, з якіх потым дэдукцыйным шляхам выводзіцца ўся безьлічная рэшта тэорэм, формальная лёгіка таксама карыстаецца некалькімі выходнымі, якія не патрабуюць доказу і нібы не выклікаюць сумненьня, аксіомамі; на гэтых аксіомах формальная лёгіка будуе ўсе свае конструкцыі. Таму я ня буду разглядаць усіх вывадаў гэтай лёгікі, усяго ланцуга яе разважаньняў, а абмяжуюся толькі разглядам тых аксіом, на якіх пабудавана формальная лёгіка, і будынак якое падае, калі падаюць яны.

Гэтыя законы ці аксіомы, як вядома, такія: першы з іх, *закон тожсамасьці,* кажа: *A* роўна *A*, ці—рэч тожсама самой сабе, г. зн. стол ёсьць стол, чалавек ёсьць чалавек. Другі закон, гэта — *закон супярэчнасьці*, які кажа: *A* ня ёсьць *ня-A*, гэта значыць, даная рэч не зьяўляецца чымсьці іншым, скажам, стол ня ёсьць ня-стол, чалавек ня ёсьць не-чалавек, а толькі чалавек. Трэці закон, *закон выключанага трэцяга*, які кажа ў альгебраічнай формулёўцы: *A* ёсьць ці *B* ці *ня-B*, гэта значыць, даная рэч ёсьць ці стол ці ня-стол, але адно з двух і толькі адно з двух, абавязкова.

Гэтыя тры асноўныя законы, на якіх грунтуюцца ўсе пабудаваньні традыцыйнай лёгікі, як вы, мусіць, ужо заўважылі, непадзельна зьвязаны адзін з другім. Кожны з іх дапаўняе другі, прадпалагае другі. Тое, што *A* ёсьць *A* дапаўняецца тым, што *A* ня ёсьць *ня-A* і г. д.

Супроць такіх простых і ясных саміх па сабе законаў як быццам і сьмешна пярэчыць; гэта аж занадта вачавідныя ісьціны. Але самавачавіднасьць гэтых аксіом лёгікі толькі ілюзія з павярхоўнага погляду. Пры больш блізкім разгляданьні гэтых законаў формальнай лёгікі мы ўбачым, што самавачавіднасьць іх і бязумоўная верагоднасьць надта няпэўная, і, ва ўсякім выпадку, пра абсолютную правільнасьць гэтых тэорэм мы ня маем ніякага права гаварыць.

Прыгледзімся бліжэй, у чым тут справа, у якіх рамках, у якіх межах правільны гэтыя аксіомы і дзе яны нас пачынаюць не задавальняць. Я ня зьбіраюся сьцьвярджаць, што яны абсолютна няправільны; у нейкай меры, часткова, яны правільны.

Возьмем закон тожсамасьці, які кажа, што рэч роўна самой сабе. Ці мае які-небудзь сэнс гэты закон, калі гаварыць пра рэч у розныя часы? Калі гаварыць, што даны прадмет тожсамы самому сабе, то, вачавідна, гэта мае сэнс толькі ў межах аднаго якога-небудзь моманту, аднаго ўстойлівага мінімальнага адрэзку часу, бо ў розныя часы даны прадмет, вачавідна, ня будзе самім сабою, ён зьменіцца, ён будзе адрозьнівацца ад свайго папярэдняга стану. Вось першае абмежаваньне, якое мы робім; закон тожсамасьці, вачавідна, разьлічаны на тое, каб браць прадмет ня ў розныя моманты, а ў адзін пэўны момант часу; для не аднаго і таго самага моманту ён не гадзіцца. Чалавек, Беларусь, сьвет самі сабе ў розныя часы ня тожсамыя.

Другі закон, закон супярэчнасьці, кажа, што даная рэч ня ёсьць іншая рэч, ці—*A* ня ёсьць *ня-A*. Калі праверым гэта палажэньне на прыкладах, прыстасуем гэты прынцып да конкрэтных выпадкаў, якія спатыкаюцца ў нашай мысьліцельнай дзейнасьці, то які будзе вынік? Ці правільна, што дабро ня ёсьць не-дабро? Вачавідна, правільна, але з некаторым абмежаваньнем—калі мы будзем разглядаць дабро ў адным якім-небудзь сэнсе, толькі ў адных якіх-небудзь адносінах. Дабро можа быць разам з тым і не-дабром у адносінах да каго-небудзь іншага, у другіх якіх-небудзь адносінах; тое, што для мяне дабро, можа быць разам з тым і не-дабром для другога. Калі возьмем такі прыклад: перамога ня ёсьць не-перамога. Гэта, як быццам, таксама верна, але толькі ў адных адносінах, бо ўсякая перамога аднаго будзе няўхільна разам з тым паражэньнем, з пункту гледжаньня пераможанай стараны. Такое перамогі якая ня была-б разам з тым і паражэньнем другое стараны, нельга ўявіць сабе. Перамога заўсёды ёсьць і не-перамога, што супярэчыць другому закону формальнай лёгікі. Гэтым не даводзіцца, што гэты другі закон абсолютна няправільны, але тое толькі, што ў стасунку да яго патрэбна значнае абмежаваньне, патрэбна паказаньне на тое, што гэты закон правільны толькі ў межах адных якіх-небудзь адносін, што ён мае сэнс, калі абстрагавацца ад іншых адносін, адцягнуцца ад іншых сувязяй прадмету.

Тут увесь час ужываецца выражэньне *„ня-A“*. Гэты тэрмін азначае ў формальнай лёгіцы, што даная рэч ня ёсьць штосьці іншае. Але слова „не“ можа мець два сэнсы: яно можа паказваць на тое, што даная рэч ня можа быць *чым хочаш* іншым, усім, што ня ёсьць *A;* напрыклад, калі даны стол чырвоны, то „ня-чырвоны“—гэта значыць усё, што хочаш, апрача чырвонага: круглы, высокі, дарагі,—усё гэта ня-чырвоны. Калі *„ня-A“* так разумець, то закон супярэчнасьці няправільны, і пры такім разуменьні гаварыць, што чырвоны ня ёсьць ня-чырвоны, будзе няправільна, бо чырвоны зусім не выключае таго, што даная рэч можа быць і высокай, і круглай, і г. д. Гэты закон будзе правільны, вачавідна, у іншым сэнсе, гэта значыць, калі паняцьце *„ня-A“* ўжываць ня ў сэнсе ўсякага адрозьніваньня, а як супроцьлегласьць, г. зн. пад „не“ разумець

тое, што супроцьлегла, антагоністычна чырвонаму, касуе, выключае яго. Ня-чырвоны—значыць ці сіні, ці зялёны, але ня значыць высокі ці круглы. Калі мы кажам: гэты чалавек—ці комуністы, ці не-комуністы, і калі пад не-комуністы разумець усё, што хочаш, апрача „комуністы", напр., журналісты, філёзоф, кравец, то гэта палажэньне няправільна; калі-ж пад словам комуністы разумець паняцьце антагоністычнае „комуністаму", то гэта палажэньне нібы правільнае, бо нельга ў адзін і той-жа час быць і комуністым і не-комуністым. Але калі *„ня-А"* разумець так, то з гэтага вынікае няправільнасьць установкі гэтага лёгічнага закону. Рэч ня ёсьць нешта іншае, што мае на ўвазе той выпадак, калі гэта іншая рэч—дыямэтральна супроцьлегла. Але пра супроцьлегласьць рэчаў, наўпрэкі формальнай лёгіцы, мысьліцца, што яны належаць да аднаго і таго самага *роду*. Гэты чалавек комуністы, і ён-жа—журналісты,—гэта паняцьці ня супроцьлеглыя, а паняцьці celoga рознага роду. Комуністы—паняцьце, якое паказвае на палітычныя погляды чалавека, журналісты—паняцьце іншага роду, якое мае на ўвазе яго профэсію. Калі мы кажам, што гэта рэч чырвоная ці ня-чырвоная, разумеючы пад гэтым апошнім—сіняя ці белая, то ў гэтым выпадку гэта будуць паняцьці супроцьлеглыя і становяць сабою розныя віды аднаго і таго самага роду—адменнасьці колеру. Калі мы разглядаем паняцьце супроцьлеглае „комуністаму", то гэта паняцьце будзе адносіцца не да роду колераў, а супроцьлеглае ў адных і тых-жа самых адносінах (палітычныя пераконаньні), аднароднае, суадноснае.

Адсюль вынікае, што трэба абмежаваць закон супярэчнасьці і з другога боку. Калі па закону супярэчнасьці даная рэч ня можа быць адначасна сваёй супроцьлегласьцю, то мы павінны дадаць, што рэчы могуць лічыцца супроцьлеглымі толькі ў тым выпадку, калі яны належаць да аднаго і таго самага роду. А гэта значыць, што рэч, каб быць супроцьлеглай, павінна быць і аднароднай, што супярэчыць таму прынцыпу, які мы тут разглядалі, бо гэты прынцып сьцьвярджае абсолютную супроцьлегласьць—што *А* ня ёсьць *ня-А*. Такім чынам, для таго, каб рэч была супроцьлегла другой рэчы, яна павінна быць аднаго роду з гэтай рэччу, г. зн. супярэчнасьць сваім адваротным бокам ёсьць тожсамасьць. Вось чаму і для другога закону патрэбны абмежаваньні, а ў тэй абсолютнай форме, як яго падае формальная лёгіка, ён няправільны.

Разгледзім трэцюю аксіому—закон выключанага трэцяга. Гэта найгоршая з формул формальнай лёгікі, найбольш няправільная, няпрыймальная з нашага пункту гледжаньня, найбольш шкодная сваімі вынікамі. Гэта формула кажа, што даная рэч абавязкова ці *А* ці *ня-А*. Калі разумець *ня-А* як супроцьлегласьць, як мы ўмовіліся, у сэнсе антагоністычным, то гэта палажэньне няправільна. Зусім не абавязкова, каб даны прадмет быў аднэй з крайніх супроцьлегласьцяй. Такая пастаноўка пытаньня выключае магчымасьць усякіх сярэдніх, паміжлеглых палажэньняў. Зусім не абавязкова, напр., каб той ці іншы чалавек быў або дурным або разумным. Ён можа быць дурнаватым, ня надта разумным, звычай-

ным. Не абавязкова быць лысым ці кучаравым. Стан паміж крайнасьцямі гэтай формулай адмаўляецца. Рэч-жа можа быць ні $A$, ні $B$, сярэдзінка ў палавінцы.

Калі даную формулу ўжываць і ў сэнсе шырокага адрозьніваньня, а ня ў сэнсе супроцьлегласьці, то і тады справа не палепшыцца. Той ці іншы чалавек ні дужы, ні ня-дужы, а, скажам, разумны. Зноў такі гэта зусім не абавязкова. Ён можа быць адначасна і дужым і разумным. Жалеза—ці мэталь, ці не-мэталь. Але жалеза і мэталь і тавар (а тавар—не мэталь).

Такім чынам, калі карыстацца формулай у сэнсе супроцьлегласьці, то яе трэба выправіць; калі-ж яе ўжываць у сэнсе адрозьніваньня, то патрэбны корэктывы.

Трэба сказаць, што гэту формулёўку „або—або" зусім нельга прыняць у цэлым радзе суджэньняў таму, што можна сказаць наадварот: „ні—ні", г. зн., што даная рэч ёсьць ні тое ні другое, або: „і—і", г. зн., што даная рэч ёсьць і тое і другое.

Падам, напр., трохі фантастычнае суджэньне: „гэта паданае мною розумазаключэньне—ці зялёнае, ці не-зялёнае". Я кажу, зразумела, па сутнасьці бязглузьдзіцу, але па закону выключанага трэцяга яно павінна быць абавязкова ці зялёнае, ці не-зялёнае, г. зн. ці сіняе, ці чырвонае ці якога-небудзь іншага колеру. Але розумазаключэньне ня можа быць ні зялёнае, ні чырвонае, яно наогул ня можа мець які-б то ні было колер.

Другі прыклад: бог ці літасьцівы ці не-літасьцівы, але адно з іх павінна быць абавязкова правільным. Але мы з вамі ня можам згадзіцца ні з тым ні з другім сьцьвярджэньнем. Ня можам згадзіцца нават з формулай „і літасьцівы і не-літасьцівы" (гледзячы калі, да каго), а толькі „ні—ні".

Гэтымі прыкладамі выразна выяўлены формалізм разгляданай лёгікі. Гэта лёгіка зусім ня цікавіцца зьместам суджэньня; прынцыпы формальнай лёгікі не вынікаюць са зьместу суджэньня, а накладаюцца на яго звонку. „Стол—ці соцыялісты ці не-соцыялісты". Вось дзе выяўляецца, што формы традыцыйнай лёгікі пазбаўлены зьместу, лёгічны формалізм ня прыдатны для пабудовы розумазаключэньня.

Як бачыце, усё гэта ня ўкладваецца ў рамкі разгляданага закону. Калі вы спытаеце аб нашым Савецкім Саюзе—соцыялізм у нас, ці несоцыялізм, то, па закону выключанага трэцяга, павінна быць што-небудзь адно: ці соцыялізм, ці не-соцыялізм, а мы кажам, што ў нас і соцыялізм і не-соцыялізм, і формальная лёгіка пераканаць нас ня можа.

Паданае вышэй паясьненьне таго, што няма супроцьлегласьці там, дзе няма адзінства, зьяўляецца вельмі яскравым прыкладам: супроцьлегласьць, наўпрэкі закону выключанага трэцяга, не выключае адзінства, а прадпалагае яго.

Якія вывады можна зрабіць наконт лёгікі, аксіомы якой мы разглядалі? Тое, што яна *абсолютна* няправільна—сказаць нельга. У пэўных

межах яна, вачавідна, правільна. У якіх гэта выпадках? Тады, калі мы будзем разглядаць рэч ня ў часе, не ў яе разьвіцьці, а ў пэўны фіксаваны мінімальны адрэзак часу, калі мы забудзем пра процэс зьмены і будзем разглядаць рэчы толькі ў іх нязьменнасьці, нязрушнасьці, у даны момант,—у такіх выпадках гэтай лёгікай карыстацца можна; калі мы даную рэч будзем разглядаць ня ў безьлічы яе сувязяй і шматлікіх яе суадносінах са сьветам, а ў адных якіх-небудзь адносінах, з аднаго абмежаванага пункту гледжаньня, абстрагуючыся ад усіх сувязяй яе з іншымі рэчамі, тады гэта лёгіка будзе правільная; калі, кажучы аб супроцьлегласьцях, мы будзем мецьсправу з абстрактнай супроцьлегласьцю, абстрагаваўшыся ад таго адзінства, якое зьяўляецца канечным адваротным бокам усякай супроцьлегласьці, а кажучы аб тожсамасьці, будзем гаварыць аб абстрактнай тожсамасьці, якая выключае ўсякія адрозьніваньні і супроцьлегласьці,—у гэтых выпадках фармальная лёгіка будзе правільная. Бо калі закон тожсамасьці формулюе адзін бок адносін, а закон супроцьлегласьці—другі, то закон выключанага трэцяга сьцьвярджае разрозьненасьць абодвух гэтых бакоў, іх несумяшчальнасьць. У межах рэчаў інэртных, ізоляваных, у межах рэчаў адцягненых ад безьлічы сувязяй паміж сабою і залежнасьці ў межах абстрактных палажэньняў, у межах сьвету закаранелага, сьвету застыглага, разарванага, скалечанага,—у межах такога сьвету для гэтай лёгікі няма перашкод.

Граніцай правільнасьці, ісьцінnасьці, ужывальнасьці аксіом фармальнай лёгікі зьяўляецца закаранеласьць сьвету, яго інэртнасьць. Гэтай лёгікай уцалку можна карыстацца для пазнаньня такога мёртвага, абстрактнага сьвету. Але ці існуе такі сьвет? Або, больш правільна, ці такі існуючы сьвет? Бо калі рэальны сьвет, які мы стараемся пазнаць сваім мысьленьнем, не такі, то разгляданая лёгіка—нічога нявартая, бескарысная лёгіка. Фармальны мэтод пазнаньня сьвету—гэта такія прынцыпы мысьленьня, якія канечна робяць дапушчэньне, што сьвет разарваны, застыглы, скалечаны; гэтыя прынцыпы разглядаюць сьвет па-за рухам яго жыцьця, па-за шматлікасьцю яго сувязяй, па-за складаным адзінствам супроцьлегласьцяй, конфліктаў, супярэчнасьцяй і г. д. Усяго гэтага традыцыйная лёгіка ня можа ахапіць, усё гэта знаходзіцца па-за межамі яе дасягальнасьці. Калі карыстацца гэтай лёгікай, то пазнаць дынамічны і супярэчлівы сьвет немагчыма, бо дынамізм і супярэчлівасьць для яе—„адвечныя сілы" па сваёй прыродзе. Імкнуцца пазнаць рэальны сьвет з дапамогай фармальнай лёгікі, якая выключае пазнаньне яго ў рэальнай паўнаце, магчыма таксама, як вычарпаць рэшатам мора.

Але калі традыцыйная лёгіка разьлічана на статычны сьвет, калі ёю можна карыстацца толькі пастолькі, паколькі яе об'екты інэртныя і мёртвыя, то, будучы прыстасавана да сьвету сапраўднага, зьменлівага і супярэчлівага, яна *прадстаўляе* яго скажана, скрыўлена. Калі яна разглядае сьвет, які ня ўкладваецца ў яе рамкі такім, якім ён зьяўляецца, то яна, традыцыйная лёгіка, калечыць яго, гвалціць, паказваючы яго

няправільна. Яна *ператварае* сьвет у мёртвы і пляскаты; калі ён ня ўкладваецца ў формальна-лёгічныя рамкі—тым горш для яго. Удасканальваюцца ня формы мысьленьня, якія адпавядалі-б яго задачам, а самі задачы абвяшчаюцца памылковымі. Лёгіка з вучэньня аб правільным мысьленьні ператвараецца ў папераджальны сродак ад правільнага мысьленьня, ператвараецца ў базіс скажанага, няправільнага сьветаразуменьня.

Такім чынам, лёгічныя аксіомы, якія на першы погляд здаюцца самавачавіднымі, патрабуюць сапраўды вельмі і вельмі вялікіх карэктываў, радыкальнай пераацэнкі, і хто захацеў-бы паплысьці па бурным моры пазнаньня на формальна-лёгічным чаўне, няўхільна трапіць і сядзе на мялізну формалізму і мёртвых абстракцый.

Нас могуць упікнуць у тым, што мы разглядалі лёгічныя аксіомы не як формальныя, якія адносяцца толькі да сувязі мысьляй паміж сабою, а як прынцыпы існаваньня сьвету, як рэальныя. Аднак, такое пашыральнае іх разуменьне ўласьціва шмат якім выдатным прадстаўніком традыцыйнай лёгікі. Апрача таго, мы далей пакажам, чаму—незалежна ад волі лёгікаў—гэтыя прадстаўнікі ня могуць ня скочвацца да ахарактарызаванага вышэй сьветаразуменьня.

Але раней паглядзім, да чаго прыводзіць строгая пасьлядоўнасьць у формальным разуменьні гэтых аксіом, пераконаньне ў тым, што яны рачаісны толькі як прынцыпы мысьленьня, як нормы правільнага разважаньня. Пры такім, абмежавальным, іх разуменьні гэтыя аксіомы значаць, што паняцьце павінна быць тожсамым ва ўсім працэсе разважаньня (закон тожсамасьці) і г. д.

Паглядзім, ці могуць гэтыя прынцыпы (калі строга іх прытрымлівацца) быць прынцыпамі мысьленьня. Гэгель правільна заўважыў, што калі строга кіравацца прынцыпамі гэтакай лёгікі, то наогул мысьліць перастанеш, што мысьліць паводле гэтых прынцыпаў зусім нельга. Сапраўды, чаго варта суджэньне, у якім тое, што гаворыцца аб прадмеце, будзе пераказам таго-ж, аб чым гаворыцца? Які сэнс будзе ў разважаньні: *А* ёсьць *А*, стол ёсьць стол? Ці можна мысьліць, кіруючыся такім прынцыпам? Сутнасьць бо разважаньня становіць тое, што аб прадмеце разважаньня трэба сказаць штосьці новае, чаго ня было спачатку ў самым яго паняцьці. Лёгіка абсолютнае тожсамасьці выключае магчымасьць чаго-небудзь новага ў выніку мысьленьня, бо яна вымагае, каб лёгічны выказьнік быў тожсамы з дзейнікам, каб не пашыраў яго. Але калі кіравацца такімі нормамі, то лёгічныя памылкі рабіць нельга толькі таму, што гэтыя нормы—гэта правілы спыніць мысьленьне.

Вось што пісаў Гэгель наконт таго, што формальная лёгіка, калі яе строга прытрымлівацца, няўхільна прыводзіць да нуднае таўтолёгіі, да бяссэнсоўнае гутаркі, што масла—масьлянае. „Калі, напр., на пытаньне: што такое расьліна—даецца адказ: расьліна ёсьць расьліна, то ўсё грамадзтва, на якім выпрабоўваецца ісьціннасьць гэтага сказу, зараз-жа згодзіцца з гэтым і разам з тым скажа, што гэтым нічога ня сказана.

Калі хто-небудзь адчыніць рот, каб сказаць, што такое бог, і скажа, што бог ёсьць бог, то гэта нікога не задаволіць, бо чакалі *рознага* азначэньня; і калі гэты сказ абвяшчаецца абсолютнаісьцінным, то такой гутарцы цана невялікая; няма нічога больш нуднага і надаедлівага, як гутарка, якая паражоўвае адно і тое самае і выдаецца за гутарку, якая павінна быць ісьцінаю".

У другім месцы Гэгель выказаў гэту самую думку наступнымі словамі: „Калі кажуць, што гэты закон (гутарка ідзе аб законе тожсамасьці) ня можа быць даведзены, але ўсе мысьляць згодна з гэтым законам і бесьпярэчна згаджаюцца з ім, дзеля таго што дасьведчаньне сьцьвярджае яго, то патрэбна сказаць, што гэтае дасьведчаньне школы супярэчыць агульнаму дасьведчаньню, бо няма чалавека, які-б мысьліў, уяўляў ці гаварыў паводле гэтага закону, і няма рэчы, якога-б роду яна ні была, якая існавала-б адпаведна яму. Выражэньні, якія грунтуюцца на гэтым уяўным законе, як, напр., плянэта ёсьць плянэта, магнэтызм ёсьць магнэтызм, дух ёсьць дух,—справядліва лічаць за бязглузьдзіцу. Вось што паказвае агульнае дасьведчаньне. Школа, якая адна дапушчае такія законы, і лёгіка, якую яна сур'ёзна выкладае, даўно страцілі давер'е здаровага сэнсу, таксама як і розуму.

Калі-б гэта было так, то мысьленьне было-б самым бескарысным і нудным заняткам. Зразумела, паняцьце і ідэя тожсамы з сабою, але, у той-жа самы час, гэтыя абсолютныя формы мысьлі маюць у сабе розьніцу.

У паданых цытатах гутарка ідзе аб суджэньні: плянэта ёсьць плянэта, стол ёсьць стол. Але сказанае можна дапасаваць і да розумазаключэньня. І яны, калі кіравацца формальна-лёгічнымі крытэрыямі, ня могуць быць прынцыпам прогрэсу мысьленьня, прынцыпам пазнаваньня чагосьці новага, руху мысьлі наперад. Усякае розумазаключэньне, пабудаванае паводле гэтых прынцыпаў, формальна ня выводзіць нас за межы таго, што ўжо вядома, яно застаецца ў рамках таўтолёгіі. Мы мелі, напр., выходнае палажэньне, што ўсе настаўнікі пісьменныя, а вывад, што Сідараў—настаўнік, робіцца на аснове таго, што ён пісьменны. Але выходным палажэньнем было, што *ўсе* настаўнікі пісьменныя, стала быць, мы гэтым наперад сьцьвярджаем, што і Сідараў, і Пятроў, і ўсякі іншы настаўнік—пісьменныя: аб вывадзе было сказана ўжо самай пасылкай. Наадварот, уявім сабе, што настаўнік Сідараў няпісьменны; ці маем мы права сьцьвярджаць, што *ўсе* настаўнікі пісьменныя, калі яшчэ невядома, ці пісьменны настаўнік Сідараў? Калі-б мы праканаліся, што настаўнік Сідараў няпісьменны, наша агульнае выходнае палажэньне было-б няправільна.

Такім чынам, мы кружымся ў коле. Канечныя вывады залежаць ад выходных пасылак, у гэтых выходных палажэньнях наперад ужо зьмешчана ўсё тое, што дадзена ў канечных вывадах, і ў той-жа час самі выходныя пасылкі залежаць ад вывадаў. Мы кружымся, як вавёрка ў коле, і ня можам выбрацца за межы вядомага. Мы ў розумазаключэньні

не дасягаем новага, бо вывад ня можа зьмяшчаць у сабе нічога новага звыш таго, што дадзена ў пасылках; больш таго, вывад разумеўся сам па сабе, як пасылка самых пасылак [1]).

Нам могуць сказаць, што ўся наша аргумэнтацыя правільна толькі ў стасунку да таго кірунку ў формальнай лёгіцы, які натуральна тлумачыць яе прынцыпы, пашыраючы іх на быцьцё, але не закранае другога кірунку ў ёй, які аб гэтых законах гаворыць больш памяркоўна і абмяжоўвае іх ужываньне. Паводле гэтага разуменьня, законы формальнай лёгікі—гэта толькі тэхнічныя правілы самага мысьленьня.

У процэсе нашага мысьленьня ўжываныя намі паняцьці павінны ўвесь час захоўваць адзін і той-жа самы сэнс—вось у чым сэнс закону тожсамасьці з гэтага пункту гледжаньня. Гэта як быццам законнае і элемэнтарнае правіла мысьленьня. І тым ня менш і такая формулёўка формальнай лёгікі ня можа нас задаволіць, і ў стасунку да яе застаецца правільным палажэньне, што зьверыцца зусім на формальную лёгіку—значыць перастаць мысьліць.

Сапраўды, у чым сэнс процэсу мысьленьня? У тым, што бярэцца якое-небудзь паняцьце, і мысьленьне опэруе надім для таго, каб у процэсе гэтага разважаньня гэта паняцьце пашыралася, раскрывалася, рабілася багацейшым. Чаго варта было-б такое разважаньне, пасьля якога паняцьце засталося-б тым-жа, чым і ў пачатку разважаньня? Такое разважаньне ня мела-б сэнсу, карысьці. Калі-б паняцьце формальнай лёгікі, аб якім ідзе гутарка, увесь час захоўвалася, як тожсамае, то ня варта было-б і пачынаць гутарку. Бо мэта гэтага абмеркаваньня—перапрацаваць у поглядах чытача паняцьце формальнай лёгікі,ператварыць яго з беднага зьместам, туманнага, ва ўсё больш і больш выразнае, зьмястоўнае, аціненае. З кожным крокам разважаньня, з кожнай старонкай, ранейшае паняцьце павінна зьмяньвацца, забабоны ў адносінах да формальнай лёгікі павінны расьсейвацца і г. д. Мысьленьне ёсьць перапрацоўка мысьлімых паняцьцяў, а стала быць—і зьмена іх. Там, дзе паняцьце застаецца тожсамым, там няма прогрэсу мысьленьня.

Сутнасьць процэсу пазнаньня ў тым, каб бязупынна паглыбляць, пашыраць паняцьці, выходзіць за рамкі ранейшых паняцьцяў. Вось чаму нас ня можа задаволіць і абмежавальнае тлумачэньне разгляданых намі прынцыпаў, і мы думаем, што формальная лёгіка-навука не аб правільным мысьленьні, а, будучы даведзена да сваіх пасьлядоўных вывадаў, навука, як спыніць мысьленьне.

---

[1]) Сказаным аб сілёгізьме я ні ў якім разе не згаджаюся з Мілем, бо для апошняга вялікая пасылка была толькі эмпірычным абагульненьнем; катэгорыя *канечнасьці*, якая можа зьмяшчацца ў ёй, Мілем ня ўлічваецца. А іменна яна надае сылёгізму рэальную мэтодолёгічную значымасьць. Але канечнасьць і законамернасьць—гэта катэгорыі, якія выходзяць за межы формальнай сылёгістычнай лёгікі; вось чаму сваімі ўласнымі сродкамі яна ня можа перамагчы крытыкі Міля. Каб перамагчы апошнюю, формальная лёгіка павінна перамагчы сябе самую. У гэтакім сэнсе трэба разумець сказанае ў тэксьце.

У процівагу прынцыпу тожсамасьці паняцьцяў, які абвяшчаецца формальнай лёгікай, мы паказвалі на зьменлівасьць, супярэчлівасьць, якая характарызуе жыцьцё паняцьцяў. Было-б, аднак, няправільна адмаўляць усякі *элемэнт* тожсамасьці ў даным выпадку. У рачаіснасьці памылкова ня толькі формальна-лёгічная тожсамасьць, але і адмаўленьне ўсякага *моманту* тожсамасьці ў процэсе мысьленьня. І той і другі пункт гледжаньня няправільны сваёй аднабокасьцю. Формальная лёгіка прыводзіць да абсурду таму, што *адзін бок з усіх*, што характарызуюць жыцьцё паняцьця, прымаецца за ўсеагульны прынцып, які выключае ўсе іншыя бакі. Сапраўды, ня гледзячы на зьменлівасьць паняцьця ў процэсе разважаньня, яно (паняцьце) захоўвае і некаторае адзінства з самім сабок. *Паняцьце* лёгікі ў процэсе разважаньня аб ёй зьменьваецца, але паняцьце *лёгікі* ўвесь час застаецца. Нельга пачаць разважаць аб лёгіцы, раптам пераскочыць на іншы прадмет і прыстасаваць да яго вывады, прыстасавальныя да першага, і г. д. З пачатку да канца разважаньня мы гутарым толькі аб лёгіцы—прадмет гутаркі застаецца ўсё той-жа, але разам з тым ён і зьменьваецца—зьмест гэтага паняцьця не застаецца тожсамым. Паняцьце, захоўваючы адзінства, у той-жа час зьменьваецца. Тожсамасьць і зьменлівасьць паняцьця не выключаюць адно аднаго, а зьяўляюцца двума непарыўнымі бакамі сапраўднага пасьлядоўнага мысьленьня. Тожсамасьць зьяўляецца ўмоваю пасьлядоўнасьці, зьменлівасьць—умоваю мысьленьня.

Такім чынам, пры больш блізкім разглядзе асноўная памылка формальнай лёгікі — *аднабаковае* сьцьвярджэньне прынцыпу тожсамасьці, адрыў яе ад зьменлівасьці, якая спадарожнічае тожсамасьці. Тым самым мы паказваем на нездавальняльнасьць другое і трэцяе аксіомы школьнай лёгікі—законаў супярэчнасьці і выключанага трэцяга. Згодна ім, тожсамасьць выключае супярэчнасьць і наадварот,—магчыма альбо тое, альбо другое. У рачаіснасьці-ж мы бачым, што і тое і другое ў сваёй аднабокасьці няправільна, што тожсамасьць зьмяшчае ў сабе супярэчнасьць (руху паняцьця), супярэчнасьць зьмяшчае ў сабе тожсамасьць (адзінства паняцьця). Першая аксіома школьнай лёгікі спраўляе па мысьленьні хаўтуры, другая і трэцяя ўбіваюць у яго магілу асінавы кол.

Ці маем мы права сьцьвярджаць аб формальнай лёгіцы, што яна мэтафізычна? Ці не супярэчым мы тут самі сабе? Ці не выключаюць адно аднаго суджэньні аб тым, што гэта лёгіка формальна, і аб тым, што яна мэтафізычна? Ці не накіроўваем мы сваю крытыку міма цэлі, даводзячы, што *рэчы* не зьяўляюцца тожсамымі, нязьменлівымі, разарванымі? Бо калі гэта лёгіка *формальная*, то яе не закранае крытыка, якая адносіцца да *зьместу* мысьленьня; калі об'ект яе—толькі мысьленьне, разглядане з формальнага боку, то дакоры наконт рэальнага зьместу мысьленьня несправядлівы. Карацей: або лёгіка формальная — тады яна ня можа быць мэтафізычнай у тым сэнсе, у якім мы ўжываем гэты тэрмін, або мэтафізычная—тады дакоры ў формалізьме не заслужаны. Разгледзім гэта пытаньне.

Лёгіка формалізму сьцьвярджае, што яна ніякіх адносін да быцьця, да рачаіснасьці, да зьместу пазнаньня ня мае і не павінна мець, што лёгіка—навука толькі аб формах мысьленьня і ніяк не навука аб быцьці. Але няма ў сапраўдным мысьленьні незалежнай ад зьместу формы і абыякага да формы зьместу. Зьмест і форма непадзельна зьвязаны ў адзіным процэсе мысьленьня. Мы ня можам уявіць форму іначай, як форму пэўнага зьместу, а зьмест канечна ёсьць аформлены зьмест. Формальныя опэрацыі мысьленьня—заўсёды разам з тым і опэрацыі над некаторым зьместам, і гэты зьмест ніяк не абыякі да формы: ён азначае форму і ў сваю чаргу азначаецца ёю. Формальная лёгіка мае справу з формальным бокам мысьленьня, абстрагуючыся ад яго рэальнага зьместу. Але яе правілы і прынцыпы, калі яны ўжываюцца сапраўдным мысьленьнем, прыстасоўваюцца да зьмястоўнай мысьлі, зьяўляюцца формамі, у якіх зьмешчаны і рухаецца зьмест. Формальная лёгіка паварочваецца сьпіною да зьместу мысьленьня, устанаўляе свае прынцыпы, ня лічачыся з ім. Але гэтыя прынцыпы павінны ажыцьцяўляцца конкрэтным мысьленьнем, павінны быць прыстасаваны да зьместу. І тады няпрызнаны зьмест памшчаецца за сябе: ён ня хоча ўкладацца ў выпрацаваныя для яго формы, ён паўстае супроць іх, ён патрабуе іншых форм. Выясьненая намі ўяўная супярэчнасьць вырашаецца тым, што формальная лёгіка грэшыць няўважлівасьцю да быцьця, лёгічныя пабудовы яе ня могуць ахапіць супярэчлівы рух рачаіснасьці, і таму, будучы прыстасаваны да пазнаньня рачаіснасьці, гэтыя чыста-формальныя прынцыпы аказваюцца неадпаведнымі, чужымі формамі, якія накладаюцца на зьмест звонку; гэтыя прынцыпы—прокрустава ложка для мысьлі, мёртвыя схэмы, няздольныя ахапіць жывое жыцьцё быцьця; яны ствараюцца ў адарванасьці ад зьместу і ня прыдатны для яго; зьмест, каб улегчыся ў гэтыя чужыя для яго формы, павінен быць пакалечаны і разарваны. Ён патрабуе іншага ходу мысьленьня, якое было-б „па ім". Вось якім чынам лёгіка, якая хварэе на формалізм, разам з тым і дзякуючы яму скажае сьвет, ён адлюстроўваецца ў гэтай лёгіцы, як у крывым мэтафізычным люстры.

Мы, калі мысьлім, опэруем выключна мысьліцельнымі элемэнтамі (паняцьцямі, суджэньнямі), але на аснове гэтых опэрацый мысьленьня мы робім заключэньне аб сьвеце, які знаходзіцца па-за нашым мысьленьнем. Бо паняцьці—ня што іншае, як перапрацаваныя нашым мысьленьнем адлюстраваньні рэчаў у нашай сьвядомасьці. Калі мы мысьлім, то не опэруем рэальнымі рэчамі, як тады, калі мы дзейнічаем, а опэруем паняцьцямі аб рэальных рэчах і, на аснове опэрацый з паняцьцямі, мы робім заключэньне аб рэальным сьвеце. На падставе работы над рэчамі, якімі яны мысьляцца, мы заключаем аб рэчах, што існуюць у рачаіснасьці. Вось чаму навука аб мысьленьні не зьяўляецца абыякай і для нашых уяўленьняў аб быцьці. Апошнія азначаюцца на аснове формальна-лёгічных опэрацый. Вывады лёгікі, якая кіруецца сваімі прынцы-

памі, адбіваюцца на самым разуменьні мысьлімага намі быцьця. Мы бачылі вышэй, што прынцыпы формальнай лёгікі прыдатны толькі пастолькі, паколькі яны прыстасавальны да сьвету нярухомага, да сьвету акасьцянелага, разарванага. Адсюль можна зрабіць і другі вывад—што формальная лёгіка магла-б быць прызнана правільнай лёгікай у тым выпадку, калі-б сьвет быў сапраўды такім, г. зн. разарваны, абстрактны. Формальная лёгіка—гэта лёгіка, прыймальная для сьвету мэтафізычнага, лёгіка, разьлічаная на мэтафізычнае разуменьне сьвету, дапасаваная толькі да такога об'екту.

Ці прыдатна гэта лёгіка, ці не—будзе залежаць ад таго, ці правільна мэтафізычнае ўяўленьне сьвету. Пераканаўшыся, што сьвет не мэтафізычны, а дыялектычны, мы павінны зрабіць вывад, што формальная лёгіка няздольна ахапіць яго, бо тыя прынцыпы, на якіх яна пабудавана, выключаюць магчымасьць разумець яго такім, якім ён ёсьць; гэты рухавы супярэчлівы сьвет будзе высьлізгаць паміж пальцамі гэтай лёгікі. Калі мы зьверымся на кіраўніцтва мэтафізычнай лёгікі, то будзем уяўляць сьвет недыялектычным, няправільна, ён будзе дэфармавацца кашай няпрыдатнай для яго захаваньня лёгікай. Сьвет не дыялектычны,—будзе запэўняць мэтафізык. Вы бачыце толькі бесьцялесныя цені яго дзякуючы сваім лёгічным шорам,—адкажам мы.

Ад пытаньняў чыста лёгічных мы, такім чынам, няўхільна пераходзім да пытаньня аб тым, якава рачаіснасьць. Пытаньне аб прыдатнасьці, аб прыймальнасьці формальнай лёгікі — гэта пытаньне аб тым, ці можна пазнаць сьвет, як нешта мэтафізычнае, без таго, каб не пазнаць яго памылкова. Мы пераходзім ад пытаньняў унутры-лёгічнага парадку да пытаньняў фізычнага парадку і да залежнасьці паміж гэтымі двума радамі. Мы тут павінны пераканацца ў тым, што сьвет нельга ўкласьці ў рамкі мэтафізычных паняцьцяў, што яго нельга ўцісنуць у абстрактныя формулы, што, стала быць, формальная лёгіка няпрыдатна для таго, каб ахапіць усю складанасьць і шматвобразнасьць вывучанага сьвету, яна будзе завузка і каротка для яго. Калі гэту лёгіку прыстасаваць да яго, то яна дасьць нам няправільнае сьветаразуменьне, з сродку ўсьведамленьня рачаіснасьці такою, якою яна ёсьць у сапраўднасьці, лёгіка стане сродкам, каб захаваць ад нас ісьціну, містыфікаваць нас. Гэта думка аб залежнасьці мэтафізычнага сьветаразуменьня вельмі добра выказана ў наступных радкох Энгельсам:

„Мы маем прывычку разглядаць продукты і зьявы прыроды адрозьнена, без вялікай агульнай іх сувязі, г. зн. разглядаць іх ня ў стане руху, але ў стане спакою, ня як зьменлівае па сутнасьці, але як нешта нязьменна сталае, ня ў іх жывым, але ў іх мёртвым відзе. Мэтод гэты... стварыў... спэцыфічную абмежаванасьць мысьленьня апошніх сталецьцяў—мэтафізычны мэтод мысьленьня. Для мэтафізыка рэчы і іх адлюстраваньні ў мысьлях, паняцьці, становяць сабою адасобленыя, якія належыць разглядаць па парадку адно за другім, сталыя, застыглыя, раз

назаўсёды даныя об‘екты дасьледваньня. Ён мысьліць непасрэдстваванымі супроцьлегласьцямі; гутарка яго канчаецца толькі сьцьвярджэньнем ці адмаўленьнем: так—так, не—не, а што звыш таго, то ад „нячыстай сілы“. Для яго рэч ці існуе, ці ня існуе; ня можа яна так-жа сама быць сама сабою і разам з тым быць іншаю... ён за паасобнымі рэчамі забывае іх агульную сувязь, за іх быцьцём забывае іх узьнікненьне і зьнікненьне, за станам спакою забывае рух, дзеля таго што ён з-за дрэў ня бачыць лесу“.

Нашы паняцьці ўзьнікаюць з успрыйманьня рэальных рэчаў, але гэтыя паняцьці, узьнікнуўшы ў галаве мэтафізыка, нібы замярзаюць. Рэч і далей рухаецца, зьменьваецца, разьвіваецца, але паняцьце, абстрагаванае ад гэтай рэчы, для сьвядомасьці ператвараецца ў штосьці застыглае, нярухомае, раз назаўсёды данае ў закончаным стане, гэта паняцьце пачынае сваё асобнае незалежнае існаваньне ў галаве, не такое, якое яно вядзе ў рачаіснасьці—плыўкае і супярэчлівае, а, абстрагаванае ад рэчы, яно набывае ў галовах мэтафізычна мысьлячых людзей новы род існаваньня, як якоесьці абсолютнае, застыглае, мёртвае паняцьце. Жыцьцё яго, як жыцьцё муміі ці мошчаў. І вось, кіруючыся гэтымі акасьцянелымі паняцьцямі, якія не пераходзяць адно ў другое, забываюць, што гэта толькі няўдалыя зьлепкі з рачаіснасьці, яе засушаныя абломкі і асколкі. Наша мысьленьне ў гэтым выпадку можна параўнаць з тым, што называюць туманнымі карцінамі. Гэтыя карціны адлюстроўваюць рачаіснасьць; але як?—не адлюстроўваючы яе рухавасьці. Ра аіснасьць зьменліва, складана, плывуча, пераліваецца шматколернымі гранямі,—гэтыя-ж карціны не занатоўваюць яе зьменлівасьці і рухавасьці, а фіксуюць яе ў стане спакою, інэртнасьці, разарванасьці. Таму, вывучаючы рачаіснасьць па гэтых карцінах, нельга зразумець жывое яе душы, самай сутнасьці яе, паўнаты, дыялектыкі быцьця. Такая таямніца мэтафізычнай лёгікі. Бясьсільле традыцыйнай лёгікі стала настолькі ясным, настолькі галасьлівым у процэсе разьвіцьця сучаснай навукі, што нават сярод буржуазных філёзофаў насьпела ў апошнія дзесяцілецьці нездаволеньне ёю, расчараваньне гэтай лёгікай. Разьвіцьцё навуковых ведаў паказвала на кожным кроку няпрыдатнасьць перастарэлых лёгічных прынцыпаў, каб пасягнуць шматвобразнасьць рачаіснасьці. Рачаіснасьць протэставала супроць прыстасаваньня да яе такіх няпрыдатных маштабаў.. Вось чаму цэлы шэраг буйных сучасных буржуазных філёзофаў паўстаў супроць перастарэлых лёгічных догмаў, пачаў шукаць новых шляхоў.

Крызіс мэтафізычнай лёгікі ў сучаснай буржуазнай філёзофіі набыў два кірункі. З аднаго боку—форму лёгістыкі. Захаваны сэнс гэтага кірунку ў тым, што калі рачаіснасьць ня ладзіць з прынцыпамі лёгікі, то тым горш для рачаіснасьці. Лёгіку ня цікавіць конкрэтнае, рэальнае пазнаньне рачаіснасьці, лёгіка канчаткова адварочваецца ад капрыснай „нячыстай“ рачаіснасьці, замыкаецца сама ў сабе, ператвараецца ў мастацтва для мастацтва, займаецца разьвязаньнем чыста-фармальных—

настолькі-ж тонкіх, наколькі і бескарысных—лёгічных задач-рэбусаў, пляце самыя тонкія карункі безьзьмястоўнай мысьлі, нібы цыруе іглой бяз ніткі, лёгіка ператвараецца ва ўтончаны, ухітраваны інтэлектуальны спорт для спэцыялістых-лёгікаў. Гэта адна з форм крызісу, форма, якая паказвае бескарыснасьць, беспараднасьць лёгікі, паказвае яе тупік, даводзіць разлажэньне лёгікі, што яна вычарпала сябе.

З другога боку, гэты крызіс прыняў форму антыінтэлектуалізму. Цэлы рад найбольш таленавітых філёзофаў прызнаў, што навука ня можа кіравацца гэтай лёгікай, і абвясьціў, што навука павінна шукаць новых шляхоў.

Падам некалькі ўрыўкаў з твораў паважаных буржуазных філёзофаў сучаснасьці. Гэтыя ўрыўкі характарызуюць іх расчараваньне мэтафізычнай лёгікай, іх разуменьне, што пануючая лёгіка ня можа ахапіць усю складанасьць рэальнага сьвету.

Вось, напрыклад, самы выслаўлены з сучасных францускіх філёзофаў, правадыр сучаснага інтуітызізму—Анры Бэргсон. Ён кажа, што традыцыйная лёгіка яшчэ здольна здавальняюча орыентавацц у сьвеце цьвёрдых, нязрушных цел, але ў сьвеце жывога жыцьця, у галіне біолёгіі і псыхолёгіі яна аказваецца няпрыдатнай. Бэргсон (якога ні ў якім разе нельга западозрыць у блізкасьці да марксызму ці дыялектыкі) кажа:

„На справе мы адчуваем, што ні адна з катэгорый нашай мысьлі—адзінства, множнасьць, мэханічная прычыннасьць, разумная мэтазгоднасьць і г. д.—ня можа быць дакладна прыстасавана да жыцьцёвых рэчаў: хто можа сказаць, дзе пачынаецца і дзе канчаецца індывідуальнасьць, уяўляе з сябе жывая істота адзінства, ці множнасьць, злучаюцца каморкі ў організм, ці організм раскладаецца на каморкі? Дарма мы ўціскаем жывое ў тыя ці іншыя рамкі. Усе рамкі ім разрываюцца: яны занадта вузкія, галоўным чынам, вельмі непадатлівыя для таго, што мы жадалі-б у іх улажыць. Наша разважаньне, такое ўпэўненае ў сабе, калі яно варочаецца сярод інэртных рэчаў, адчувае сябе несвабодна на гэтай новай глебе“ [1]).

Яшчэ яскравей, яшчэ рэльефней гэта разуменьне таго, што цякучая новая рачаіснасьць ня можа быць уціснута ў рамкі мёртвых лёгічных схэм, выражана ў работах выдатнага амэрыканскага філёзофа Вільяма Джэмса, заснавальніка так званага прагматызму:

„Сучаснасьць жыцьця,—піша ён,—месьціцца ў непарыўнасьці зьмены; усё-ж нашыя паняцьці фіксаваны і перарывальны, і адзіным спосабам прывесьці іх у адпаведнасьць з жыцьцём зьяўляецца адвольнае прадпалажэньне перапынкаў у самым жыцьці. З гэтым перапынкам і можна прымусіць меркавацца нашы паняцьці. Але гэтыя паняцьці ня ёсьць ні часьці рачаіснасьці, ні яе рэальныя палажэньні; скарэй яны зьяўляюцца прадпалажэньнямі, нашымі-ж занатоўкамі, і нам так-жа трудна вычарпаць

[1]) Анры Бэргсон. „Творческая эволюцыя“, стар. IV, рас. перакл.

імі субстанцыю рэальнасьці, як трудна вычарпаць ваду сеткаю, як-бы ні былі маленькія яе вочкі“.

„Утварэньне паняцьцяў,—кажа далей Джэмс,—ёсьць адсячэньне і фіксаваньне; мы выключаем усё, апрача таго, што мы зафіксавалі. Паняцьце мае на ўвазе *гэта—і—ня—іншае*. У нашых паняцьцях час выключае прастору; рух і спакой узаемна выключаюць адзін аднаго; набліжэньне выключае дотык; прысутнасьць выключае адсутнасьць; адзінства выключае множнасьць; незалежнасьць выключае адноснасьць; „маё“ выключае „тваё“; даная сувязь выключае іншую сувязь—і так да бяскрайнасьці; а тымчасам, у рэальным канкрэтна-адчувальным патоку жыцьця адно перажываньне настолькі прасякнута другім, што трудна дакладна ўстанавіць, што выключаецца і што не. Так, напрыклад..., скажэце слова „цяпер“ і ўжо пры самым вымаўленьні яно значыць „было“. Іменна гэта спроба інтэлектуалізму (за грахі *мэтафізычнай* лёгікі Джэмс вінаваціць усякую лёгіку наогул—*Б. Б.*) паставіць на месца адзінства данай у дасьведчаньні працяжнасьці ўстойлівыя сячэньні і робіць настолькі незразумелым рэальны рух“ [1]).

Але гэта падабенства ў крытыцы мэтафізычнай лёгікі паміж намі і сучаснымі буржуазнымі мысьліцелямі мае зусім розныя карані і мае на ўвазе супроцьлеглыя мэты. *У імя чаго* выступаюць, якія вывады робяць староньнікі гэтага кірунку з сваёй крытыкі традыцыйнай лёгікі? Калі лёгіка,—робяць яны заключэньне,—няпрыдатна для правільнага пазнаньня рачаіснасьці, то апошнюю трэба вывучаць іншым, не-лёгічным шляхам; калі лёгіка дрэнна, то—прэч лёгіку.

„Што нам рабіць у гэтым традыцыйным палажэньні? —пытаецца Джэмс.—Што датычыцца мяне, то я палічыў сябе нарэшце ўсяго вымушаным *адмовіцца ад лёгікі*, адмовіцца ад яе адкрыта, сумленна і раз назаўсёды. У чалавечым жыцьці лёгіка мае вечнае прыстасаваньне, але гэта прыстасаваньне не дае нам тэорэтычнага знаёмства з тым, што складае істотную прыроду рачаіснасьці... Рачаіснасьць, жыцьцё, дасьведчаньне, канкрэтнасьць, непасрэдная даннасьць,—ужывайце якое хочаце выражэньне,—усё гэта выходзіць з граніц нашай лёгікі, пераліваецца цераз яе край і абкружае яе са ўсіх бакоў“ [2]).

Сучасныя антыінтэлектуалістыя прыходзяць да алёгізму, робяць вывад, што калі лёгіка не здавальняе канечна патрэбным для пранікненьня ў сутнасьць рачаіснасьці вымаганьням, то трэба ўжываць па-за лёгічныя мэтоды пазнаньня. Бэргсон апэлюе да інтуіцыі, Джэмс—да містычнага ўспрыйманьня рачаіснасьці. Яны прыходзяць, абапіраючыся на сваю крытыку, да рэлігійных, варожых навуцы мэтодаў пазнаньня сьвету. Гэтыя кірункі характарызуюць дэкадэнс, выраджэньне буржуазнай філёзофіі. Вывады, якія яны робяць, паказваюць на распад буржуазнай цыві-

[1]) В. Джэмс—„Вселенная с плюралистической точки зрения“, стар. 139—140, расійскі пераклад.

[2]) Тамсама, стар. 117.

лізацыі, няздольнасьць, бясьсільле буржуазнай ідэолёгіі выйсьці з неадпаведнасьці паміж мэтафізычнай лёгікай і ўладнымі вымаганьнямі навуковай мэтодолёгіі.

Для нас, аднак, у данай сувязі маюць значэньне не рэакцыйныя вывады буржуазных філёзофаў, а тое, што буржуазія ня можа не гаварыць аб недасканаласьці пануючай лёгікі. І ў крытыцы гэтай лёгікі мы знаходзім правільныя аргуманты. Але і тут яны толькі пераказваюць тое, што было даўно сказана да іх Гэгелем і яго вучнямі, і да таго сказана лепей, глыбей, пасьлядоўней. Мы-ж, выходзячы з незадавальняльнасьці формальнай лёгікі, няпрыдатнай для правільнага пазнаньня сьвету, прыходзім да супроцьлеглага ў параўнаньні з буржуазнай філёзофіяй разьвязаньня пытаньня: калі формальная лёгіка не здавальняе— давайце ствараць новую, больш дасканалую лёгіку, давайце будаваць такую лёгіку, якая здолела-б справіцца з задачамі, што стаяць перад навукаю. Мы ўжо маем геніяльны ўзор такой лёгікі—гэта перапрацаваная Марксам, Энгельсам і іх вучнямі дыялектычная лёгіка Гэгеля. Мы, выходзячы з крытыкі формалізму, ставілі пытаньне не аб алёгізьме, а аб новай, дыялектычнай лёгіцы; рэакцыйнай антынавуковасьці мы супроцьставім новыя навуковыя замеры і дасягненьні.

Твор Арыстоталя, які формулюе асновы формальнай лёгікі, называецца „Орган", г. зн. орган, прылада знайсьці ісьціну. У XVII сталецьці, калі буржуазія Англіі змагалася за сваё панаваньне, замацоўвала асновы новай соцыяльнай формацыі, яна выступіла супроць схолястычнай фэўдальнай ідэолёгіі з яе культам Арыстоталя, яна ў асобе Франциска Бэкона выставіла патрабаваньне новых мэтодаў пазнаньня, інакшае лёгікі, лёгікі, якая памагла-б пазнаваць рэальную рачаіснасьць і апанаваць ёю, падпарадкуючы інтарэсам капіталістычнага разьвіцьця, а не вярцелася-б у рамках бескарыснай рэлігійнай догматыкі; Бэкон назваў сваё вучэньне „Новы Органон". Мы, выступаючы на зьмену аджываючага буржуазнага грамадзтва, ставячы перад чалавецтвам новыя задачы—задачы нячуванай шырыні і велічнасьці,—адчуваем зноў патрэбу ў стварэньні новага „органона", новых мэтодаў пазнаньня, новай лёгікі на месца буржуазнай, якая зжыла свой век; у процівагу вульгарна-эмпірычным прынцыпам буржуазнага прыродазнаўства і формальна-лёгічнай разбэшчанасьці сучаснай заходняй філёзофіі, мы ставім пытаньне аб разьвіцьці, аформленьні новай лёгікі, якая адпавядала-б цяперашняму ўзроўню культуры, магчымасьцям і патрэбам новага сьвету, якая магла-б пасягнуць рачаіснасьць ва ўсёй яе складанасьці і бясконцай дыялектычнай шматвобразнасьці, якая выратавала-б гэтую навуку ад выраджэньня.

Зразумеўшы, што традыцыйная лёгіка ня можа задаволіць нас, мы павінны, узяўшы ад яе ўсё, што ў ёй ёсьць цэннага і плённага, будаваць новае, больш дасканалае лёгічнае вучэньне, здольнае лепей справіцца з задачамі пазнаньня, якое хоча ахапіць, апанаваць і перарабіць складаны, цякучы і супярэчлівы сьвет.

Але раней, чым намячаць агульныя контуры новай—дыялектычнай—лёгікі, пастараемся высьніць, як апошняя павінна выкарыстаць формальна-лёгічную спадчыну, у якія адносіны дыялектычная лёгіка ставіць сябе да традыцыйнай, школьнай лёгікі, у якой меры утылізуе яе і ў якіх кірунках перамагае. Каб больш выразна зразумець гэтыя ўзаемаадносіны, мы спачатку пастараемся выясьніць адну важную лёгічную катэгорыю, катэгорыю мысьленьня, раскрытую дыялектыкай, якая называецца катэгорыяй „зьняцьця".

Усякая зьмена, усякае перайначаньне, усякае новаўтварэньне, якое адбываецца ў процэсе разьвіцьця, характарна некаторымі рысамі, якія ахапляюцца катэгорыяй „зьняцьця". Што становіць гэтыя рысы? Тая ці іншая існуючая рэч ці процэс,ператвараючыся ў іншы ці зьнікаючы, саступаючы месца другому, ня проста сьціраецца, зьнішчаецца другім процэсам. Калі даная рэч, даны процэс зьмяняецца другім, гэта значыць, што першы *адмаўляецца*, на яго месца прыходзіць другі. Але гэта ня значыць, што ранейшы цалкам і без астатку выкрэсьліваецца, што ён бясьсьледна прападае, нібы яго і ня было,—зусім не. Хоць гэты ранейшы процэс, калі ён зьмяняецца новым, зьнікае як процэс (бо іначай ня было-б новага), але разам з тым ён і *не адмаўляецца*, паколькі ён ня зьнікае бясьсьледна, а паглынаецца новаўтварэньнем, уваходзіць у яго, раствараецца ў ім; больш таго, новае само народжана ім, узьнікла з разьвіцьця старога, вырастае на глебе гэтага разьвіцьця, прадпалагае яго і асымілюе яго. Адмаўлянае зьмяшчаецца ў адмаўляючым у паказаным сэнсе, і таму разьвіцьцё ёсьць ня толькі адмаўленьне, але і „*захаваньне*" пераможанага этапу. Але захаваньне гэта адбываецца ў форме паглынаньня, растварэньня ў сабе, падобна таму, як расьліна „захоўвае" спажыўныя сокі глебы. Адмаўлянае „захоўваецца" ў *новай форме*, як *падпарадкаваны элемэнт* у новым процэсе, у новых сувязях, ён паглынаецца новым процэсам падобна таму, як усвойваецца жыўленьне ці тлен організмам,—ператвараючыся ў ім.

Вось гэты-то процэс і носіць назву „зьняцьця" і вось чаму кажуць аб троістасьці катэгорыі зьняцьця. Зьняцьце аднэй рэчы другою значыць, што гэтая рэч *адмаўляецца* новаю і разам з тым *захоўваецца* ў ёй, але захоўваецца *ў іншай якасьці*, падымаецца на іншую ступень, ператвараецца ў новым, захоўваецца ў новым, як нешта падпарадкаванае, а не як самастойнае і залежнае. Такія гэтыя тры бакі зьняцьця: адмаўленьне, захаваньне і падняцьце на новую ступень.

Каб гэта паняцьце ня было туманным, падам для паясьненьня наглядныя прыклады: соцыялізм здымае капіталізм. Соцыялізм адмаўляе капіталізм. Што значыць—соцыялізм адмаўляе капіталізм? Гэта ня значыць што соцыялізм, які прыходзіць на месца капіталістычнай грамадзкай формацыі, прост-на-праст выкрэсьлівае тое, што было да яго, і будуе новае на голым месцы з нічога. Соцыялізм адмаўляе капіталізм, але разам з тым ён захоўвае элемэнты капіталізму (напр., тэхніку і безьліч

навуковых і іншых заваёў і г. п.), але ён захоўвае гэта ў новых формах, як падпарадкаваныя новаму тыпу соцыяльнага жыцьця моманты ў іншых соцыяльных рамках. Капіталізм-жа, як пануючы прынцып грамадзкага разьвіцьця, разбураецца. Такая процэдура, якая называецца зьняцьцем, уласьціва ўсякаму разьвіцьцю. Старое зьнішчаецца, але разам з тым і захоўваецца, як элемэнт падпарадкаваны, у новым комплексе, на іншай, больш высокай ступені.

Разгляданае намі „зьняцьце" зьяўляецца унівэрсальнай формай разьвіцьця як рэчаў, так і ідэй. *Усякае* разьвіцьцё адбываецца толькі так. Гэта катэгорыя добра тлумачыць прыклад захаваньня іператварэньня матэрыі, энэргіі. Тут вельмі выразна відаць, якім чынам адмаўленьне спалучаецца з захаваньнем іператварэньнем. Ня менш наглядна паказана гэта катэгорыя, напр., у гісторыі сьвету: зьяўленьне жыцьця, жывёл, сьвядомасьці, грамадзтва. Той-жа самы малюнак дае і гісторыя ідэй. Усякая новая ступень у гісторыі навукі ці мастацтва, усякая рэволюцыя ў сфэры ідэолёгіі адбываецца паводле гэтага простага прынцыпу: папярэднія дасягненьні адмаўляюцца, захоўваючыся ў „зьнятым" відзе, як цагліны новых конструкцый. А тымчасам гэта унівэрсальная катэгорыя выглядае чымсьці пачварным, калі кіравацца затхлымі канонамі школьнай лёгікі.

З гэтага пункту гледжаньня, у сьвятле катэгорыі „зьняцьця", ня трудна будзе зразумець, як мы мысьлім зьмену формальнай лёгікі дыялектычнай. Мы не адмаўляем зусім школьную лёгіку, як непатрэбны хлам. Мы ня кажам, што яе трэба выкінуць, бо яна на нішто ня прыдатна, што ёй няма месца ў новай навуковай гаспадарцы. Не, адмаўляючы гэту лёгіку, мы разам з тым і захоўваем яе, але захоўваем не як штосьці самавыстарчальнае, не як кіруючы крытэры мысьленьня, а як нешта *часткаю* правільнае, як *долю* ісьціны, як адзін з элемэнтаў лёгікі, як адзін з яе бакоў, як падпарадкаванае зьвяно ў ланцугу прынцыпаў больш высокага тыпу мысьленьня.

Такія адносіны дыялектычнай лёгікі да лёгікі школьнай. Калі мы нападаем на школьную лёгіку, гэта ня значыць, што мы супрацьўнікі таго, што стол ёсьць стол, ці чалавек ёсьць чалавек. Ніколечкі: мы кажам, што гэтага мала, што гэта аднабока, што гэта ня вычэрпвае ўсёй паўнаты рачаіснасьці, што гэта мае адносную, абмежаваную, ісьціннасьць, перастае быць ісьцінным, калі ператвараецца ў абсолют, і, наадварот, што гэта можа быць ісьцінным толькі як падпарадкаваны момант у больш складанай і больш здольнай абняць рачаіснасьць пазнавальнай мэтодолёгіі. Формальная лёгіка ня ёсьць толькі глупства з пункту гледжаньня дыялектыкі. Яна ёсьць „аднабокае, пераўвялічанае, надмернае разьвіцьцё (разьдзіманьне, распуханьне) аднэй з рысак, бакоў пазнаньня ў абсолют", адарваны ад паўнаты рэальнасьці. Дыялектыка здымае формальную лёгіку, г. зн. адмаўляе яе, як нешта абсолютнае, самавыстарчальнае, усебаковае і беспадзельна-ісьціннае, захоўваючы яе, як падпарадкаваную,

адносную абмежаваную частку ісьціны ўнутры дыялектычнай лёгікі,ператварае яе ў падпарадкаваны элемэнт больш высокай ступені лёгічнага разьвіцьця.

У якіх *кірунках* адбываецца гэта зьняцьце школьнай лёгікі дыялектыкай? У чым тая рыска, той бок ісьціны, якую разьдзімае школьная лёгіка, і якавы яе (ісьціны) іншыя бакі? У якіх кірунках трэба зьняць, абмежаваць школьную лёгіку больш дасканалай лёгікай—дыялектычнай?

Папершае, у кірунку фармалізму. Традыцыйная лёгіка, як лёгіка фармальная, здымаецца дыялектычнай лёгікай, рэальнай. Мы ўжо бачылі, разглядаючы крытэры ісьціннасьці з пункту гледжаньня фармальнай лёгікі, што гэты крытэры невыстарчальны для пазнавальных мэт, што яго трэба папоўніць якімсьці рэальным крытэрыем, які адносіцца да зьместу розумазаключэньня; крытэры фармальнай унутранай пасьлядоўнасьці вымагае, каб лёгіка разглядала розумазаключэньне ня толькі з боку формы, але і з боку правільнасьці зьместу яго элемэнтаў. Разглядаючы гэта пытаньне, мы ўжо падышлі да ўстанаўленьня таго, што фармальная лёгіка ніяк ня вычэрпвае ўсёй лёгікі, а павінна быць уключана ў сыстэму больш дасканалай, больш агульнай навукі аб законах мысьленьня, як адзін з залежных элемэнтаў яе. Канечнасьць правільных суадносін паміж рознымі зьвенамі розумазаключэньня, унутранай пасьлядоўнасьці нясумненна, але вучэньне аб правільнасьці сувязяй павінна быць толькі адным з разьдзелаў, адным з момантаў лёгікі, як вучэньня аб правільнасьці мысьленьня, як тэорыі пазнаньня—лёгікі рэальнай. „Дыялектыка і ёсьць тэорыя пазнаньня“ (Ленін), якая адносіцца да фармальнай лёгікі, як цэлае да часткі. Зьняцьце традыцыйнай лёгікі лёгікай дыялектычнай ёсьць таму перш за ўсё зьняцьце лёгічнага фармалізму лёгічным рэалізмам. Канечнасьць улічваньня фармальных момантаў не адкідаецца, яна захоўваецца як падпарадкаваная, частковая задача ў дыялектычнай лёгіцы.

Ленін, сьледам за Гэгелем, формулюе гэту задачу так: „Няправільна, што формы мысьленьня толькі сродак“ „для карыстаньня (Mittel zum Gebrauch). Няправільна, таксама, што яны знадворныя формы“, формы, якія ўласьцівы зьместу, а не зьяўляюцца самым зьместам (формы, якія ёсьць толькі *на* зьмесьце, а ня сам зьмест). Гэгель-жа патрабуе лёгікі, у якой-бы формы былі поўнымі зьместу формамі, формамі жывога, рэальнага зьместу, зьвязанымі непарыўна са зьместам“. Такім чынам, разглядаць лёгічнае суджэньне толькі як чыстую форму, ня цікавячыся зьместам, нельга; правільная лёгіка—гэта ня тая лёгіка, якая разглядае формы мысьленьня, як безьзьмястоўныя, пустыя формы, а якая разглядае ў самай цеснай залежнасьці і непарыўнасьці зьмест мысьленьня з яго формай у іх узаемазалежнасьці. Лёгіка павінна быць ня толькі вучэньнем аб чыстых абстрактных формах мысьленьня, яна павінна быць вучэньнем аб шляхох конкрэтнага мысьленьня з яго зьмястоўнымі формамі і аформленым зьместам.

Такі першы кірунак, у якім адбываецца зьняцьце невыстарчальнасьці, абмежаванасьці формальнай лёгікі.

Каб зрабіць яшчэ ясьней гэты бок справы, трэба ўстанавіць розьніцу паміж об'ектыўнай і суб'ектыўнай лёгікай, ці об'ектыўнай і суб'ектыўнай дыялектыкай. Мы ўвесь час гаварылі аб суб'ектыўнай лёгіцы, аб лёгіцы мысьленьня, аб ходзе падзей, але можна і трэба гаварыць, апрача таго, аб об'ектыўнай лёгіцы, аб лёгіцы рачаіснасьці, аб лёгіцы быцьця.

Што гэта значыць?

Калі гавораць аб суб'ектыўнай лёгіцы, аб лёгіцы мысьленьня, маюць на ўвазе прынцыпы, згодна з якімі адбываецца ці павінна адбывацца мысьленьне. Калі ўжываюць тэрмін об'ектыўная лёгіка, маюць на ўвазе прынцыпы, па якіх адбываецца быцьцё,—тыя прынцыпы, згодна з якімі разьвіваецца быцьцё, ажыцьцяўляецца ход рэчаў, законы, згодна з якім ажыцьцяўляецца рачаіснасьць.

Варта мець на ўвазе, што паміж намі, марксыстымі і Гэгелем ёсьць карэнная розьніца ў разуменьні таго, што такое об'ектыўная лёгіка. Для Гэгеля рачаіснасьць, быцьцё, разьвіцьцё сьвету, было ня чым іншым, як самаразьвіцьцём сусьветнага розуму, абсолютнай ідэі; для яго разьвіцьцё сьвету было не сьляпым матэрыяльным процэсам, а лёгічным процэсам. Усё, што адбываецца ў сусьвеце, ёсьць для яго ня што іншае, як разьвіцьцё об'ектыўна-існуючай абсолютнай ідэі, лёгічны процэс, усясьветнае мысьленьне. Для яго разьвіцьцё матэрыяльнага сьвету ёсьць ня што іншае, як форма праяўленьня лёгічнага процэсу, ход рэчаў—выражэньне самаруху ідэй сусьветнага розуму. Уся гісторыя сьвету раствараецца ў лёгіцы. Лёгіка паглынае ў сабе ўсе навукі.

Для нас-жа справа тут зусім ясная. Мы разумеем разьвіцьцё сусьвету зусім не як лёгічны процэс, як разумны процэс, як об'ектыўнае мысьленьне, а як законамернае „сьляпое“ разьвіцьцё матэрыі. Таму, калі мы гаворым аб лёгіцы рачаіснасьці, аб лёгіцы быцьця, мы не ўкладаем у гэта паняцьце рацыянальны ідэалістычны сэнс, які ўкладае ў гэта паняцьце Гэгель. Мы гэтым кажам толькі аб законамерным ходзе рэчаў, аб прынцыпах, згодна з якімі існуюць матэрыяльныя, фізычныя рэчы, ня маючы на ўвазе ў гэтым процэсе ніякай разумнасьці, ніякай лёгікі ў антропоморфічным сэнсе, але толькі агульныя прынцыпы, якія характарызуюць разьвіцьцё рэчаў, формы разьвіцьця сьвету. Выражэньнем „об'ектыўная лёгіка“ мы адзначаем жыцьцё матэрыяльнага сьвету, ход рэчаў. У гэтым сэнсе мы адрозьніваем дыялектыку, як вучэньне аб прынцыпах разьвіцьця рэчаў, аб агульных законах руху, і дыялектыку, як вучэньне аб мысьленьні, аб руху ідэй, аб процэсе пазнаньня, як об'ектыўную і суб'ектыўную дыялектыку.

Аднак, адрозьніваючы гэтыя паняцьці, мы гэтым не парываем іх адзінства. Гэта—шчыльна, непарыўна, непадзельна зьвязаныя бакі аднаго і таго самага процэсу. Прынцыпы лёгікі, прынцыпы нашага мысьленьня (а мысьленьне зьяўляецца нічым іншым, як часткаю, як элемэнтам, як

адным з праяўленьняў матэрыяльнага, фізычнага, сьвету, быцьця, падпарадкаванаю тым-жа самым законам і прынцыпам, як і ўсё быцьцё нагул), гэта суб'ектыўная дыялектыка ў якіх адносінах да процэсаў об'ектыўных, незалежных ад нас, што адбываюцца ў сьвеце па-за намі, у якіх адносінах да об'ектыўнай дыялектыкі прыроды? Цераз пасярэдніцтва мысьленьня—гэтай аднэй з форм быцьця, мы мысьлім, аднаўляем у сьвядомасьці, адлюстроўваем у сабе ход па-за намі існуючых рэчаў; прынцыпы і законы існаваньня сьвету становяцца асьвядомленымі намі. Дыялектыка мысьленьня ёсьць разьвіцьцё нашага асьведамленьня дыялектыкі быцьця. Мысьленьне падпарадкавана законам быцьця і адлюстроўвае гэтыя законы. Суб'ектыўная лёгіка, дыялектычнае мысьленьне ёсьць ня што іншае, як „сьвядомае адлюстраваньне ў нашым мысьленьні об'ектыўнай дыялектыкі, што пануе ва ўсёй прыродзе", тых процэсаў, якія характарызуюць разьвіцьцё об'ектыўнага матэрыялістычнага сьвету. Сьвет разьвіваецца паводле пэўных законаў, дыялектычна. Асьведамленьне гэтых законаў і мысьленьне аб сьвеце так, якім ён сапраўды ёсьць, дапасаваньне да сьвету адпаведных крытэрыяў, мэтодаў мысьленьня, якія вымагаюцца самім характарам яго разьвіцьця,—і будзе карыстаньне дыялектыкай у суб'ектыўным разуменьні гэтага слова.

Калі сьвет разьвіваецца па дыялектычных прынцыпах: сьвет заўсёды зьменьлівы, цякучы, супярэчлівы, у ім існуюць пераходы колькасьці ў якасьць і, наадварот, змаганьне супроцьлегласьцяй і г. д., калі настолькі ён складаны і шматвобразны,—ці можам мы пазнаць такі сьвет, будучы ўзброены слабымі прыладамі школьнай лёгікі, ці мы павінны нашы прынцыпы, нашы меркі ісьціннасьці, нашы мэтоды мысьленьня і пазнавальныя прыёмы дастасоўваць да зьменлівага характару сьвету, да яго дыялектычнасьці? Падобна таму, як грамамі ці тонамі нельга мераць даўжыню рэчы, а літрам—глыбіню ідэй, бо да самага об'екту прадмета, які мы хочам пазнаць, могуць быць дапасаваны толькі пэўныя меры; падобна таму, як ад колькасьці матэрыялу залежыць, якою прыладаю можна яго апрацаваць,—таксама ад таго, якавы сьвет, залежыць, якія мэтоды і крытэрыі да яго прыстасавальны, могуць ахапіць яго. Калі-б сьвет быў мэтафізычны, то для адпаведнага адлюстраваньня яго ў сьвядомасьці досыць было-б лёгікі мэтафізычнай. Калі сьвет больш складаны, то гэтымі формамі не ахопіш яго, ня справішся з яго дыялектыкай; патрэбна ўжыць іншыя прылады, іншыя меркі для пазнаньня яго—лёгіку дыялектычную. Вось чаму пытаньне аб об'ектыўнай лёгіцы ня ўсё роўна для суб'ектыўнай лёгікі, а гэта пытаньні самым цесным чынам зьвязаныя. Тым фактам, што сьвет разьвіваецца дыялектычна, абумоўлена тое, што для пазнаньня яго патрэбна лёгіка дыялектычная, іначай ён будзе непазнаны ці пазнаны няправільна. Якавы об'ект мысьленьня—ня ўсё роўна для мысьленьня; ад таго, якавы прадмет мысьлі, залежыць, якімі прынцыпамі трэба кіравацца пры пазнаваньні яго. Вось чаму, улічаючы гэту шчыльную сувязь паміж мэтодам і об'ектам мысьленьня, мы разумеем дыялектыку ня як

чыстае вучэньне аб мысьленьні, а як вучэньне аб дыялектычным мысьленьні дыялектычнага быцьця. Для нас „лёгіка ёсьць вучэньне не аб знадворных формах, а аб законах разьвіцьця ўсіх матэрыяльных прыродных і духоўных рэчаў, г. зн. разьвіцьця ўсяго конкрэтнага зьместу сьвету і пазнаньня яго“... Толькі ў конкрэтным пазнаньні сьвету, пранікненьні ў сьвет, азначаюцца тыя формы мысьленьня, у якіх магчыма далейшае яго пазнаньне.

Вось як *формальная* лёгіка адмаўляецца, як яна здымаецца дыялектычнай, як лёгікай рэальнай, як вучэньне аб усеагульным руху, аб усеагульным разьвіцьці, якое ўключае, як субордынаваны элемэнт, суб'ектыўную лёгіку.

Але гэта—адзін бок пытаньня. Падругое, традыцыйная лёгіка здымаецца дыялектыкай яшчэ ў другім сэнсе, у сэнсе адмаўленьня яе мэтафізычнасьці. Традыцыйная лёгіка, як мы пераканаліся вышэй, разглядае сьвет, як сьвет закаранелых рэчаў, як сьвет інэртны, нязрушны, разарваны. Мы, дыялектыкі, зусім не адкідаем паняцьця спакою, паняцьця рэчаў, а лічым гэтыя паняцьці адноснымі, прыватнымі. Рэч ёсьць ня што іншае, як прыватны выпадак процэсу. Спакой ёсьць ня што іншае, як адносная форма руху. Вось як мы ставім пытаньне. Абсолютнага спакою, абсолютнае нязьменнасьці, безадноснай нязрушнасьці ў прыродзе няма. У ёй пануе зьмена і рух. Спакой існуе толькі ў пэўных адносінах, у пэўных межах у рамках руху. Так дом стаіць на месцы на рухомай земнай кулі, так стаіць нярухома гадзінная стрэлка, калі мы глядзім на яе некалькі хвілін, так Іваноў застаецца Івановым, хоць бязупынна зьменьваецца.

Мы адмаўляем памылковую аднабокасьць школьнай лёгікі, якая фіксуе сваю ўвагу на рэчах, на нярухомым, на абстрактным, пертвараючы іх у абсолютныя катэгорыі, у адзінае; але яна ўключаецца, як прыватны выпадак, у лёгіку дыялектычную. Лёгіка дыялектычная—гэта лёгіка, якая пазнае сьвет як процэс, сьвет ва ўсёй яго складанасьці, ва ўсёй яго комплекснасьці; а паколькі ў гэтым разьвіцьці рэч, спакой, абстракцыя, зьяўляецца прыватным выпадкам, адным з яго бакоў, аднэй з граняй, пастолькі захоўвае свой адносны і абмежаваны сэнс і формальная лёгіка.

Вось чаму лёгіка мэтафізычная не адкідаецца зусім, а захоўваецца як прыватны момант у лёгіцы дыялектычнай, у лёгіцы, якая пазнае сьвет у яго шматгранным руху, у яго супярэчлівым адзінстве. У той-жа самай меры, у якой мы захоўваем паняцьце рэчы—як прыватнай формы процэсу, спакою—як адноснага руху, мы захоўваем і сьцьвярджэньні мэтафізычнай лёгікі, як адну з граняй дыялектычнай лёгікі, ставячы яе на службу дыялектыцы.

Дыялектычнае і мэтафізычнае мысьленьне можна параўнаць з двума відамі фотографаваньня. Мэтафізыка паказвае сьвет падобна звычайнай фотографіі, фіксуючы адзін момант здымку, застыўшую позу, консэрваваны від. Дыялектычнае адлюстраваньне можна параўнаць з кінэмато-

графічным фотографаваньнем, якое паказвае рух, зьмены, станаўленьне, раствараючы ў сабе тое, што дае фотографія, а ня трацячы яго, не адкідаючы яго, а зьмяшчаючы ў сабе ў „зьнятым“ відзе.

Формальная лёгіка захоўвае сваё значэньне, як ніжэйшая падпарадкаваная, элемэнтарная лёгіка. Яна адносіцца да лёгікі дыялектычнай, як элемэнтарная матэматыка да вышэйшай, як старасьвецкая саха да трактару. Такое яе значэньне і яе межы. Падобна таму, як для таго, каб палічыць уласныя пальцы, няма патрэбы ведаць дыфэрэнцыяльнае зьлічэньне, так-жа сама неразумна было-б прыстасоўваць дыялектычную лёгіку да дробязяй штодзеннага жыцьця. Тут зусім даволі прыблізнай, недасканалай школьнай лёгікі. Дыялектыка павінна заняць сваё месца там, дзе патрэбна навуковая дакладнасьць і магчымая блізкасьць да навуковага пазнаньня. Навуковая творчасьць ня можа задаволіцца прымітыўнымі прынцыпамі „пакаёвай“ лёгікі. Староньнікам „здаровага сэнсу“, якія паўстаюць супроць труднасьцяй дыялектыкі, можна сказаць: тое, што вы можаце пазнаць сваю жонку без акуляраў, яшчэ ня значыць, што тэлескопы і мікроскопы непатрэбны. Абедзьве лёгікі адносяцца адна да аднэй так, як гэтыя два роды зроку.

Мы паказвалі, як на характарную рысу традыцыйнай лёгікі, што яна, опэруючы паняцьцямі—гэтымі лёгічнымі атомамі, карыстаецца паняцьцямі абстрактнымі, г. зн. такімі, якія, выражаючы агульнае ў рэчах, ад якіх яны абстрагаваны, трацяць пры гэтым усякую розьніцу, уласьцівую гэтым рэчам. Стол, расьліна, чалавек, напр.,—паняцьці, у якіх скондэнсавана, сьціснута, усё, што ёсьць агульнага, аднастайнага, у цэлым руху, у безьлічы станаў, расьлін, людзей; але ўсё, што ёсьць адменнага ў гэтых аднастайных людзей, расьлін, усё тое, што ў іх ёсьць сваясаблівага, нязвычайнага—усё гэта застаецца па-за паняцьцем, ня ўключаецца ў яго, гэта выкідаецца з паняцьця, прападае для мысьленьня. Паняцьце стол уключае ўсё, што ёсьць агульнага ва ўсіх сталоў, а тое, што ёсьць рознастайнага ў сталох, іх відавыя адзнакі, не ўваходзіць у гэта паняцьце. Усякае абстрактнае паняцьце, фіксуючы толькі тое, нямнога, што ёсьць агульнага ў рэчах, і выкідаючы за борт тое, што ў іх ёсьць адменнага, дае аб сьвеце недакладнае, неідэнтычнае ўяўленьне, для таго што ў рачаіснасьці ніколі ня існуе прадмету, які разам з тым, што ў яго ёсьць агульнага з рэштаю, у той-жа час не адрозьніваўся-б асаблівымі і толькі яму ўласьцівамі рысамі. Агульнае ня існуе ў чыстым відзе, па-за асаблівым, а толькі ў асаблівым, у іх непадзельнасьці. Абстрактныя паняцьці не ахапляюць усёй паўнаты рэальнасьці, а закранаюць толькі краі яе, адну з граняй—грань агульнага. І па меры таго, як мысьленьне ўзносіцца да ўсё больш абстрактных паняцьцяў, яна ўсё больш і больш губіць быцьцё рэальнасьці, усё больш апустошваецца і бяднее. Вось чаму дыялектычнае мысьленьне клапоціцца аб тым, каб перамагчы іх абстрактнасьць і аднабокасьць і гэту разарванасьць агульнага і асаблівага. На месца абстрактных паняцьцяў традыцыйнай

лёгікі ўводзяцца практычныя паняцьці, адзінства агульнага і асаблівага, поўныя зьместу супярэчлівага адзінства.

Дыялектычнае паняцьце ёсьць агульнае, якое не выключае, а ўключае ў сябе ўсе істотныя адзнакі, уласьцівыя гэтаму агульнаму. Так, напр., ужываючы паняцьце „грамадзкая кляса“, мы гэтым ня кажам нешта пра клясу, як пра аднабока-абстрактнае, для нас гэта паняцьце ня ёсьць нешта пазбаўленае ўсякіх адзнак, зьмены, унутраных супярэчнасьцяй; наадварот, яно зьмяшчае іх у сабе, мае іх на ўвазе. Ня толькі няма клясы „наогул“, а ёсьць толькі пэўныя клясы: фэўдальная, буржуазная, пролетарыят, але кожная з іх мысьліцца як зьменлівае, жывое, неаднастайнае, якое зьмяшчае ў сабе розныя падклясы, групы, цэхі, з іх унутранымі супярэчнасьцямі. Усю шматвобразнасьць і багацьце жыцьця мы стараемся захаваць у паняцьці. Асноўным элемэнтам мысьленьня павінна быць не абстрактнае беднае паняцьце, а такое ўсеагульнае, якое „ўцяляе ў сабе багацьце асаблівага, індывідуальнага, паасобнага“.

Традыцыйная лёгіка рушыць навуку ад конкрэтных паасобных рэчаў ва ўсёй іх складанасьці да рэчаў абстрактных, да паняцьцяў, з якіх абстрагаваны, выжматы ўсе рэальныя конкрэтныя адзнакі. Мы, дыялектыкі, рухаемся ад даных у практыцы конкрэтных паасобных, разрозьненых рэчаў цераз выяўленьне іх агульнасьці назад да гэтых конкрэтных рэчаў у іх асьвядомленым адзінстве, у адзінстве іх шматвобразнасьці. Інакш кажучы, мы карыстаемся абстрактнымі паняцьцямі, абагульненьнямі, як прыладамі мысьленьня не для таго, каб загрузнуць у іх, не для таго, каб скончыць пазнавальны процэс на іх, усё вышэй і вышэй падымаючыся на стромасьці пустых абстракцый, усё далей і далей да конкрэтнага сьвету, а каб цераз іх вярнуцца назад да конкрэтных рэчаў, зразумелых у іх сувязі і адзінстве. Конкрэтныя паасобныя рэчы ва ўсёй іх складанасьці і ўзаемасувязі складаюць адзіны прадмет навукі. Чалавек, які пачынае пазнаваць, выходзіць з нерасчлененай, няяснай, паасобнай рэчы, напр., данага грамадзтва, клясы, організму, для таго, каб у выніку мысьліцельнага процэсу вярнуцца да гэтай конкрэтнай рэчы, але ўжо расчлененай, якая пазнана як частка сусьветнага цэлага ва ўсім адзінстве яго ў яе сувязі з другімі рэчамі.

Такі ў асноўным прынцып дыялектычнага паняцьця, супроцьпалаганага намі намечаным абстрактным паняцьцям мэтафізыкаў. Гэты прынцып, сьледам за прынцыпамі адзінства адзнак, дынамізму і ўсеагульнай узаемасувязнасьці і ўзаемапасярэдніцтва—зьяўляецца асноўнаю падвалінаю новай лёгікі, „зьнімаючай“ тры мэтафізычныя аксіомы.

Мы зазначылі тут асноўныя кірункі, асноўныя лініі, па якіх мы супроцьставім дыялектыку традыцыйнай лёгіцы. Але трэба сказаць, што дыялектычная лёгіка ня ёсьць штосьці завершанае, штосьці скончанае, што можна ўзяць, як гатовае, і карыстацца ім. Не, дыялектычная лёгіка гэта ня толькі дасягненьне, але ў некаторай ступені і задача, якая стаіць перад намі. Асноўныя падваліны дадзены нам работамі Гэгеля, Маркса,

Энгельса і іх бліжэйшых вучняў. Тычкі пастаўлены. Дадзены і найлепшыя ўзоры прыстасаваньня яе да конкрэтных дасьледаваньняў, але ўдасканаленьне, удакладненьне, адшліфоўка яе, далейшая распрацоўка, дэталізацыя і популярызацыя яе стаяць перад намі, як цэнтральная конструкцыйная задача марксысцкай філёзофіі. Можна лічыць, што асноўная задача марксысцкай філёзофіі ў цяперашні час—гэта распрацоўка і сыстэматызацыя дыялектычнай лёгікі да такога ўзроўню, каб ёю можна было карыстацца пры популярным выкладаньні, каб яе можна было шырока ўжываць і ва ўсіх галінах навукі і палітыкі. Увага і сілы марксысцкай філёзофіі ў цяперашні час накіраваны на тое, каб аформіць, удакладніць, дыфэрэнцыяваць гэту лёгіку.

Мы, дыялектыкі, самую навуку разумеем не як нешта гатовае, пэўнае, штосьці раз назаўсёды дадзенае, абсолютнае. Самую навуку, само пазнаньне мы разглядаем як нешта адноснае, як процэс, які разьвіваецца ў змаганьні сваіх унутраных супярэчнасьцяй. Самы процэс чалавечага пазнаньня ёсьць нешта гістарычна рухавае, што нясупынна зьменьваецца, пашыраецца. Новы этап у гісторыі навукі здымае папярэднія дасягненьні, узводзіць наша пазнаньне на новую, вышэйшую ступень, праводзіць нас глыбей у таямніцы прыроды, каб у сваю чаргу перадаць усё наступным дасягненьням, жывіць далейшы процэс. Задачы навукі ня маюць канца. Паток яе ня мае граніц. Дасканалае пазнаньне сьвету такім, як ён ёсьць у рачаіснасьці, апанаваньне яго законамі і пераробка яго, прыстасаваньне яго для шчасьця свабоднага ад клясавага ціску чалавецтва—такі ідэал навукі. Гэты ідэал адыгрывае такую-ж ролю ў стасунку да пэўнага гістарычна-абмежаванага этапу навукі, якую адыгрывае паняцьце граніцы ў матэматыцы. Круг—гэта шматкутнік з бясконцым лікам бакоў. Гэта і ня стокутнік, і ня тысячакутнік, і як-бы мы ні павялічвалі лік яго бакоў, як-бы ні набліжалі яго да бязьмежнасьці, ён ніколі не сальлецца з ім, бо заўсёды ёсьць магчымасьць яшчэ больш павялічыць лік яго бакоў. Абсолютнае пазнаньне ёсьць такая-ж бяскрайнасьць, да якое бязупынна набліжаецца ў сваім прогрэсе пазнаньне. Няма канца яго задачам, няма граніц яго дасягненьням. Усякае пазнаньне ёсьць адноснае пазнаньне сьвету, яно ёсьць бяскрайнае набліжэньне да свайго ідэалу—граніцы.

Дыялектыка і на сябе самую глядзіць дыялектычна—яна разглядае сябе як той найвышэйшы этап, якога дасягнула сучаснае чалавечае пазнаньне ў сваім пераможным руху. Сабраць усе навуковыя плады, якія нясе ў сабе гэта лёгічная рэволюцыя,—такая наша задача ў цяперашні момант.

## „ЗАПАДНО-РУССКАЯ“ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ [1])

Аляксандр Цьвікевіч

### VII. Спробы ідэолёгічнага афармленьня „западно-руссизма“.

„Западно-руссизм“ стыкнуўся са славянафільствам яшчэ да польскага паўстаньня. Але ўмовы для яго разьвіцьця ў той час былі вельмі адменныя. Папершае, ён сам яшчэ ў тыя часы быў, як кажуць, у эмбрыянальным стане, толькі набіраў свае рысы і аргумантацыю; падругое, і гэта галоўнае, абставіны часу мала спрыялі яго разьвіцьцю. У Вільні ў 40—50 гадох панаваў мірны настрой. Палітычная бура 31 году была забыта, ці прынамсі адгучэла. Цэнтр палітычнага жыцьця перанёсься на эміграцыю, у польскія гурткі Парыжу і Брусэлю, а мясцовае грамадзтва, апанаванае палітычнай апатыяй, цалкам прысьвеціла сябе культурнай рабоце. Асабліва гэта датычыць 50-х і пачатку 60-х гадоў, калі пасьля няўдалай крымскай вайны спала мікалаеўская рэакцыя і калі ў паветры насіліся першыя павевы надыходзіўшай „эпохі рэформ“.

У Вільні ў гэты час мы бачым шэраг пэрыодычных выданьняў („Teka Wileńska“ і „Radehast“ Ад. Кіркора, „Atheneum“ Крашэўскага, „Kurjer Wileński“ Марцыноўскага ды інш.), адно за другім зьяўляюцца паважныя дасьледваньні, пераважна гістарычныя, зьбіраюцца ў вялізным ліку статыстычныя, этнографічныя ды інш. матэрыялы, штодзенная прэса мае сур'ёзны характар і выдаецца ў нязвычайна вялікім ліку; усё грамадзтва з цікавасьцю сочыць за гэтым навуковым і літаратурным рухам, якія концэнтраваўся вакол памянёных рэдакцый, каля Архэолёгічнай Камісіі і Віленскага Музэю.

Уся ўвага гэтага руху накіроўвалася тады на Беларусь, наогул, на „Літву“. У вывучэньні краю шукалі збаўленьня ад палітычнага ўціску, і жадалі знайсьці апраўданьне свайму існаваньню. Гэта была своеасаблівая даніна краю,—яго народу і гісторыі,—жаданьне бліжэй пазнаёміцца з ім, будзіць у народзе прыхільнасьць да сябе, і праз гэта ўзмацніць сувязь Беларусі з Польшчай. Аднак вынікі гэтае працы былі зусім адваротныя: чым далей і глыбей выяўляўся перад вачыма тагачасных віленскіх культурных работнікаў вобраз Беларусі, тым больш рабіўся ён

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 7 за 1928 г.

няпольскім, і тым больш самі яны пазбаўляліся чыста-польскага погляду на свой край. Можна напэўна сказаць, што ў сярэдзіне мінулага веку ў Вільні адбылася ў гэтым сэнсе „пераацэнка цэннасьцяй“,—і чым далей, тым больш мясцовыя дасьледчыкі станавіліся, за малымі выключэньнямі, на мясцовы, як яны называлі, „літоўскі“ грунт.

Гэтая „літоўскасьць“ была па сутнасьці старой „русчынай“, гэта было скрытае прызнаньне „Русі“, у даным выпадку Белай (і Чорнай)— і гэта добра разумелі і браты Тышкевічы, і Маліноўскі, і Марціноўскі і асабліва Кіркор. Адсюль іх прыхільны стасунак да спроб беларускай літаратуры, адсюль тая „мясцовая партыя лепшых палякаў“, аб якой мы казалі раней. Праз „літоўскасьць“, праз беларушчыну і „русчыну“ нагогул, яны мімаволі зьвязваліся з расійскай навукай і грамадзтвам, у першую чаргу, са славянафіламі.

„Пяцідзесятыя гады нашага сталецьця“, піша сьведка тагачаснага віленскага жыцьця, славянафіл П. Бессонов, „былі шчасьлівыя. Староны (палякі і расійцы), асуджаныя вечна змагацца ды спрачацца, але, нічым не абавязаныя ненавідзець адна адну, пачалі рашуча шукаць зьбліжэньня, якой-небудзь магчымасьці жыць і працаваць разам. Палітычнае мінулае, некалі зьвязаўшае іх суровай сілай і назвай „Літвы“, азвалася зноў. Усе пачалі ўжываць назву „Літвы“, літоўцаў, літоўскага, і пад гэтай назвай дзейнічаць. Паляк абярнуўся ў „літвіна“, а Русь адзягалася „Літвою“,— формула прымірэньня была простая і натуральная“ [1]).

Сапраўды, ёсьць цэлы шэраг фактаў, якія даводзяць, што паміж польскім грамадзтвам на Беларусі і грамадзтвам расійскім былі ў той час спакойныя адносіны і часта адбывалася блізкае супрацоўніцтва. Так, прыкладам, Пагодзін не спачуваў тады яшчэ перасьледваньням польскай мовы і прытрымліваўся таго пераконаньня, што расійская мова з часам і бяз прымусу набудзе значэньне інтэрнацыянальнай славянскай мовы [2]). Аксаков, Хомяков ды інш. славянафілы прымалі ўдзел ў віленскіх выданьнях, падтрымлівалі з віленскімі работнікамі жывую перапіску па розных пытаньнях; нават Катков і той адказваў на расійскія лісты з Вільні Кіркору (Janu ze Sliwina)—папольску і ставіў сабе гэтую абставіну ў 1858 г. ў асаблівую заслугу [3]). З свайго боку Кіркор, Тышкевіч, Маліноўскі ды шмат хто яшчэ ўдзельнічалі ў расійскіх выданьнях, карэспондавалі ў маскоўскія газэты і зьяўляліся членамі розных навуковых расійскіх таварыстваў. Крашэўскі, Сыракомля, Адынец і інш. клапаціліся аб перакладзе на польскую мову расійскіх пісьменьнікаў і самі рабілі пераклады з Пушкіна, Лермантава, Дзяржавіна [4]). Характарнай

[1]) П. Бессонов. „Белорусские песни“, прадмова.

[2]) Н. Барсуков. „Жизнь и труд М. П. Погодина“, т. V, стар. 219.

[3]) Гл. цікавую нататку аб гэтым у „Новом Времени,“ 1870 г. № 55. У гэтай нататцы А. Кіркор, між іншым, цьвёрда называе сябе „ня прыродным палякам, а беларусам“.

[4]) Гл. „Журнал Мин. Нар. Просв.“ за 1859 г., стар. 203, смесь.

постацяй гэтага пэрыоду можа быць вядомы В. Спасовіч, па паходжаньні беларус—мянчук,—тыповы прадстаўнік мяшанай польска-расійскай культуры, які ў сваёй асобе ды ў сваіх працах імкнуўся „примирить непримиримое“ і быць мастком паміж польскім і расійскім берагам.

„Западно-руссизм“ ня меў пры гэтых умовах падставы заяўляць аб сваёй агрэсыі. Пакольні „рускасьць“ (праз адно „с“) устракала ў краі агульнае прызнаньне, яму ня было за што ваяваць, тым больш, што рахманы славянафільскі кірунак у сталіцах згладжваў ўсе вострыя канты афіцыяльных польска-расійскіх адносін. З „западно-русским“ поглядам у Вільні тады лёгка мірыліся ці, лепш кажучы, мала зьвярталі на яго ўвагі. Пад сынонімічным імем „Русь—Беларусь—Літва“ зыходзіліся для навуковай работы былы рэдактар „Кур. Віленскага“ Антон Марцыноўскі і сьвяшчэньнік Карсакевіч, памешчык Нарбут і чыноўнік губэрскага праўленьня Яхімовіч, граф Тышкевіч ды архімандрыт Гэласі [1]). Таму вось, калі М. Каяловіч у 1859 г. ў сваёй працы аб гісторыі вуніі характарызаваў Крашэўскага, як гісторыка, які „глядзіць на Беларусь вачыма „западно-русса“,—апошні не протэставаў супроць падобнае характарыстыкі [2]).

Паўстаньне 63 году і выкліканая ім барацьба за Беларусь у корані зьнішчылі гэты ідылічны малюнак. На месцы ранейшай лагоднасьці ды нэўтральнасьці, у расійска-польскіх адносінах паўстала зацятая варожасьць. Тут то і выплыў „западно-руссизм“ са ўсёй сваёй антыпольскай агрэсыяй. Яго славянофільская аснова не перашкаджала наступу на палякаў—хутчэй, наадварот, яна надавала яму большай упэўненасьці. Блізкасьць Каяловіча да гуртка Аксакава і Каткова таксама спрыяла ваяўнічасьці „западно-руссизма“, бо, як ведама, і Аксаков і Катков, забыўшыся на свае польскія лісты да Кіркора, дзякуючы паўстаньню перакаціліся ў крайня-патрыотычны лягер і зрабіліся зацятымі абаронцамі праў расійскага цара на паўстаўшую Польшчу.

Свае ідэолёгічныя позыцыі „западно-руссизм“ зазначыў падвойна: папершае—безагляднай ганьбай усяго польскага на Беларусі і, падругое—бязьмернай хвальбой Расіі, як ідэалу, у якім тоіцца ўвесь сэнс, уся сутнасьць існаваньня Беларусі. Ад канца 60-х да канца 80-х г. г., гэта значыць, на працягу больш як дваццаці год, цягнулася гэта работа, так што пры канцы сталецьця „западно-русская“ школа ўжо была

[1]) Усе пералічаныя асобы прымалі ўдзел у апрацоўцы археографічных зборнікаў, выданых у Вільні ў 40-х гадох: „Собрание древних актов и грамот городов Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей, и по разным предметам“, і гэткае-ж „Собрание“ па гарадох Менскае губэрні. Гл. водзыў а першым выданьні ў Журн. Мин. Внутр. Дел за 1843 г., ч. II, стар. 269—270.

[2]) Гл. Журн. Мин. Нар. Просв., 1883 г., № 225, стар. 88—89: „Прежние воззрения польского писателя Крашевского на бывшее Литовское княжество, т. е. на Западную Россию“.

нечымсьці акрэсьленым і да пэўнай меры—закончаным. Як і ў іншых справах, і тут галоўную работу прарабіў Каяловіч [1]).

Заўважыўшы, што польская нацыя з даўных часоў пачала пашырэньне на ўсход, у межы Беларусі ды Украіны, і што гэтае пашырэньне яна праводзіла адначасна шляхам экономічнае і культурнае заваёвы гэтых краін, Каяловіч сьцьвярджае, што ўвесь сэнс польскае цывілізацыі на Беларусі, увесь сэнс гістарычнага польска-беларускага сужыцьця выяўляліся адзіна ў тым, што беларускі народ усё ніжэй набліжаўся да стану „грубае масы“, якая павінна была служыць чужому дзяржаўнаму ідэалу; разрыў, які стаўся на Беларусі, паміж ніжэйшымі і вышэйшымі станамі па лініях нацыянальнай, рэлігійнай і культурнай і які прычыніўся да палітычнага заняпаду краіны; тое становішча, што беларускія народныя масы „стаяць тут у вялікай адзіноце“ і ня маюць жаднага выхаду да лепшага жыцьця; тая страшэнная процьма зьдзеку і пагарды, з якой наплыўшы польскі арыстократычны элемэнт на Беларусі праз вякі ставіўся да мясцовага беларускага элемэнту; прадвечная варожасьць паміж панскім двором і беларускай сялянскай хатай,—усё тое адмоўнае, на што было багата беларускае мінулае;—усё гэта, паводле пераконаньня Каяловіча, прынесла і стварыла на Беларусі Польшча. „Западно-руссизм“ даў усім гэтым зьявам акрэсьленьне і тлумачэньне.

У вачох „западно-руссов“, працятых злабой да польскай панскай культуры на Беларусі, трацілі сваю павабнасьць нават бясспрэчна сьветлыя моманты беларуска-польскай гісторыі,—тыя часы і тыя людзі, якія мусілі ў памяці краю захавацца як нешта дадатнае. Так, прыкладам, Каяловіч скэптычна ставіцца да ўтварэньня „Эдукацыйнае Камісіі“ і да спроб палегчаньня становішча хлопства пры канцы XVIII ст., кажучы, што „польскае жыцьцё ня так склалася ў гісторыі, каб самі палякі маглі выпрацаваць нешта сапраўды добрае для народу“; ня бачыць ён нічога асаблівага і ў канстытуцыі 3 мая, у якой „ня было свабоды веры і ня было свабоды хлопства“ [2]). У стасунку Лелевэля і тае дэмократычнае плыні ў польскай навуцы і грамадзтве, якое адбіў у сваім часе гэты найвыдатнейшы прадстаўнік польскае гістарычнае мысьлі, Каяловіч трымаецца таксама адмоўнага погляду. „Натуральна было-б чакаць, кажа ён, справядлівых адносін да Беларусі з боку тых пісьменьнікаў,

[1]) Першае акрэсьленьне „западно-русского“ разуменьня беларускага пытаньня было дана ім у памянёных вышэй „Лекциях по истории Западной России“ (1864—1884); потым гэтай мэце служылі: „История русского самосознания“, 1893, прамовы ў Славянском Обществе: „Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности“ (1883), „По поводу кончины Ю. Самарина“ (1876) ды інш.; урэшце, шмат якія артыкулы і дасьледваньні, раскіданыя ў тагачаснай прэсе—„Журн. Мин. Нар. Просвещения“, „Дне“, „Церк. Вестнике“, „Русском Инвалиде“, „Гражданине“ і г. д. Галоўная праца М. Каяловіча—„Ист. русск. самосознания“, хоць і выклікала ў расійскай журналістыцы шумную полеміку, аднак, не знайшла прызнаньня сваёй навуковай вартасьці (гл. „Исторический Вестник“, 1897, т. 68, стар. 905—6).

[2]) „Лекции по истории Зап. России“, 1864, стар. 354.

якія належаць да так зв. польскае народнае партыі, у тым ліку, перш за ўсё, ад таленавітага Лелевэля. Але што-ж мы знаходзім? Лелевэль сапраўды кляйміць польскую арыстократыю за тое, што яна падбівала правы народу. Але дзе-ж народ у Лелевэля? Ён знаходзіць яго ў той-жа польскай шляхце, уласьціва кажучы, у ніжэйшай шляхце. У ёй ён бачыць выраз народнае (польскае) сілы. Для заходня-рускага народу, паводле яго пераконаньня, носьбітам жыцьця ды цывілізацыі зьяўляецца кожны паляк. Ён як-бы знарок прыніжае, зьнішчае ў Літве і наогул у Заходняй Расіі ўсе старажытныя праявы самабытнага разьвіцьця цывілізацыі. Гэта каб паказаць, што Заходняя Расія ўсім абавязана Польшчы. У яго, дый наогул у польскіх пісьменьнікаў, заходня-рускае жыцьцё прадстаўляецца грубаю масаю, якая павінна быць апрацаванай паводле пачаткаў польскае цывілізацыі“ [1]).

Нічога дадатнага ня бачыць „западно-руссизм“ і ў постаці Міцкевіча. Думкі Каяловіча па гэтым пытаньні вельмі цікавыя: „Каб уявіць сабе самотнасьць тутэйшага народу, яго (духоўную) адзіноту, падамо, кажа ён, адзін прыклад. У Навагрудку, у Менскай губэрні, у краі беларускага насельніцтва, нарадзіўся поэта—прызнаны вялікі поэта—Міцкевіч. Усе поэтычныя натуры, асабліва вялікія, маюць супольную ўсім ім і самую звычайную паміж імі асаблівасьць—чуласьць да сапраўдных народных цярпеньняў, да хворых бакоў народнага жыцьця. Яны бачаць іх здалёк, глыбока іх адчуваюць і гавораць аб іх з уласьцівай ім сілай. *Міцкевіч ня бачыў, не разумеў, не адчуваў хворасьцяй заходня-рускага жыцьця, ня стаў на баку забітага, загнанага народу, але зрабіўся шляхецкім польскім поэтам*“ курсыў мой—*А. Ц.*) [2]).

З гэткім-жа скэптыцызмам ставіцца Каяловіч і да спробы беларускага гуртка ў Віленскім унівэрсытэце—Даніловіча, Ярашэвіча ды інш.,— „якія прыходзілі да сьвядомасьці, што і самі яны не палякі, а тым больш ня польскі народ іхняй краіны“. Апавядаючы аб тым, як гэтыя людзі „надумаліся аднавіць самастойнасьць заходняй Расіі на аснове старой ідэі палітычнае незалежнасьці Літвы“, Каяловіч папераджае, што галоўнай памылкай іх было пераконаньне, быццам патрэбную самастойнасьць Беларусь можа выпрацаваць пры польскай цывілізацыі, быццам цывілізацыя гэта можа пранікаць сюды натуральна, бяз жаднага гвалтоўнага прыгнёту мясцовых народных асаблівасьцяй.

„Палітычная незалежнасьць Заходняй Расіі,—кажа ён,—немагчыма, і яшчэ больш немагчыма яна, калі можна так сказаць, пры польскай цывілізацыі. Тады гэтая самастойнасьць скончылася-б тым самым, чым яна канчалася раней,—прыкладам, у XVI ст., калі Літва зьлівалася з Польшчай... Беларусь нагэтулькі бедная, што ня можа дапускаць непатрэбных тэорый і лятуценьняў. Ёй трэба вырашаць толькі самыя істотныя,

---

[1]) Лекции по истории Зап. России, 1864, стар. 19.

[2]) Ibid., стар. 13—14.

канечна патрэбныя пытаньні, дый беларускае племя такое блізкае да вялікарускага, што ніякі сэпаратызм ня можа мець у ім сілы“ [1]). І каб давесьці на прыкладзе немагчымасьць польска-беларускага сужыцьця, Каяловіч з асаблівай увагай спыняецца на постаці вядомага украінскага дзеяча Куліша, які пад канец свайго жыцьця расчараваўся ў Польшчы і замяніў сваё ранейшае захапленьне польскай культурай прызнаньнем расійскага дзяржаўнага генія. Прыклад „полёнафіла“ Куліша павінен быў сьведчыць „западно-руссам“, што саюз з Польшчай і орыентацыя на польскую цывілізацыю прынцыпова немагчымы для кожнага „па істоце рускага“, хоць-бы ён быў і беларусафілам [2]).

„Западно-руссизм“ ня верыў Польшчы, ня верыў спробе польскага грамадзянства на Беларусі знайсьці супольную мову з беларусамі, засыпаць роў гістарычнага разыходжаньня паміж імі, які стварыўся ў мінулым. Гэтыя спробы здаюцца „западно-руссам“ фальшывымі, за імі яны бачаць усё тыя-ж скрытыя імкненьні захапіць Беларусь, падначаліць яе сваёй волі.

„У сучасны момант, піша Каяловіч у 1884 годзе, палякі ў Заходняй Расіі стараюцца зблізіцца з тутэйшым народам і прывабіць яго на свой бок. Яны кажуць, быццам паважаюць беларускую народнасьць, што жадаюць нават, каб гэтая народнасьць разьвівалася і стварала сваю пісьменнасьць, друкавала кніжкі на сваім дыялекце. Але ў той самы час яны кажуць, што польская народнасьць гістарычна творыцца і павінна тварыцца, пасоўваючыся на ўсход,—г. зн., што беларус, атрымліваючы асьвету, павінен рабіцца палякам“ [3]).

Тут сваячасна паставіць адно пытаньне: што павінны былі-б рабіць „западно-руссы“, калі-б мясцовая польская думка спачувала беларускай справе *шчыра*, калі-б яна шчыра хацела дапамагчы адраджэньню беларускага краю і беларускай культуры? Нельга сказаць, каб пры канцы мінулага веку гэткіх зьяў ня было. Яны былі і нават ня так ужо рэдка. Падупаўшаму пасьля другога паўстаньня польскаму элемэнту на Беларусі ня было куды падзецца. Як мы заўважылі вышэй, Польшча ў гэты пэрыод была адціснута поступам жыцьця на захад, да сваіх этнографічных межаў, і польская мысьль зьняверылася ў магчымасьці барацьбы з расійскім царызмам. Аднак яна не хацела аддаць Беларусь Расіі,—і таму адзіным выхадам заставалася прызнаньне Беларусі, як самастойнай краіны. Вось чаму мы бачым, што большасьць беларускіх адраджэнцаў таго часу выходзіла з шэрагаў мясцовае інтэлігенцыі польскай культуры.

[1]) Каб прасачыць эволюцыю поглядаў Каяловіча на пытаньне аб незалежнасьці Беларусі на працягу дваццаці год, варта параўнаць абзацы, прысьвечаныя гэтаму пытаньню ў перш м і трэцім выданьні яго „Лекций по истории Западной России“,—выд. 1864 г., стар. 25—27 і выд. 1884 г., стар. 17—19.

[2]) „История русского самосознания“, 1893. стар. 423—424.

[3]) Чтения, стар. 10.

Як у гэтым выпадку глядзелі на справу „западно-руссы“? Ці ня мусілі яны,—абаронцы „русчыны“ на Беларусі,—прызнаць і вітаць гэты факт?

Гэтае пытаньне вельмі паказальнае і выяўляе самую сутнасьць „западно-русской“ ідэолёгіі. Для адраджэньня беларускае культуры было тады ўсё роўна, хто-б і з якіх меркаваньняў яе ні падтрымліваў-бы, абы толькі яна магла разьвівацца. Ці паляк, ці расіец ішоў насустрач нацыянальнаму ўсьведамленьню краіны;—ніякае прынцыповае розьніцы ў гэтым ня было. Важны быў толькі самы факт самазнаходжаньня Беларусі, важна было, каб яна вызвалялася з-пад польскай культурнай залежнасьці. І калі-б „западно-руссизм“ цаніў беларускасьць самую па сабе, калі-б ён бачыў у Беларусі нешта каштоўнае само па сабе, ён мусіў-бы прызнаць дадатнай падобную зьмену ў настроях мясцовага польскага грамадзянства. Больш таго,—калі-б ён жадаў захаваць старую „рускасьць“ на Беларусі, а не ператвараць яе на „расійскасьць“, дык ён павінен быў-бы вітаць абярненьне мясцовых палякаў на беларусаў.

Аднак гэтага ня сталася. „Западно-руссизм“ у канчатковым вывадзе ласьне таму цягнуў Беларусь да Расіі, што ня бачыў у Беларусі самастойнага пачатку. Ён ня бачыў для беларуса магчымасьці захаваць свой нацыянальны твар пры далейшым разьвіцьці суседніх культур,—а значыць, і не хацеў клапаціцца аб гэтым. У апошнім сваім вывадзе ён бачыў у Беларусі толькі *пераходны этап* паміж Расіяй і Польшчай,—г. зн. *ішоў у гэтым пытаньні сьледам за ідэолёгамі „Вялікае Польшчы“*, якія здаўна казалі, што „нацыянальнасьць русінаў не зьяўляецца чымсьці акрэсьленым, а толькі полем бітвы паміж дзьвюма варожымі нацыямі—расійскай і польскай“ [1]). Стоячы на гэтым грунце, „западно-руссизм“, натуральна, аддаваў сымпатыі Расіі.

„Калі-б, навучаў Каяловіч, палякі нават шчыра казалі, што ператварэньне беларуса ў паляка павінна адбывацца свабодна, бяз прынукі, дык і тады кожны разумны беларус павінен быў-бы задумацца, ці ня лепш у такім выпадку зрабіцца вялікарусам, а не палякам, ці ня лепш зьліцца з магутнаю, спакойнаю Расіяй, чым са слабой, бясконца хваляванай Польшчай“. Гэта, паводле пераконаньня Каяловіча, тым больш павінна мець месца, што, *„калі хто з беларусаў пераймае расійскую асьвету ды мову, дык ня робіцца праз гэта ворагам свайго племя, з якога вышаў, а, робячыся палякам, ён абавязкова дрэнна ставіцца да свайго племя“* [2]).

Так быў упяршыню сфармуляваны „западно-русский“ аргумант аб „вялікай і магутнай Расіі“,—аргумант, які пры далейшым разьвіцьці беларускага вызваленчага руху зрабіўся нам такім знаёмым. Так упяр-

[1]) Пыпин: „Польский вопрос в русской литературе“, Вестник Европы, 1880, октябрь, 681—687.

[2]) Чтения, стар. 10.

шыню ў 80-х гадох было растлумачана і апраўдана рэнегацтва беларусаў на карысьць Расіі і абвешчана „неразумным“ і процілежным інтарэсам народу рэнегацтва на карысьць Польшчы.

Яшчэ больш цікавым зьяўляецца пытаньне, як-жа Каяловіч і яго група глядзела на беларускае нацыянальнае адраджэньне, паколькі апошняе зазначалася самастойна? Мы паказалі вышэй [1]), што пры пачатку 80-х гадоў, г. зн. у пэрыод, калі „западно-русская“ школа набывала сваё канчатковае ідэолёгічнае афармленьне, беларускі культурна-нацыянальны рух ужо выяўляўся ў пэўных організацыйных формах. Як-жа ставіўся да яго Каяловіч, калі гэты рух, як вядома, ня схіляўся на бок Польшчы, а ставіў сабе мэтай дасягненьне беларускай самастойнасьці незалежна ад палякаў?

На гэта запытаньне мы знаходзім адказ у адным з баявых артыкулаў Каяловіча, прысьвечаных змаганьню з беларускім сэпаратызмам. Тут Каяловіч ня толькі даў тэорэтычную формулёўку „западно-русского“ погляду на адраджэньне Беларусі, але і практычны рэцэпт, як да гэтага адраджэньня ставіцца, каб ня трапіць у „сеці полёнізму“. Як убачым, Каяловіч і тут ня ідзе насустрач Беларусі, а калі і ідзе, дык зноў-ткі з утоеным жаданьнем бачыць яе ў непарушнай органічнай сувязі з Расіяй [2]).

„Апошнім часам увага польскіх завадыяшаў, піша ён, зьвяртаецца зноў на Беларусь. З Варшавы праз Кракаў прышлі запросіны беларускай моладзі пакахаць сваю бацькаўшчыну, разьвіваць яе самабытнасьць і дзеля гэтага ствараць гурткі і набліжацца да народу. І што асабліва нова і зьдзіўляе,—гэта, што польскія дабрадзеі Беларусі выключаюць натуральную небясьпеку, быццам яны думаюць апалячыць гэты край. Не! Яны жадаюць яму самастойнага разьвіцьця ў шэрагу іншых славянскіх народаў“.

Як заўсёды, так і цяпер Каяловіч ня верыць шчырасьці гэтых запросін. Ён бачыць у ім чарговую спробу зацягнуць беларускую моладзь на служэньне „будучай славе і гонару лацінскай Польшчы“. „Не адразу, аднак,—кажа ён,—справы пойдуць проста ў польскі бок. Ім суджана прайсьці наступны процэс: пачнуцца яны з беларускага сэпаратызму. Больш шчырыя і чыстыя беларускія юнакі, г. зн. больш рускія (праваслаўныя?) загавораць прасьцей, ясьней аб самастойнасьці Беларусі і яе

---

[1]) Гл. „Полымя“, 1928 г., № 7.

[2]) М. Каяловіч: „Польское приглашение белорусского юношества к сепаратизму“. „Литовские Еп. Ведомости“, 1882 г., № 10, стар. 78—80. Дзеля таго, што дасьледваньне гэтага пытаньня выходзіць па-за рамкі нашае цяперашняе працы, мы закранаем яго толькі мімаходзь, паколькі яно зьвязана з „западно-руссизмом“. Заўважым, што, па нашых даных, гутарка ідзе тут аб тых праявах беларускага руху ў 1882 г., у якіх прымаў удзел Спасовіч у Пецярбурзе і Кіркор у Кракаве. У сувязі з гэтым у 1884 г. адбыліся ў Вільні сярод студэнтаў Віл. Наст. Інстытуту арышты, аб чым мы ўспамінаем ніжэй; адбываліся арышты і сярод беларускай моладзі ў Пецярбурзе. Гэтаму малавядомаму пэрыоду ў культурнай гісторыі Беларусі мы прысьвячаем асобны артыкул.

сэпаратыстычных патрэбах. Гэтым яны кінуцца ў вочы ўраду, падпадуць яго перасьледваньням, і з гэтае прычыны самі адчуюць няпрыхільнасьць да Расіі. На гэтым падрыхтаваным грунце пачнецца соцыялістычны засеў, і надыйдзе відочная гібель для больш рускіх (!) маладых сіл Беларусі. Тады ўжо будзе зганьбавана для расійскае моладзі гэтага краю самая любоў яе да сваёй бацькаўшчыны. Дзеля чаго ўсё гэта патрэбна? Патрэбна гэта на выпадак новае смуты".

Як-жа ўсё-ткі было трымацца беларускай моладзі, якая хацела-б, незалежна ад польскіх „запросін", кахаць Беларусь і клапаціцца аб яе будучыні? Каяловіч адказвае на гэтае запытаньне станоўча. „Няўжо з-за таго, што завадыяшы польскае справы зрадна заклікаюць беларускую моладзь да разьвіцьця Беларусі, гэтай моладзі трэба кінуць любіць сваю бацькаўшчыну і спусьціцца ў вір чэрствага жыцьця? Зразумела, ніхто гэтага ня будзе раіць, хто адчувае ў сабе жывую душу і бачыць яе ў моладзі. Няўжо з-за ваўкоў у лес не хадзіць? Не,—трэба кахаць бацькаўшчыну і думаць аб ёй, але не па ўказцы польскай, а сапраўды самабытна, паруску. *Толькі ў адзінстве з Усходняй Расіяй любоў да Беларусі можа мець законнае і плённае выяўленьне*" (курсыў мой—*А. Ц.*). „На ўсход Беларусь цягне народнае адзінства крыві,—паўтарае Каяловіч свой звычайны аргумант,—і вораг народу той, хто будзе паўставаць супраць гэтага адзінства. З усходу прынесены Беларусі гэткія даброты, як падзелы Польшчы і вызваленьне ад прыгону. А што прышло з захаду? Яўрэі, езуіты, вунія, гібель народнае інтэлігенцыі, сыстэма батрацтва, прыгоннае становішча ды інш. Для сумленнага разумеючага становішча і патрэбы сваёй бацькаўшчыны беларускага юнака ня можа быць хістаньняў, куды ісьці,—на ўсход, ці на захад".

Каб пастанова беларускае моладзі ісьці на ўсход была цьвёрдай, каб ня было тэорэтычных хістаньняў, Каяловіч дае „некалькі практычных заўваг", як яго трэба разумець. Асноўны, непарушны фундамант беларуска-расійскага аб'яднаньня—па яго словах—гэта праваслаўнае духавенства на Беларусі; у ім і ў яго дзецях—галоўная надзея „западно-руссизма".

„Гісторыя Беларусі так склалася,—кажа Каяловіч,—што да гэтага часу духавенства гэтае краіны, што-б пра яго ні думалі і як-бы ні было сумна яго становішча, ёсьць самая надзейная крыніца народнай інтэлігентнай сілы, а *беларускія паповічы,—самае надзейнае апірышча для правільнага разьвіцьця Беларусі ў будучыні* (курсыў мой—*А. Ц.*). Да іх могуць далучацца і тыя маладыя людзі, што выходзяць у інтэлігентную клясу з беларускага народу. Гэта самыя натуральныя, гістарычна аб'яднаныя сілы, і хто іх разьяднае, той дрэнна разумее патрэбы Беларусі. Потым, дзеля таго, што Беларусь і гістарычна і этнографічна сьцісла зьвязана з Літвой, дык і літоўская моладзь становіць самы блізкі элемэнт да вышэйпаказаных. Хоць за Літвой ёсьць вялікі гістарычны грэх у стасунку да Беларусі, іменна той, што яна дапусьціла злучэньне Літоўскага княства з Польшчай, але побач з тым стаіць адвеч-

нае дружнае яднаньне Літвы і Беларусі, і літвіны ня раз энэргічна абаранялі ад Польшчы самабытнасьць Літоўскага княства. Вось лепшыя элемэнты для правільнага будучага разьвіцьця інтэлігентных сіл Беларусі. Толькі пры трываласьці і згоднасьці іх да іх могуць далучацца бяз шкоды для Беларусі лепшыя сілы з польскае і яўрэйскае моладзі гэтага краю, а не наадварот, чаго вельмі хочацца правадыром польскае справы".

Так выглядала ў вуснах Каяловіча „практычная" пляцформа „западно-руссизма" ў адносінах да ідэі беларускага адраджэньня, як гэткага. Сёньня ня трэба даводзіць яе недарэчнасьці і наіўнасьці.

Змагаючыся з Польшчай, „западно-руссизм" усе свае надзеі пакладаў на ўсход. Беларусь, паводле пераконаньня „западно-руссов", спрадвеку цягнула на ўсход, мела з усходняй Расіяй адзіны нацыянальны корань, адну ўсходня-славянскую глебу, адну кірылаўскую грамату і тую-ж самую гістарычную спадчыну ў выглядзе бізантыцкіх і стараорыентальных уплываў. Гэты погляд „западно-руссы" ўпарта імкнуліся правесьці ў расійскай навуцы супроць поглядаў навукі польскай, якая даводзіла блізкасьць Беларусі да Польшчы. „Заходнюю Расію трэба ведаць і разумець парасійску, г. зн. не папольску", пісаў і заклікаў Каяловіч у 1884 г. „Трэба глядзець на яе з сярэдзіны расійскае дзяржавы—з усходу на захад, а не наадварот,—і пры вывучэньні яе мінулага ды сучаснага становішча трэба таксама накіроўвацца ад расійскае асярэдзіны". „На жаль, дадае ён, яшчэ і цяпер ёсьць у гэтым вялікая патрэба, дзеля таго што ня толькі расійская гістарычная навука, але такая дакладная ў гэтым сэнсе дысцыпліна, як этнографія, доўгі час глядзела на Беларусь праз акуляры польскасьці" [1]).

„Беларусь з сярэдзінай Расіі зьвязвае моцная ды жывая сувязь", цьвердзіць ён. „Туды яе непераможна цягне і „русская вера" вялізнай большасьці насельніцтва, і расійская мова, і расійскі гандаль, больш важны для краіны, чым гандаль з заходнімі суседзямі. Гістарычная, народная цяга Заходняе Расіі да Ўсходняй, выяўлялася ў шмат якіх выпадках нават і тады, калі гэта Заходняя Расія знаходзілася пад чужой уладай" [2]), кажа Каяловіч,—і выкладае сваім чытачом цэлы шэраг аргумэнтаў і даведак, якія мусілі праканаць, што „западно-русские" людзі прымалі непасрэдны ўдзел у будаваньні расійскае дзяржавы, змагаліся з яе ворагамі і працавалі над стварэньнем агульна-расійскае культуры.

Сэнс падобнай аргумантацыі быў падвойны: беларусам ён павінен быў сьведчыць аб іх еднасьці з Расійскай імпэрыяй, а прадстаўнікам расійскае ўлады ды палітыкі мусіў даводзіць, што беларусы—у даным выпадку „западно-руссы"—маюць права быць роўнымі грамадзянамі імпэрыі таксама, як і вялікаросы. Даводзячы супольны ўдзел Беларусі ў агульнарасійскай гісторыі, „западно-руссы" гэтым самым баранілі

[1]) Чтения, прадмова, IV, стар. 3.
[2]) Ibid., стар. 4.

сваё права займаць у ёй не апошняе месца. Пры тых скэптычных адносінах да беларусаў, якія панавалі ў Расіі пры канцы веку, падобнае імкненьне было зусім зразумелым.

Чарговым заданьнем „западно-русской" ідэолёгіі была спроба давесьці адзіную нацыянальную прыроду Беларусі ды Расіі. Трэба зазначыць, што ў другой палове XIX ст., пачынаючы ад 60-х і канчаючы 70-мі гадамі, пытаньне нацыянальнае, зьвязанае з нацыянальнымі ды этнографічнымі адзнакамі паасобных краін Расійскае імпэрыі, было пастаўлена даволі актуальна. Прычынілася гэтаму некалькі фактаў: папершае, славянафільства, з яго зацікаўленасьцю да „народнасьці", потым лёзунгі фэдэралізму, якія былі ўведзены ў праграмы рэволюцыйных народніцкіх партый, самы народніцкі рух з яго ідэалізацыяй простага народнага быту і ўрэшце грунтоўнае разьвіцьцё этнографіі; з вонкавых прычын не малы ўплыў на пастаноўку нацыянальнага пытаньня мела расійска-турэцкая вайна „за вызваленьне славян". У сямідзесятыя гады пытаньне аб нацыі даволі выразна ставілася ў полёно- і украінафільскіх працах Пыпіна і Спасовіча, у работах славістага Ламанскага, у Костомарава і асабліва ў Градоўскага, які ў тагачаснай лібэральнай часопісі „Беседа" друкаваў шэраг артыкулаў а проблеме нацыі і дзяржавы [1]). Ня раз прысьвячаліся гэтаму пытаньню публічныя лекцыі і дыспуты ў сталіцах, асабліва Пецярбурзе. Можна лічыць, што пасьля эпохі дэкабрызму гэта быў адзіны пэрыод у гісторыі расійскае грамадзкае думкі, калі яна цікавілася складанай нацыянальнай проблемай.

У сувязі з гэтым трэба прызнаць, што аргумантацыя „западно-руссов" на тэму аб нацыянальным адзінстве Беларусі з Расіяй выглядае даволі элемэнтарна. Прынамсі, ад Каяловіча, які хацеў быць і сапраўды лічыўся ідэолёгам „западно-руссизма", можна было-б чакаць у гэтым кірунку большага. Уся сутнасьць яго разважаньняў на гэту тэму зыходзіць да апрыёрнага палажэньня, быццам усе тры народы ўсходня-славянскага племя,—беларусы, украінцы і вялікарусы,—ствараюць „один русский народ". Ні акрэсьленьня паняцьця нацыі, ні разуменьня таго, чым зьяўляюцца і які сэнс маюць бясспрэчныя этнографічныя ўласьцівасьці кожнага з гэтых пляменьняў, хаця-ж бы павярхоўнага аналізу тае розьніцы, якая заўважалася паміж Беларусьсю і рэштай імпэрыі нават староньнім гледачом,—нічога гэтага мы ня знойдзем на старонках Каяловіча ды ў іншых „западно-руссов" яго часу. Яны старанна абыходзяць усе магчымыя шурпатасьці ды няяснасьці ў гэтай справе і сьвядома іх не зачапляюць. Тактыка,—якая найлепш сьведчыла аб слабасьці іх тэорэтычнай аргумантацыі.

Пераважны націск беларуска-расійскага адзінства Каяловіч кладзе на мінуўшчыну, бачачы яго яшчэ ў летапісным пэрыодзе славянскай

[1]) Артыкулы А. Градоўскага друкаваліся ў „Беседе" з 1871 па 1873 г. У апошнім годзе яны вышлі ў аднэй кнізе „Национальный вопрос в истории и литературе".

гісторыі. „Сьвядомасьць адзінства, кажа ён, відаць у нашых летапісцаў, прычым яна ідзе далей дзяржаўнасьці і абымае больш унутраныя зьявы нашага гістарычнага жыцьця. Наш пачатковы летапіс добра ведае адзінства ўсіх славянскіх пляменьняў, якія насялялі Расію. Мала таго,—ён добра ведае адзінства ўсіх славянскіх пляменьняў, хоць-бы яны былі і па-за межамі Расійскае дзяржавы“ [1]). Прымітыўны летапісны сказ аб „племенах словенскіх“ і „языцэх словенскіх“ набывае ў вуснах гэтага „западно-русса“ надзвычайную вартасьць, і з яго ён выводзіць першаасноwу беларуска-расійскага адзінства. Той факт, што на працягу вякоў Беларусь жыла зусім асобным жыцьцём, што яна мела ўласную дзяржаву, стварыла ў мінулым свае самастойныя шляхі культурнага і палітычнага разьвіцьця, знаходзіць, праўда, у Каяловіча прызнаньне, і ён сам ня раз кажа, што „западно-русский“ народ жыў сваім жыцьцём, меў сваю гісторыю, свае ўспаміны і г. д. Але ўсё гэта прыўносіцца ім толькі для таго, каб, паказаўшы пэўную значнасьць Беларусі, прыраўнаць яе да Ўсходняй Расіі.

Этнографічных уласьцівасьцяй Беларусі ён таксама не адмаўляе, але зноў-ткі ў апошнім вывадзе яны служаць у яго ўсё тэй-жа мэце,—агульна-расійскаму адзінству. Для Каяловіча існуе нейкая абстрактная расійская этнографічная еднасьць,—нешта супольнае вялікаруска-украінска-беларускае, нейкі агульны „нацыянальны сынтэз“, які вырастае ў працэсе гісторыі і які трэба сьвядома берагчы. З гэтага пункту гледжаньня, г. зн. з пункту гледжаньня этнографічнага росту Расіі, у яго, ласьне, „вынікаюць трывожныя думкі аб сэпаратыстычных імкненьнях ў адносінах паміж трыма рускімі пляменьнямі“ [2]).

Пытаньне аб этнографічным, а значыць, і нацыянальным адзінстве Беларусі з Расіяй зьяўлялася для „западно-русскай“ ідэолёгіі такім істотным, што Каяловіч, не спадзяючыся на свае ўласныя сілы і на свой аўторытэт у змаганьні з „сэпаратыстычнымі імкненьнямі“, зьвяртаецца да аўторытэту аднаго францускага дасьледчыка Расіі,—Леруа Больe. Гэтаму няпэўнай вартасьці вучонаму Каяловіч прыпісвае выключную эрудыцыю і веданьне расійскіх спраў разам з надзвычайнай бесстароннасьцю і жаданьнем дазнаць праўду.

Да адзінства Расіі Леруа Больe падыходзіць тым шляхам, які найбольш адказваў „западно-русскаму“ пачуцьцю,—шляхам адзначаньня мясцовых уласьцівасьцяй і сынтэтычнага іх абагуленьня. Ён абапіраў сваю тэорыю на натуралістычных асновах, што таксама вельмі імпанавала „духоўнаму“ сьветапогляду Каяловіча.

---

[1]) История русск. самосознания, стар. 19.

[2]) „Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности“, гл. зборнік „Первые 15 лет существования С.-Петербургского Слав. Благ. Общества“. 1868—1883 стар. 746—755.

Згодна тэорыі Леруа Болье, цалкам перанятай „западно-руссизмам“ [1]), Расія зьяўляецца адзінай на ўсім сваім эўропэйскім прасторы, дзякуючы прыродным умовам. Географічны квадрат паміж Уральскім сьцягам, Бальтыкай, Чорным морам і Лёдаватым акіянам зьяўляецца натуральным контурам вялікае дзяржавы. Адкрытасьць з усіх бакоў і адсутнасьць прыродных перашкод не даюць шматлікім народам Расіі магчымасьці трымацца паасобку і ствараць асобныя дзяржавы. Наадварот, гэты фактар прымушае іх уваходзіць паміж сабой ва ўзаемныя зносіны, зьмешвацца паміж сабой і паслабляць сваю індывідуальнасьць. Вялікая ўсходня-эўропэйская раўніна, як-бы самым фактам свайго існаваньня, прадугледжвае стварэньне вялікае адзінае дзяржавы.

Натуральным цэнтрам гэтай вялікай дзяржавы зьяўляецца Масква, якая павінна займаць гэтае месца таму, што знаходзіцца ў географічнай сярэдзіне ўсёй прамысловай тэрыторыі.

Розьніцы паміж трыма ўсходня-славянскімі народамі—вялікарусамі, беларусамі ды украінцамі,—францускі аўтар, а за ім і правадыр „западно-руссизма“ не заўважаюць ці, лепш кажучы, не надаюць гэтай розьніцы значэньня. „Гаспадаром русской земли“ павінен быць вялікарос, бо гісторыя найбольш выхавала яго ў гэткім „правадырным“ выглядзе, зрабіўшы яго больш здольным колёнізатарам; аднак у вялікароса няма такіх чыстых славянскіх рысаў, як у беларуса, з прычыны таго, што пры колёнізацыі ўсходніх абшараў першы стыкнуўся з азіяцкімі пляменьнямі і стварыў пераходную ступень паміж Эўропай ды Азіяй [2]). Натуральна, што пры консолідацыі расійскае нацыянальнасьці вялікарос закліканы адыгрываць першую ролю, як у Нямеччыне прусак або ў Італіі—п‘емонец. Вельмі да спадобы „западно-руссам“ было прызнаньне Леруа Болье, што „адзіны народ Расіі мае свой уласны гені, прычым у аснове яго цывілізацыі ляжыць бізантыцкі элемэнт, процілежны заходня-эўропэйскаму або рымскаму“.

Гэткімі былі галоўныя тэзы „натуралістычнага падыходу“ да прынцыпу адзінства Расіі, а значыць, і сувязі з ёй Беларусі—тэзы сёньня

[1]) Леруа Болье падарожнічыў па Расіі 4 разы—у 1872—1882 г.; вынікам яго падарожаў зьявілася кніга L'Empir Russe. Le pays et les habitants, 1881—1889; у Каяловіча яна вылажана ў „Истории русск. самосознания“, гл. XVIII (Научное изучение естественных условий русской жизни), стар. 395—407. Ня трэба блытаць аўтара гэтай працы Leroy—Beaulièu Анатолія, публіцыста і профэсара гісторыі ў Ecole libre des scienses politiques, з братам яго Пьер-Полем Леруа Болье—экономістым, вядомым сваімі варожымі выступленьнямі супроць піонэраў навуковага соцыялізму.

[2]) Характэрна, што аб беларусах Леруа Болье кажа, што яны менш прыгнечаны суровым кліматам ды ўсходнім дэспотызмам і захоўваюць больш асабістай годнасьці, незалежнасьці ды індывідуальнасьці, чым вялікаросы. („Ист. р. самосознания“, 400). Погляд на беларусаў, як племя здольнае і культурнае, падзялялі ў расійскай літаратуры Беляев, Соловьев і асабліва Кавелін, які лічыў, што вялікарускае племя самае някультурнае ў параўваньні з насельніцтвам Заходняй Русі. (Собр. соч., т. I, стар. 348 ды інш.).

занадта старыя, але ў свой час даўшыя для „западно-русского“ сьветапогляду quasi-навуковую аснову. На жаль, для „западно-руссизма“, ён ня мог цалкам абаперціся на аўторытэт Леруа Болье, бо апошні ў сваім гістарычным аналізе ды ў прогнозе будучага Расіі зьбіўся з раней абранай лініі: не згаджаўся з дадатнай роляй расійскага аўтократызму, бачачы ў ім праяву някультурнасьці, ня бачыў нічога, апрача пустошы ў славутным „маскоўскім пэрыодзе“ расійскай гісторыі, а ў расійскай „общине“—horribile dictu—бачыў спрыяючую акалічнасьць для разьвіцьця ў Расіі соцыялізму. Гэтыя апошнія вывады былі ўжо пэўнай данінай француского дасьледчыка „западніцтву“ ды народніцтву.

Пытаньне аб „общине“ наогул разрывала „западно-русскую“ концэпцыю адзінства Беларусі з Расіяй. „Общины“, як пэўнай формы зямлякарыстаньня, на Беларусі ніколі ня было; тут спрадвеку былі разьвіты індывідуальныя, падворныя формы сялянскага зямлякарыстаньня, так што ня было жаднай прычыны распаўсюджваць на Беларусь гэтую спэцыфічна вялікарускую адзнаку. Ня было дзеля гэтага рацыі бачыць у беларускім жыцьці тыя соцыяльныя ды палітычныя элемэнты, якія славянафільства, а з ім і „западно-руссизм“ выводзілі з „общинного порядка“ Расіі: так зв. „уладу зямлі“, сувязь народу з уладай і тую „ўнутраную праўду“ Расійскае дзяржавы, якую шукалі славянафілы. Індывідуальна-парлямантарны лад Беларусі эпохі літоўскага статуту з дамешкай фэўдальна-арыстократычных элемэнтаў пазьнейшага беларуска-польскага пэрыоду рэзка адрозьнівалі Беларусь ад Расіі на працягу шмат вякоў. „Западно-руссизм“ у асобе Каяловіча сьвядома закрываў вочы на гэтыя яскравыя гістарычныя факты, таксама як не хацеў бачыць яшчэ больш рэльефнага факту,—большай гістарычнай сувязі Беларусі з Заходняй Эўропай, чым з Маскоўскім княствам. У даным выпадку становішча „западно-руссизма“ было цяжкім, бо разам з адзначэньнем асаблівай гістарычнай прыроды Беларусі, якая (асаблівасьць) давала падставу называць Беларусь „Заходняй“ Расіяй, ён мусіў так асьцярожна азначаць яе, каб не парваць самых істотных карэньняў сувязі яе з Расіяй Усходняй. Каяловічу гэта было тым цяжэй зрабіць, што ён быў дасканала азнаёмлены з досьледамі аб Беларусі польскіх гісторыкаў, якія не разглядалі Беларусь інакш, як скусладную частку Польшчы.

Галоўнай падвалінай адзінства Беларусі з Расіяй было праваслаўе,—супольнае для іх абедзьвюх. Вось чаму ўся гістарычная аргумантацыя Каяловіча прасычана фактамі ды справамі з беларускай царкоўнай гісторыі. Але і тут „западно-руссизму“ не шанцавала, бо на Беларусі, як ведама, апрача праваслаўя, здаўна было распаўсюджана каталіцтва, ня кажучы ўжо аб вуніі, якая існавала з канца XVI ст. да сярэдзіны XIX ст. і ў пэўным разуменьні была сваяадменнай „беларускай мужыцкай верай“ [1]). Праўда, „западно-руссизм“ з надворнага боку лёгка выра-

[1]) В. Антонович: Монографии по истории Зап. и Юго-Зап. России, т. I. стар. 337.

шаў гэтую вераывзнальную супярэчнасьць: як мы бачылі вышэй, ён проста ня лічыў беларусаў-каталікаў за сапраўных беларусаў і аддаваў іх Польшчы. Але гэта была вялікая нацяжка, яна занадта біла ў вочы кожнаму не асьлепленаму праваслаўным патрыотызмам і тым псавала прынцыповую паступовасьць „западно-русской“ ідэолёгіі. У гэтым сэнсе славянафільства з яго апалёгіяй праваслаўя рабіла занадта адносную, а можа нават дрэнную паслугу „западно-руссизму“.

Адно, у чым славянафільская тэорыя адыграла для „западно-руссизма“ дадатнае значэньне і ў чым нібы вызначаўся лёгічны выхад з усёй проблемы Беларусі як „Заходняй“ Расіі, гэта—у шанаваньні мясцовых асаблівасьцяй. У гэтым славянафілы сапраўды ніколі не грашылі і заўсёды знаходзілі прымірэньне, калі не з этнографічна-нацыянальным, дык этнографічна-краёвым пунктам гледжаньня. Яны ніколі не падымалі рукі на мясцовыя звычаі, мову, народны быт і г. д., наадварот, яны настойвалі на іх захаваньні ды магчымым разьвіцьці.

Каяловіч ведаў гэтую спрыяючую для „западно-русской“ програмы акалічнасьць і старанна яе падкрэсьліваў. Яна павінна была падымаць „западно-руссизм“ у вачох усіх тых на Беларусі, хто ня цураўся сваёй роднай мовы і не хацеў ставіць сваю беларускую—г. зн. „западно-русскую“ істоту ніжэй за вялікарускую або якую іншую. „Славянафілы, казаў Каяловіч, пры ўсёй сваёй увазе ды высоўваньні расійскага жыцьця, не маглі не паважаць самабытных мясцовых і пляменных асаблівасьцяй. У славянафільскай тэорыі знаходзілі сабе *ўтульнае месца* (курсыў мой—*А. Ц.*) асаблівасьці і беларускага жыцьця, да яе пачалі цягнуцца лепшыя прадстаўнікі народнасьці польскай, літоўскай, латыскай“ [1]).

Больш таго, славянафілы, пры ўсіх іхніх клопатах аб славянскім адзінстве, ніколі, быццам, не адмаўляліся ад эвэнтуальнага *разьвіцьця* пасобных славянскіх народаў, у тым ліку ад разьвіцьця іхняе мовы. Расійская мова не магла, быццам, стаяць перашкодай на гэтым шляху, дзеля таго што не рознаадменная форма, але адзіны славянскі зьмест павінен быў зьяўляцца асновай агульна-славянскага яднаньня.

„Славянафілы, кажа Каяловіч, выясьнялі роднасьць і адзінства агульнаславянскага жыцьця ды імкненьняў, прычым толькі некаторыя з іх, як, прыкладам, Погодзін, занадта дамешвалі да гэтае справы расійскую дзяржаўную ўладу, дзеля чаго шмат каму здавалася, нібы славянафілы жадаюць дзяржаўнага зьліцьця ўсіх славян. Іншыя прадстаўнікі тэорыі выпраўлялі гэтую памылку. Не адмаўляючыся ад дзяржаўнае расійскае дапамогі („содействия“) патрэбам славянства, яны клапоцяцца, уласна кажучы, аб *унутраным адзінстве* славян і *толькі паказваюць* на расійскую мову, як на найбольш адпаведны спосаб для посьпехаў гэткага аб'яднаньня. „У гэтым пытаньні некаторыя славянафілы становяцца на самы гуманны пункт гледжаньня і лічаць, што пры гэтым процэсе можа

[1]) История русск самосознания, гл. XIV, стар. 255.

адбывацца абагуленьне ўсіх лепшых асноў славянства і ў быце і ў мове,—не выключаючы і расійскага быту ды мовы“ [1]).

Такім чынам выходзіла, што Каяловіч прынцыпова згаджаўся з магчымасьцю ўступкі агульна-расійскай культуры на карысьць іншых славянскіх культур. Ён ня бачыў абсолютнай абавязковасьці падпарадкаваньня ўсіх славянскіх народаў ды пляменьняў Маскве, але даваў ім пэўную ў гэтым сэнсе свабоду. „Абагуленьне“ славянства магло адбывацца на якой хочучы пляцформе,—„не выключаючы“ расійскага быту і мовы,—гэткі быў найбольш крайні, „гуманны“, паводле выразу Каяловіча, падыход славянафільства.

Калі справа стаяла так, дык у „западно-русской“ орыентацыі на Маскву не павінна было быць нічога прымусовага і гвалтоўнага. Сувязь Беларусі з Расіяй выглядала зусім свабоднай і ідэолёгічна апраўданай тым больш, што Беларусь, захоўваючы ўсе свае мясцовыя адзнакі і перш за ўсё мову, магла разьвівацца і займаць „утульнае месца“ ў славянстве хоч на расійскай, хоч на сваёй уласнай, хоч на якой-небудзь іншай славянскай аснове.

Як на выражэньне падобнага „гуманнага“ разуменьня справы, Каяловіч з гонарам паказвае на навуковую чыннасьць мясцовых беларускіх дасьледчыкаў, пачынаючы Насовічам, Юшкевічам, Мікуцкім і г. д.,—якія з замілаваньнем ставіліся да „народнай (беларускай) самабытнасьці“, трымаліся славянафільскіх пераконаньняў, а значыць, былі „западноруссами“. З свайго боку, Каяловіч згаджаецца, што гэтая „народная самабытнасьць“ вымагае няўнікнёнага „глыбокага вывучэньня народнага быту, як ён ёсьць, са ўсімі яго асаблівасьцямі“ [2]).

Адсюль быў адзін крок да прызнаньня фэдэралістычнае ідэі. Апошняя, у тым выглядзе, як яна ўпяршыню выявілася ў гісторыкаў украінскае школы („южно-русских историографов“) ласьне і паклала ў аснову разуменьня Расіі, як шматлікае па нацыянальнасьці дзяржавы, прызнаньне і пашану краёвых асаблівасьцяй ды праў. Уся фэдэралістычная програма ласьне і зьявілася на гэтай краёвай народніцкай аснове,—і першыя славянафілы—„южно-руссы“—на Украіне былі ў той самы час і першымі фэдэралістымі [3]). Паміж абедзьвюма тэорыямі было шмат супольнага, і таму здавалася натуральным, што і „западно-руссы“, як мясцовая плынь, абапертая на прызнаньне „западности“ Беларусі, як складанай часткі Расіі, адчуюць гэтую сувязнасьць і стануць на фэдэралістычны пункт гледжаньня.

Падобнае адчуваньне, бязумоўна, мела месца. Але яно было ў „западно-руссов“ такім слабым і, з другога боку, у фэдэралізьме было для „западно-руссов“ столькі одыёзных момантаў, што ўсьведамленьне орга-

[1]) История русск. самосознания, гл. XIV, стар. 256.

[2]) Ibid., стар. 425.

[3]) Гл. запіску Костомарова, прадыктаваную Белоозерской,—В. Селявский: „Ник. Ив. Костомаров“, Русская Старина, 1886 г., т. I, стар. 87—88.

нічнае супольнасьці паміж імі зусім зьнікала. Як часта здараецца, так і тут узаемная ідэолёгічная блізкасьць выклікала на справе зацятую варожасьць, і мы бачым, з якой нястрыманасьцю Каяловіч полемізуе з фэдэралістымі і бароніць „адзінства Расіі“. У гэтай патрыотычнай справе, у барацьбе супроць украінскіх „хлопаманаў“, „мазепінцаў“, украінафілаў ды інш., ён вельмі блізка набліжаецца да Гаворскага.

Аднак і ў даным выпадку аргумэнтацыя „западно-руссизма“ звыкла расплывістая. Жадаючы скрытыкаваць навуковую вартасьць фэдэралістычнае концэпцыі і падняўшы з гэтай мэтай няўдалую полеміку з Костомаровым [1]), Каяловіч не знаходзіць нічога больш дакладнага, як даводзіць, нібы-то фэдэралістыя „надавалі большае (?) значэньне славянскаму адзінству, чым расійскаму“ і ў сувязі з гэтым „высоўвалі украінскія асаблівасьці больш, чым гэта трэба і можна было рабіць“. Што павінна было значыць гэтае „больш“ і на якой граніцы трэ' было спыняцца пры падобным вызначэньні, Каяловіч не казаў. Дый сказаць, зразумела, ня мог: „высоўваць асаблівасьці“ можна было толькі ў тым памеры, у якім яны об'ектыўна існавалі.

Першыя украінскія вучоныя (Максімовіч, Бадзянскі) не рабілі, паводле пераконаньня Каяловіча, так. Яны хоць і прысьвячалі свае сілы пераважна Украіне, але разам з тым узвышалі „обще-русское единство“ заўвагамі наконт агульна-славянскага адзінства. Але што павінна было абазначаць падобнае „падвойнае“ адзінства ў агульна-русізьме і ўславянстве—Каяловіч зноў-ткі бясьсільны быў растлумачыць. З яго боку гэта была пустая славянафільская фразэолёгія, жаданьне прыкрыць туманным выразам рэакцыйнае пераконаньне. Сапраўдны сэнс гэтае фразэолёгіі раскрываўся тут-жа, у спасылцы на „малоросса“ Гоголя, у творах якога, паводле выразу Каяловіча, „ясьней за ўсе выявілася панаваньне ідэі адзінства рускага народу над усімі яго племяннымі асаблівасьцямі“ дзякуючы таму, што „ён пісаў на агульна-расійскай літаратурнай мове і яркімі фарбамі маляваў адзіную, вялікую Расію“ [2]).

Выходзіла, што ўся славянафільская філёзофія „западно-руссизма“ заводзілася да „общерусского литературного языка“.

Аднак і на гэты раз „западно-руссизм“ ня вытрымаў паступовасьці; заўважаючы блізкасьць фэдэрацыйнай школы да славянафілаў, ён ня мог адмовіць ёй у сваім прызнаньні. І што важна,—ён хваліў яе за тую самую навуковую чыннасьць, якая ў тагачасных украінафілаў была ні чым іншым, як акадэмічным выразам „культурнага сэпаратызму“. „Нашыя маларасійскія фэдэралістыя, пісаў Каяловіч, або, як іх інакш назы-

[1]) „Гл. История русск. самосознанія“, разьдз. XIX, федеративная теория, стар. 416—427. Н. Костомаров адказаў на выступленьне Каяловіча ў „Вестнике Европы“, 1885 г. № 4, стар. 876 і далей—„По поводу одной книги“. Між іншым, цікава, што М. Каяловіч адзін час уваходзіў у склад кастамараўскага гуртка і прыводзіў туды сваіх вучняў, як прыкл. Ю. Крачкоўскага („Отчет Вил. Публ. Библиотеки, за 1903 г.“).

[2]) Ibid., стар. 415.

валі сэпаратыстыя, члены маларускае партыі, пры ўсіх сваіх прадузятых поглядах да вялікарусаў, мімаволі далучаліся да славянафілаў. У галіне вывучэньня народнага быту, які, як зьява натуральная, не падлягае гвалтоўнай пераробцы, шмат працаваў Костомаров, Куліш, Чубінскі, Антановіч і г. д. Усе яны „адкрылі шмат мясцовых асаблівасьцяй“ і прынесьлі карысьць навуцы тым, што сквапным вывучэньнем унутранага быту народу дапамаглі выясьненьню асаблівасьцяй яго духу“ [1])...

У чым-жа тоілася гэткая падвойнасьць „западно-руссизма“, якая, як відаць з гэтай вытрымкі, з аднаго боку, прыводзіць яго да прызнаньня дадатнае ролі фэдэрацыйнага прынцыпу, а з другога—углядае ў ім свайго заклятага ворага? Каяловіч сам дае нам адказ на гэтае запытаньне. Разважаючы над сутнасьцю і гісторыяй узьнікненьня фэдэралістычнай ідэі, ён дае зразумець, што галоўная шкоднасьць яе ня ў тым, што яна „хацела вызначыць зусім іншыя погляды на нашы старыя гістарычныя часы, і з гэтай мэтай высоўвала на першы плян у навуцы маларускае племя“,—але што яна разам з тым высоўвала „практычныя вымаганьні, супярэчныя ўсталенаму адзінству Расіі“. Гэтыя „практычныя вымаганьні“, паводле слоў Каяловіча, складаліся з вымаганьняў для Украіны асобнае азбукі, перакладу на украінскую мову ўрадовых актаў і загадаў, украінскіх падручнікаў у школах, разьвіцьця самастойнай украінскай літаратуры і г. д. [2]).

Вось у гэтых „*практычных вымаганьнях*“ і тоіўся ўвесь сакрэт разыходжаньня „западно-руссизма“ з фэдэрацыйнай тэорыяй! Полеміка на навуковыя тэмы і гістарычныя досьледы Костомарова аб дзьвёх расійскіх народнасьцях ня былі з пункту гледжаньня „западно-руссизма“ небясьпечнымі для культурнага і дзяржаўнага адзінства Расіі. Да пэўнай меры „западно-руссизм“ сам дазваляў сябе падобныя вольнасьці, калі рэтроспэкцыйна гаварыў аб „дзьвёх паловах Расіі“—заходняй ды ўсходняй. Што-ж датыча „практычных вымаганьняў“, якія рабіў нацыянальны рух з гэтых рэтроспэкцый, дык тут справа стаяла зусім інакш. Гэта была ўжо не навука, не гістарычная тэорыя, але практыка,—тая палітычная практыка, якая няўхільна прыводзіла да дзяржаўнага сэпаратызму і да рашчапленьня расійскага культурнага адзінства. Каяловіч, які стаяў на ўзьмежжы гэтага адзінства з боку Беларусі, які ўсё жыцьцё клапаціўся аб яго захаваньні, дасканала бачыў і разумеў небясьпеку падобнай „практыкі“. Ен добра разумеў законамерную сувязнасьць гэтых „практычных вымаганьняў“, ведаў, што бязьвінная азбука і падручнік на мясцовай мове, ня гледзячы на ўсю іх элемэнтарнасьць, цягнуць за сабой далёка ідучыя вынікі. Ен бачыў і баяўся, каб і беларускі рух, пачаўшы прачынацца ў пераломны пэрыяд 70—80 гадоў, не набраўся гэткіх-жа „практычных вымаганьняў“, ня стаў на шлях утварэньня сваёй самастойнай літаратурнай мовы і сваёй нацыянальнай культуры.

[1]) Ист. русск. самосозн., стар. 424.

[2]) Ibid, стар. 415.

У гэтым і быў увесь сэнс. Палеміка Каяловіча з фэдэралістычнай тэорыяй ясна паказала, якую цану мелі ўсе славянафільскія лемантацыі „западно-руссов“ і абяцаньні агульна-славянскага адзінства незалежна ад вялікарускага верхаводзтва. Яна паказала разам з тым, чаго была варта пашана „западно-руссов“ да мясцовых асаблівасьцяй і куды вяла пропаведзь іх аб „утульным месцы“ Беларусі ў Расійскай імпэрыі. Калі пытаньне а праве паасобных пляменьняў,—у даным выпадку украінскага і беларускага,—пачало ставіцца ня ў тэорыі, а на практыцы, калі справа даткнулася нават ня права на палітычную самастойнасьць, а на сваю ўласную школу ды кнігу,—г. зн. на элемэнты самастойнасьці культурнай,—„супольнасьць у славянстве“ адразу зьмянілася на „зьліцьцё ў вялікарускасьці“. Так простае пытаньне аб мове, пастаўленае практычна, выкрывала фальш глыбокадумнай тэорэтычнай фразэолёгіі.

„Западно-русская“ аполёгія адзінства Беларусі з Расіяй знайшла сабе чарговы выраз у 80-х гадох у выступленьні Каяловіча супроць III тому „Живописной России“. Тут стыкнуліся паміж сабой два погляды на Беларусь: адзін мясцовы—польскі, які рэпрэзэнтаваў Адам Кіркор, галоўны аўтар памянёнай кнігі, і другі—„западно-русский“, які бараніў Каяловіч.

III том „Живописной России“, у якім былі даны ўсебаковыя нарысы Беларусі ды Літвы, зьявіліся расійскім перакладам прац Кіркора—„Litwa a Ruś w historycznym, geograficznym, statystycznym i archeologicznym opisie“, надрукованых дзесяць год перад тым (1875 г.) у варшаўскім часопісу „Opiekun Domomy“. Пісаў гэтую работу Кіркор, будучы ўжо загранiцай, і таму на ёй ляжыць пячатка асабліва прыгожай закаханасьці аўтара да сваёй бацькаўшчыны. Разам з тым ад яе старонак павявае старасьветнай, дапаўстанцкай эпохай 50-х гадоў, калі польская культура на Беларусі разьвівалася бяз жадных перашкод.

Ня дзіва, што ў 80 гадох, у момант новага ўздыму русыфікатарскіх тэндэнцый на Беларусі, ды яшчэ ў расійскім перакладзе, гэтая праца зрабіла ўражаньне анахронізму, а людзям патрыотычна настроеным, перш за ўсё „западно-руссам“, дала не малы матэрыял для новага паходу на ўсё польскае. Ня мала масла ў агонь падліў нейкі Ліберовіч, адзін з членаў выдавецкае фірмы Вольфа, у выданьні якой выходзіла „Живописная Россия“, які даводзіў, нібы гэтая праца была распачата ў мэтах польскіх што да супрацоўніцтва ў ёй запрошаны пісьменьнікі, прыхільныя да Польшчы [1]).

[1]) Выхад т. III „Живописной России“ аднавіў супроць Кіркора новую хвалю інсінуацый і абвінавачаньняў. Пісалі аб гэтым у шмат якіх газэтах за 1884 г. („День“, „Литовск. Еп. Ведомости“, „Kraj“, „Вил. Вестник“, „Русь“). Заўвагі аб гэтым гл. у Н. Янчука ў „Кратком очерке жизни и деятельности А. К. Киркора“ („Древности“, т. XII, асоб. адбітак, стар. 18—19). Брошуры Лібэровіча, якую цытуе Каяловіч („Русь“, 1884 г. № 13)—„Stara Polska w malowniczym opisie“. Краков и Петербург, 1883 г., мы нідзе незнайшлі. Няма яе і ў Ленінгр. Публ. Бібліотэцы і ў Бібліотэцы Усесаюзнай Акадэміі Навук.

Каяловіч наваліўся на Кіркора з усім „западно-русским“ запалам. „Галоўным будаўніком польскае будоўлі на Беларусі, пісаў ён, зьяўляецца Кіркор,—чалавек аднолькава расійскае і польскае асьветы, у якога, пад выглядам гуманнасьці і навуковасьці, усюды скрозіць вялікая няпраўда і фанатызм у стасунку да ўсяго „русского“. Кідаецца ў вочы і плян выданьня „Живописной России“ не ад цэнтру Расіі—„унутранай Расіі, населенай цэльным расійскім народам, зярна Расіі і ў сэнсе гістарычным і ў энтографічным і ў экономічным“,—а з „окраин“. Кіркор, паводле сьцьвярджэньня Каяловіча, цалкам паўтарае ранейшыя польскія погляды і дамаганьні на Беларусь; ён рупна выстаўляе ўсё добрае польскае і закрывае ўсё дрэннае; у стасунку да Расіі—ён, наадварот, трымаецца процілежнага правіла,—закрывае зусім гістарычную цягу заходняй Расіі да Ўсходняй і з няўтоўмнай паступовасьцю раскрывае расійскія гвалты ды паўстаньні супроць Расіі“. Ва ўсім відаць яго галоўнае заданьне,— „разарваць усялякую сувязь Заходняй Расіі з Ўсходняй“. У сувязі з гэтым ён, быццам, незадаволены езуітамі, чаму яны завялі на Беларусі вунію, а ня проста наварочвалі беларускі народ на лацінства, і з асаблівай дакладнасьцю ды ўвагай спыняецца на тэй частцы беларускае інтэлігенцыі, якая апалячылася [1]). „Адкрыў я новую жахлівую польскую махінізацыю“, пісаў тады Каяловіч Корнілаву, „разьбіраю трэці том „Живописной России“, у якой нахабна выкпіваецца ўсё расійскае ў Заходняй Расіі“ [2]).

У гэтым апошнім выступленьні Каяловіча супроць Кіркора ня было ўжо і ценю ранейшай блізкасьці яго да стара-віленскіх настрояў. За 20 з лішкам гадоў, якія прамінулі з таго часу, калі ён бываў у Кіркора ў Вільні ў гасьцёх, паміж абодвума кірункамі вырасла вялізная сьцяна разыходжаньня: у той час, калі Кіркор усё яшчэ жыў на чужыне старымі ўражаньнямі ды паняцьцямі і, ня прыняты кракаўскай Польшчай, як свой, заставаўся старым дарэформенным „літвіном“,—Каяловіч, захоплены „общерусской“ стыхіяй, цалкам пазбыўся ранейшага мясцовага колёрыту. Чым далей, тым болей яго „западно-руссизм“ набіраў „истинно-русских“ рысаў і станавіўся ў цэнтры агульна-расійскае рэакцыі. У якасьці профэсара Пецярбурскай Дух. Акадэміі, у „Славянском Обществе“, у энтографічным аддзеле „Географического Общества“ у Камісіі па організацыі народных школ на Беларусі,—усюль ён „ратует за благо Западной России“—у справы яе „вбивает русский гвоздь“ [3]). Гэтай-жа мэце ён служыць у супрацоўніцтве з Саблерам, Пабеданосцавым, Корнілавым і Суворыным—тагачаснымі кіраўнікамі расійскае рэакцыі. Навокал яго ў гэтыя гады ствараецца цэлая група бліжэйшых пры-

---

[1]) Гл. „История русск. самосозн.“, стар. 407—414. Ёсьць падстава лічыць, што выступленьне Каяловіча супроць „Живописной России“ падбухторывала ўсе іншыя выступленьні проці Кіркора і прычынілася хуткаму спыненьню гэтага каштоўнага выданьня.

[2]) Гл. лісты да І. Карнілава ад 11 красавіка 1887 г. і ад 29 лістапада 1889 г.

[3]) Ліст ад 12 студзеня 1884 г. у Рук. Аддз. Ленінгр. Публ. Бібліотэкі.

хільнікаў, яго ўласных гадунцоў,—прафэсароў Скаблановіча, Завітневіча, Філевіча, Цьвятаева ды іншых прадстаўнікоў „западно-русской“ школы.

Аднак і ў гэты час, пры канцы жыцьця, у зэніце свайго „западнорусского“ ўплыву, Каяловіча не пакідае нейкая няўпэўненасьць. Ён бачыць цяжкасьці на тэй „западно-русской“ дарозе, па якой, паводле яго пераконаньня, Беларусь ідзе, і яму не дае спакою тое нявыразнае зьмешваньне, якое творыцца ў краі пад націскам расійскай і польскай культуры. З апошняй падарожы па Беларусі ў 1886 г., седзячы ў провінцыяльнай пружанскай цішы, ён апісвае старому сябру Корнілаву свае далёка невясёлыя ўражаньні:

„Цяжка быць тут рускаму нават і цяпер... Маладое пакаленьне простага народу значна адрозьніваецца і зьвяртае ўвагу сваім расійскім разьвіцьцём,—але страшны цяпер час для гэтага ўзрастаючага народу. Ён выходзіць у інтэлігенцкае жыцьцё і шукае ўзораў,—а ўзоры... расійскія часьцей за ўсё дрэнныя... Пасьля гэтага што-ж значыць наш уплыў на народ? А тымчасам жыцьцё ўсё настойней ды настойней высоўвае пытаньне, каму панаваць (тут)—расійскаму грамадзтву ці польскаму. Вы ўсьцяж бачыце, што селянін, які адыходзіць ад сваёй стыхіі,—адзін размаўляе з вамі нашай літаратурнай мовай, другі—чыста польскай гутаркай і абодва трацяць свае сьвіткі... Што выйдзе з усяго гэтага зьмяшэньня, я бязупынна задаю сабе пытаньне, і хоць веру, што пераможа Русь, аднак, колькі будзе хістаньняў, мучэньняў і згубы дарэмнай“ [1]).

Цяжка сказаць, што думаў Каяловіч, пішучы гэтыя радкі, і чаму шкадаваў ён зьнікаючую беларускую „сьвітку“. Ці шкадаваў ён у ёй сваё мінулае, аддаючы даніну сантымэнтальнаму ўспаміну маладосьці і беларускай старыне, якая заўсёды мае здалёку прыгожую вабнасьць, ці можа прыходзілі яму ў галаву іншыя, больш „практычныя“ меркаваньні,— аб гэтым можам толькі здагадвацца. Як-бы там ні было,—але і тут, пры ўспрыняцьці конкрэтнага беларускага жыцьця канца 80-х гадоў, „западно-руссизм“ не знаходзіў сабе належнай уцехі.

*Працяг будзе.*

[1]) З ліста Каяловіча да Корнілава ад 1886 г. 17 ліпня з г. Пружан (Рук. Аддзел Ленінгр. Публ. Бібліотэкі).

# ФРАНЦ МЭРЫНГ

*(Да дзесяцігодзьдзя з дня сьмерці)*

**Л. Каган**

3 лютага 1919 году памёр патрыярх нямецкага комунізму Франц Мэрынг. Ня гледзячы на свае 73 гады, гэта быў яшчэ бадзёры чалавек, якога таварышы называлі самым маладым з нямецкіх комуністых. Яго-б хапіла яшчэ на некалькі дзесяткаў год жыцьця і працы на карысьць рэволюцыі, каб не страшэннае злачынства так званых нямецкіх соцыялдэмократаў, ахвярамі якога былі Кароль Лібкнэхт і Роза Люксэмбург. Гэтага старое сэрца Франца ня вытрымала,—ён захварэў і перажыў сваіх маладых вялікіх таварышоў усяго толькі на некалькі дзён...

Мэрынг прышоў у соцыялістычны рух ужо немаладым чалавекам, прышоў з варожага лягеру буржуазіі. Там, у буржуазнай сям'і, нарадзіўся ён у 1846 г., там атрымаў і буржуазнае выхаваньне і адукацыю, яго першыя крокі—як журналістага, які цалкам падтрымлівае лібэральнадэмократычную опозыцыю супроць бісмаркаўскай рэакцыі 70-х гадоў.

Пераломным момантам у жыцьці Мэрынга быў факт выданьня Бісмаркам выключнага закону супроць соцыялістых. Урадавая політыка „крыві і жалеза" ў адносінах да рабочага руху, з аднаго боку, капітуляцыя нямецкае буржуазіі перад штык-юнкерскай рэакцыяй, з другога,—усё гэта было прычынай рашучага разрыву Мэрынга з буржуазіяй і ўваходу яго ў соцыял-дэмократычную партыю. Цікавы штрых для характарыстыкі Мэрынга: ён прыходзіць у партыю ў надзвычайна цяжкі пэрыод яе існаваньня, калі боязкія „порядочные люди" масамі ўцякаюць з яе.

Праходзіць пасьля гэтага ўсяго толькі некалькі год—і Мэрынг ужо займае ў партыі адно з першых месц, побач з Бэбэлем, Вільгельмам Лібкнэхтам, Зынгерам; яму, як таленавітаму журналістаму, давяраюць літаратурную трыбуну, і на працягу доўгіх год Мэрынг рэдагуе „Zeipziger volkszeitung", дзе кожны яго памфлет, кожнае выступленьне наогул—буйнае літаратурнае і політычнае здарэньне. За найбольш бліскучыя ды яскравыя з гэтых газэтных артыкулаў Мэрынга трэба лічыць яго памфлеты супроць Штэкера ў 1882 г. і Яўгена Рыхтэра ў 1892 г. Полеміка з буржуазнай журналістыкай і барацьба з опортуністычным крылом, якое зьявілася ў партыі пасьля скасаваньня выключнага закону

супроць соцыялістых і цягнула ўсю партыю ў балота дэмократызму,— вось зьмест газэтнае дзейнасьці Мэрынга ў гэтыя часы.

Але Мэрынг не абмежаваўся ў часе рэдагаваньня ім „Leipziger volkszeitung“ толькі работаю журналістага; якраз да гэтага часу належыць адзін з грунтоўнейшых твораў Мэрынга—яго чатырохтомная „Гісторыя нямецкае соцыял-дэмократыі“. Зьмест гэтае грунтоўнае працы значна шырэйшы за яе назву, гэта „ня толькі гісторыя с.-д. партыі, але і агульная гісторыя Нямеччыны ў XIX сталецьці“ [1]), „Гісторыя“ мае некаторыя недахваты—няправільная ацэнка лясальянства, няправільнае асьвятленьне барацьбы паміж Марксам і Бакуніным. І ўсё-ж гэта кніга—адзін з найкаштоўнейшых укладаў у гісторыю міжнароднага рабочага руху. У аўтары яе ўжо тады, у 90-х гадох мінулага сталецьця, адчуваецца будучы спартакавец, комуністы. Вось якую характарыстыку дробна-буржуазнага соцыялізму мы знаходзім, напрыклад, у IV т. „Гісторыі“ [2]): „Якраз у Нямеччыне, клясычнай краіне мяшчанства, узьніканьне соцыялізму з пэўным дробнабуржуазным адценьнем няўхільна ў наш час, калі прамысловае разьвіцьцё гвалтоўна і en masse вырывае з коранем мяшчанства. Прызнаючы справядлівасьць асноўных поглядаў навуковага комунізму і патрабаваньня а пераходзе ўсіх сродкаў вытворчасьці ва ўласнасьць грамадзтва, гэты соцыялізм абвяшчае, аднак, *выкананьне яго магчымым толькі ў далёкай будучыні*, якая практычна ляжыць па-за полем нашага зроку; такім чынам, ён у *непасрэдным сучасным прымушаны зьвярнуць усю сваю ўвагу на соцыяльныя латкі* і ў некаторых выпадках спачувае нават самым рэакцыйным імкненьнем да так званага „ўздыму дабрабыту рабочых клясаў“. Дробнабуржуазны соцыялізм памянёнага тыпу заўсёды разьбіваецца аб здаровы сэнс нямецкіх рабочых; хоць соцыял-дэмократычная партыя будуецца на прынцыпе роўнапраўнасьці яе членаў, аднак, яна па сваёй гістарычнай сутнасьці—партыя пролетарская, а ня дробнабуржуазная. Гістарычнае ядро яе складае сучасны, рэволюцыйны па ўсім сваім клясавым становішчы, пролетарыят буйнай прамысловасьці, гэты пролетарыят зьяўляецца перадавым барацьбітом партыі...“ „Гістарычны процэс“,—дадае на некалькі радкоў ніжэй Мэрынг з жалем,—зрабіў з нямецкай соцыял-дэмократыі шматгалосную оркестру, і з гэтае прычыны маленькая флейта мае такое самае права на ўвагу, як і вялікі контрабас. *Але граць на вялікім контрабасе павінен толькі сучасны прамысловы пролетарыят, бо толькі ён адзін здольны на ім граць*“.

Просім прабачыць за вялікую цытату—такіх месцаў у Мэрынгавай гісторыі багата, і ў кожным з іх, як сонца ў кроплі вады, адбіваецца рэволюцыйна-марксыцкі сьветапогляд нашага аўтара, яго боль за тое,

[1]) Прадмова И. Степанова да памянёнай працы Мэрынга,—Ф. Меринг. История германской социал-демократии, т. IV, стар. 393. ГИЗ, 1922 г.“.

[2]) Ф. Меринг. История германской социал-демократии, т. IV, стар. 271. ГИЗ, 1922 г.

што ў складзе партыі багата і непролетарскіх элемэнтаў, якія спараджаюць дробнабуржуазныя плыні. Яскрава, па-бальшавіцку, падкрэсьлівае Мэрынг тую вялікую ролю пролетарыяту ў партыі, ролю яго, як гегемона, у рэволюцыйнай барацьбе.

* * *

З „Leipziger volkszeitung“ „Мэрынг пераходзіць на працу сурэдактара ў навуковы часопіс партыі „Die Neve Zeit“, рэдактарам якой быў Кароль Кауцкі. Якраз у гэты час—пэрыод 1900—1910 г. г.—Кауцкі пачынае працаваць, лявіруе паміж прыхільнікамі рэвізіянізму Бэрнштэйнам, Давідам і К°, з аднаго боку, і рэволюцыйнымі марксыстымі—прыхільнікамі Розы Люксэмбург,—з другога. Кауцкі імкнецца з'організаваць групу „цэнтру“.

Толькі самы кароткі час Мэрынг трымаецца нэўтральнае позыцыі,—неўзабаве ён пераконваецца ў тым, што Кауцкі здае позыцыі марксызму, спаўзае ў балота рэвізіянізму. Тады Мэрынг сьмела парывае са сваім доўгалетнім таварышом па працы з Кауцкім і яго бяспрынцыпнаю групай.

Нямецкія бальшавікі яшчэ да вайны формуюць так званую „левaрадыкальную“ групу і прызнанымі тэорэтыкамі яе робяцца: Франц Мэрынг, Клара Цэткін і Роза Люксэмбург, праз некаторы час да іх далучаецца пазьнейшы правадыр нямецкага комунізму Кароль Лібкнэхт.

Пачынаецца імпэрыялістычная вайна.

4 жніўня 1914 г. нямецкая соц.-дэмократыя галасуе за ваенныя крэдыты і тым самым канчаткова пераходзіць на бок буржуазіі. Кароль Кауцкі мобілізуе ўвесь свой вучоны апарат, каб давесьці правільнасьць гэтага кроку с.-д. Ва ўсім рэйхстагу толькі адзін голас уздымаецца супроць ваенных крэдытаў—голас Кароля Лібкнэхта. І Мэрынг солідарызуецца з Лібкнэхтам, разам з ім абвяшчае вайну соцыял-здрадніцтву. У момант, калі былыя таварышы Мэрынга па партыі сеюць атруту соцыял-шовінізму сярод немцаў і поўзаюць каля ног кайзера Вільгельма, Мэрынг з Кларай Цэткін і Розай Люксэмбург выступаюць з адкрытым лістом да братэрскага ангельскага пролетарыяту і ўсяго рабочага інтэрнацыяналу. Значэньне гэтага ліста—вялізарнае, калі прыняць пад увагу тую атмосфэру, якая тады ў Нямеччыне панавала; Мэрынг ня здолеў прыехаць сам на Цымэрвальдзкую конфэрэнцыю, але ён прыслаў туды ліст, у якім была такая фраза: „Беце ня толькі шэйдэманаўцаў, выяўляйце да канца і прыхільнікаў палавінлівага „цэнтру“, якім кіруе бесхарактарны Кауцкі“.

Урад Вільгельма не палічыўся з тым, што Мэрынг быў у гэты час 70-гадовага ўзросту, і пасадзіў яго ў турму. Праўда, гэты ўрад быў усё-ж далікатнейшы за шэйдэманаўскі—старога Франца выпусьцілі праз некаторы час на волю, і ён зноў пачаў актыўную працу ў шэрагах нямецкіх бальшавікоў.

Ен піша нелегальныя лісткі, супрацоўнічае ў нелегальнай газэце „Спартак“, пасылае артыкулы ў швэйцарскі інтэрнацыяналістычны друк.

Якраз у гэты час увесь цяжар па кіраўніцтву групай „Спартак“ падае на старыя плечы Мэрынга, бо Лібкнэхт і Роза Люксэмбург у турме, Клара Цэткін—хворая. І Мэрынг дасканала спраўляецца з сваёй задачай.

* * *

Пачалася вялікая рэволюцыя ў Расіі, і Мэрынг адразу становіцца на бок бальшавікоў. Дарма Аксэльрод, Мартаў і іншыя меншавікі, якія мелі доўгалетнюю асабістую сувязь з правадырамі нямецкае соцыял-дэмократыі, імкнуцца хлусьліваю інформацыяй аб Расіі перацягнуць Мэрынга на свой бок, ён ня верыць байкам аб краіне саветаў, ён піша артыкул за артыкулам у абарону пролетарскае дыктатуры ў Расіі. Сярод гэтых артыкулаў Мэрынга ёсьць адзін—аб Берасьцейскай згодзе, дзе ён праракае, што прыдзе момант, калі гэтая рабаўніцкая згода абернецца супроць самых нямецкіх імпэрыялістых. Спынімся, для прыкладу, на двох з памянёных артыкулаў Мэрынга, у якіх гэты „малады старык“, да думак якога ўважліва прыслухоўваліся нават ворагі, уздымае свой голас за першую на сьвеце Рэспубліку пролетарскае дыктатуры. Назва першага артыкулу—„Задачы нямецкае соцыял-дэмократыі“, яго зьмест (прыводзіцца са скарачэньнямі):

„Калі мы жадаем прыглядзецца да дзейнасьці саветаў, нам перашкаджаюць беднасьць і няпэўнасьць тых вестак, што даходзяць да нас праз расійскую граніцу... Не для таго, каб апраўдаць Савецкую рэспубліку ў вачох філістэра, але для таго, каб вызначыць яе гістарычнае месца, паказваем тую вольную ад ілюзій мову, якой органы гэтае рэспублікі абмяркоўваюць свае задачы. Яны пры гэтым ані не зьмяншаюць тых вялікіх перашкод, якія яны павінны перамагчы. Але яны не палохаюцца гэтых перашкод, ня ўхіляюцца ад барацьбы з імі. Магчыма, кажуць яны, мы ня здолеем адразу знайсьці правільны спосаб, але справу трэба рабіць, і мы яе зробім. Гэтая спакойная ўпэўненасьць—самая характарная рыска ўраду Савецкай рэспублікі. Яна абумаўляецца ня толькі тым, што расійскія рэволюцыянэры адчуваюць цьвёрдую глебу пад нагамі, але яшчэ і тым, што яны чэрпаюць з самых глыбокіх крыніц соцыялістычнае навукі. Гэтае зьявішча—зусім новае ў гісторыі рэволюцыі. Яно—вялізны крок наперад, ня гледзячы на тое, што дзякуючы свайму „сухому току“ ня вельмі па густу рэволюцыйным романтыкам“.

Чытаючы гэтыя радкі, здаецца, чытаеш Леніна—тая-ж яскравасьць думкі, тая-ж популярная і насычаная багатым зьместам мова. Праз некалькі радкоў Мэрынг уздымаецца да сапраўднага рэволюцыйнага патосу. „На працягу чатырох год вайны, дзякуючы політыцы дзяржаўных соцыялістых,—гаворыць далей наш аўтар,—мы ня раз задавалі сабе пытаньне: ці не дарэмнай была наша поўвекавая барацьба і работа?

Але калі мы праглядаем артыкулы, справаздачы аб дэбатах і рэзолюцыі ў „Iournal officiel“ Парыскай комуны і робім параўнаньне паміж імі і артыкуламі, дэбатамі і пастановамі ў Савецкай рэспубліцы, мы можам сказаць, што гэтыя пяцьдзесят год пранесьліся над галовамі інтэрнацыянальнага рабочага руху не дарэмна...

*Бальшавікі—адзіная расійская партыя, якая абсолютна гарантуе дэмакратычны мір, адзіная партыя, якая шчыра і актыўна змагаецца з усялякім імпэрыялізмам, з імпэрыялізмам ангельскім ня менш, чымся з імпэрыялізмам нямецкім. Калі бальшавікі затрымаюцца ў Расіі, гэта будзе такі посьпех, які пагодзіць нас з усімі расчараваньнямі апошніх гадоў*“.

Тое-ж захапленьне расійскай рэволюцыяй, тая-ж пагарда да дзяржаўнага нямецкага соцыялізму выяўляецца ў адкрытым лісьце, які Мэрынг прыслаў у 1918 годзе ў „Праўду“ [1]): „Я пішу вам,—пачынае свой ліст Мэрынг,—не як прыватная асоба, але ў якасьці старэйшага члена групы „Інтэрнацыянал“, групы „Спартак“, таго соцыял-дэмократычнага кірунку ў Нямеччыне, які вось ужо чатыры гады змагаецца ў самых цяжкіх ўмовах, тымі самымі сродкамі і тою самаю тактыкай, якою карысталіся і вы, пакуль рэволюцыя не дала вам перамогі. *Мы прынялі вестку аб перамозе бальшавікоў з пачуцьцём гордасьці, як нашую ўласную перамогу,* і мы ўсе з радасьцю далучыліся-б да вас, каб не парадзелі так нашыя рады... Шмат хто з нас пакутуе за сьценамі турмы, як, напрыклад, тавары́шы Роза Люксэмбург і Кароль Лібкнэхт. З якой радасьцю я прыслаў-бы вам хоць добрую вестку аб унутраным жыцьці нямецкага рабочага сьвету. *Але, накшталт масьлянае плямы, дзяржаўны соцыялізм усё яшчэ ўцягвае ў сябе ўсё навокал,* ня гледзячы на тое, што ён аджывае свой век як у моральным, так і ў політычным стасунках“, і далей ідзе бліскучая характарыстыка дзейнасьці шэйдэманаўскага соцыялізму, які набыў сабе тады, дзякуючы бессаромным махінацыям, даволі значны ўплыў на рабочую клясу Нямеччыны.

Пачалося чэха-славацкае паўстаньне і правыя с.-р. разам з меншавікамі прымусілі тады савецкую ўладу стаць на шлях чырвонага тэрору, як адказ на белы тэрор контррэволюцыі. Гэты факт быў сыгналам для ўзмацненьня хлусьні і выдумак у замежным буржуазным і соцыял-дэмократычным друку аб краіне саветаў. Марынг пачынае на старонках комуністычнага нямецкага друку контр-кампанію і ў адным з сваіх артыкулаў, паміж іншым, піша: „Так, калі-б бальшавікі ў іхнай барацьбе супроць ворагаў пролетарскай рэволюцыі былі ў дзесяць разоў бязьлітасьней, усё роўна гістарычная праўда засталася-б на баку бальшавікоў. У выпадку, калі бальшавікі застануцца, іхныя падзеі будуць блаславаўляць рабочыя ўсяго сьвету, калі аб'яднаная рэакцыя бальшавіцкую

---

[1]) „Коммунисты Запада о Советской Росии“, изд. ВЦИК. 1918 г.

ўладу зьнішчыць, рабочая кляса ўсяго сьвету будзе адкінута на доўгія дзесяцігодзьдзі назад".

Перайменаваньне групы спартакаўцаў у партыю комуністых было вялікай радасьцю для Мэрынга. Ён з гордасьцю называў сябе комуністым і марыў да канца сваіх дзён працаваць у шэрагах свае партыі. На жаль, гэтая мара старога Марынга была прычынай таго, што забілі вялікіх правадыроў нямецкага комунізму—Лібкнэхта і Люксэмбург, укосна забілі і Франца Мэрынга. За адзін толькі тыдзень комуністыя Нямеччыны страцілі адразу трох лепшых з сваіх правадыроў.

Дзесяць год прайшло з гэтага страшнага для сусьветнага пролетарыяту моманту. У быт увайшоў новы тэрмін—сумны тыдзень трох „Л" (Ленін, Люксэмбург, Лібкнэхт). Нібыта, каб апраўдзіць парадак літар у азбуцы, далейшы тыдзень прыносіць сьмерць Мэрынга.

Але справа, якой служылі вялікія нябожчыкі, мацней самае сьмерці. Бяз Лібкнэхта, „Чырвонай Розы", „Нашага старыка" Мэрынга (так звалі нямецкія рабочыя Мэрынга) расьце і ўзмацняецца компартыя Нямеччыны, другая па велічыні на сьвеце пасьля ЎсеКП(б) і пяць год ужо бяз Леніна пераможна будуе паўтарамільённая Ўсесаюзная компартыя соцыялізм у вялізарным СССР.

Больш бадзёрасьці і ў далейшым на вялікім шляху будаўніцтва комуністычнага грамадзтва—гэта будзе найлепшы помнік геніяльным—Леніну Лібкнэхту, Люксэмбург, Францу Мэрынгу.

# ЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА [1])

**А. Вазьнясенскі**

## IV

Пасьля разгляду тэматыкі ў тых апавяданьнях Якуба Коласа, што мы разьбіраем, канечна трэба паставіць шэраг пытаньняў, якія тлумачаць прыроду ды ўласьцівасьці яе; другімі словамі, апрача і іманэнтнага аналізу зьместу іх, канечна трэба вызначыць і некаторыя *гістарычныя* сувязі для яго з рознымі ўмовамі знадворнае асярэдзіны. На жальбу поўнай меры вызначыць гісторыю разгляданых твораў цяпер, паколькі Я. Колас зьяўляецца пісьменьнікам сучасным, мастаком нашых дзён, няма жаднае магчымасьці. Перш за ўсё, адпадае цалкам усё пытаньне, што ўваходзіць у разуменьне „гістарызму“ аб тыповых зьявах у творах пісьменьніка, г. зн. такіх, што ставяцца ў ролі фактараў, маючых уплыў на разьвіцьцё беларускае літаратуры. Далей, у межах вызначэньня адносін з папярэднімі зьявамі наўкольнае рачаіснасьці няма магчымасьці разгледзець сувязі з усімі яе фактарамі—соцыяльнымі, палітычнымі, разумовымі, літаратурнымі ды біографічнымі. Гэта тлумачыцца тым, што належных, конкрэтна распрацаваных матар‘ялаў, датычных гэтых шматвобразных бакоў гісторыка-культурных абставін і канечна патрэбных для вытлумачальнага вывучэньня пісьменьніка, зусім няма; асабліва адчуваецца адсутнасьць біографічных даных, а гэтак-жа і тых матар‘ялаў, што малююць соцыяльную ды культурную асярэдзіну ў іх рэальных падрабязнасьцях і дэталях. У гэтых галінах дасьледца літаратуры знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад сумежных навук—гісторыі культуры, соцыолёгіі, гісторыі грамадзкай думкі, якія, прыстасоўна да разгляданага соцыяльнага моманту ў гісторыі Беларусі, г. зн. пачатковых гадоў XX веку, пакуль што яшчэ не напісаны. Тыя дасьледзіны, што маюцца ў гэтай галіне, носяць толькі ўсяго агульны характар і мала прыдатны для дакумантальнага тлумачэньня паасобных дэталёвых зьяў у літаратуры наогул і ў разгляданай творчасьці Я. Коласа—у прыватнасьці. З прычыны такога стану крыніц тлумачальнага вывучэньня і самая пабудова гісторыі, як рэзультат такога вывучэньня, робіцца немагчымай у вычарпальным ды ўсебаковым выглядзе. Аднак, гэта мусім сказаць ня толькі прыстасоўна да творчасьці Я. Коласа, як пісьменьніка сучаснага,

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 1 за 1929 г.

але і наогул да кожнай сучаснай літаратуры. Для конструяваньня гісторыі канечна патрэбна пэўная гістарычная пэрспэктыва. Прысутнасьць яе для пэўнага моманту, галоўным чынам, і адчуваецца ў тым, што яго гісторыка-соцыяльныя абставіны паўстаюць перад аглядчыкам у поўным ды выразным выглядзе. Гэтага для кожнай сучаснасьці, у тым ліку і літаратурнай, няма. Няма гэтага і ў нашым вывучэньні. Таму, дзякуючы знадворным об'ектыўным умовам пры дасьледзінах літаратуры нашых дзён, галоўная ўвага дасьледніка павінна сама сабой групавацца на іманэтным яе вывучэньні, на стварэньні яе поэтыкі. Частка-ж гістарычная аказваецца надта няпоўнай, мала дасканалай і вызначае толькі некаторыя агульныя яе штрыхі. Такой-жа яна аказваецца і пры вызначэньні сувязі творчасьці Я. Коласа з адпаведнай гісторыка-культурнай асярэдзінай.

У сучасны момант у сфэры таго пытаньня, што нас цікавіць, ёсьць пэўная магчымасьць спыніцца—і то толькі у самых агульных рысах—на двух момантах акаляючай асярэдзіны—гэта на адносінах разгляданай творчасьці пісьменьніка да соцыяльных абставін і на адносінах яе да літаратурных плыняй.

Асноўную крыніцу мастацкай творчасьці Я. Коласа становіць, як бэта зусім ясна з агляду тэматыкі, соцыяльная сялянская асярэдзіна беларускай вёскі. Яна давала ўвесь зьмест яго творчасьці. Калі-ж ён часамі выходзіў па-за межы яе і наведваўся ў горад, дык толькі каб прасачыць за лёсам свайго вясковага гэроя, трапіўшага ў гарадзкія ўмовы. Але заставаўся тут вельмі-ж нядоўга, ды зноў варочаўся ў ранейшыя абставіны. На падставе гэтага мы маем рацыю сказаць, што сапраўдная стыхія творчасьці пісьменьніка—беларуская вёска.

Той гістарычны момант, які мае сваё мастацкае выяўленьне ў разгляданых творах, хронолёгічна прыпадае на канец XIX і пачатак XX сталецьця. У соцыяльным стасунку найбольш выдатным момантам у гэты пэрыод, бясспрэчна, была рэволюцыя 1905 г., якая скончылася няўдачай. Найбольш шырока адбіў пісьменьнік у сваіх творах той момант падзей гэтага часу, які магчыма кваліфікаваць, як неспрактыкаванасьць, няўмельства змагацца за соцыяльную перабудову жыцьця. Гэта рыса ў злучэньні з малой культурнасьцю народу і дала шэраг комічных эпізодаў, якія так па мастацку апрацаваў пісьменьнік („Соцкі падвёў", „Андрэй выбаршчык", „Соцыяліст"). Такая акалічнасьць, што якраз неспрактыкаванасьць ды навіна справы стварала часамі комічныя становішчы, сьцьвярджаецца словамі героя ў апавяданьні „Соцыяліст", які за тое, што купіў проклямацыі ў стражніка(!), трапіў у турму:

„Месяцы праз тры выпусьцілі мяне, пасьмяяліся з маёй дурноты на дапросе... Сьмейцеся, сабе думаю я, цяпер я ўжо не такі дурань! *Турма крыху навучыла мяне*: ня мала там людзей разумных сядзела"... (124).

Інакш кажучы, да турмы герой быў неспрактыкаваны ды нават наіўны ўдзельнік вялікіх падзей гэтага моманту.

Аднак, побач з нясур'ёзнымі ды павярхоўнымі адносінамі да соцыяльна-палітычных рухаў зазначанага часу, мы можам констатаваць і ўдзел у рэволюцыйным руху ў поўнай меры актыўны, тую, якраз, чыннасьць сялянства ды рабочых, што і стварыла самы рух. Гэтая стыхія, аднак, знайшла у пісьменьніка меншае месца ў яго творчасьці („Калядны вечар", „Бунт"). Гэта акалічнасьць мае сваё тлумачэньне ў тым, што сур'ёзная рэволюцыйная барацьба разьвівалася ў гэты час, галоўным чынам, у горадзе, і перш за ўсё вялікім горадзе, які, што ведама, прайшоў амаль міма ўвагі пісьменьніка. Рух на вёсцы выявіўся пераважна ў тым, што забіралі памешчыцкую зямлю, якая ўвогуле была больш-менш усюль на Беларусі аднастайная. А гэты бок у яго характарных рысах аўтарамі адзначаны ў яго апавяданьнях.

Умовы бытавога характару, знайшоўшыя мастацкае выяўленьне ў апавяданьнях Я. Коласа, у іх асаблівасьцях, знаходзяць сваё тлумачэньне ў соцыяльнай псыхолёгіі беларускага сялянства. Гэта псыхолёгія стваралася ў абставінах экономічнай незабясьпечанасьці ды значнай някультурнасьці яго. Фактар першага парадку, які адыгрывае ў яго жыцьці паважную ролю, аўтар колькі разоў падкрэсьлівае ў сваіх апавяданьнях. Ён адзначае, што галеча беларускага селяніна прымушала яго кідаць сваю гаспадарку ды шукаць сабе заработку на старане; гэта асабліва выразна адзначана аўтарам прыстасоўна да лясьнікоў, якія ў яго апавяданьнях адыгрываюць вялікую ролю. Так, пра Васіля Чурылу ён упэўнена гаворыць: „Беднасьць заставіла Васіля кінуць бацькаву хату і ісьці ў лясьнікі" (4); ці пра лясьніка Максіма ў апавяданьні „Малады дубок" ня раз зазначаецца, што яго служба ў лесе была яго адзіным кавалкам хлеба, за які ён так чапляўся (57—75), што, страціўшы яго, ён ня ведаў, куды цяпер дзецца?" (83). З гэтай, якраз, крыніцы выплывалі тыя ўласьцівасьці народнай псыхікі (бязглузднасьць, нахіл да п'янства, забабоны, консэрватызм і г. д.), якія давалі багаты гумарыстычны матар'ял. Яго пісьменьнік і скарыстаў у шэрагу сваіх апавяданьняў.

Аднак, у тых-жа самых соцыяльна-экономічных умовах выпрацоўваўся і сьветапогляд сур'ёзны, які даваў для жыцьці станоўкія ды трывалыя падставы. Некаторыя рысы гэтых поглядаў народу знайшлі свой адбітак у сур'ёзных апавяданьнях Я. Коласа. Асабліва поўна ў гэтай групе яго твораў выяўлена багацьце псыхолёгіі паасобных прадстаўнікоў народу („Малады дубок", „Злучыліся").

Але гэта стыхія, як ужо зазначалася, прадстаўлена меншай колькасьцю апавяданьняў, яна раскрыта з меншай мастацкасьцю за першую. Гэта рыса таксама знаходзіць сваё тлумачэньне ў тых-жа соцыяльна бытавых умовах жыцьця беларускага сялянства. Зусім натуральна, што пра яго галечы, няпісьменнасьці, неразьвітасьці на першы плян выступаюць, якраз, гэтыя зьявы адмоўнага характару, як няўхільны вынік адзначаных умоў яго жыцьця. Гэтыя рысы кідаюцца ў вочы перш за ўсё, і зусім зразумела, чаму пісьменьнік спыняецца на іх так доўга ды

ўважна. Наадварот, станоўкі бок жыцьця, настроі сур'ёзныя засьцяцца гэтымі адмоўнымі зьявамі, адсоўваюцца імі ў глыб народнага бытаваньня, у яго таемнікі; яны вымагаюць для іх выяўленьня пэўнае мастацкае праніклівасьці, умельства ў іх належным чынам орыентавацца. З гэтага боку і мастацкае выяўленьне гэтых зьяў жыцьця значна больш цяжкое, чым абрысоўка такіх рысаў ды ўласьцівасьцяй яго, што выступаюць зусім рэзка. Мо' з прычыны гэтых якраз прычын Я. Колас спыняецца на іх у разгляданых зборніках, якія зьўляюцца ў яго творчасьці першымі літаратурнымі спробамі, так мала ды каротка. Больш шырокае ды рознабаковае выяўленьне яны атрымліваюць у наступных яго творах.

Калі акаляючыя соцыяльна-гістарычныя абставіны прадыктавалі асноўныя тэмы яго творчасьці, дык яны тым самым і вызначалі галоўныя спосабы яго мастацкай манеры. Зусім ясна відаць, што гумарыстычная стыхія, як пэўны сродак мастацкай абрысоўкі, выцякала сама сабою з істоты тых конкрэтных абставін, якія зьяўляюцца об'ектам яго выяўленьня. Роўным чынам і другі спосаб яго, спосаб сур'ёзнага апавяданьня, таксама быў вызначаны характарам рэальнага зьместу яго твораў.

Тая-ж самая соцыяльна-гістарычная асярэдзіна ў межах агульных спосабаў яго пісьма тлумачыць і яшчэ адну асаблівасьць. Тое, што пісьменьнік так мала падрабязны ў выяўленьнях гумарыстычных і больш дэталёвы ў апавяданьнях сур'ёзных, у поўнай меры тлумачыцца ўласьцівасьцямі тэй соцыяльнасьці і быту, што ён маляваў. Рознастайныя комічныя зьявы, зарысаваныя пісьменьнікам, з самай сваёй прыроды не вызначаюцца глыбінёй сваёй унутранай існасьці; яны адбываюцца на паверхні жыцьця, яны хуткія, дынамічныя. Само сабой зразумела, такім-жа самым хуткім і чыста знадворным мусіць быць і іх выяўленьне. І праўда, гэтыя якраз уласьцівасьці яно і мае ў нашага мастака.

Як ужо зазначалася раней, да гэтага далучаюцца і вымаганьні чыста мастацкія, дзеля якіх, з мэтай выкрыць і надаць больш выразнасьці гумору, пісьменьнік ня можа дапушчаць зграмаджэньня дробязяй апісаньняў бытавых абставін, пільных дасьледзін у сфэры псыхікі герояў.

У роўнай меры і другі сур'ёзны бок жыцьця, абрысаваны нашым пісьменьнікам, дзякуючы сваім, якраз, уласьцівасьцям, вымагае і адпаведнага выяўленьня. Тыя факты жыцьця, тыя ўнутраныя перажываньні герояў, што мы знаходзім у сур'ёзных апавяданьнях пісьменьніка, больш статычныя, марудныя ў сваім разьвіцьці, больш глыбокія. Тыя-ж уласьцівасьці павінна мець і сама абрысоўка іх, г. зн. спосаб іх выяўленьня павінен быць спакойны, без скачкоў, з супынкам на дэталях, з глыбокім псыхолёгічным аналізам і г. д. Гэтыя рысы ёсьць і ў Я. Коласа.

Але, калі гэта асярэдзіна—соцыяльная і бытавая—вызначыла асноўныя шляхі мастацкага пяра пісьменьніка, то дэталі, драбніцы яго штукарства бясспрэчна выпрацаваліся пад уплывам яго літаратурных густаў, яго звыкласьці да пэўных мастацкіх плыняў. Тут, на пераходзе агуль-

нага спосабу мастака да дэталёвага яго разьвіваньня, ёсьць мяжа ўплываў, з аднаго боку, соцыяльна-гістарычных умоў, як сіл галоўных, што азначаюць асноўныя шляхі разьвіцьця культуры і жыцьця, а з другога—літаратурных, як зьяў другарадных, што зьяўляюцца вынікам папярэдніх. Пры ажыцьцяўленьні гэтага спосабу ў практыцы мастацкай творчасьці канчаецца непасрэдны ўплыў першага кіраўнічага фактару—соцыяльнага і пачынаецца ўплыў другога, вытворнага, які выцякае з асноўнага. На яго месца становіцца традыцыя літаратурная, у сфэры якой і ідзе гэта дэталізацыя мастацкіх спосабаў аўтара.

Прыстасоўна да разгляданых апавяданьняў Я. Коласа мусім гаварыць а двух літаратурных стылях ці школах, у галіне якіх выпрацаваліся мастацкія сымпатыі ды густы пісьменьніка. З аднаго боку, традыцыя натуралістычнага выяўленьня жыцьця як з боку яго адмоўных бакоў (стыхія гумарыстычная), так і станоўкіх (стыхія сур'ёзнага апавяданьня), а з другога—эмоцыянальна-романтычнага.

Традыцыя першага шэрагу ў яе першай адменнасьці надта багатая ды рознастайная; яна шырокім і жывым струменем ўліваецца ў літаратуру розных народаў і ва ўсе яе галоўныя пэрыоды разьвіцьця. Прыстасоўна да разгляданага моманту мы можам гаварыць аб тэй традыцыі яе, якая прадстаўлена творчасьцю такіх сатырыкаў і гумарыстых, як Г. Гэйнэ, Ч. Дыкэнс, Марк Твэн, Джэром-Джэром, Гогаль ды інш. Бясспрэчна, бліжэй усяго да мастацкіх імкнённасьцяй Я. Коласа стаіць апошні пісьменьнік—Гогаль і той, якраз, стыль, які часта называюць „натуральнай школай“. Гэты кірунак у расійскай крытыцы ўтоесамляюць з творчасьцю Гогаля (з прычыны чаго ён часамі і называецца гогалеўскай школай), а таксама і тых пісьменьнікаў, якія былі пасьлядоўцамі яго традыцый—Даля, Тургенева, Грыгаровіча, Ганчарова, Дастаеўскага ды інш. Як пэўная літаратурная плынь, гэта школа, на жаль, недасьледжана так поўна, як трэ' было-б, бо не прыцягнулі яшчэ к дасьледзінам тых шмат якіх дробных пісьменьнікаў ды мастакоў, што выпрацавалі асобныя спосабы стылю і вызначылі яго асноўныя часьціны. У больш лепшым стане ў гэтым выпадку знаходзіцца сам Гогаль, як пісьменьнік, які аб'яднаў гэтыя разьядналыя часьціны, іх сконструяваў, надаў ім значэньне, якраз, стылю, кірунку ці школы, даўшы ім і сваё імя. Разгляд яго творчасьці з поўнай бясспрэчнасьцю сьведчыць, што галіна яго мастацкіх густаў надта блізка стыкаецца з імкнённасьцямі нашага пісьменьніка. Мы не гаворым пра ўплыў Гогаля на Коласа, мы толькі адзначаем, што мастацкія інтарэсы нашага мастака, яго густы выражаліся ў галіне імкнённасьцяй, якраз, гэтай гогалеўскай школы. Мы маем на ўвазе адзначыць толькі тое, што ёсьць пэўная літаратурная традыцыя, звыкласьць нашага аўтара да пэўных мастацкіх стыляў, становішча яго сярод розных імкнённасьцяй поэтыцкай думкі.

Гогаль таму аказваецца бліжэй усяго да мастацкіх заданьняў Я. Коласа за другіх пералічаных прадстаўнікоў гумарыстычнай традыцыі ў

натуральным стылі, што ў тэматычных адносінах творчасьць іх мае пэўную датычнасьць. Як вядома, для Гогаля галоўнай стыхіяй яго літаратурнай чыннасьці была дробна шляхецкая асярэдзіна, куды ўваходзіла, як пэўны інгрэдыент, і сялянства; яно ў пэўнай меры па дарозе таксама знайшло, праўда, надта нязначнае месца ў абрысоўках расійскага пісьменьніка. Гэта акалічнасьць і прымушае перш за ўсё паставіць іх у сувязь для вызначэньня літаратурнай традыцыі.

Раней за ўсё, самы жанр мастацкай творчасьці, якім карыстаецца Я. Колас, а менавіта, апавяданьне, новэля, дае поўную падставу паставіць нашага пісьменьніка ў гістарычную сувязь з натуральнай школай, для якой гэта адменнасьць літаратурных твораў была аднэй сярод самых характарных. У прыватнасьці, той самы Гогаль, як вядома, ужываў пераважна гэтыя віды поэтычнай творчасьці; яго зборнікі „Вечера на хуторе близ Диканьки“, „Миргород“ складаюцца з шэрагу паасобных апавяданьняў—новэль; роўным чынам і пазьнейшыя яго творы ў большасьці выпадкаў таго самага жанру. Нават у такіх вялікіх творах, як „Мертвые души“ аўтар, у істоце, дае злучэньне паасобных апавяданьняў-разьдзелаў, якія, як гэта ўжо зазначана дасьледнікамі яго творчасьці [1]), ня маюць між сабой строгай ды органічнай сувязі і могуць быць перастаўлены адзін з адным.

Далей, самыя тэмы, што становяць сабой зьмест твораў Я. Коласа, маюць дзіўную роўналежнасьць з тэматыкай натуральнай школы наогул і, прыватна, з гогалеўскай.

Так, галерэя п'яных герояў, абрысаваных нашым пісьменьнікам, мае сваю адпаведнасьць у тых вясёлых казаках, што напаўняюць сабою апавяданьні ў зборніках „Вечера на хуторе близ Диканьки“ і „Миргород“. Само сабой зразумела, што ў Я. Коласа як самыя героі, так і абставіны зьмяніліся ў залежнасьці ад тых соцыяльных умоў, якія таксама зьмяніліся. Яны ўжо паінакшаму і ў інакшым выглядзе спраўляюць свае п'яныя гулі. Цяпер яны абіраюць сабе старшыню, абіраюць сваіх прадстаўнікоў у Дзяржаўную Думу, і з гэтага выпадку, як ужо зазначалася, наладжваюць гулянку. Продкі іхныя, прыгонныя сяляне, яшчэ ня ведалі такіх зачэпак для таго, каб весела правесьці час. Але тое-сёе захавалася ў нязьменным стане і цяпер ад тых далёкіх часоў.

Кірмаш у выяўленьні Я. Коласа, які такі багаты на п'яных герояў, застаўся амаль такім самым, якім у свой час быў, паводле апісаньня Гогаля, у Сарачынцах ці ў Канатопе, наогул шмат што ўжо зьмянілася, бо там, у Гогаля, быў час росквіту прыгоньніцкай гаспадаркі, а тут—у Коласа—ужо час рэволюцыйных год нашага веку; апрача таго, там—Украіна, тут—Беларусь. Але ў даным выпадку мы адзначаем толькі чыста знадворную адпаведнасьць між гэтымі групамі дзеючых асоб. Аднак,

[1]) А. Весялоўскім (Этюды и характеристики. М. 1907, артыкул „Мертвые души“) ды В. Ф. Переверзевым (Творчество Гоголя. Выд. 2-ое. Іванава-Вазьнясенск. 1926 г.).

у некаторых выпадках роўналежнасьць між імі пашыраецца і на ўнутраныя бакі. Асабліва гэта мусім сказаць пра герояў, якія ўжо вышлі з сялянскай асярэдзіны ды імкнуцца да чыноўніцкай кар'еры; гэта—валасны пісар, вураднік, старшыня і г. д. Сюды-ж належаць і прадстаўнікі вясковай шляхты. Усе яны ў тэй сытуацыі, якая прадстаўлена нашым аўтарам, надта блізкія да сваіх продкаў, напр., да герояў апавяданьня Гогаля „Коляска". Выведзены Я. Коласам пан Жылка захаваў ў сабе тыя рысы (нахіл да гульні ў карты, да выпіўкі ды залётаў), якімі ў свой час вызначаўся гогалеўскі герой Піфагор Піфагоравіч Чэртокуцкі. Бязумоўна, пан Жылка не такі шырокі ў сваёй натуры, як Чэртокуцкі. За той час, што аддзяляе іх, пан Жылка патрапіў ужо расьцярушыць частку свайго матар'яльнага дабрабыту, а адпаведна в гэтым ён зрабіўся значна бяднейшым і ў стасунку ўнутраных уласьцівасьцяй сваёй натуры. У ім няма ўжо таго размаху, тэй размаітасьці ў псыхіцы ды яе выяўленьнях у чыннасьці, якія ў свой час меў яго продак. У кожным разе, гэтыя героі з аднэй і тэй-жа самай соцыяльнай сям'і і ў шмат якіх адносінах з аднолькавымі душэўнымі якасьцямі.

Далей, тыя дзеючыя асобы, якія ў абрысоўцы Я. Коласа зьяўляюцца носьбітамі жыцьцёвай бязглузьдзіцы, невуцкіх забабонаў, карузлага консэрватызму і другіх адмоўных рысаў, усе яны таксама маюць для сябе паралелі ў творах таго самага Гогаля. У большасьці выпадкаў, аднак, яны блізкія да гогалеўскіх пэрсонажаў толькі як выяўнікі гэтых, якраз, уласьцівасьцяй, як носьбіты тых-жа самых рыс, на якія так багаты і іхныя папярэднікі. Але самая форма выяўленьня гэтых якасьцяй ужо ў шмат якіх выпадках іншая, паколькі рознымі зьяўляюцца і грамадзкія адносіны для герояў абодвух аўтараў.

Там, у Гогаля, напр., бязглузднае жыцьцё выступае перад чытачом у шырокіх разьмерах, паколькі носьбітамі яго зьяўляюцца памешчыкі, людзі з пэўным матар'яльным дабрабытам, з пэўнай, праўда, надта прымітыўнай, культурнасьцю. Варта ўспомніць шэраг найбольш характарных у гэтым стасунку гогалеўскіх герояў—Наздрова, „страшэннага рэформатара"—сваяка Товстагуба, палкоўніка Кашкарова і другіх, каб уявіць сабе ўвесь малюнак бязладнага гаспадараньня дробнай шляхты. У Я. Коласа гэта рыса набывае больш абмежаваныя разьмеры, бо яе героі, яе носьбіты—не памешчыкі, але сяляне; яны ня маюць тых сродкаў (дабрабыту ды культурнасьці), якія мелі іх далёкія сваякі; апрача таго, і час ужо ня той: за сто год агульны культурны ўзровень жыцьця значна пайшоў наперад ды скараціў магчымасьці для выяўленьня нястрымнай і бязьмежнай бязглузьдзіцы. Таму гэта якасьць у абрысоўцы Я. Коласа набывае больш абыдзённы, звычайны характар. У ім няма ўжо таго патосу, які так б'е ў вочы ў герояў Гогаля.

Сапраўды, Сьцяпан купляе толькі зусім непатрэбныя яму старыя падрызьнікі, каб потым іх прадаць забесцан яўрэю Шлёму, тымчасам, калі ўспомніць Наздрова, аднаго з найбольш актыўных пакупцоў розных

непатрэбных яму рэчаў, то дыапазон яго чыннасьці ў гэтым кірунку проста нязьмерны. Як вядома, „ён купляў кучу ўсяго, што перш за ўсё траплялася на вочы ў крамах: хамутоў, курыльных сьвечак, хустак для мамкі, жарабца, разынак, срэбны рукамыйнік, галяндзкага палатна, пытляванай мукі, табакі, пісталетаў“ і г. д., але ўсё гэта ішло потым марна: „рэдка здаралася, каб гэта было даведзена дадому: амаль у той-жа самы дзень спускалася яно ўсё другому, шчасьлівейшаму гульцу“. Аднак, ня гледзячы на тыя зьмены, што адбыліся, у вобразах нашага пісьменьніка адчуваецца пэўная ідэёвая крэўнасьць з далёкімі продкамі часоў прыгоньніцкай гаспадаркі.

Забабоннасьць з усімі выцякаўшымі з яе вынікамі таксама значна зьмянілася. У абрысоўках Гогаля яна мела неабмежаваныя граніцы і часта пераходзіла ў фантастыку, даючы яму багаты матар‘ял для апавяданьняў у „Вечерах“ ды ў „Миргороде“. У апавяданьнях Я. Коласа гэта рыса народнай псыхолёгіі зноў, з прычыны таго, што жыцьцё пашло ўперад, ужо значна скарацілася ў сваіх разьмерах. Фантастычны туман, якім абвеяны творы Гогаля, цяпер зусім расьсеяўся. Для яго месца не знайшлося, бо ва ўмовах жыцьця XX веку цяжка ўявіць сабе чалавека, нават, у самым мядзьведжым кутку, што быў-бы такі прыхамотлівы, як героі Гогаля. Цяпер гэта ўласьцівасьць спросьцілася, яна зрабілася прымітыўнай і нескладанай: яна набыла больш рэальнае тлумачэньне. Калі ўзяць апавяданьне „На начлезе“ ды яго героя Тамаша Чучку і параўнаць з дзядамі ў апавяданьнях Гогаля „Пропавшая грамота“ і „Заколдованное место“, дык розьніца паміж імі будзе зусім відавочная. Тамаш лічыць сябе за ахвяру нячыстай чартоўскай сілы ў такой сытуацыі, якая стварылася выпадкова і проста, дзякуючы штукам яго кампанейцаў на начлезе—жартаўлівых падлеткаў. Тымчасам у Гогаля няземная сіла, строіўшая жарты над героямі, выступае ў эпічных разьмерах і адпаведным фантастычным патосам.

Тое самае магчыма бачыць і ў стасунку да выяўленьня інтымнай сувязі рэчаў з іх гаспадарамі. Яна жыве яшчэ ва ўмовах нашага часу і знайшла адбіцьцё ў Я. Коласа, але зноў ужо ў абмежаваных разьмерах; толькі дзед Анісім так моцна прырос да свайго кажуха ці Сьцяпан на ўспамін аб любых яму рэчах купляе непатрэбныя яму падрызьнікі. Ва ўмовах дробна-шляхецкіх абставін, абрысаваных Гогалем, гэта сувязь выяўляецца ў больш шырокім маштабе. Тут усе рэчы, пачынаючы ад памяшканьня, сядзібы ды канчаючы самымі дробнымі хатнімі рэчамі,— усё зраслося з чалавекам і носіць яго адбітак; недарма Чычыкаў прывык, уваходзячы ў дом, разглядаць памяшканьне чалавека, думаючы па ім знайсьці ў ім уласьцівасьці самога гаспадара“... Прычынай, якая так зьмяніла жыцьцё ў гэтым стасунку, ёсьць тая самая грамадзкая асярэдзіна. Калі абставіны маларухомага натуральна-шляхецкага жыцьця спагадалі ўзмацненьню ды росквіту такога консэрватызму, то часы нашых дзён, часы панаваньня капіталістычнай гаспадаркі з яе жвавым рухам,

ужо ў значнай меры разбурылі спрыяючыя ўмовы для выяўленьня гэтай уласьцівасьці. Гэтымі зьменамі тлумачыцца, чаму ў Гогаля гэта рыса знайшла такую шырокую мастацкую абрысоўку, а ў Я. Коласа больш вузкую.

Нарэшце, спосаб мастацкага выяўленьня Я. Коласа ў яго паасобных рысах таксама становіць сабою працяг поэтычных традыцый тэй-жа самай натуральнай школы і, асабліва, мастацкіх спосабаў Гогаля.

Статычнасьць герояў, якія выступаюць у яго гумарыстычных апавяданьнях, у поўнай меры адпавядае таму, што мы знаходзім у таго-ж Гогаля. Ён не дае аніводнага характару ў яго разьвіцьці, бо яго героі надта прымітыўныя ды простыя, калі-ж часамі ён і закране эволюцыю свайго вобразу, дык заўсёды мімаходзь і каротка. Звычайна-ж ён бярэ тыя характары, што ўжо скаліся, гатовымі, як фотографіі [1]).

Але ў межах гэтага статычнага моманту героі Я. Коласа, як і героі Гогаля, выяўляюць значную рухавасьць, у поўнай меры характарызуючы сваё аблічча сваёю актыўнасьцю. Варта дзеля параўнаньня герояў нашага пісьменьніка ўспомніць тых асоб, што вызначаюцца найбольшай рухавасьцю, часьцей за ўсё бязглузднай і непатрэбнай, вылучаюцца сярод другіх выяўленьнем валявых імпульсаў (Ноздрев, Хлестаков, Попрышчын ды іншыя) і даюць, дзякуючы гэтаму, багаты гумарыстычны матэрыял. Комізм герояў гэтай групы, роўна як і другіх, у Гогаля перш за ўсё і ёсьць у сьмехатворстве іх унутраных якасьцяй ды выцякаючым адсюль такім-жа самым сьмешным іх знадворным стане, а роўным чынам і ў самай абрысоўцы ды характарыстыцы гэтых асоб. Гэта самае мы бачылі і ў Я. Коласа.

Гэтыя статычныя героі нашага пісьменьніка жывуць, галоўным чынам, асобнымі эмоцыямі, да таго-ж самымі звычайнымі, абыдзеннымі, якія не паднімаюцца над роўнем будзённых чалавечых адчуваньняў. Часткова гэта якасьць знаходзіць для сабе роўналежнасьць і ў творчасьці Гогаля, які таксама, як і Я. Колас, звычайна маляваў гэтыя адчуваньні рысамі знадворнымі, фізыолёгічнымі. У гэтым стасунку асабліва выразна выступае адпаведнасьць у абрысоўцы тым і другім аўтарам пачуцьця страху. Калі ўспомніць, як выяўляецца страх Мікалая ў апавяданьні „Трывога“ і як ён малюецца ў Гогаля ў аповесьці „Ноч перед Рождеством“ ці ў „Майской ночи“ у галавы, дык малюнак у абодвух выпадках будзе надта падобны.

Нескладанасьць дый нават прымітыўнасьць душэўных перажываньняў у герояў Я. Коласа ставіла сабой прычыну таго, што ў іх не магло быць эмоцый вышэйшага парадку, напр., такіх, як пачуцьцё прыроды. Гэтым тлумачыцца амаль поўная адсутнасьць у пісьменьніка пэйзажных малюнкаў у апавяданьнях гумарыстычных. Зусім тое самае мы маем і ў творчасьці Гогаля. У тых яго творах, што малююць дробна-шляхецкую асярэдзіну, амаль зусім няма малюнкаў прыроды; гэта тлумачыцца

[1]) Параўнай аб гэтым думку В. Ф. Пераверзева. Творчество Гоголя. Выд. 2-е, стар. 62.

тымі-ж прычынамі, што і ў нашага мастака, г. зн. адсутнасьцю ў герояў самой патрэбы ў любаваньні хараством прыроды, адсутнасьцю ў іх належнай эстэтычнай эмоцыі.

Але мастацкія інтарэсы натуральнай школы, як ужо зазначалася, не абмяжоўваюцца толькі выяўленьнем гумарыстычных і адмоўных бакоў жыцьця. У яе задачы ўваходзіць выяўленьне і станоўкіх сур'ёзных зьяў жыцьця. У гэтым кірунку яе межы больш шырокія і зьмест яе больш разнастайны, як у сфэры пытаньняў першага шэрагу. З усёй масы розных пісьменьнікаў, заходня-эўрапэйскіх і расійскіх, якія ў той ці іншай меры належаць да гэтага кірунку, мусім, для вызначэньня гістарычнай традыцыі, выбіраць больш за ўсё блізкіх да таго мастацкага об'екту, што намі дасьледуецца. Прыстасоўна да тэматыкі апавяданьняў Я. Коласа другой групы, г. зн. апавяданьняў сур'ёзных, больш блізкай, на наш пагляд, зьяўляецца творчасьць Дастаеўскага і Тургенева, якіх таксама звычайна лічаць за прадстаўнікоў натуральнай школы. У прыватнасьці, абодва пісьменьнікі маюць цесную ды органічную сувязь з творчасьцю Гогаля, што ў свой час было выразна падкрэсьлена В. Г. Белінскім і другімі прадстаўнікамі крытычнай думкі. Такім чынам, адзначаючы пэўную роўналежнасьць між творамі Я. Коласа і творчасьцю вышэйпамянёных пісьменьнікаў, мы ўвесь час, пры ўстанаўленьні гістарычных сувязяй для дасьледваных намі твораў, застаемся ў межах аднаго і таго-ж літаратурнага густу і кірунку.

Жанр для сур'ёзных апавяданьняў Я. Коласа застаецца той-жа самы, г. зн. апавяданьне ці новэля. Але ў пэўных выпадках гэты від мастацкай творчасьці набывае большыя разьмеры, бо ў іх наш аўтар не абмяжоўваецца толькі выяўленьнем статычнага аблічча свайго героя, але дае ўжо і яго гісторыю. Асабліва гэта мусім сказаць а такіх творах, як „Малады дубок“ і „Злучыліся“, якія ў значнай меры набліжаюцца ўжо да апавяданьня. Такі-ж вялікія жанры скарыстоўвалі і памянёныя расійскія пісьменьнікі—Тургенев і Дастаеўскі, дзякуючы чаму ў гэтых адносінах аддаленая роўналежнасьць між імі вызначаецца ясна.

У стасунку да тых псыхолёгічных гісторый, што Я. Колас дае ў зазначаных апавяданьнях, ён бліжэй за ўсё да творчасьці Дастаеўскага, калі ён ад натуралізму знадворнага бытаапісаньня перайшоў да натуралізму псыхолёгічных дасьледзін. У прыватнасьці, выразна адчуваецца роўналежнасьць між злачынствам Андрэя („Малады дубок“), яго ўнутраных перажываньняў з гэтага поваду і злачынствам Раскольнікава („Преступление и наказание“). Само сабою зразумела, разьмеры адчуваньняў абодвух герояў неаднолькавыя, паколькі неаднолькавыя паводле свайго значэньня і зробленыя кожным з іх злачынствы. Злачынства Андрэя больш мініятурнае ды простае як ў моральным, так і ў фізычным сэнсе, тымчасам як учынак Раскольнікава ў тым і ў другім стасунку больш складаны ды вялікі. Але агульная схэма гэтых твораў мае шмат падобных рыс.

Для Я. Коласа агульная асноўная мэта яго твору была, на нашу думку, у тым, каб даць псыхолёгічны аналіз зробленага гэтага злачынства, непасрэдных прычын, што давялі да яго, ды вынікаў гэтага злачынства. Тая самая мэта, як зазначыла ў свой час і крытыка [1]), стаяла і перад Дастаеўскім у яго романе „Преступление и наказание“.

У межах пастаўленай задачы наш аўтар дае падрабязнае апісаньне таго, як злачынная думка, запаўшая ў галаву Андрэя пад ўплывам жыцьцёвых недахваткаў ды матэрыяльнай незабясьпечанасьці, паступова расьце і мучыць яго да таго часу, пакуль ён яе не ажыцьцяўляе. Тут пачынаюцца ўжо другія адчуваньні — імкненьне схаваць сьляды свайго злачынства, якое скончылася, аднак, тым, што ён прызнаўся ў ім; зусім тая самая схэма ляжыць і ў аснове твору Дастаеўскага, толькі яна абстаўлена больш падрабязнымі ды больш складанымі псыхолёгічнымі экскурсамі, часта ў галіну падсьвядомых інстынктыўных зьяў чалавечай псыхікі.

Але роўналежнасьць адчуваецца і ў дэталях. Так, тая трывога, што адчувае Андрэй перад тым, як сьсячы малады дубок, у мініятуры нагадвае складаныя і доўгія мукі ды ваганьні Раскольнікава перад забойствам. Ці, Раскольнікаў бачыць перад злачынствам сон, зьвязаны з яго намерамі і думкамі аб ім; такі-ж трывожны сон перажывае і Андрэй пасьля таго, як дубок ужо сьсечаны і злачынства зроблена. Нарэшце, асобныя перажываньні Андрэя—скруха, адзнаньне таго, што сакрэт яго злачынства ведаюць усе ды г. д., — усе гэтыя асобныя штрыхі маюць для сябе роўналежнасьць у адчуваньнях Раскольнікава ды ідэёва зьвязаны з творам Дастаеўскага.

Роўным чынам, у апавяданьні „Злучыліся“ хлопчык Юрка сваёй романтычнай адчужанасьцю ад сьвету мае шэраг такіх рысаў, якія крыху нагадваюць аскетызм маладога героя ў романе Дастаеўскага „Братья Карамазовы“—Алёшы. Увогуле-ж сваім абліччам гэты гэрой становіць сабой тыповы ўзор романтычнага героя тыпу die schöne Seele. Праўда, пад уплывам умоў зьмененых жыцьця, ён страціў гушчыню романтычнага флёру, які так шчыльна ахутваў яго прототыпаў, абарачаючы іх у вобразы, насіўшыя з поўным правам эпітэт wundervoll; ён зрабіўся больш рэальным, блізкім да абыдзеннай рачаіснасьці жыцьця. З прычыны гэтага, ён страціў шырыню романтычнай натуры; ён зрабіўся больш вузкім. Ня гледзячы на гэта, некаторыя рысы ў яго ўнутраным абліччы выразна сьведчаць аб яго сваяцтве, хаця і далёкім, з героямі мэлянхолічнай романтыкі. Яго самота-сіроцтва, кволасьць і далікатнасьць яго прыроды мімаволі выклікаюць у памяці шэрагу герояў з такімі-ж уласьцівасьцямі, што маюцца ў творах романтыкаў, асабліва нямецкіх, як, напр., Новаліс, Цік, Ваккенродэр, Брэнтано ды інш.

---

[1]) Гл. пра гэта кнігу І. І. Замоцін а. Достоевский в русской критике, ч. 1-ая. Варшава, 1913 г., стар. 119 і наст.

Асабліва Юрку набліжае да романтызму яго інтымнае жыцьцё з прыродай. У зарысоўках гэтых яго рысаў выразна адчуваецца ўплыў тэй атмосфэры, што напаўняе сабой, напр., такі помнік романтычнай творчасьці, як „Etudes de la Nature“ Бэрнардэна дэ-Сэн-П‘ера, дзе аўтар імкнецца выявіць гармонію, існуючую паміж прыродай і душой чалавека. Нават тая сымболіка, што злучаецца ў Юркі з улюбёнай елкай,—сымболь яго нябожчыцы маткі, як любай істоты, якая павінна прынесьці яму шчасьце, — зьяўляецца аддаленай рэмінісцэнцыяй „блакітнай кветкі“ романтыкаў, гэтага сымболю вышэйшага і дасканалага сьвету.

Самое адухаўленьне прыроды, якое ў Я. Коласа часта сустракаецца ў яго творчасьці наогул і, прыватна, у разгляданым апавяданьні „Злучыліся“, таксама зьяўляецца аддаленым водгаласам ад тых жывых малюнкаў прыроды, што далі поэты-романтыкі. Досыць успомніць тыя дзівосныя вобразы адухоўленай прыроды, якія, напр., даў Цік у сваіх вершах („Frühling und Leben“, „Magelone“ „Wald, Garten und Berg“ ды інш.), каб уявіць сабе ідэёвае сваяцтва паміж малюнкамі прыроды, нарысаванымі ў розныя часы. Само сабой зразумела, як і ў папярэднім выпадку, гэтае адухаўленьне, як спосаб мастацкага выяўленьня, у Я. Коласа набывае больш рэальную афарбоўку, і яна набліжаецца да простага будзённага жыцьця. Романтычнасьці, дзівоснасьці ды фантастыкі ў іх ужо няма.

У пэўных выпадках тая афарбаванасьць пэйзажнага малярства ў сумныя тоны, што заўважаецца ў Я. Коласа, сьведчыць аб аддаленых ды глухіх ужо водгуках тэй Weltschmerz (сусьветнага смутку), якая ў свой час ахутала мастацкую творчасьць цэлага шэрагу мастакоў розных народнасьцяй.

Нават самае імкненьне Юркі да самоты бліз улюбёнай ім елкі адзначаецца тым спэцыфічным пачуцьцём прыроды романтыкаў, для якога Цік стварыў нават асобны тэрмін „Waldeinsamkeit“ (лясная самота) у сваім „Белокуром Экберте“.

Раньняя, заўчасная сьмерць Юркі таксама знаходзіць пэўную роўналежнасьць у тых тэорэтычных прадстаўленьнях романтыкаў, што разьвівалі яны, — напр., Шатобрыян, у сваім „Gènie du Christianisme“, аб улюбёных імі героях — істотах „няземных“, з якіх зьдзекуюцца лёс ды людзі, якія паміраюць у маладым веку і г. д.

Бясспрэчным водгаласам тэй романтычнай поэтыкі зьяўляюцца і тыя думкі Я. Коласа аб поэце, аб яго творчасьці, аб адносінах яго да акаляючых людзей, аб яго ролі ў грамадзтве, якія ён памастацку разьвівае ў сваіх лірычных апавяданьнях. Яго погляд на высокае прызначэньне поэты, на яго самоту і няпрыймальнасьць яго сьветам, на асаблівасьць яго натуры, якая адрозьнівае яго ад усіх іншых людзей,—гэта тыя, якраз, думкі, якія становяць звычайную тэму романтычных твораў. Тэма гэта разьвівалася і тэорэтычна, напр., у таго-ж самага Шатобрыяна ў яго „Gènie du Christianisme“, у прадмове да „Atala“ ды інш. Ці-ж, як у Я. Коласа, гэта тэма яшчэ часьцей была прадметам конкрэтных мастац-

кіх выяўленьняў у творах розных жанраў; можна ўспомніць на гэты выпадак вядомы роман Новаліса „Heinrich von Ofterdingen“ ці знаёмыя ўсім вершы Пушкіна ды Лермантава пад аднэй і тэй-жа назвай „Пророк“. Сымболіка нацыянальных пачуцьцяў, уложаная поэтам у гэтыя творы, зьяўляецца продуктам яго асабістых перажываньняў, якія сьведчаць аб яго высокім замілаваньні да радзімы — Беларусі.

Адзначаючы гэтыя рэмінісцэнцыі ды роўналежнасьць між асобнымі зьявамі ў тэматыцы Я. Коласа і поэтыкі романтычнай, канечна трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што ўсе яны маюць толькі ідэёвы, а часамі ўсяго толькі знадворны характар. Агульная ахварбоўка мастацкай творчасьці, а таксама і шмат якія дэталі ў ёй, характарныя для романтыкаў, у нашага пісьменьніка маюць часта іншы выгляд. Асабліва гэта трэба сказаць наконт тэй фантастычнай містыкі, якая так густа ахутвала поэтыцкія выяўленьні романтыкаў і перашкаджала ім цьвяроза і проста глядзець на акаляўшы іх сьвет. Гэтая романтычная смуга ў нашага пісьменьніка зусім разьвеялася. Асабліва ясна гэта відаць з таго, што, насупроць некаторым групам поэтаў-романтыкаў, якія звычайна закрывалі вочы на пытаньні соцыяльныя ды палітычныя, наш пісьменьнік зусім выразна гэтыя пытаньні адчувае, выразна іх ставіць і ня менш выразна іх разьвязвае. У тых-жа сваіх вершах у прозе, а таксама і ў другіх сваіх сур'ёзных апавяданьнях, ён, побач з думкамі чыста романтычнымі, зусім відавочна ды конкрэтна азначае соцыяльную сытуацыю таго моманту, які ён малюе, а менавіта тую, што была характарнай для Беларусі. Гэтым ён зноў варочаецца ў межы натуральнай школы з яе імкненьнем да „аднаўленьня рэчаіснасьці ва ўсёй яе праўдзе“.

Блізкі ён да яе ў сваім выяўленьні другіх, апрача Юркі, пэрсонажаў з падрастаўшага пакаленьня, тых, што выступаюць у апавяданьні „У старых дубох“. Вобразы маладых герояў Базыля ды Грышкі з іхнай дзіцячай філёзофіяй так жыва ўваскрашаюць у памяці тыпы дзяцей Ілюшы ды Косьці з апавяданьня І. С. Тургенева „Бежин Луг“. Тут і там тая-ж самая зацікаўленасьць да пытаньняў вышэйшага парадку, тая самая наіўная забабоннасьць, непасрэднасьць іхнай натуры. Розьніца паміж імі, параўнальна, невялікая, хаця тыя абставіны, што іх акружаюць, зусім розныя.

Тая-ж самая блізкасьць да натуральных зарысовак жыцьця ясна выяўляецца і ў абрысоўцы лясьніка Васіля Чурылы; яго сумная бяз жаднага сэнсу выпадковая гібель сьведчыць а пэўным сваяцтве з вобразамі аднаго сярод раньніх прадстаўнікоў народніцтва ў расійскай літаратуры, а менавіта—Д. В. Грыгаровіча, даўшага мастацкі малюнак сумнага лёсу прыгоннага мужыка Антона Гарамыкі. Як ва ўмовах прыгоннага быту, дзякуючы сваёй простадушнасьці ды дабраце, гэты герой канчае трагічна, так і ў абставінах іншых адносін—у часы першых год рэволюцыйнай барацьбы—ён ня здолеў перамагчы акалічнасьцяй і зрабіўся няшчаснаю ахвяраю іх.

Нарэшце, шэраг вобразаў з сьвету жывёл, што ў Я. Коласа праходзяць у якасьці дзеючых асоб побач з тыпамі людзей, як іхныя блізкія сябры, таксама зьяўляюцца працягам традыцыі, меўшай сваё месца ў поэтыцы натуральнай школы. Можна ўспомніць зарысоўкі жывёл, галоўным чынам, сабак, якія даў І. С. Тургенев у шэрагу сваіх апавяданьняў. Такія жывёлы, як сабакі Валетка, Контэска, Муму, Пегас, Тарталья, донскі конь Малек-Адэль, робяцца таварышамі герояў у такой-жа меры, як і коні ў апавяданьнях Я. Коласа. Тое, што тут ёсьць мастацкая традыцыя, не выклікае ніякіх спрэчак.

Мы вызначылі ўсяго толькі некаторыя сувязі між творчасьцю Я. Коласа ды рознымі зьявамі соцыяльных і літаратурных абставін, як сучаснай яму пары, так і ранейшай. У межах гэтага пытаньня мы адзначылі пэўную роўналежнасьць, якая сьведчыць толькі а працягу пэўнай літаратурнай традыцыі, аб прызвычаенасьці нашага мастака да пэўных соцыяльных і літаратурных густаў ды настрояў. Гэтымі толькі некаторымі нагляданьнямі ў галіне вызначэньня гістарычнай сувязі і абмяжоўваюцца нашы дасьледзіны. Гаварыць пра тое, што маюцца якіясь уплывы ў разгледжаных творах Я. Коласа дый наогул вырашыць пытаньне гістарызму прыстасоўна да іх у поўнай меры цяпер, як ужо зазначалася, зусім немагчыма, бо няма конкрэтных даных.

## V

Пасьля аналізу тэматыкі твораў Я. Коласа ды яе частковага тлумачэньня мы пераходзім да разгляду больш дробных мастацкіх зьяў, а менавіта—да вывучэньня іх *стылістычных* уласьцівасьцяй. Характарную ўласьцівасьць мастацкай мовы пісьменьніка становіць непарыўная органічная блізкасьць і сувязь яго з асноўнымі момантамі зьместу апавяданьняў, вызначанымі раней. Асабліва цесна зьвязаны стыль мастака з героямі яго твораў. Таму разглядаць моўныя зьявы ў іх адцягнена, асобна ад тэматыкі зусім немагчыма. Кожны з тэматычных цэнтраў, наўкола якіх круціцца ўся ідэёвасьць апавяданьняў, азначае да пэўнай меры характар зьместу мастацкай мовы ды ўласьцівасьці яе формы. Але побач з адзнакамі, характарнымі для стылю кожнай тэматычнай сфэры, у мове Я. Коласа, як мастацкім цэлым, маецца шэраг зьяў *агульных*, якія пашыраюць свой уплыў на ўвесь стыль пісьменьніка. У залежнасьці ад гэтага, мы бачым у яго, з аднаго боку, пэўныя імкненьні да стылізацыі сваёй мастацкай мовы, да прыстасаваньня яе да кожнага індывідуальнага выпадку, а з другога—да стварэньня мастацкай мовы, як аднаго цэлага.

Спосаб стылізацыі ўжываецца ва ўсіх апавяданьнях Я. Коласа,—як гумарыстычных, так і сур'ёзных. Але асабліва шырока ў сваіх творах ён карыстаецца ім, як тым сродкам гумару, што сам па сабе зьяўляецца ўжо пэўным відам стылізацыі мастацкай мовы. Раней мы зазначалі розна-

стайныя віды гумору ў тэматычным матэрыяле разгляданых твораў Зараз мы разгледзім выяўленьне таго-ж самага гумору ў самым стылі іх.

У апавяданьнях першай групы гумор пісьменьніка выяўляецца, перш за ўсё, у імкненьні да індывідуалізацыі мовы герояў. Праўда, гэты спосаб не пашыраецца на ўсіх герояў твораў гэтага шэрагу; ён выкарыстоўваецца ў стасунку толькі да некаторых дзеючых асоб. Так, у апавяданьні „Соцкі падвёў“ кароткая ды пабежная гутарка п'янага Янкі Дудара—аднаго з выпадковых бяседнікаў у натаўпе, абгаварваўшым пытаньні політыкі, даецца аўтарам у стылізаваным гумарыстычным выглядзе.

— ...Ты знаеш, хто я? Я—дэмократ і забастоўшчык першай гільдыі. Хлопцы, браткі мае родныя! Хадзем бунтавацца!..

Яго палохаюць вураднікам, але неспадзеўкі зьяўляецца яго жонка:

— А каб ты смалы напіўся, гад!—крыкнула баба, і мешалка мельканула ўгары і гладка прыстала да сярэдзіны худога янкавага цела.

— Што робіш?—крыкнуў, нібы сярдзіта стары Базыль на Дударыху:— ня бачыш, ці што? Ён зямлі і свабоды дабіваецца мужыком.

Мешалка паддала Янку сілы і ён даволі борзда стаў на ногі.

— Арыштую!—крычаў ён на жонку:—не палагаецца насіць аружжа. У арыштанскія роты аддам па 25 стацьці.

— Ваенна-палявым судом судзіць буду!—бушаваў Янка:—я—забастоўшчык, а ты хто? Чорнасоценец! От хто ты,—гаварыў Янка сваёй бабе, ужо ідучы дадому (31—32).

Гумор у паданай вынятцы дасягаецца тым, што той, хто гаворыць, прыўлашчае сабе такі стан (дэмократ, забастоўшчык, бунтар, прадстаўнік судовай улады), якія яму па ходу апавяданьня не належаць. Апрача таго, самое карыстаньне тэрмінолёгіяй, неўласьцівай герою ў яго сапраўдным стане (арыштуе, у арыштанцкія роты па 25 стацьці, ваенна-палявым судом судзіць і г. д.), павялічвае ў яшчэ большай меры гумарыстычнае напружаньне гэтай мовы. Нарэшце, злучэньне разуменьня, запазычаных з процілежных ды несумяшчальных сфэр жыцьця (дэмократ і забастоўшчык першай гільдыі) уводзіцца з тых-жа самых гумарыстычных мэтаў.

Далей, стылізавана мова і яшчэ аднаго другараднага ды выпадковага героя ў тым-жа самым апавяданьні. А менавіта, сьвяшчэньнік, у хаце якога спыніўся нібы-то соцыяліст, гаворыць, як і належыць яго стану, тэкстамі з сьвятога пісьма. У хвіліну найбольшага напружаньня, іменна, калі здавалася, што ў яго сапраўдны соцыялісты, сьвяшчэньнік цытуе такія словы:

„Ад вешчы, ва цьме прахадзяшчыя, ад беса палудзеннага“... „Яко счэзае воск ад ліца агня“... (34). Комізм гэтай гутаркі сьвяшчэньніка ня ў тых словах, якія ён гаворыць, але ў тым, што яны, як зусім зразумела чытачу гэтага апавяданьня з папярэдніх намёкаў у ім, гаворацца ў абставінах падзей зусім нясур'ёзных, тымчасам як гаворачаму герою яны здаюцца сур'ёзнымі дый нават трагічнымі.

У такім-жа відзе стылізаванай царкоўна-славянскай мовай гаворыць другі герой духоўнага стану—дзяк з апавяданьня „Іmяніны". Увайшоўшы да пісара на іmяніны, ён вітае гаспадара словамі: „Се жэніх градзе" (24). Ці, калі скончылася п'яная калатнеча між вураднікам і сядзельцам з манапволькі, то дзяк пеў: „Каня і всадніка морэ чэрэ-мно-о-о-о-е"... (28).

Той-жа самы спосаб стылізацыі выяўляецца і ў другой яшчэ форме. У апавяданьні „Соцкі падвёў" з асобных заўваг, якія кідае пісьменьнік на працягу ўсяго апавяданьня, ясна відаць, што соцыялісты, якога шукае вураднік і на якім ён марыць зрабіць сабе добрую кар'еру, зьяўляецца толькі фальшывым соцыялістым. Гэтыя аўтарскія заўвагі, якія інтрыгуюць чытача, выклікаюць яго зацікаўленасьць, намякаюць на фальшывасьць ды нібытасьць героя соцыялістага, і становяць асобны від стылізаванага выяўленьня аднэй з дзеючых асоб твору. Больш выразна ён выяўляецца ва ўжываньні адпаведных параўнаньняў. Сюды належаць такія прыклады: „Гэтакі ён соцыяліст, як ты, прымерам, маёй кабыле дзядзька" (30), „А ты, мусіць, знаешся на соцыялістых, як мая сьвіньня на пастах" (30), „соцыяліст спаў, як пшаніцу прадаўшы" (33), „соцыяліст сьпіць сабе на баку толькі носам сьвішча і храпе, як божы баранчык" (так называюць адну птушку) (34). Такія-ж самыя гумарыстычна - стылізаваныя параўнаньні пісьменьнік ужывае ў хактарыстыках і другіх асоб таго самага апавяданьня. Сам вураднік у розныя моманты характарызуецца пры дапамозе такіх-жа параўнаньняў, калі ён марыць аб сваёй высокай кар'еры, дык гэтае лятуценнае становішча яго аўтар вызначае параўнаньнем: „І пашоў наш вураднік угару, як цыган па драбінах на неба" (29); ці калі ён арыштаваў фальшывага соцыялістага і прышоў паведаміць начальства аб сваім высокім ўчынку, дык ён, паводле слоў аўтара, „стаяў і пазіраў на пристава так, як-бы ён, вураднік, схапіў з неба зорку або японскага мікаду забраў у плен" (36). П'янага Янку ён малюе такім чынам: „Сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, як воз сена, каторы ўціскаюць на грэблі" (31). Сполах сьвяшчэньніка, да якога прышоў вураднік шукаць соцыялістага, выражаецца ў параўнаньні: „пабялеў і стаяў, як укопаны" (33).

Ці вось прыклады з другіх апавяданьняў, у якіх гумарыстычныя параўнаньні ўжываюцца як спосабы абрысоўкі герояў. Загразшая разам з седакамі панская брычка малюецца з дапамогай такіх гумарыстычных параўнаньняў: „Сядзяць, бедныя, як мурашкі на купіне сярод лужыны" (37); „месяцца па гразі, як мухі па сьмятане, тупаюць вакруг брычкі, бядуюць, ахаюць, охкаюць" (37). Портрэт аднаго з таварышоў Пятруся ў апавяданьні „Кірмаш"—Каруся Апалота—акрэсьліваецца пры дапамозе ўсяго толькі двух гумарыстычных параўнаньняў: „У яго вочы былі ўжо як ў салавейчыка, а з губы нясло, як з бочкі" (51). Выбаршчык з саюзу рускага народу („Андрэй выбаршчык") рэагуе на лаянку яго організацыі так: „Выбаршчык усё слухаў ды вачамі моргаў, а потым, як усхопіцца, усё роўна як на шыла сеў"... (62). Ці аб кажуху старога Анісіма гаворыцца: „Латка чаплялася за латку, то як кастры аладак, то як кучкі

медзякоў“ (107). У апавяданьні „Старыя падрызьнікі“ гандляр лахманамі Шлёма Цырлік характарызуецца такім чынам: „як пачне енчыць, біць у грудзі, разводзіць рукамі, ківаць галавой і крычаць такім праразьлівым голасам, як-бы з яго з жывога зьдзіралі скуру“ (111); ці ў тым-жа самым апавяданьні крыўляньне Мікалая з падрызьнікамі перадана ў параўнаньнях: „ён, як вар‘ят які, выскачыў на двор і давай круціцца... Ды гэтага мала: ён яшчэ стаў выбрыківаць нагамі, прысядаць і размахіваць падрызьнікамі, як крыльлем“ (117). Герой апавяданьня „Соцыяліст“, купляўшы ў стражніка проклямацыі, характарызуецца ў параўнаньнях: „я, як той дурань, узяў ды спытаў“ (124), „Як падышлі мы да канцыляры; прыстава, тут толькі схамянуўся я, што папаўся, як лісіца ў саладуху“ (124). Можна падаць яшчэ цэлы шэраг прыкладаў[1]), але і адзначаныя ў поўнай меры дакумантальна сьведчаць а спосабе пісьменьніка карыстацца гумарыстычнымі параўнаньнямі для адпаведнай характарыстыкі дзеючых асоб.

Прызвычаенасьць да гэтых параўнаньняў у пісьменьніка такая вялікая, што, апісваючы таго ці іншага героя, ён карыстаецца ў якасьці спосабаў характарыстыкі толькі гэтымі параўнаньнямі [апісаньне п‘янага Янкі (31), Шлёмы Цырліка (111) ды інш.] і абмяжоўвае імі ўсю абрысоўку яго. Адзначаныя параўнаньні ўжываюцца, як відаць з бліжэйшага разгляду іхнага зьместу, галоўным чынам, у ролі носьбітаў гумарыстычных імкнённасьцяй аўтара. Звычайныя для параўнаньняў мастацкія мэты—ці тлумачэньні прадмету іх, ці стварэньне эмоцыянальна-поэтычнага вобразу для яго—тут у значнай меры пакрываюцца гумарыстычным бокам іх.

---

[1]) Гл. таксама ў апавяданьнях „Знайшлі“: „адна нага яго (Міколы) была ў драбінах, а другая выстаўлена на фасон пісталета“ (144); „Мікалай не варушыўся і ляжаў, як нябожчык“... (145); „п‘яны ўсё роўна як сьвяты“ (146); „Эх, мілы ты мой друг! абмазаліся мы з табой вакруг і сядзім ў гнаі, як ў крэпасьці“ (148); „Патаміліся абодва, як пеўні“; „Маўчалі і толькі цяжка саплі, як кавалёвыя мяхі“ (153). „Зламіў“: „Але толькі што стаў ён драмаць, як па яго сьпіне борзьдзенька прасунулася маленькая, чорная, жвавая жывёлка, усё роўна як там закраўся чарток і пахазытаў яго каласком“ (166—167); „Ня ўсьпеў ён як мае быць пачухаць нагу, як у яго засьвярбеў зразу і карк і бок, цяпер ужо шмат мацней, як-бы яго секанулі крапівою“ (167); „Каб на вас мор і ўпадкі!—сярдзіта бубніў пісар і варочаўся, як мянёк на скаварадзе“ (169). „З днеўніка пана Жылака“: „Сабраўшыся, усе сядзелі моўчкам, як-бы бог зьмяшаў усім нам языкі, хоць мы і ня думалі строіць вежу на неба“ (177); „бог ня скрыўдзіў нашага Гладыша носам,—як шчыт, сядзіць ён на сваім месцы і закрывае сабою ўвесь твар“ (179). „Стараста“: „стараста падняў угару палец, уставіўся ў адно месца, як-бы абхопліваючы цалкам усю веліч свайго чына, сваёй уласьці, магутнасьці“ (180); „Рвануўшыся са ўсёй сілы, стараста адарваў крыло“; „Ганак быў высокі, і стараста, як клубок, пакаціўся аж пад кузьню“ (185). „Так і трэба ашуканцу“: „Сьпірыдон, прыцягнуўшы дзяругу, стаў шоргаць па ёй носам направа і налева, як шаруе сваёй дзюбай варона, седзячы на страсе“ (190); „У гэтага паніча нос! хоць бяры ў прыймы: такі нос, што і матыкі ня трэба асыпаць бульбу“ (194); „Сьпірыдон хадзіў з вугла ў вугал. У жываце было пуста, як у беднага гаспадара ў засеку вясною, і моташна, як у каталажцы“ (198); „Хлеб скрыгаў у зубах (Сьпірыдона), як нямазанае кола“ (198). „Выбар старшыны“: „Старшына стаяў белы, як сьнег. Згорбіўся ў дзьве пагібелі, як сьвіны татка“ (201) і г. д.

Сапраўды ў такім параўнаньні, як „гэтакі ён соцыяліст, як ты, прымерам, маёй кабыле дзядзька“, той тлумачальны момант, які выкрываецца пры ўважным параўнаваньні прадмету параўнаньня—ён такі соцыяліст—з яго вобразам—як маёй кабыле дзядзька,—амаль зусім затушоўваецца гумарыстычнасьцю вобразу, на які і зьвяртаецца галоўная ўвага чытача; лёгічнае тлумачэньне прадмету (ён не соцыяліст) адыходзіць у яго ўспрыйманьні на другі плян.

Асабліва выразна гэты гумарыстычны момант высоўваецца на першае месца ў тых выпадках, калі вобраз мае мала рэальнага зьместу, хоць гэта і шкодзіць тлумачальнаму моманту. Так, параўнаньне, якое характарызуе Шлёму: „як пачне енчыць..., як-бы з яго з жывога зьдзіралі скуру“,—не дае выдочнага тлумачэньня, бо самы рэалізм вобразу аказваецца не экспэрымэнтальным, а толькі выабражаным; застаецца толькі, якраз, гумарыстычны бок яго. Апрача таго, у гумарыстычных параўнаньнях, якія зьяўляюцца, паводле сваёй пабудовы, параўнаньнямі тлумачальнымі, бо ставяць тэму яго на першае месца, а вобраз—на другое, прадметы іх аказваюцца такімі ў лёгічным ды мастацкім сэнсе яснымі, што і не вымагаюць належных, патрэбных для іх тлумачэньня вобразаў: соцыяліст спаў, соцыяліст сьвішча і храпе ды інш.

У паданых прыкладах параўнаньняў гумар ствараецца параўнаньнем прадметаў ці вобразаў, якія вельмі далёкія адзін ад аднаго і якіх часта амаль нельга злучыць між сабою. Сьмех і выклікаецца якраз тым, што параўноўваюцца вобразы мала сумяшчальныя ў звычайным уяўленьні чалавека: соцыяліст—сьвіньня, п'яны—сьвяты, пісар—мянёк на скавардзе і г. д. Адыгрывае значную ролю ў сэнсе ўзмацненьне сьмеху і тое, што самыя вобразы, скарыстаныя для параўнаньня, маюць гумарыстычны характар: як мая сьвіньня на пастах, як сьвіны татка ды інш.

Гэтую мастацкую мэту ўжываных параўнаньняў, а менавіта—іх гумар падкрэсьлівае і сам аўтар у тэксьце сваіх апавяданьняў. Іменна, калі адным з герояў было сказана першае з ліку паданых намі параўнаньняў: гэтакі ён соцыяліст ды інш., дык, заўважае аўтар, „мужыкі зарагаталі“ (30).

Да такіх-жа гумарыстычных параўнаньняў, як спосабаў характарызуючых, належаць такія, дзе пісьменьнік для выяўленьня іх вобразаў карыстаецца *панібрацкай таварыскай мовай.* Варта назваць імя ды прозьвішча пэўнай асобы, як усе ўяўляюць яго знаёмае аблічча; напр., „мала што людзі гавораць. Гавораць, што Малютава сьвіньня хоча запісацца ў саюз рускага народу, а Язэпаў вол ходзіць па вёсках ды на карты варожа,— зрэзаў Сёма Гілёрыка“ („Калодка пчол“, 14—15); у Мікалая „зубы так застукалі, усё роўна як Марцін Паліваны пробаваў на вялікдзень моц яйца, зьбіраючыся гуляць у біткі“ („Трывога“, 94); „здавалася, што вецер зазлаваўся, як той дзядзька Піліп, каторы, бачачы, што ён адзін толькі працуе ў хаце, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога ня ўскурае,—плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок, сказаўшы: „Чорт-жа вас бяры“ („Недаступны“, 126—127); „Што

я (Нічыпар Касмык з апавяданьня „Злучыліся“) буду каго абгаварываць? Ці, як Сымон Очэп, буду хадзіць у воласьць жалабы пісаць?“ (148); „Нават такі чэрстві і шорсткі чалавек, як наш крамнік Довід Рэзгін, і той уздыхне і пачухае патыліцу ўсякі раз, калі хто ўспамяне імя нябожчыка“ (пана Жылкі) (172).

Такія параўнаньні, якіх вельмі не багата ў творах пісьменьніка, даючы ў вобразах мала конкрэтнага ды мастацкага матэрыялу, выклікаюць толькі ўсьмешку, якраз панібрацтвам і таварыскімі адносінамі мастака да чытача.

Ёсьць некалькі прыкладаў ужываньня гумарыстычных *параўнаньняў пашыраных*, або іначай, *эпічных;* у сваёй пабудове яны становяць сабой ці адзін шырокі ў выглядзе параўнаньня малюнак, які зусім засьціць яго прадмет, ці-ж даюць цэлы шэраг асобных параўнаньняў, аб‘яднаных, усё-ткі, аднэю агульнаю тэмаю. Вось прыкладам:

„Паляшукі загаманілі на ўсе лады; тут былі ўсякія галасы: адзін трашчаў, як трашчотка, другі вырываўся рэзка, праразьліва, як жалезны клін, трэці вёў тонка, чацьверты хрыпеў, як люлька стараставага бацькі, пяты сыпаўся гарохам, шосты гуў чмялём, а ўсё гэта зьлівалася з басам якога-небудзь Данілы“ („Канурант“, 19).

„Чытаў я, ня помню калі і ня ведаю дзе, як лісіца ўхапіла курыцу. Вясёлая і давольная, падбягала яна да сваёй нары. Але нагнаў яе каршун і выхапіў яе дабытак. Гэтак сягоньня здарылася і са мною: тое, што ўчора нагабляваў, сягоньня спусьціў Тамашу—ды яшчэ і сваіх прылажыў пяць рублёў. Мне такі і не хацелася садзіцца—усё роўна, як чуў“ і г. д. („З днеўніка пана Жылкі“, 175).

У тых-жа самых мэтах гумарыстычнага характару аўтар ужывае і другія стылістычныя спосабы. Нават у такіх, параўнальна, „нэўтральных“ зьявах, як *эпітэты*, ён карыстаецца выразамі, маючымі ў сабе пэўную долю гумару. Звычайна гэты бок іх у большасьці выпадкаў выкрываецца і зусім ясна выяўляецца ў контэксьце мовы твору. Сам з сябе эпітэт, а таксама і тое разуменьне, якога ён датычыць, часта ня маюць гумарыстычных рысаў; яны выступаюць у сувязі з агульным зьместам цэлага выразу. Вось прыклады:

„Покі зьбіралася *„законнае чысло“ людзей,* каб сход мог мець сілу, паляшукі гулі“ („Кантракт“, 18); „Стараста браў сваю пячатку, трымаў яе над запаленым карчом або лучынаю, покі на ёй не нарастаў *здаровы слой куру*, і прыкладаў да бумагі“ (ib., 20); „Тут Міхалку... некалькі чалавек пхалі ззаду і такім парадкам *дамарослага пісара* цягнулі праз усю хату“ (ib., 20); „Дык што пісаць? Ось я табе зараз скажу,—і стараста пастараўся зрабіць *надта мудрую міну;* ён скрывіў на бок галаву, завярнуў вочы ў самы лоб, а аднэю рукой чухаў скіўіцу“ (ib., 21); „Міхалка першым дзелам пасадзіў *вялізную „варону“* на папер“ (ib., 21); (ураднік сядзельцу): „Ці падстаўляў ты калі хоць раз свой *барані лоб* пад пулю? Сядзіш сабе, паветра псуеш, ды лезеш яшчэ *з суконным*

*рылам* куды табе ня сьлед" („Імяніны", 26—27); „Вураднік, схапіўшы з талеркі *салёны разьлезлы агурок*, каторага старшыня пакалоў відэльцам на дзіркі, шыргануў ім у нос сядзельцу" (ib., 27); „Карусь схапіў Пятруся за рукаў і павалок яго глядзець падсьвінка; Пятрусь пахваліў гэту *маладую асобу*" („Кірмаш", 51); „Раз зайшоў у „Порт-Артур", то выйсьці адтуль ня так-та лёгка: ці мала там сустрэнеш *добрых людзей?* (ib., 57); „Цягнуў часамі Пятрусь песьню, лежачы на возе, *вугнівым, хрыпатым* голасам" (ib., 52); „У Сьпірыдона ня было *і ломанага грошыка*" („Так і трэба ашуканцу", 190).

Як і ў папярэднім выпадку, эпітэты ў паданых прыкладах аўтар ужывае, галоўным чынам, каб надаць пэўнай рэчы ці асобе такіх ўласьцівасьцяй, якія не адпавядаюць ці пярэчаць яго стану наогул, ці толькі ў даны, той, што цяпер апісваецца, момант: мудрую міну, маладую асобу ды інш.; ці-ж гумар заключаецца ў гіпэрболічнасьці тых ўласьцівасьцяй, што надаюцца рэчы: здаровы слой куру, вялізную „варону" і г. д.; ці, нарэшце, узятыя пісьменьнікам эпітэты робяцца гумарыстычнымі, дзякуючы таму слоўнаму акружэньню, у якое яны пастаўлены: законнае чысло людзей, барані лоб, суконным рылам, салёны разьлезлы агурок, добрых людзей ды інш... Гумарыстычныя ўласьцівасьці пісьменьнік, як і раней, адзначае сам. Так, у апавяданьні „Контракт", калі ён Міхалку, запрошанаму пісаць контракт, даў мянюшку „дамарослага пісара", дык праз колькі радкоў ён уводзіць такую дзею: „Ці-ж гэта атрамант? Саладуха нейкая!—сказаў Міхалка. Хата затраслася ад сьмеху. Сьмяяліся не з таго, што сказаў Міхалка—*усім было сьмешна бачыць Міхалку пісарам*" (21). Дзякуючы якраз гэтаму гумару, другія ўласьцівасьці гэтых эпітэтаў зусім не заўважаюцца чытачом.

З мэтай надаць свайму апавяданьню тую-ж самую гумарыстычную афарбоўку, а таксама каб узмацніць яе, пісьменьнік ужывае і другія стылістычныя спосабы. Можна адзначыць некалькі прыкладаў ужываньня гумарыстычных *мэтафор* і *гіпэрбол*. Гэтыя спосабы ўжывае пісьменьнік таксама як сродак, характарызуючы герояў твораў ці тыя абставіны, у якіх яны выступаюць.

Тыя *мэтафоры*, што ёсьць у творах Я. Коласа, малююць, галоўным чынам, колектыўнага героя яго твораў. Так, чаканьне імянін пісара аўтар перадае ў наступнай мэтафоры: „Яшчэ за месяц да пісаравых імянін усё панства м-ка В. знала, што пісар першага сенцября імяніньнік і *кожны местачковы пан даўно ўжо вастрыў зубы на гэтыя імяніны*" („Імяніны", 23); тыя-ж самыя асобы крыху далей характарызуюцца зноў пры дапамозе мэтафоры: „Усё местачковае панства зьбіралася кожны вечар у якога-небудзь з паноў, пілі гарэлку, гралі ў карты, *абівалі свае языкі аб косьці таго*, хто ня ўмеў або не хацеў пападаць ім у тон і туляўся ад іх зборышч" (ib., 23). Ці ў апавяданьні „Выстагнаўся" няўдача жыцьця героя перадаецца мэтафорычна: „Іван Кіслы гараваў усё сваё жыцьцё. Усё гора было ў тым, што *ў гэтага гора было яшчэ*

*сваё гора:* заўсёды выпадала так, што беднаму Івану ніколі не ўдавалася выплакацца, выгараваццa"... „Цягнулася яна з даўных-даўных часоў, з тых часоў, *калі Івана яшчэ трудна было адлічыць ад Мар'і*, іначай сказаўшы, *калі Іван яшчэ пехатой хадзіў пал стол*" (155). Гумар паданых мэтафорычных сказаў у тым, што для іх ужываюцца спэцыфічныя словы, якія ў адпаведным слоўным акружэньні ствараюць гумарыстычнае ўражаньне: вастрыў зубы, абівалі свае языкі, пехатой хадзіў пад стол і г. д.

*Гіпэрболічныя выразы* належаць пераважна да апісаньняў знадворных абставін. Самі з сябе гіпэрболы, як спосабы слоўнага выражэньня, якія выходзяць з межаў нормы жыцьцёвых абставін, маюць у сабе даныя, каб выклікаць надмерныя эмоцыі, між іншым, і сьмех. Іхнае мастацкае прызначэньне відаць асабліва ясна, калі яны падтрымліваюць ці-ж то ўзмацняюць тую агульную эмоцыянальную атмосфэру, якой насычаны той ці іншы твор. У апавяданьнях Я. Коласа яны зьяўляюцца працягам таго гумарыстычнага рэчытатыву, які праходзіць праз іх спачатку да канца. Малюючы абставіны ў апавяданьні „Калодка пчол"—з гэтага і пачынаецца апавяданьне,—аўтар ужывае гіпэрболу: „У гутарцы так надымілі люлькамі, што *і галоў іх ня было відаць*" (14); яна ўводзіцца ў апавяданьне з самага пачатку яго і да пэўнай меры ўжо стварае ў чытача ўражаньне, што далейшы зьмест апавяданьня будзе мець нясур'ёзны характар. Тая самая гіпэрбола паўтараецца ў такіх-жа самых умовах і ў апавяданьні „Контракт": „Захрыпелі цыбукі, застукалі люлькі аб тоўстыя кіпці, а ў хаце падняўся такі дым, што *ня можна было пазнаць трэцяга чалавека, хоць яго нос і можна было абмацаць рукою*" (18). Ці-ж пры апісаньні шынка „Порт-Артур" („Кірмаш") ужываецца такая-ж самая гіпэрбола: „Гэта хатка заўсягды была паўнютка людзей, там стаяў такі шум, крык і гоман, што *аж глушыла*" (52).

Пэўныя рысы мэтафорычнасьці ды гіпэрболічнасьці ёсьць у тым стылістычным спосабе, якім аўтар асабліва шырака карыстаецца з тых-жа самых мэтаў гумарыстычнага характару; гэта—спосаб ужываньня ў апавяданьні вялікай колькасьці лаянак, а таксама шэраг прыгаворак, прыказак ды спэцыфічных выразаў. Зьявы гэтага парадку насычаюць твор спачатку і да канца; з прычыны гэтага, гумарыстычная стыхія ў іх не заміраe ні наводную хвіліну. З свайго зьместу ды формы яны вельмі рознастайныя.

Калі разглядаць іх па прыметах тэматычнага характару, дык, перш за ўсё, трэба адзначыць лаянкі, дзе фігуруе ў тым ці іншым выглядзе „чорт". Прыкладаў такіх надта многа, і яны рознастайныя.

Вось яны:

„Міхась, як яго хто падбіў, узяў і загукаў на ўвесь лес: чэрці, трасца вашай галаве, куды ідзеце!" („Чорт", 11); Міхалка „бярэцца за гарачую шклянку і тут-жа борзьдзенька адрывае ад яе апечаную руку... Гарбата, *як-бы яе чэрці тайхануць,* разьліваецца па стале і на порткі Міхалку"

(„Дзеравеншчына“, 31), „Няхай-бы былі сабе дзірачкі ў галаве, *але на чорта яшчэ гэтыя храсткі?*“ (ib., 32); „Усякі ведае, што „тэм-латадэм“ *чорт яго знае*, што азначае“ („На начлезе“, 98); „Нейкая сіла не давала людзям спаць... як чуць толькі задрэмлеш, зараз-жа з-пад цябе *ляціць к чортавай матары* вобраць, шапка, люлька“... (ib., 103); „Ад доўгіх часаў свайго жыцьця кажух зусім сашмуляўся, выліняў, і сам чорт не сказаў-бы, ці гэты кажух быў белы, ці чырвоны“ („Кажух старога Анісіма“, 106) [1]).

Як відаць з паданых прыкладаў, большасьць гэтых лаянак становіць сабой у сынтаксычным стасунку клічныя ці пытальныя сказы, з якімі і зьвяртаецца ці сам аўтар, ці героі яго твораў. Такім чынам, у гэтым стасунку, адзначаныя выразы падтрымліваюць стыхію эмоцыянальнай афарбоўкі апавяданьняў. У лёгічным сэнсе такога роду выразы, калі ў іх ёсьць „чорт“, даюць крайнюю вышэйшую ступень дасягненьня, за якім няма ўжо межаў. Гэта павялічвае эмоцыянальную напружанасьць да высокай ступені. Самы гумар у гэтых эмоцыянальных выразах ёсьць якраз, у слове „чорт“ і далучаных да яго слоў, якія у звычайнай гаворцы зьяўляюцца лаянкай і сьведчаць аб высокай ступені душэўшага напружаньня з боку таго, хто гэтак гаворыць.

Ёсьць і другія віды лаянак, у якіх на месца чорта зьяўляюцца іншыя спэцыфічныя слоўцы, яму эквівалентныя. Іх таксама шмат і яны таксама рознастайныя. Адны з лаянак належаць да такіх, якія ў мове ўжо зазвычаіліся. Гэта наступныя выпадкі:

„Дык вот ён які чорт!—гаварыў Міхась:—*ах ты халера!* („Чорт“, 12); „Чаго ты прывязаўся, як смала? Цьфу! Згінь, прападзі, *нячыстая сіла*! (ib., 13); „Што ты робіш, *каб ты згарэў*, каб ты?!—кінуўся на Гілёрыка Сёмка“... („Калодка пчол“, 15). „*А ліха-ж яго матары!*—крыкнуў Сёмка, зірнуўшы ў вулей;—от падвёў, *гад, каб яму жывот падвяло!* Нічога, брат, няма ў вульлі! Пусты! *А бадай яму пуста было жыць!* (ib., 17); „*Бадай ты згарэў!..*“ лаяўся стараста на няўмеку Міхалку—пісара („Контракт“, 22); „Самаю высшаю хвалою для сядзельца было тое, як яго сябрукі скажуць: *А ліха-ж яго матары!*“ Або: „*А бадай ты спруцянеў!*“ („Імяніны“, 23); „Дак ты, *гад*, унь якая птушка! Адкрыта про-

---

[1]) „Пашоў ты *к чортавай мацеры*, гіцаль!“ „Думаў зрабіць, як чалавеку, а цяпер—вось табе гула асмаленая!—злосна сказаў Сьцяпан і сунуў пляменьніку ў нос хвігу“ („Старыя падрызьнікі“. 118); „Пісар разьдзеўся і лёг у пасьцель, згайдануўшыся разоў пару.—Хораша, *чорт вазьмі!*—сказаў пісар, пацягаючыся, і прыемнае пачуваньне агульнага здаволеньня ахапіла ўсё яго цела“ („Злавіў“, 166); „Ты ведаеш, Оля, качаюся гадзін дзьве, ніяк не засну... А цяпер я нешта злавіў, *і чорт яго ведае што*“ (ib., 170); „Мне такі і не хацелася садзіцца—усё роўна, як чуў. *Але нагналі чэрці гэту акулу*“ (З дзеўніка пана Жылка“, 175); „Кажуць, калі шанцуе ў карты, то не шанцуе ў любошчах. *Чорт іх бяры з любошчамі!*“ (ib., 178); „Ну, куды-ж тут гнацца?“ Яшчэ падумаюць *чорт ведае што*... („Так і трэба ашуканцу“, 192); „Сьпірыдон, вярніся! Дык не паслухаў-жа! Ну, *і чорт цябе бяры!*—угнявіўся Сьпірыдон на сябе самога“ (ib., 196—177); „*На чорта мне твая булбатка?* (ib., 198) ды інш.

клямацыі разносіш,—лаяўся прыстаў на „соцыяліста“ („Сацыяліст“, 124); „*А, пся маць яго,* злодзей! („Недаступны“, 129); „Я ў цябе, *пся кроў твая*, пытаюся“... (ib., 132); „Цьфу! *каб ты згарэў!*—плюнуў стараста“... (ib., 133); „Мікіта, пусьці, каб ты кроўю пусьціў, *гад печаны!* („Стараста“, 185); „*А каб цябе халера!*—у вялікім гневе крыкнуў Сьпірыдон і са ўсяго размаху сьвіснуў палкаю па сьвінячай сьпіне“ („Так і трэба ашуканцу“, 192); „Цьфу, *гад печаны!* Выдумаў!“ (ib., 198).

Апрача таго, у апавяданьнях Я. Коласа ёсьць і такія выразы, што зьяўляюцца індывідуальнай выдумкай таго ці іншага героя, прыстасаванай толькі да пэўнага данага выпадку. Вось прыклады:

„*Вось як трэсну табе ў вуха*, то ня так зашуміць“ („Калодка пчол“, 15); „Дзядзька!—гукнуў Грышка:—перакінь мне закурыць. „Дзядзька“ азірнуў Грышку і сказаў:—*Пакуры*, браце, *у сабакі!*—*Рыбак—дурак!* У рыбака голыя бака!—адказаў яму на гэта Грышка—Аа-а! Гэта-ж, здаецца, *той самы, што пакраў яйца з-пад сучкі?*—гукнуў з таго берагу рыбак... *Што брэша з-пад анучкі*“ („У старых дубох“, 26); „*Каб табе калом вочы пасталі*, абармот ты! Ідзі, ідзі, бо зацкую сабакамі“ („Старыя падрызьнікі“, 115); „*П'яніца ты, лодыр! дурасьць твая*, гарэлка ўплішчыла цябе сюды!..—пачала адчытваць Арцёма Грыпіна“ („Недаступны“, 130); „І сыты-ж ты, *ліха твайму ліху*, проста, як мянёк!—казаў Нічыпар, абнімаючы мяшок“, („Знайшлі“, 148); „*Ах, каб на вас бог халеру напусьціў!*—лаяўся пісар... *Каб на вас мор і ўпадкі!*—сярдзіта бубніў пісар“ („Злавіў“, 169); „Прарваўся ў канцы Мікіта:—*Жабіч ты!* Ты думаеш, калі ты стараста, то ты ў мяне *вялікая цаца? Пляваць я на цябе хачу, начхаць табе на галаву! Хрушч ты рыжы, жабіны начоўкі, падла сьмярдзючая, абармот, п'яніца! Акцызьнік ты,* вось што!“ („Стараста“, 184).

Мастацкія мэты, дзеля якіх аўтар ужывае ў сваіх апавяданьнях лаянкі, неаднолькавыя. У большасьці выпадкаў лаянкі ўжываюцца, як слоўныя выразы эмоцый гневу; гэта часамі падкрэсьліваецца і самым аўтарам у заўвагах яго, якія справаджаюць лаянку; так у паданых прыкладах ёсьць рэплікі самога аўтара, што выразна зазначаюць характар іх эмоцыянальных настрояў, якія знаходзяць свой выраз у лаянках: пачала *адчытываць* Арцёма Грыпіна, *плюнуў* стараста, *лаяўся* пісар, *сярдзіта бубніў* пісар, *прарваўся* ў канцы Мікіта і г. д. Часамі-ж, калі такіх аўтарскіх заўваг няма, дык характар эмоцый, у прыватнасьці, выяўленьне гневу, зусім ясна відаць з контэксту мовы апавяданьня.

Тыя-ж самыя словы часамі ўжываюцца для выяўленьня зусім процілежных адчуваньняў, а менавіта: яны зьяўляюцца, як вынік добрадушнага настрою. Так, словы Нічыпара: „І сыты-ж ты, *ліха твайму ліху*“ („Знайшлі“, 148) гаворацца ў часе абнімаў ды пацалункаў („Нічыпар цяжэй налёг на мяшок, абняў і стаў яго цалаваць“). Ці для сядзельца, што толькі што было зазначана, такія выразы, як: „А ліха-ж яго матары!“ ды інш. былі за самую высокую пахвалу. Але іх агульная

мастацкая мэта тая-ж самая, што і папярэдніх спосабаў стылю, г. зн. гумарыстычная. Зноў гэта зазначае і сам аўтар. У дыялёгу Грышкі ды рыбака („У старых дубох“) ёсьць аўтарскія заўвагі наконт таго, што гэта сварка між героямі мае гумарыстычны характар; пасьля лаянкі рыбака аўтар кажа: „Ня сьцяміўшы насьмешкі Грышкі, не знайшоў нічога сказаць“...; у той-жа час і „рыбак рагатаў“... (26).

Да ліку тых-жа самых лаянак належаць і асобныя спэцыфічныя слоўцы, якія таксама, як і ў папярэднім выпадку, ужываюцца ці для таго, каб выявіць розныя эмоцыі героя або аўтара, ці выкарыстоўваюцца для апісаньня рознастайных дзеяў ды станаў дзеючых асоб і наогул для характарыстыкі іх. І ў тым і ў другім выпадку іхныя мастацкія функцыі зусім аднолькавыя. Яны ўжываюцца аўтарам з тых-жа самых мэтаў гумарыстычнага характару, бо кожнае такое слова сваёю нязвычайнасьцю, якая выдзяляе яго з другіх слоўных выразаў, ды спэцыфічнасьцю сваёй гукавой прыроды выклікаюць недаўменную ўсьмешку чытача. Да першых належаць наступныя прыклады: „Назавеш ты Міхася сабакаю, *лайдаком*, калі пачуеш ад каго, што я табе кепска мысьлю“ („Чорт“, 9); „Чаго глядзеў?—накінуўся на Андрэя п'яны Антось:—ды я-б ім *нюхаўкі* параскарваў-бы“ („Андрэй выбаршчык“, 61): „Чаго ты тут, *шыбельнік?*—спытаў брат і крэпка пацягнуў Міхалку за вуха“ („Дзеравеншчына“, 35—36); „Міхалка думаў, што ўжо яму будзе цяпер канец—так крэпка *лупіў* яго брат (ib., 38); „А гэтыя тоўстыя вязы... пад каторымі не адзін раз даваў ён *храпунца* ў гарачыя летнія дні“ („Старыя падрызьнікі“, 111); „Сьцяпан кінуў на Шлёму такі погляд, як бы хацеў сказаць:—*Шалудзька* ты! Ось, як купляюць людзі!“ (ib., 112); „Мікіта зусім *зьбіўся з панталыку* і ўжо з роспачы сказаў:—Ты наша начальства.“ („Стараста“, 181). Да другіх: „Зайшлі яны (Міхась і Іван) да цёткі Хрумы і *трынкнулі* што называецца“ (г. зн.—выпілі) („Чорт“, 9); „Як хмель пачынаў туманіць яго лахматую галаву, тады ён быў *штукар* на ўсе рукі“ (ib., 10); „Пры баку ў яго (вурадніка) цялёпаецца *трапло* шабля“ („Соцкі падвёў“, 29); „Перш-на-перш *трэснуў* ён кулаком фурману ў сьпіну“ („У балоце“, 37); „Былі і такія, каторыя нічога ня куплялі і не прадавалі і прышлі так сабе, *на раздабыткі*“. Прыдзе сабе ў краму, патупае, патупае, а як дзе што кепска ляжыць, то і запусьціць ляшча“ (г. зн. краў) („Кірмаш“, 50); „Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць добрыя людзі, *гула асмаленая*“ (ib., 50); „Аддасьць краўцу, то такія *выфастрыгуе* нагавіцы або сьвітку, што пярвейшая ў сяле красуня будзе млець па Мікалаю“ („Старыя падрызьнікі“, 116); „Шлёма, падняўшы лапсардак, задаў такога *лататы*, што пыл курэў з-пад ног“ (ib., 118); „Па тым, як нясьлі яго ногі, людзі сьвядомыя адразу пазналі-б, што дзядзька Арцём крыху „*хлясануў*“ (г. зн.—выпіў) („Недаступны“, 127); „карчомкі з вывескамі „Піво“, дзе затрымоўваліся сялянскія хурманкі, каб... у апошні раз папрашчацца з горадам, *хлабыснуўшы* на дарогу шклянку піва“ („Знайшлі“, 144—145); „Мікалаў

конік, ня чуючы над сабою цьвёрдай гаспадарскай рукі, пачынаў патрошкі *лайдачыць*" (ib., 145); „Мікалай ня ведаў, што... ёсьць яшчэ ня горш яго *дэюбануўшы* Нічыпар Касмык" (ib., 146); „І дурню было ясна, што гаспадар гэтага носа дужа змагаўся з п'янствам... *галялюшчыў*—і толькі" („Так і трэба ашуканцу", 188).

Нарэшце, у якасьці спосабаў гумарыстычнага стылю аўтар ужывае часамі прыказкі, прымоўкі ды прыгаворкі, уласьцівыя беларускай мове. Побач з імі, ён ужывае і такія, што створаны ім самім, на ўзор папярэдніх. Мэты іх скарыстаньня тыя-ж самыя, што і спэцыфічных выразаў. Іх гукавы ды сэнсавы зьмест часта маюць у сабе прыметы гумарыстычнага характару, а Я. Колас звычайна і ўжывае падобныя выразы.

Да агульна ўжываных прыказак належаць наступныя: „*Забі мяне пярун* [1]), во тут... калі я ня люблю цябе" („Чорт", 9); „Не брат, ня *трэба спаць у шапку*" („Калодка пчол", 14); „Гэта ўсё такія рэчы, каторых паляшукі ня ўжывалі з тых часоў, *як паўстаў сьвет божы*" („Контракт", 20); „*Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць*" („У балоце", 40); „Пусьці сьвіньню пад стол, то яна захоча на стол" (ib., 40); „Да што вы ведаеце, *з носа ды ў рот*" (ib., 40); „Так, брат: у іх *на языку мядок, а на сэрцы лядок*" („Андрэй выбаршчык", 59); „Гэта выйдзе ні больш і ні менш, *як страляньне вараным гарохам у цагляную сьцяну*" („Бунт", 51); „*І хто ў лесе ня злодзей, той у дому не гаспадар*" („Малады дубок", 60); „Андрэй кіраваўся прыказкаю: *Не бяры чужога і ня бойся нікога*" (ib., 60); „*Галоднай куме, кажуць, хлеб на вуме*" („Соцыяліст", 123); „Мікалай і ў *вус сабе ня дуў*, бо нічога ня чуў" („Знайшлі", 146); „Але *калі ўжо шанцуе, то і ў лапцях танцуе*" („Так і трэба ашуканцу", 187); „Гэта дурань казаў, што *добры пачатак—палавіна справы*" (ib., 196); „Каб Сьпірыдон быў профэсарам, то ён вучыў-бы, усім казаў-бы: „*Калі ідзеш на каханьне, а табе сьвіньня на спатканьне*,—вярніся і сядзі дома" (ib., 196); „Ані прыступу (да Кацярыны Паўлаўны). *На казе не пад'едзеш*" (ib., 197).

Цікава адзначыць, што некаторыя прыказкі ды прыгаворкі ўваходзяць у склад параўнаньняў, надаючы гумарыстычнае адценьне ці сваім зьместам, ці ствараючы яго ненатуральным злучэньнем вобразу параўнаньня з яго тэмай. Прыклады:

„Чаго ты прывязаўся, *як смала* („Чорт", 13); „Нос аказаўся на сваім месцы, *як салдат на часох*" („Імяніны", 27); „Папаўся, *як у нерат*" („У балоце", 38); „Чаго ты ўтаропіўся, *як воўк на парасё?*" („Дзеравеншчына", 31); „Той уляпаў сваё, *як сьвіньня ў гарох*" („Так і трэба ашуканцу", 198) ды інш.

Да такіх выразаў накшталт прыказак і г. д., якія складаў сам аўтар, трэба залічыць: „Ну, і пісар-жа з цябе!—накінуўся стараста на Міхалку: „пісаў, пісаў пісака, да не разьбярэ і сабака" („Контркт", 22); „Сьвіньня

[1]) Мабыць, адпавядае расійскай прыказцы: Поразн меня бог.

хрумстала іх (жалуды) бяз усякай жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня даруй, божа, грэх" („Зло не заўсёды зло", 14); „Купіў ня купіў, а патаргаваць можна", разважаў Мікалаеў конь" („Знайшлі", 145); „Язык век па балоце скача і ня гразьнее дый яшчэ і ў Кіеў у карчму завядзе" (ib., 152); „Няхай будзе так лёгка табе зямля, як была цяжка твая ігроцкая доля!" („З днеўніка пана Жылка", 174).

Як відаць з усяго паданага ілюстрацыйнага матэрыялу, у большасьці выпадкаў аўтар карыстаецца рознымі спосабамі гумарыстычнай мовы пры абрысоўцы дзеючых асоб. Гэта акалічнасьць зусім зразумелая, калі прыняць пад увагу, што істота жывая, рухомая, дынамічная дае значна больш падстаў для вынайдзеньня спосабу гумарыстычных, чым рэч нярухомая, статуарная. Таму пры апісаньні абставін ён у больш рэдкіх выпадках ужывае гумарыстычныя выразы, бо тут няма такой прасторы для іх ужываньня ды разьвіцьця. Ужываючы, аднак, іх у гэтай галіне, аўтар асабліва ахвотна карыстаецца імі, якраз, тады, калі малюе адухоўленую прыроду, г. з. зноў жывую і дынамічную.

Канечна трэба яшчэ зрабіць заўвагу наконт аднаго мастацкага спосабу аўтара, які таксама мае ў сабе рысы гумарыстычнага характару, гэта—асабісты ўдзел аўтара ў апавяданьні. Наогул кажучы, яго *лірычны спосаб выяўленьня* мае параўнальна нязначнае ўжываньне ў яго творчасьці як гумарыстычнай, так і сур'ёзнай. Стылістычна гэты спосаб афармляецца пры дапамозе розных слоўных сродкаў, якія служаць у мове для яго выражэньня.

Перш за ўсё, лірычныя адхіленьні зьяўляюцца найбольш відавочнымі выяўнікамі гэтага спосабу. Яны сустракаюцца ў двух апавяданьнях: „Знайшлі" ды „З днеўніка пана Жылка" і маюць гумарыстычны характар. Сур'ёзны тон аўтара, якім ён апавядае ў тым і тым выпадку, зусім не адпавядае значнасьці тых рэчаў, што становяць тэму яго адхіленьняў.

У першым апавяданьні, разумеючы сур'ёзнасьць дый нават паважнасьць тэй рэчы, пра якую ідзе гутарка, ён пачынае сваё адхіленьне такім чынам: „Я не магу ня ўспомніць пры гэтым майго друга, пісара, каторы першы, можна сказаць, зьвярнуў увагу на *капялюш* як сьледуе быць" („Знайшлі", 149). Гэта той капялюш стары, выкінуты, занесены, як сьмецьце, ветрам на поле, які ў хуткім часе зрабіўся прадметам спрэчкі двух п'яных герояў—Мікалая ды Нічыпара. Пачаўшы сваё апавяданьне так паважна, аўтар далей аддае слова свайму сябру, пісару, які гаворыць прамову з патосам, уласьцівым прамоўцам. Ён адзначае сьпярша яго цяжкае становішча цяпер: „Капялюш! ляжыш ты, цяпер тут адзін, і топчуць цябе тут людзкія ногі. Цябе даўно забылі і кінулі аднаго, аднаго на зьдзек цэлага сьвету. Пячэ цябе сонца, дажджы паліваюць, топчуць у гразь, нагой падкідаюць" і г. д. (ib., 149—150). Каб павялічыць гумар шляхам контрасту, прамоўца зьвяртаецца потым да ўспамінаў аб мінулым гэтага капялюша, лепшым, як яго сучаснае.

„А былі-ж і ў цябе сьветлыя часы, вясёлыя дні, і табе, сіраціна, сьвяцілі агні. Навенькім вышаў ты з майстравых рук дзе-небудзь у Лодзі або і ў Варшаве, і цябе не насілі ні Янук, ні Пятрук, а пан які важны, і быў ты ў славе!!. (ib., 150).

Каб павялічыць той-жа самы контраст між тонам прамовы адхіленьня ды тэй рэчай, што апісваецца, з мэтай узмоцніць сілу гумору, аўтар прымушае свайго сябра пісара перажыць стан пэўнага хваляваньня ды ўнутранай напружнасьці; ён заўважае, што яго сябра, вымаўляючы першую частку слова аб горкім лёсе выкінутага капялюша, нават заплакаў: „вочы яго былі мокрыя ад сьлёз“ (150).

У другім апавяданьні адхіленьне аўтара мае такі-ж самы характар ды нават і форму, што і ў папярэднім выпадку. Прадметам апавяданьня зьяўляецца валацуга, гулец у карты і п'яніца Жылка, тымчасам у лірычным апавяданьні аўтара, прысьвечаным гэтаму герою, той-жа самы сур'ёзны ды паважны тон, які мала адпавядае характару гэтай асобы. „Я так патрэсены яго сьмерцю, што мой язык ня можа сказаць і ценю таго, што выяўляў сабою нябожчык“ („З дзёніка пана Жылка“, 173). Далей зноў, які ў першым выпадку, ён спасылаецца на „нашага прамоўцу“ Антося Гладыша і дае яму магчымасьць сказаць апошнюю памінальную прамову аб герої. Уся прамова, паданая раней у разьдзеле тэматыкі, пабудована зноў, на процістаўленьнях: „гэта быў *няўтомны баец* за *„зялёным сталом“*, ён *аддаваўся картам усёй душою*, няхай будзе так *лёгка табе зямля*, як была *цяжка* твая *ігроцкая доля*“... ды інш. падкрэсьленыя намі выразы па сэнсу знаходзяцца ў стане контрастаў і, дзякуючы гэтаму, ствараюць гумарыстычнае ўражаньне.

З другіх сродкаў для выяўленьня свайго лірызму аўтар карыстаецца пераважна, пытаньнямі ды клічнікамі, якія ўжываюцца ад яго асобы ў апавяданьні. З іх варты асабліва ўвагі тыя зьявы гэтага характару, якія, сьведчачы аб асабістым удзеле аўтара ў тэй дзеі, што ён апісвае, у той-жа час ужываюцца, галоўным чынам, для мэтаў кампазыцыйнага характару; яны зьяўляюцца лёгічнай сувязьзю паміж асобнымі часьцінамі твору, іх апавядальніцкім імпульсам, пры дапамозе якога аўтар атрымлівае магчымасьць з большай лёгкасьцю пераходзіць ад выяўленьня аднаго моманту дзеі да другога.

Так, у апавяданьні „Імяніны“ ў апісаньні бойкі між вураднікам ды сядзельцам манапалькі ёсьць два моманты: першы—вураднік кідае ў сядзельца гурок, а той перакульвае на яго талерку з капустай; другі—вураднік ускаквае з-за стала і пачынаецца бойка. У выяўленьні гэтых розных паводле зьместу двух момантаў п'янай калатнечы аўтар і ўстаўляе ад сябе пытаньне: „ці-ж можна было сьцярпець гэтакі сорам“? (27), які зьвязвае іх у адну дзею ды мотывуе паводзіны вурадніка, не сьцярпеўшага абразы пасьля талеркі з капустай і скочыўшага з-за стала біцца.

Ці ў апавяданьні „У балоце“ ў ролі такіх рухальнікаў апавяданьня ставяцца клічныя сказы, якімі абменьваюцца між сабой яго героі. Яны

напаўняюць сабою ўсё апавяданьне і надаюць яму большую дынамічнасьць. На кожным кроку чуваць такія словы: „Пхайце ў зад! Рраза м! Пойдзем, паложам! Бярэмся! Хлопцы, адвернем наўперад каляску! Ну, жыва! Ну, рразам! Пхайце, хлопцы... Но! но! но!“ ды інш (38—41). У той-жа час яны палягчаюць аўтару пераход ад аднэй дзеі да другой.

У другіх выпадках пытаньні, якімі карыстаецца аўтар, выконваюць задачы гумарыстычнага характару. У апавяданьні „Выстагнаўся“ аўтар, узяўшы сур'ёзны тон і напружна выражаючы спачуцьцё Івану ды яго несамавітаму становішчу, у душы сьмяецца з яго, выклікаючы такі самы настрой і ў чытача. Ен ставіць шэраг пытаньняў, з якімі зьвяртаецца, да чытача ці проста нямеведама да каго: „Дзе тая праўда на сьвеце? Чаму Антось, як пачне плакаць, то кінецца на сьпіну аб зямлю і барабаніць нагамі так, што яму можа пазайздросьціць найпершы барабаншчык. Вазьмі-ж ты, выйдзі, Іван, на вуліцу, завядзецца з кім біцца— што-ж гэта за чалавек, калі ні разу не пабіўся. Наб'юць, накрыўдзяць Івана. Што-ж бы вы, добрыя людзі, рабілі, каб вы самі былі Іванамі? Вы-б заплакалі, і ўсякі-б заплакаў. А чаму ня плакаць Івану? Але няхай папрабуе заплакаць: засьмяюць, заклююць ды ў прыдачу горш наштурхаюць“ (156). Самі па сабе, як відаць, пытаньні маюць сур'ёзны характар, але ў акружэньні думак, якія расказваюць аб немагчымасьці герою „выплакацца“, яны набываюць гумарыстычны харахтар, надаючы і ўсёй вынятцы з апавяданьня такі-ж самы характар.

Такі самы характар пытальныя сказы аўтара маюць і ў апавяданьні „Так і трэба ашуканцу“. Пасьля тых незадач, якіх нацярпеўся герой, гуляючы па вуліцах гораду, хаця ён увесь час марыў аб надзвычайным посьпеху (няўдалыя заляцаньні за паненкамі, няпрыемныя спатканьні са сьвіньнёй, кпіны вясковых дзяўчат з яго носу), аўтар ставіць шэраг пытаньняў: „да чаго прыраўняць гэты дзень? Ён падобны да цэлага веку чалавечага. Хто з нас, браты мае, стоячы на парозе сваёй вясны, не парываўся ўвесь, аддаўшыся ў абладу сьветлым марам, у невядомую даль? Ці ня гэтак і Сьпірыдон зачынаў сягонешні дзень. Ці ня імчаўся і ён, як той вол, туды, куды цягнуў яго сьверб носу?“ і г. д. (195). Ставячы такія пытаньні, мастак хацеў павялічыць контраст між надзеямі героя, уласьцівымі, як сьведчыць лірычнае адхіленьне, усім наогул людзям у іх маладосьці, і сапраўдным становішчам яго—тымі незадачамі, якія нечакана для яго зваліліся на яго галаву. Герой такім чынам апынуўся ў сьмешным становішчы, а гэта і зьяўлялася галоўнай мастацкай мэтай аўтара ў даным апавяданьні.

*Працяг будзе*

## ЗАРЫСОЎКІ Ў ПАДАРОЖЫ

**М. Полін**

### 1. Менск—Бэрлін

Чэрвенская раніца. Халаднавата. Павольна, бы нехаця, зрушыўся экспрэс Уладзівасток—Парыж. Ззаду, кінуўшы апошняе „да пабачэньня“, астаецца адна са старож СССР—*Чырвоны Менск*.

І чым хутчэй цягнік імчыць на захад, тым большы непакой агортвае пасажыраў. Пытальна глядзяць адзін на аднаго; погляды даюць зразумець аб набліжэньні чагосьці такога, што павінна парушыць ваш настрой ды забрудзіць супакой... Зьмяніліся і тэмы гутарак, гутарка неяк ня клеіцца.

Шмат хто ўпяршыню едзе за граніцу. Яны асабліва прагавіта прыслухоўваюцца да гутарак і распытваюць „бывалых“.

У гэтых гутарках ужо відаць надзеі і адзначаецца аблічча суседзяў па „экспрэсу“. Вось ужо ўсе апрануліся і гатовы да апошняга акту зносін з савецкай сыстэмай.

Цягнік імчыць лёгка, пакідаючы ззаду сябе ўсё роднае, блізкае.

Рэзкі, пераканальны сьвісток, ня менш пераканальны гудок угрэтага савецкага паравоза—і працяглая стаянка ў Негарэлым.

Негарэлае... Гэта стаянка не дазваляе забыцца на пройдзены цяжкі 10-гадовы шлях. Яна ажыўляе ўспаміны аб перамогах, горы, аб шмат якіх труднасьцях; напамінае аб нараджэньні новага чалавека, дасягненьнях, будове новага сьвету, папераджае аб будучых гістарычных бойках.

Сваёй назвай гэты апошні савецкі маяк на рубяжы з капіталістычным сьветам напамінае ўсім, што па той бок і да чаго так грозна наблізілася чырвоная зорка,—заўсёды напамінае аб надзейным матэрыяле, з якога ўсё зьлітавана на савецкім баку.

Так. Не згарэлі на будове новага сьвету, не сатлелі ў бойках, не згарэлі ад агню ворагаў... Не. Не згарэлі... Негарэлае... Усё, што засталося ззаду—негарэлае... На ўсім пячатка негарэлага.

Добрая станцыя Негарэлае,—сымболічная, надзейная.

Хоць і бедная на выгляд, але надае значны непакой нашым блізкім заходнім суседзям.

Яшчэ некалькі хвілін язды і зьяўляюцца абрысы новых абставін; імчацца насустрач іншыя, прасякнутыя нудным настроем хвіліны.

У вагоне ўсё сьціхла. Усе кідаюцца да вакон, каб хоць крыху кінуць вокам на блізкую зьмену дэкарацый.

Вось ужо маячыць пагранічная арка. Цягнік зьмяншае ход. Хутка прабеглі пагранічныя слупы. Напружанасьць дасягае вышэйшага пункту. Праходзіць яшчэ некалькі нудных хвілін, і ў вагон, парушаючы вусьцішную цішыню, уваходзяць прадстаўнікі польскай жандармэрыі. Пашпарты—гэтыя рэальныя зьвены, што зьвязваюць вас з пролетарскай айчынай, забраны для праверкі, і здаецца, што вас груба абяззброілі, вельмі зьняважылі, і вы адчуваеце сябе безабаронным.

У Стоўбцах выходзім для новага агляду пакункаў. Яшчэ ў вагоне гаварылі аб тым, што палякі вельмі ня любяць, калі на іх тэрыторыі гавораць парасійску. Раяць пераходзіць на чужаземныя мовы. І, сапраўды, на гэтай першай станцыі „Рэчы Паспалітай“ сярод некаторай часткі пасажыраў—транзітнікаў адбываецца даволі арыгінальная мэтаморфоза. Амаль зусім зьнікае расійская гутарка. Адразу пачулася нямецкая, ангельская, француская мовы,—так, вось спакайней, менш зачэпак.

Усе хады і выхады пільна ахоўваюцца жандармэрыяй ды паліцыяй. Адчуваеш, што ня толькі ваш пакунак аглядаецца, але што і вы самі ёсьць прадмет уважлівага нагляданьня не аднэй пары пільных вачэй польскай контрвыведкі. Сочаць за кожным вашым крокам. Ці ідзеце купіць літаратуры—адразу за вамі бяжыць погляд чалавека ў капялюшы, спыняецца побач з вамі ды ўважліва вас вывучае. Ці пойдзеце на пярон кінуць ў паштовую скрынку ліст—напаткаеце падобнага-ж суб'екта. Да адыходу цягніка яшчэ шмат часу, але пасажыры—бы нявольнікі. Сядзяць шчыльна, гурткамі. Ніхто не выяўляе жаданьня выйсьці раней тэрміну на пэрон. Гавораць цішком. З-пад вока разглядаюць жандараў. Боль шасьць чытае газэты. Некаторыя пасажыры чытаюць адзіную, якая ёсьць у кіёску на расійскай мове, эмігранцкую газэту „За Свабоду“. Савецкіх газэт тут ня ўбачыце. Адразу адчуваеце сябе адрэзаным ад усяго, што напамінае пра ўладу працоўных.

Урэшце, першы этап кончыўся. Аддаюцца назад пашпарты, а з імі зварачаецца і значная частка супакою. Падаецца сыгнал, публіка задаволена кідаецца ў вагоны.

З іранічным сьмехам на губах і з усьведамленьнем свайго гонару, праводзіць пэрон пасажыраў.

Заходняя Беларусь. Усходнія „крэсы“. Знаёмы пэйзаж, сумныя хацінкі беларускага селяніна, які астаўся пад уладаю яснавяльможнага пана. Шпарка імчыцца цягнік па краіне, насяленьне якой стогне пад бізуном і ботам польскага пана і капіталістага. Таксама шпарка паўстае перад вамі беларускае сялянства, пасаджанае на лаўку падвіноўных, якое праз сваю організацыю „Грамада“ падало адзін з рахункаў сваёй айчыннай буржуазіі. Але польскі ўрадавы бізун, відаць, адчувае сябе покі што даволі моцным і таму ня лічыцца з гэтай „крэсавай чэрню“.

Няхай! Гэтыя палі, што пакуль яшчэ моўчкі наглядаюць бег гісторыі, выгадуюць патрэбныя сілы, накормяць нянавісьцю да сваіх прыгнятальнікаў апранутага ў сярмягу земляроба. І якраз так-жа, як паступова сьпеюць каласы неўрадлівага поля, сьпеюць мысьлі і справы змучанага селяніна Заходняй Беларусі...

Баранавічы. Пэрон ачышчаны ад публікі. Асталіся толькі афіцэры з сваімі дамамі. Грае музыка. Некага сустракаюць. Мабыць, важная асоба. Пасьля рапарту—прывітаньне, цісканьне рук, кветкі, тройчыя крыж-накрыж пацалункі важнае асобы з большымі чынамі. Публіка з боку маўкліва і тупа глядзіць на гэтую сцэну. Масы тут няма. Дзейнічаюць толькі пэрсонажы, што твораць волю дужых гэтага сьвету. Роўнадушнасьць гледачоў трэба заглушыць маршамі, мазуркамі, кракавякамі... Важная асоба садзіцца ў аўтомобіль. Закрычалі натоўпу—дала дарогу. Запалоханы грамадзянін, туляючыся, прабіраецца на дарогу. Згінае сьпіну перад панамі... Ці доўга яшчэ?..

* * *

Слонім. Беласток. Варшава. Купэ нашага вагону наладавана пасажырамі. Нас, хто едзе з СССР, падазрона аглядаюць. Некаторыя адсоўваюцца,—мала што можа здарыцца. На ўсякі выпадак—далей ад бальшавіцкай заразы. (Тут кожнага, хто едзе з Саюзу, лічаць бальшавіком). Больш адважныя зьвяртаюцца з шэрагам пытаньняў—спачатку на польскай, а потым на расійскай мове. Некаторыя з хітрыкамі, большасьць-жа проста хоча ведаць праўду аб сваім усходнім суседзе. Пытаньні ў большасьці датычаць будучай вайны, якая нібы рыхтуецца Саюзам, гаспадарчай політыкі, нацпытаньня, сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня, ролі Комінтэрну ў савецкай дзяржаве і г. д. Паступова ў гутарцы прымаюць удзел усе прысутныя. Ажыўлена спрачаюцца, больш між сабой, даводзяць, пераконваюць, часта зьдзіўляюцца свайму няведаньню таго, што адбываецца ў Саюзе.

Удзельнікаў гутаркі можна падзяліць на дзьве групы. Першая—гэта група, што відочна варожа адносіцца да ўсяго савецкага і бачыць у „гэтых страшэнных бальшавікох“ сваіх заўзятых ворагаў. Бальшавікі ў іх уяўленьні—гэта „самая распушчаная чэрнь“, конглёмэрат дэгенэратаў чалавечага роду. Паводле думкі гэтай групы, савецкая інтэлігенцыя працуе на карысьць савецкай дзяржавы не за сумленьне, а за страх, бо кожны спэцыялісты і служачы—некомуністы нібы заўсёды знаходзіцца пад страхам расстрэлу. Бальшавікі нібы вядуць краіну да пагібелі, і культурны народ гэта павінен разумець. Вось чаму „польскі народ на такую няпрыстойнасьць ня пойдзе“.

Аднак, гэта група, якая відочна падтрымлівае ўсякую рэакцыйную ўладу і політыку з боку адносін да ўсякіх „неблаганадзейных“ элемэнтаў, павінна ўсё-такі адзначыць рост комуністычнага ўплыву і палявеньня шырокіх мас.

І, авохці—жах! Бальшавіцкія элемэнты (падумайце толькі!) часта трапляюцца сярод інтэлігенцыі. Яны, бачыце, асабліва небясьпечны, бо асабліва здольна парушаюць адзінства нацыі ды аўторытэт дзяржавы. Няхай ужо ўсякімі ўтопіямі аб соцыялізьме ды комунізьме займаюцца рабочыя і сяляне, але калі гэтай справай займаецца чалавек „разумны“ і „разважны патрыёт“, дык гэта становіцца незразумелай (дзе ўжо там!) і вельмі небясьпечнай гульнёй. Зразумела, што ўсе няпрыемнасьці клясавых супярэчнасьцяй адносяцца на кошт Комінтэрну ды нямецкіх грошай.

Дарэчы, немец і бальшавік у сучасным уяўленьні польскага буржуа ды абываталя—паняцьці зусім аднолькавыя, і нянавісьць да іх культывуецца аднолькава.

Адносіны пэўных груп польскай грамадкасьці да немцаў выяўлены ў наступнай думцы, выказанай з усёй сілай палу ды пераконаньня адным спадарожнікам. „Хай толькі пачнецца вайна з немцамі: тады мы пастараемся на кожны польскі штых пасадзіць па пяць немцаў“.

Самаздаволена ды брутальна. І, мабыць, аўтар такога ваяўнічага настрою і ўсе, хто ўспрымае гэты дзікі лёзунг, гатовы ня з меншым здаволеньнем пасадзіць на кожны польскі штых і павесіць на кожны слуп па дзесяць бальшавікоў. Але ў час, відаць, апамятаўся і таму думкі свае ў голас ня скончыў.

Гаварыць у Польшчы пра дасягненьні нямецкай гаспадаркі, тэхнікі, аб праяўленьнях нямецкай культуры ня прынята, бо самае нязначнае праяўленьне сымпатыі да чаго-небудзь нямецкага лічыцца абразай нацыянальнага пачуцьця і гонару. У той-жа час дыскрэдытаваць усё нямецкае лічыцца абавязкам усякага самавітага польскага патрыёта. Асабліва гэты нацыянальны антагонізм адчуваецца пры набліжэньні да былой нямецкай тэрыторыі—Пазнані.

Пазнанцы, звычайна, дэмонстратыўна падкрэсьліваюць свае сымпаты да ўсяго нямецкага, паляк-жа імкнецца як-небудзь зьняважыць пазнанца—гэстам, поглядам, спосабам абыходзін або гутарачы пры ім на тэмы, з якіх б‘е відавочнае жаданьне паказаць сваю перавагу пераможца і гэтым абразіць.

Асобна ў гэтым конглёмэраце людзей стаяць „былыя людзі“, якія ў свой час мелі вялікую вагу і грошы ў старой Расіі, а цяпер зьяўляюцца заядлымі вернападданымі „Белага Ожола“. Гэта ўсьцяж чорнасоценная паскуда. Няпрыемна, вельмі няпрыемна мець такога суседа. Але вы, перш за ўсё, пасажыр транзітны і карыстаецеся ласкавай „гасьціннасьцю“ чужаземнай дзяржавы, таму ня можаце быць асабліва патрабавальнымі да выбару сабе суседзяў па купэ.

Хочаце—ня хочаце: знаёмцеся. Былы інжэнэр-гарняк. У свой час працаваў у Данбасе. Кіраваў вялікай справай. Ня менш вялікія сродкі яго ліквідавала Кастрычнікавая рэволюцыя. Пасьля рэволюцыі запрошаны на працу, як выдатны спэцыялісты. Карыстаўся вялікім аўторытэтам. Даручалася адказная праца па аднаўленьні шахт. Працаваў, упарта саботуючы,

і чакаў. Думаў: вернуцца старыя парадкі; у думках рыхтаваў шыбеніцы для рабочых, што адважыліся палажыць сваю руку на багацьці эксплёататараў. Знаходзіў і падбіраў аднадумцаў. Складаў пляны, трапна разбураў новую будову.

Але час ішоў, а старыя гаспадары не зварачаліся. Рыштаваньні расьлі ўсё вышэй, фундаманты закладаліся ўсё больш грунтоўныя. Хмары, што зьбіраліся над пролетарскай дзяржавай, пасунуліся ў сьвет. Сяму-таму крыўдна стала. Карціць. Ня вытрымаў і былы данбасавец. З роспачы пайшоў напралом. (Зусім адкрыта апавядае аб сваёй шкодніцкай рабоце). Выбух шахты быў папярэджаны. Арыштавалі. Прыгаварылі да расстрэлу. Шчасна ўцёк. Цяпер кіруе ў Варшаве сваёй уласнай канторай ды ўспамінае „добрым словам" савецкую ўладу. Шмат аддаў-бы за прыдушэньне саветаў і вельмі шкадуе, што шахцінская справа прывяла на лаву падвіноўных столькі „энэргічных ды ідэёвых барацьбітоў за права чалавека і за рускі народ".

— Няхай,—трагічня кажа ён,—страцяць свае буйныя галовы гэтыя вартыя перайманьня людзі. Ад гэтага наша сіла не паслабее. Дзесяткі і сотні лепшых людзей стануць у шэрагі барацьбітоў і закончаць пачатую рускай тэхнічнай інтэлігенцыяй справу.

Так, мы пераконаны, што лепшыя людзі савецкай дзяржавы разам з сумленнымі савецкімі інжынэрамі ды тэхнікамі ўжо ўзяліся і возьмуцца за аднаўленьне ды ўзмацненьне нашай гаспадаркі. Мы пераконаны, што рабочая кляса і ў далейшым будзе ўжываць радыкальныя сродкі да ўсякага, хто надумае залечваць раны нашай экономікі паводле ўзору шахцінскіх герояў...

Але трапляюцца пасажыры і іншай катэгорыі. Яны больш супакойныя... Часамі вялікія дэмократы. Трапляюцца і з вельмі радыкальным настроем. Падкрэсьліваюць свае антыфашыцкія пагляды. Часта гавораць намёкамі. Прыхільнікі розных політычных компромісаў, пацыфістыя.

Адзначаюць шмат цікавага і каштоўнага ў Савецкім Саюзе. Можна нават што-колечы пераняць ад нас. Але гэтая „жахлівая" ідэя соцыялізму ды комунізму ўсё псуе.

— Ці-ж можа,—зьдзіўляецца такі пасажыр,—сучасная праўная дзяржава разьвівацца не на прынцыпе прыватнай уласнасьці?

— Павінна-ж быць некаторая зацікаўленасьць у кожнага грамадзяніна, што кахае сваю айчыну (сваю маемасьць).

— Пры савецкай-жа сыстэме, дзе гэтай зацікаўленасьці няма, разьвінаецца паразытызм (звычайная праворнасьць рук) ды грамадзкая безадказнасьць.

Ды і наогул, паводле думкі гэтых „дэмократаў", ідэя соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе правалілася і савецкі ўрад на чале з партыяй ідуць назад да капіталізму.

Выхаваныя на соцыял-дэмократычнай прэсе, гэтыя людзі, што „рэальна" мысьляць, далей тупіка ўстралаўшчыны не пашлі.

У сваёй практычнай працы яны, пры выпадку, не пасаромяцца рэальна ды ўпарта абараняць сваю дзяржаву ад соцыялізму, як „праваліўся“.

А што абараняцца ім давядзецца, гэтага яны самі не адмаўляюць, калі гавораць пра нездаволеныя „крэсы“ ды заводы, якія бастуюць...

Чырвань ад пажару, што зьявілася на небасхіле, выклікала некалькі хвіль нуднай і злавеснай цішыні...

Пас чырвонага водбліску ўсё шырэй ды шырэй, крывавая пялёнка ўсё вышэй ды вышэй.

Шукае сваімі мацаламі разявяку-афяру, а мо‘ свайго адвечнага ворага... Здаюцца крыкі ды сьлёзы змучанага і забітага сялянства...

На распаленым небасхіле чырвоныя языкі полымя... На небасхіле адбываецца агляд завірушнай стыхіі...

Небасхіл гарыць яркім полымем нянавісьці працоўных мас... Ці ня промень чырвонай небясьпекі?.. Ці ня вогнішчы поклічу насьпяванай рэволюцыі?..

Віднее. Мяккі ветрык, што дзьме з прыгожых, па-нямецку ўробленых палеткаў Пазнані, абуджае вас. Цяжкая ды бяссонная ноч; ноч з жахлівымі зданямі зьнікла...

Раніцой дыхаць лягчэй. Цягнік больш гладка імчыць па рэйках насустрач новым уражаньням, іншым настроям.

## 2. У „дэмократычным раі“ Гіндэнбурга

### 1. Распрадаваны Бэрлін

Стэнч. Пагранічная нямецкая станцыя. Прыветна кіўнушы галавою, нас сустракае досыць шумны пэрон. Каля разьменнай канторы ўжо вырас доўгі хвост. Усе нападаюць на адзінага газэтчыка. Цырульня на станцыі паўнютка. Вольна дзеліцца ўражаньнямі насяленьне цягніка. Ад ранейшай старожасьці няма і сьледу.

Да Бэрліну яшчэ некалькі гадзін язды. За гэты час хочацца намацаць пульс жыцьця Нямеччыны. Вы купляеце некалькі самых сьвежых газэт розных кірункаў і трапляеце ў зусім новы сьвет настрояў ды ўражаньняў.

Рэспубліка „чыстай дэмократыі“ перажывала вялікі палітычны дзень. Напружны час перамаўленьня пра ўтварэньне ўраду „вялікай коаліцыі“. Ліхаманкава ўспрыймала краіна ідэю чарговай зрады соцыял-дэмократыі...

* * *

У Бэрлін трапляеш неяк паступова, няпрыкметна. Ён бярэ вас па частках. Ахутвае шматлікімі мацаламі. Усё неяк рвецца, і вы імчыцеся ад аднэй гарадзкой станцыі да другой, на якіх цягнік выкідае пакункамі людзей, што вось толькі спакойна сядзелі ды бясьпечна гутарылі.

Але, трапіўшы на пэрон, яны робяцца ўзбуджана дзелавымі і, хутка ідучы да выхаду, трапляюць у густы вір жыцьця вялікага гораду, гораду, які мае свой спэцыфічны, складзены гістарычнымі падзеямі колёрыт.

Калі трапіш у Бэрлін, дык здаецца, што ўвесь ён убраны густой сеткаю рэек і што асноўны пульс яго жыцьця—гэта цягнікі, якія шпарка імчацца па іх.

Вось ужо праехалі некалькі цэнтраў гораду, а вас ўсё яшчэ імчыць цягнік і вы ў непаразуменьні—калі-ж ужо будзе, урэшце, „сапраўдны" вагзал. Выходзіць, што ўсе яны „сапраўдныя" і ўсе яны вагзалы, і ўсе яны пад панурымі сваімі скляпеньнямі чакаюць вашага выхаду, бо вы даўно ўжо прыехалі ў Бэрлін.

Але, Бэрлін вельмі вялікі (прамер—13 кілёмэтраў), таму для выгоды насяленьня і пасажыраў пабудаваны шэраг вагзалаў, і кожны пасажыр выходзіць там, дзе яму больш зручна, дзе бліжэй да свае кватэры.

Выходзіце, урэшце, і вы. Вагзал на Фрыдрыхштрасэ. Вас адразу-ж бярэ гатовы да паслуг таксі ды імчыць доўга-доўга па розных вуліцах.

Насустрач імчацца чародамі аўтомобілі, таксі, аўтобусы, натоўпы людзей, даганяюць адзін аднаго аземкаватыя пяціпавярховыя дамы, магазыны, кафэ, бары, нязьлічоныя вуліцы, мітусіцца рэкляма...

У гэтым мільгаючым калейдоскопе адчуваецца тэмп Бэрліну, тэмп гэтага Welstadt'а які ўвабраў у сябе валявую ды матэрыяльную энэргію чатырохмільённага насяленьня. Ціхае і плыннае снаваньне таксі раз-по-разу спыняецца крыкуном-рэклямай чарговага псыхозу Бэрліну—рэклямай сэзоннай распродажы.

Бэрлін распрадаецца—вось першае ўражаньне ад яго ў першыя дні знаёмства з ім.

Бэрлін пэрыодычна жыве ўвесь пасам Ausverkauf'а. Усё перажывае нейкую ліхаманку. Усюды і ўсё распрадаецца. Конкуруюць магазыны адзін з адным. Стараюцца выперадзіць адзін аднаго формаю дыякасьцю рэклямы. А наогул увесь гэты шум, дынаміка вячэрніх і начных агнёў практыкуюцца з мэтай давесьці выгоднасьць прапанаваньня тавару на некалькіх пфэнігаў таней звычайнага. У першыя дні абвяшчэньня аб распродажы здавалася, што ўсе звар'яцелі. З самай раніцы да позьняй ночы натоўпы загіпнотызаваных людзей, бы мухі, уюцца каля вялізарных выставак ды вокан. Ад вакна да вакна, ад магазыну да магазыну, ад кварталу да кварталу, ад вуліцы да вуліцы—усюды і скрозь крочаць сьляды пад'юджанага сэзоннай распрадажай абывателя..

Ды як і не паддацца гэтаму ўсёпаглынальнаму закліку, як не падпарадкавацца гэтаму асьляпляючаму бляску агнёў, як не паспрабаваць шчасьця ў шматабяцаючым спаду цаны. У гэтай дзіўнай аблозе гораду мірным бюргерам, які ловіць таннае, ёсьць свой асаблівы колёрыт. З дзіўнай упартасьцю, вельмі здольна ды пераканальна праводзіць нямецкі купец гэту сэзонную пропаганду.

Гэта робіцца лёгка і без асаблівай напружнасьці. Ён проста песьціць вока праходжага, ён падае яму некалькі прыемных хвілін, ён нібы няпрыкметна, прыўчае яго спыніцца ў патрэбным і выгадным для прадаўца месцы, ён зьвяртае ўвагу пакупніка на тое, на што той запомніў, ён сваячасова ў прыгожых тонах дае яму патрэбную раду. І так кожны дзень. Чаўпе, прабівае наскрозь. Абываталь прывыкае да гэтай староньняй і выгоднай апекі, ён пачынае нудзіцца, калі яе няма, а далей ён пачынае баяцца, каб не астацца без належнага жыцьцёвага кіраўніцтва. Умее, яшчэ як умее нямецкі купец браць у рукі абываталя. Для таго, каб аўладаць на некалькі тydняў горадам, бэрлінскі прадпрыемца проста падпаліў з усіх бакоў горад вось гэтым самым Ausverkauf. Ён заваяваў права грамадзянства. Ён—цэнтр увагі бэрлінца і бэрлінкі. З думкай пра Ausverkauf кладуцца і з ёю ўстаюць. Полымя, а больш правільна стыхія. Ausverkauf б'ецца ў прастору хваляй плякатаў, уецца доўгімі радамі вуліц, сьпелесаваных стракатымі рэклямнымі сьцягамі, пырскае задзірыста з усіх вакон магазынаў. Кожны паверх аблемаваны цяжкім ланцугом Ausverkauf'а, кожная рэч на паліцы танцуе мэнуэт „Ausverkauf".

Ня ўхіліліся лёсу вястуноў Ausverkauf'а і сродкі зносін гораду.

Трамвай, аўтобусы, таксі, мэтраполітэн з шумам і грукатам, у заўсёдным руху разносяць скрозь бацылы ліхаманкі ды на спынках ледзь пасьпяваюць адсапціся. Не адстае і кіно. Перарываючы іншы раз нудны фільм, на экране зьяўляецца памастацку змайстраваны эскіз, які цікавіць гледача куды больш фільму, эскіз наконт каўняра такой-та фірмы або эскіз, які паказвае дынаміку спаду цаны за апошні тыдзень ці падае параўнаўчую табліцу цаны тавараў у розных магазынах.

Наконт чыкаляду, наконт кавы, кашуль, купальнага гарнітуру, капялюша ды інш. пускаюцца спэцыяльныя фільмы, якія прыцягваюць нямала гледачоў.

Кожны дзень пасылаюцца па радыё спэцыяльныя рэклямограмы, якія немцамі слухаюцца з пільнай увагай, як належыць практычнаму чалавеку. Заканчаецца гэта сваясаблівая піраміда „распродажных адносін" сродкамі авіацыі. Днём і ноччу зьяўляюцца ў далёкай вышыні сталёвыя птушкі; яны агнёвымі літарамі напамінаюць пра існаваньне чыкаляду фірмы „Трумпф", або белахмарнымі істужкамі ў яркай сіні неба ветла сьмяецца „Persil" (Пэрсіль).

І ўсё гэта дзеля Ausverkauf'а. Усё распрадаецца, на ўсё спадае цана. Распрадаецца лета з яго гарачымі і душнымі днямі, калі ўсе ў канцы тыдня пакідаюць горад і сьпяшаюцца на ўлоньне прыроды... Вось стаіць на рагу аднэй з цэнтральных вуліц „падарожны" прадавец кветак. На чорным плёкаце накрэмзана вельмі сур'ёзна і пераканальна: „Сэзонны распродаж", „Распродаж руж". „Купляйце. Танна. Сапраўдная ружа. Штука 5 пфэнігаў".

Купляюць, сьпяшаюцца каб купіць; не таргуюцца—дзе там. Так мала асталося—усяго некалькі штук ды так-жа танна. Вось ужо і нічога

няма—ружы ўсе раскуплены. Нездаволеныя твары асоб, што асталіся бяз кветак. Прадавец чакае. Зьбіраецца досыць добрая група жадаючых. Ён абмяркоўвае становішча. Ён можа яшчэ дастаць, але гэта ўжо рэдкае выключэньне, дык таму новыя ружы будуць каштаваць па 10 пфэнігаў—як панове хочуць—яму усё роўна. Але публіка патрабуе. Дзяўчынка зьбегала ў суседні дом, прынесла некалькі дзесяткаў руж і тыя чуць ня з бою расхопваюцца. Нічога ня зробіш.

Лета таксама мае свой канец. Ружы хутка вянуць. Ападаюць пялёсткі. Трэба сьпяшацца. Цана падымецца... Ausverkauf...

Летняя ноч таксама распрадаецца. Спэцыфічна, няпрыстойна, брудна. Яна кароткая, дык таму трэба сьпяшацца. Рэстораны, дансынгі, бары, Фрыдрыхштрасэ, Лейпцыгер штрасэ, Курфюрстэндам, Унтэр дэн Ліндэн, Егерштрасэ... Ды многа, многа іншых штрасэ...

Усё распрадаецца: пяшчоты, пакоі на пракат, жанчыны таксама на пракат—гуртам і ў раздроб. Ідзе спаборніцтва. Хто таней. Хто даражэй. Хто хутчэй залучыць кліента. Таксама „сэзонны распродаж". І ўсё пад знакам таго-ж лёзунгу: „Купляйце. Танна. Распродаж".

Чалавечая годнасьць таксама распрадаецца.

Гандаль, як вядома, заўсёды зьвязаны з рэклямай. Рэкляма абпальвае, яна пераконвае, фасцынуе. Рэкляма ўсё можа. Яна нячулая і вечна маладая. Яна нема кіруе нязьлічонымі масамі. Яна д'ябальскі вынаходлівая. Асабліва-ж у справе Ausverkauf'a.

— Толькі раз, непаўторнае, панове! васпані. Спынецеся на хвіліну!!!

І вы мусіце спыніцца, поглядам (корпусам ужо немагчыма) прабіцца праз натоўп ды стараецеся зразумець сэнс яе ажыятажу. Спачатку вы нічога не разьбіраеце. Паступова пачынаеце разумець дзеяньне. Перад вамі вялікае выставачнае акно. Завешана чорным аксамітным экранам. На ім невялікія круглыя проразі. У іх выстаўлены галовы драўляных манэкенаў, шыі якіх абвязаны стракатымі шалікамі ды хусткамі модэрн!..

...Танна! Купляйце! Шоўк спадае ў цане толькі сёньня. Сьпяшайцеся! Другі паверх да вашых пасуг!..

Толькі. Але-ж гэта сумна і няўжо нельга было надумаць больш арыгінальны спосаб прывабленьня пакупніка? Ці варта спыняцца і траціць час?

Не клапацецеся—нямецкі прадпрыемца не дарма плаціць добрыя грошы галоўнаму дэкоратару. Толькі хоць чуць пацярпеце. Ня так імпэтна,—супакойцеся. І не пасьпелі вы прадумаць вашай думкі да канца, як перад вашымі вачыма зьяўляецца сапраўды дзіўны малюнак...

У вакне бліснуў жывы струмень. Затаіўшы дыханьне, натоўп наглядае за лёгкімі хістаньнямі чорнай заслоны, у якой замест бяссэнсных галовак фігур з дрэва, зьяўляюцца жывыя вясёлыя тварыкі ды ветліва сьмяюцца беласьнежнымі зубкамі. Сэнсацыя мае посьпех. Абываталь зьдзіўлены. Ён хвалюецца. Дзіўная ідэя. Посьпех гандлёвага дому забясьпечаны.

Але абываталь ня цікавіцца зьместам гэтага акту з дзеннага рэўю. Якая яму справа да таго, што ўласьніцы гэтых вясёлых з прымусу на траурным фоне галовак—бедныя беспрацоўныя дзяўчынкі, якія згадзіліся за мізэрную плату з мэтай прыбавіць пакупніка стаяць цэлыя гадзіны ў самай нязручнай постаці. Якая справа гэтаму спрытнаму прадпрыемцу да таго, што гэтыя дзяўчаты, калі яны заўтра апынуцца бяз працы, пойдуць на вуліцу і з такой самай вясёласьцю будуць прапанаваць сваё цела кожнаму першаму... Якая справа самазадаволенаму буржуа да таго, што гэтыя дзяўчаты ўжо ацэнены і пяшчоты іх пераведзены на маркі групай юнакоў, што прайшлі міма вакна.

Ці-ж варта аб такім глупстве думаць, калі ўсё жыцьцё ўкладаецца ў рамкі распродажу? Тэмп жыцьця неймаверна шпарка разьвіваецца, патрабуюцца ўсё новыя настроі ды ўражаньні.

Буржуазны Бэрлін няпрыкметна для сябе ў дні Ausverkauf'у вельмі яскрава выкрывае соцыяльную сутнасьць адносін у „дэмократычнай“ краіне.

* * *

Распрадаецца і парлямант. У „дэмократычнай“ кухні ўрад „вялікай коаліцыі“ на чале з соцыял-дэмократамі распрадае інтарэсы і дабро большасьці насяленьня Нямеччыны, таргуючыся на кожным сур'ёзным пытаньні грамадзкага жыцьця краіны з буржуазіяй, якой па вельмі выгоднай цане прадаецца вельмі недабраякасны ідэёвы тавар.

Але ня толькі ідэя парлямантарызму распрадаецца. Распрадаецца і сам парлямант.

Зьява вельмі рэдкая ў парляманцкай практыцы, і ў констытуцыі на гэты конт няма жадных паказаньняў. Але сучасны тэмп жыцьця выбівае з сядла ўсё большую колькасьць традыцый „добрага, старага“ часу на'т у буржуазных дзяржавах.

Парлямант распрадаецца цынічна, фізычна. Газэты ліпеньскай раніцы прынесьлі нямецкаму абываталю вестку аб тым, што шэраг памяшканьняў рэйхстагу на летні перапынак аддаецца ў арэнду як прыватным асобам, так і організацыям. У тэй-жа абвестцы зазначаюцца магчымасьці і выгоды для арандатараў, якія згадзіліся-б прыняць такую выгодную ды вабную прапанову кіраўніцтва справамі рэйхстагу.

А прапанова, сапраўды, вельмі выгодная. Можна адкрыць яшчэ адно кабарэ, пабольшыць тэрыторыю для фокструючай публікі, можна організаваць яшчэ адзін габінэт па догляду скуры і харашства. Чаму-ж, сапраўды, ня ўцісьнуць у адно з шматлікіх памяшканьняў гэтага дому народных прадстаўнікоў які-небудзь начны бар з інтымным дывэртысмэнтам? А заля спатканьняў! Дзе вы знойдзеце яшчэ больш выгоднае месца ў сэнсе забясьпекі з боку паліцыі, моралі? Гэта вельмі сымптоматычна.

І ў выабражэньні зьдзіўленага чытача ўжо паўстае малюнак вясёлага парляманту, які пачаў жыць новым зьместам.

У свой час Мэрынг пісаў наконт 30-цігодзьдзя нямецкага парляманту, што сьпелы век гэтай вельмі паважанай установы не апраўдаў ускладзеных на яе надзей,—ён, галоўным чынам, вырас ды выхаваўся на прамовах, якімі ён хацеў прыкрыць голасьць свае слабасьці. Гэта было 27 гадоў таму назад. Цяпер гэтая солідная ўстанова значна пастарэла. Ёй ужо каля 58 год. Пэрыод „буры ды імпэту" заступіў пажылы век. Аслабеў дзядок, падтрымлівае свае існаваньне пэрыодычным амаладжэньнем. Аднак, гэта не памагае, і паступовы распад організму прогрэсуе. Не памагло і апошняе мерапрыемства—прышчапленьне дозы „вялікай коаліцыі". Вынік аказаўся вельмі сумным—апроч броняносца „А" нічога прыдумаць не маглі. Хоць у сэзон распродажу і гэтае рызьзё можа прыгадзіцца. Толькі распрадаць яго разам з яго творцамі прыдзецца ўжо другой грамадзкай сіле і ў другіх гістарычных абставінах.

А пакуль... пакуль парлямант, які ва ўнісон фокстротуе з буржуазіяй, што раскладаецца, распрадаецца ды зьняжыўляе сваю парахністую плоць.

*Працяг будзе.*

# ТРЭЦЯЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАУКА

**Ів. Цьвікевіч**

4-га студзеня г. г. ў Менску адчынілася 3-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка. Як паведамляў выставачны камітэт у сваёй прадмове да каталёгу выстаўкі, яна мусіла паказаць усе дасягненьні беларускага савецкага выяўленчага мастацтва к моманту 10-годзьдзя БССР, а таксама адзначыць гэту юбілейную дату сваім рэволюцыйным і соцыяльным зьместам. У тэй-жа прадмове камітэт піша, што ён для гэтай мэты *загадзя* (мы знарок падкрэсьліваем гэта слова) вызначыў для мастакоў пэўны лік спэцыяльных тэм. Тэмы былі вызначаны наступныя:

1. Падпісаньне маніфэсту (гістарычная тэма).
2. Чытаньне маніфэсту (у вёсцы, мястэчку, горадзе і г. д.).
3. „Ад веку мы спалі“.
4. Окупацыя БССР.
5. Партызаншчына.
6. Будаўніцтва БССР.

У паведамленьні аб выстаўцы абвяшчалася, што выстаўка адчыняецца 30-га сьнежня 1928 году, прычым экспонаты павінны быць прысланы не пазьней 15-га сьнежня. Самае-ж паведамленьне было разаслана 30-га лістапада, г. зн. роўна за месяц да адчыненьня выстаўкі. Калі ўлічыць, што мастакі атрымалі паведамленьне цераз 3—4 дні, то для работы ў іх засталося часу менш як два тыдні.

Два тыдні—гэта такі малы, такі ўрэзаны тэрмін для складанай мастацкай працы, што трэба сапраўды дзівіцца, як беларускія мастакі здолелі даць гэтак параўнаўча многа малюнкаў на вызначаныя тэмы. На жаль, колькасьць не адпавядае, у большасьці выпадкаў, якасьці. Сьпешка, выкліканая спозьненым абвяшчэньнем тэм, нязвычайна пашкодзіла выстаўцы і яна, у частцы, прысьвечанай тэмам, вышла пакалечанай.

Другой організацыйнай хібай камітэту было тое, што ён „адмовіўся ў гэты раз ад *усялякага* (курсыў наш. *І. Ц.*) адбору і папярэдняй ацэнкі экспонатаў“. Камітэт адважна піша, што ён „выстаўляў *усё тое, што было яму надаслана*“. Хаця камітэт запэўняе ўсіх, нібы гэта „не паслабляе яе (выстаўкі) якасьці“, але кожны, хто аглядаў выстаўку, пераканаўся на ўласныя вочы, як лепшыя творы беларускіх мастакоў тапіліся ў безьлічы прымітываў, а часам і зусім антымастацкіх экспонатаў.

Шэсьцьсот восемдзесят экспонатаў з удзелам дзевяцьдзесят аднаго мастака! Па лічбах—гэта грандыёзная выстаўка, нячуваны росквіт выяўленчага мастацтва. А на павер—усяго толькі яскравая ілюстрацыя грубай памылкі выставачнага камітэту, які, бы знарок, кіраваўся прынцыпам: „числом поболее, ценою подешевле“. Ня дзіва, што ў кніжцы для водзываў гледачоў ёсьць адна гэткая лаконічная ацэнка: „шмат усякай брыдоты“. У такой адказнай справе, як організацыя ўсебеларускай мастацкай выстаўкі, камітэт дапусьціў зусім непатрэбны, нічым неапраўданы шкодны неабмежаваны дэмократызм. Кіраўнікі выстаўкі трапілі ў лапы стыхіі, і яна пакамечыла, сапсавала іх мэты і жаданьні. Нямаведама, як камітэт, але гледачы нямала пакутвалі ад ажыцьцяўленьня прынцыпаў „ультра-дэмократызму“ організатараў выстаўкі. Бо глядач ідзе на выстаўку мастацтва пацешыць сваё вока аглядам сапраўды мастацкіх, прыгожыў рэчаў, ён хоча адчуць хараство жыцьця, разьвіць і ўдасканаліць свой мастацкі густ, на ўзорах пекнаты хоча захапіцца радасьцю і бадзёрасьцю новых ідэй, якія ў прыгожых вобразах даюць майстры пэндзля. А са сьцен выстаўкі на яго часам паглядаюць танныя і нікчэмныя олеографіі, якія ён часта бачыць на рынку ў цырульнях, у піўнушках. Побач з высока-мастацкім, рэволюцыйнага, пролетарскага зьместу, малюнкам ён бачыць вялікае палатно тэхнічна малапісьменнае і ідэолёгічна агіднае. Ад немагчыма вялікай колькасьці эскізаў у гледача застаецца пачуцьцё незадаволенасьці, неспакою.

Тлумачэньні для экскурсій даваліся надта павярхоўныя, прымітыўныя. Трэ' было больш навукова і крытычна організаваць гэту справу.

Пару слоў аб „мастацкім“ афармленьні каталёгу выстаўкі, які да пэўнай ступені ёсьць частка яе твару.

На вокладцы намалёвана вялізная постаць чалавека (мастака?), які трымае пад пахай нешта вялікае квадратнай формы (малюнак?) і стрымгалоў некуды сьпяшаецца або ад нечага ўцякае. Выраз твару ў яго спалоханы, зморaны, хворы. Ззаду гэтай постаці надпіс—„3-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка“. Мабыць, мастак, які рабіў гэту вокладку, хацеў пажартаваць з выстаўкі і даў удалы сымболічны вобраз, але, як-бы там ні было, вокладка сапсавала выставачны каталёг.

* * *

Вялікай заслугай выставачнага камітэту зьяўляецца тое, што ён паклапаціўся аб зьмесьце выстаўкі. Вызначаныя ім тэмы і атрыманыя на іх экспонаты надалі ўсёй выстаўцы сучасны зьмест, рэволюцыйны і соцыяльны характар. Гэта не паказ малюнкаў і скульптуры наогул, а паказ прац беларускіх мастакоў паводле пэўнага пляну.

Калі мы лічым выстаўку выяўленчага мастацтва культурным зьявішчам, якое пакідае ў жыцьці грамадзтва пэўны культурны сьлед, выклікае пэўныя думкі, ідэі, настроі, калі яна ёсьць зьявішча, якое дапамагае культурнай рэволюцыі мас,—мы мусім даць ёй пэўны ідэолёгічны

кірунак, мусім паклапаціцца аб яе зьмесьце, каб яна мела наш, савецкі твар, мела клясавы, пролетарскі характар. Нам вельмі важна выявіць, ці ідзе беларускае мастацтва крок у крок з нашым політычным, грамадзкім і культурным жыцьцём, ці яно адстае, жывучы старой ідэолёгіяй, ня зьліваючыся з новым бытам працоўных, не адлюстроўваючы гэты быт і не пранікаючы ў яго? Нам трэба ведаць, ці зьяўляецца нашае выяўленчае мастацтва сучасным пролетарскім, клясавым мастацтвам, ці адбівае яно рэволюцыйныя, комуністычныя ідэалы, ці можа яно сваім зьместам актыўна ўплываць на рабочыя масы ў сэнсе організацыі іх псыхікі для ломкі старога сьветапогляду, для змаганьня са старым бытам, для падтрыманьня волі к соцыялістычнаму будаўніцтву? Нам трэба, урэшце, ведаць, ці зьяўляецца нашае мастацтва *актыўным* памочнікам у нашай агульнай напружнай працы, ці кліча яно наперад, захапляючы гледача патосам барацьбы, былых і будучых перамог рабочае клясы, ці яно абмяжоўваецца толькі тым, што *пасыўна* адлюстроўвае ўмовы і этапы гэтай працы і барацьбы, прычым дае толькі ідэалізаваныя вобразы, пакідае ў ценю адмоўныя бакі, не аналізуючы, не крытыкуючы?

Разгледзім экспонаты выстаўкі ў аспэкце пастаўленых намі пытаньняў, адзначаючы побач і формальна-мастацкі бок гэтых экспонатаў.

На першую тэму, вызначаную Галоўмастацтвам,—„Падпісаньне маніфэсту“ на выстаўцы ёсьць толькі адзін малюнак мастака Яна Ахрэмчыка. Тав. Ахрэмчык—член маскоўскай філіі Ўсебеларускай асоцыяцыі мастакоў, канчае ў гэтым годзе „Вхутэмас“. На трэцюю выстаўку ён даў дзевяць алейных малюнкаў. Усе яны—студыйныя практыкаваньні. На ўсіх ляжыць пячатка шуканьняў мастака свайго жанру, шуканьне колёрытнай гамы, у якой ён хацеў-бы даваць афармленьне сваім будучым творам. З портрэтаў найбольш удалым трэба лічыць „Дзяўчынку“ (у чырвоным), з краявідаў—„Хваёвы бор“ у сонечны дзень. У апошнім, як і ў малюнку „Хлеў“, мастак дае прыемную жывую ігру сонечных плям і праменьняў.

Вялікая композыцыя мастака Ахрэмчыка—„Падпісаньне маніфэсту“ зусім не ўдалася яму. Мабыць, з-за сьпешкі т. Ахрэмчык ня вывеў працы са стадыі эскізу і ў такім выглядзе даў на выстаўку. Найбольш увагі мастак аддаў таму, каб перадаць падабенства дзеючых асоб з іх орыгіналамі, але твары вышлі з адбіткам фотографічнай „мярцьвечынкі“. Позы дзеючых асоб маланатуральныя і статычныя. Стан цела пэрсонажаў мастак штучна дапасаваў да стану іх твару. Рысунак навыразны, скамечаны, законы сьвятлаценю ня вытрыманы.

Куды горай справа з распрацоўкай сужэту гэтай гістарычнай тэмы. Тав. Ахрэмчык цікавіўся больш знадворнымі драбніцамі, абставінамі, пры якіх адбывалася падпісаньне маніфэсту першым урадам БССР. Справа ня ў тым, каб фотографічна зафіксаваць абсталяваньне пакою, дзе адбылося падпісаньне, каб дакладна так, а ня інакш паставіць стол, крэслы, лямпу, дзеючых асоб, як гэта сапраўды было ў той момант. Нават ня

ў тым, каб композыцыйна прыгожа расставіць дзеючых асоб. Тут трэба было глыбака разгарнуць псыхолёгічны зьмест сужэту, паказаць гледачу веліч і сэнс гэтага гістарычнага моманту. Аўтар зусім на паклапаціўся аб тым, каб паказаць характары дзеючых асоб, паказаць перажываньні гэтых людзей, якія хваляваліся і палалі жаданьнем дапамагчы рабочым і сялянскім масам Беларусі вызваліцца ад панскага ўціску. Аўтар ня здолеў надаць малюнку так патрэбнай псыхолёгічнай насычанасьці, дынамікі і рэволюцыйнай урачыстасьці. Усё тут статычна, вяла, няцікава.

Аб чым сьведчыць усё гэта? Ды аб тым, што аўтар вялікага палатна „Падпісаньне маніфэстў" ня здужаў гістарычнай тэмы, не ахапіў глыбіні яе зьместу. Для апанаваньня такой тэмай трэба шмат папрацаваць. Пасядзець над вывучэньнем гісторыі, азнаёміцца асабіста з першатворамі гістарычных дакумантаў таго часу, з біографіяй і дзейнасьцю гістарычных асоб, з палітычнай сытуацыяй таго моманту, пабачыць усіх удзельнікаў асабіста, схапіць псыхолёгічную характарыстыку кожнага з іх, ад іх-жа пачуць успаміны аб тым моманце і г. д. Трэба так углыбіцца ў тыя часы, каб яшчэ раз самому *перажыць* тое, што было. Бяз сумленнай культурнай папярэдняй падрыхтоўкі нельга брацца за вялікае гістарычнае палатно. Мастак на час працы над гэтай тэмай мусіць быць адначасна і мастаком, і палітыкам, і грамадзянінам, і гісторыкам. Голая тэхніка тут ні ў якім разе ня выратуе. Ня выратавала яна і тав. Ахрэмчыка.

Які вывад просіцца сам сабой? Беларускае малярства шукае новай рэволюцыйнай героікі, але яму не хапае палітычнай культуры, не хапае пачуцьця гістарычнай пэрспэктывы. Паасобныя мастакі, праўда, вырасьлі ўжо з палітычнай і гістарычнай няпісьменнасьці, але агульная маса мастакоў бязумоўна мала працуе ў гэтай галіне.

Для пацьверджаньня нашае думкі разгледзім наступныя тры экспонаты: „Чытаньне маніфэсту ў вёсцы" мастака Гальмаджэана Тодара (менскае мастацкае аб'яднаньне „Прамень"), „Ад веку мы спалі" мастака Віэра Габрыэля (менская філія Ўсебеларускай асоцыяцыі мастакоў) і „Ад веку мы спалі" мастака Філіповіча Міхайлы (маскоўская філія ЎАМ).

Гольмаджэан напісаў вялікае палатно на тэму „Чытаньне маніфэсту". Па-першае, трэба дзівіцца, як гэта мастак, які атрымаў мастацкую асьвету ў Будапэшце і Мюнхэне, быў у замежных камандыроўках ў Італіі ды Эгіпце, адважыўся паказаць беларускаму грамадзтву гэткую ва ўсіх сэнсах няпісьменную рэч. Хіба аўтар спадзяваўся, што ў нас самы танны „лубок" пойдзе, як вялікае мастацкае дасягненьне?

Намаляваць вялікую колькасьць някывых штампаваных фігурак у вясковых вопратках, паставіць сярод іх трыбуну з някывымі людзьмі— гэта ніякім чынам не абазначае памастацку вырашыць вялікую гістарычна-бытавую тэму. Усе дзеючыя асобы да таго штучны, уся гэта масавая сцэна да чаго замарожана, што проста брыдка глядзець. Ні кроплі дынамікі, ні кроплі псыхолёгіі, ні іскры мастацкага натхненьня. Якраз так, як на шыльдах над менскімі крамамі.

Гістарычная і бытавая няпраўда прэ на гледача з кожнага кутку гэтага малюнку. Ну, дзе Гальмаджэан бачыў на вёсцы ў 1919 г. спэцыяльна пабудаваную трыбуну для прамоўцаў? Няпраўда і тое, што ў тыя часы разам з мужчынамі-прамоўцамі на „трыбуну“ ўсходзілі вясковыя жанчыны. Гэтую бабу Гальмаджэан паставіў для ансамблю, скажаючы гістарычную праўду да сьмешнага. І яшчэ: селянін, які чытае маніфэст, скінуў шапку і стаіць з голай галавой. Гэта непраўдападобна. Аўтар ня ведае нашай вёскі, і, відаць, пальцам не зварухнуў, каб вывучыць той час, які ён малюе. Вопратка ў сялян выглядае так, нібы гэтых людзей апранулі для ўдзелу ў мастацкай этнографічнай вечарыне. У большасьці беларускіх сялян даўгія, гарбатыя вэнгерскія насы. Гэта-ж сьмеху варта—дый годзе!

Побач з малюнкам Гальмаджэан паставіў сваю скульптуру—„Ад веку мы спалі“. На гэты экспонат проста сорам глядзець—да таго ён нікчэмны. Фігуркі з гліны—ня людзі, а брыдкія калекі. Дзіцячае, наіўнае разуменьне слоў—„мы дружна паўстанем з касамі, сярпамі“: мужчыны ідуць з касамі, а бабы—адна высака трымае ў руцэ серп, другая—апалонік (?!), якім бабы на рэчцы б‘юць бялізну.

Паўстанцы ідуць ў бойку з апалонікамі і сярпамі... Трэба-ж было дадумацца да такога глупства, да такой нікчэмнасьці! Скульптуру Гальмаджэана можна палічыць за пасквіль на словы беларускага гімну. Мала таго, аўтар, каб вырataваць гэты бяздарны твор, пасыпаў яго рознакаляровымі парашкамі: танны эфэкт анікаліва не павысіў мастацкай вартасьці экспонату.

Словы беларускага гімну, якія гавораць аб абуджэньні вякамі прыгнятаных беларускіх рабочых і сялян, аб рэволюцыйным уздыме беларускіх працоўных мас („мы дружна паўстанем... прагонім з зямлі палачоў“), беларускія мастакі адчулі няглыбака. У малюнках на гэту тэму хочацца бачыць вялізарны псыхолёгічны масавы ўздым, рэволюцыйную нястрыманую дынаміку, тысячагалосы гоман і крыкі, трубныя гукі, якія клічуць да бойкі, грымяць аб хуткай перамозе. Хочацца пачуць радасны бразг разарваных ланцугоў, убачыць мора паветра, сьвятла, бунт чырвоных плям...

> Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
> Грамады працоўных людзей!..

Мастак Віэр так афармляе гэту тэму. У сялянскай хаце, каля адчыненага акна, сядзіць стары селянін. Ён глыбака задумаўся, у руцэ, што бясьсільна апусьцілася,—кніга Крапівы „Біблія“. Каля вакна стаіць жонка і са зьдзіўленьнем глядзіць на мужа: „Што гэта здарылася са старым?“ Праз вакно відаць, як па вясковай вуліцы ідзе маніфэстацыя з чырвонымі сьцягамі. Селянін з болем у вачох разважае: „Прышла воля, новае жыцьцё, а я ўжо канчаю свой век... Пражыў столькі год і ня бачыў шчасьлівай хвіліны“.

Псыхолёгічна сюжэт распрацаваны непраўдзіва. Цяжка паверыць, каб селянін у той момант, калі на вуліцы ідзе маніфэстацыя, сядзеў нярухома і пафілёзофску разважаў. Псыхіка ў сялян больш непасрэдная, чым уяўляе сабе мастак Віэр. Яны літаральна пхаюцца ў вокны, калі на вуліцы адбываецца што-колечы нязвычайнае. Гэта па-першае. А па-другое—як разумее і тлумачыць мастак рэволюцыйны момант у жыцьці вёскі? Прышла рэволюцыя, абудзілася і паўстала стагодзьдзямі „спаўшая“ вёска, вакол кіпіць жыцьцё, а Віэр дае цэнтральную фігуру селяніна, які займаецца сумнымі разважаньнямі, вочы яго хмурна глядзяць у мінуўшчыну. Што гэта, як ня кволае, пасыўнае інтэлігенцкае разуменьне рэволюцыйных падзей і гэткае-ж пасыўнае, упадніцкае выяўленьне яго ў мастацкім вобразе.

Беларуская вёска радасна сустракала рэволюцыю, яе бядняцкае і серадняцкае частка гарэла адным агнём, аднымі настроямі і жаданьнямі разам з пролетарамі гораду. Ня верым мы Віэру і яго малюнку.

Апошняе: кніжка Крапівы „Біблія“ ў руках селяніна—гэта танная бутафорыя і грубы анахронізм.

З формальна-мастацкага боку гэта праца і іншыя не падаюць аніякіх надзей: творчасьць Віэра тупае на адным месцы. А малюнак „Партызаны“—проста вучнёўскі прымітыў. Усё тут штучна: і конь, які нагадвае конікаў з цацачнай крамы, і людзі, іх гэсты. Як ня сорам было мастаку Віэру выстаўляць на суд грамадзкасьці такі экспонат?

Мастак Філіповіч на тэму „Ад веку мы спалі“ даў вялікі алейны малюнак. Сюжэт малюнку: паўстаўшыя сяляне з віламі ў руках рынуліся ў бойку. Своеадменнасьць композыцыі заключаецца ў тым, што натоўп узброеных сялян імчыцца проста на гледача. Трэба шчыра сказаць, што Філіповіч на гэты раз даў зусім слабую рэч. Востры псыхолёгічны момант паданы нясур'ёзна, і калі глядзіш на палатно Філіповіча, дык здаецца, што гэтыя людзі не на сьмерць ідуць, а „лявоніху“ скачуць. Таксама нясур'ёзна, што аўтар літаральна „пагальмаджэанаўску“ разумее словы „з касамі, сярпамі“, і малюе паўстаўшых сялянак з сярпамі ў руках. У гэтым творы Філіповіч, якога можна лічыць адным з лепшых колёрыстых сярод беларускіх мастакоў, з формальна-мастацкага боку выявіў сябе слаба: абмежаваўся пажарышчна-злавесным фонам, і толькі. І як заўсёды ў Філіповіча—няма выразнага рысунку. Гэта хіба псуе ўсе творы Філіповіча, а ён неяк упарта ня хоча навучыцца рысаваць, як быццам для маляра гэта непатрэбная раскоша.

Усе творы Філіповіча кажуць аб тым, што ён шмат працуе і расьце. Асабліва цікава і шмат абяцаюць яго шуканьні колёрытных плям. Зірнеце на яго „Бабы на кірмашы“,—гэта сапраўды каштоўны эскіз па сьвежасьці і сьмеласьці каляровых мазкоў. Ён вабіць і цешыць вока.

Аналізуючы малюнак Філіповіча ў сэнсе падыходу аўтара да зьместу сваёй тэмы, мы і тут таксама павінны, на жаль, адзначыць няхват тае высокае ўсебаковае культурнасьці, якой вымагае ад мастака наша сучас-

насьць. Сваімі творамі мастак павінен раскрыць нам вочы на тое, чаго мы, звычайныя людзі, часта ня бачым. Сваімі мастацкімі вобразамі ён мусіць паглыбляць і пашыраць зьмест рэволюцыйных і гістарычных падзей. І калі мастак па свайму політычна-грамадзкаму і культурнаму ўзроўню ня ідзе ў першых шэрагах нашага грамадзтва, ён тым самым прымушаны вырашаць свае мастацкія заданьні залішне проста, прымітыўна. Глядач ня можа захапляцца ідэяй мастака, калі яе мастацкае афармленьне ня зьдзіўляе, не хвалюе, не выклікае новых думак, ня турбуе розуму і пачуцьцяў.

Што новага дадаў Філіповіч да разуменьня слоў „Ад веку мы спалі“? Анічога. Можна намаляваць сотні падобных ілюстрацый да слоў беларускага гімну, але яны ня ўліюць ані кроплі гарачай крыві, не ажывяць ніводнай часткі цела гэтых рэволюцыйных слоў. Звычайнае чытаньне іх выклікае больш мастацкіх вобразаў і больш захапляе, чым вялікае палатно Філіповіча.

Так, напрыклад, можна мірыцца са слабай тэхнічнай апрацоўкай малюнка вучня Віцебскага мастацкага тэхнікуму Натарэвіча на тую-ж тэму. Панно Натарэвіча — гэта прыгожа скомпанованая рэч. Мерным цьвёрдым крокам праходзяць прад вачыма гледача шэрагі рабочых, сялян, работніц і сялянак... Упэўнена плячо ў плячо ідуць людзі да лепшае будучыні. Тут ёсьць рытм і монумэнтальнасьць. Гэта композыцыя так і просіцца для барэльефу на фронтон будынку грамадзкага характару, як дом селяніна, дом працы і да г. пад. З тэхнічнага боку, паўтараем, малюнак слабаваты, але думка і афармленьне яе пры большых сродках і большай умеласьці могуць даць *каштоўны* твор.

У самым пачатку артыкулу мы ставілі пытаньне аб тым, ці мае здольнасьць наша мастацтва актыўна ўплываць на псыхолёгію ды ідэолёгію працоўных у сэнсе організацыі і стварэньня ў мас клясавага разуменьня рачаіснасьці, у сэнсе дапамогі масам дыялектычна ўсьведамляць гістарычныя падзеі. Сучаснае мастацтва павінна ня толькі фіксаваць і адлюстроўваць наша жыцьцё або рэволюцыйныя падзеі (у мінулым, сучасным), яно павінна перажыць, „пэратравіць“ матэрыял, сынтэзаваць паасобныя яго часткі, каб даць нешта суцэльнае, выкрышталізаванае, ідэолёгічна вытрыманае, каб яно сапраўды служыла політычнаму і грамадзкаму выхаваньню нашага пролетарыяту ў духу соцыялізму і комунізму. Усё гэта ў першую чаргу датычыць мастацкіх твораў, якія пішуцца на грамадзкія і гістарычна-рэволюцыйныя тэмы.

„Окупацыя БССР“. Здавалася-б, вось тэма, дзе выяўленчае мастацтва можа разгарнуць шырокія палотны, даць сынтэтычныя, яскравыя, поўныя глыбокага політычнага зьместу вобразы. Даць не паасобныя эпізоды, а выявіць клясавую істоту гэтата гістарычнага зьявішча, паказаць масам клясавы твар кайзэраўскай і белапольскай окупацыі. Аднак-жа беларускія мастакі нават не зацікавіліся гэтай тэмай. Далей эскізаў і, да таго, вялых эскізаў яны не пашлі.

Больш-менш закончаным трэба лічыць малюнак Гардона (вучань Віцебскага мастацкага тэхнікуму)—„Адыход палякаў з Менску“. Праца Гардона ёсьць узор пасыўнага вырашэньня рэволюцыйнае тэмы. Маленькі, зусім не характарны эпізод. Па нейкім завулку едзе на конях некалькі зморaных, хворых і параненых польскіх жаўнераў. Трактоўка сужэту можа выклікаць спачуваньне окупантам, бо яна ня крытычна, не актыўна падае тэму, а падсалоджвае, ідэалізуе жахлівы час і крывавыя ўспаміны. Рабочыя і сяляне БССР дасканала ведаюць і помняць зьвярыны твар белапольскай окупацыі. Гэта быў час крывавых пакут, гвалту і зьдзеку, час сьмяртэльнага змаганьня процоўных БССР за сваё вызваленьне. Спаленыя гарады і вёскі, жудасныя руіны, тысячы катаваных і расстрэленых сялян і рабочых...

Тэму „Партызаншчына“ найбольш удала вырашылі мастакі Эндэ і Бурдзікоўскі. На наш погляд, працы гэтых мастакоў—ёсьць лепшыя экспонаты выстаўкі на тэмы, вызначаныя Галоўмастацтвам.



М. Эндэ. „Партызаны“. Алей.

Мастак Эндэ даў вялікі алейны малюнак пад назваю „Бацьку забілі!“ Зіма. На ўзьлесак высыпала група партызан. На пярэднім пляне тры фігуры—тры браты. Усе яны на кароткі момант спыніліся на месцы ад крыку самага меншага брата, хлапчука гадоў 12-ці. Ён, шырока раскрыўшы вочы, з болем і жахам на твары крычыць: „Бацьку забілі!“ і паказвае рукой туды, дзе ўбачыў сьмерць роднага бацькі. Але старэйшыя браты—паўстанцы іначай, кожны пасвойму, стрэлі сьмерць бацькі-паўстанца. Першы, які, мабыць, нядаўна вярнуўся з фронту, толькі вачыма паказвае, як балюча запякло ў грудзёх. Але ў яго вачох няма

таго жаху, якім напоўнены вочы хлопчыка,—у іх ужо палае нянавісьць. Твар цьвёрды, вусны сьціснуты, рукі, што трымаюць стрэльбу, ня дрыжаць, дужыя ногі ўпэўнена стаяць, на хвілю стрымаўшы сталёвы крок. Другі старэйшы брат—гэта партызан з фабрычных рабочых. Худы, закурэлы ад фабрычнага дыму, твар, на якім няма і знаку здаровага румянцу, што грае на шчоках брата-вяскоўца. З-пад рабочай кепкі відаць акрываўленая павязка:—ён ужо паранены ў галаву. З цьвёрдым спакоем глядзіць ён у той бок, дзе выходзіць крывёй родны бацька. Халодныя вочы яго нібы кажуць: „без ахвяр ня будзе перамогі"... і констатуюць, што адным партызанам зрабілася менш. Моцна браты сьціскаюць стрэльбы ў руках, цьвёрда ўпёрліся дужымі нагамі ў зямлю, да сьмерці наважылі змагацца...

А зірнеце на гэтага сівога селяніна-паўстанца, які, бы нацэліўшыся, пільна глядзіць у той бок, куды паказвае хлопчык. Сівыя бровы туга зышліся і навісьлі над калючымі вачыма. На твары яго—вякамі згушчаная нядоля і даведзеная да кіпеньня злаба, рашучасьць змагацца, хоць сьмерць цікуе на кожным кроку: „усё роўна за гэтымі панамі лепшай долі ня будзе"...

На заднім пляне мастак знарок паўтарыў постацыі і рухі пярэдніх фігур, знарок сымэтрычна разьмеркаваў дзеючых асоб, каб праз гэта надаць сужэту цьвёрдасьць і паказаць гледачу ўнутраную напружнасьць моманту.

Праца Эндэ больш дэкорацыйнага, чымся маляўнічага характару, але ад гэтага яна толькі выйграе. Шкада толькі, што аўтар паказаў нам партызанаў у такім „парадным" адзеньні: боты, кажухі, курткі, шапкі,—усё гэта зусім новенькае, чысьценькае, нібы вось людзі вышлі з унівэрсальнага магазыну. Гэта няпраўда няпрыемна коле ў вочы.

Мастак Воўкаў даў на тэму „Партызаны" такі сужэт: у зімовую ноч, у глухім бары, каля вогнішча згрудзілася жменька беларускіх сялянпаўстанцаў. Яны застыглі ў розных постацях і пільна слухаюць свайго маладога таварыша, які аднекуль прыбег і ўсхавалёвана перадае трывожныя весткі.

Хаця т. Воўкаў аддаў шмат ўвагі распрацоўцы сьветлавога эфэкту, аднак малюнак не захапляе гледача, не хвалюе яго. Композыцыйна добра пастаўленыя паўстанцы зусім не распрацаваны ў сэнсе іх характарыстыкі. Гэтыя людзі ня жывуць, а ставяцца ў позу. Сьнег т. Воўкава—не халодны, цёмны бор уначы—ня жудасны, вогнішча толькі асьвятляе, але не дае цяпла. У малюнку Воўкава, фігурна кажучы, няма крыві, няма тэмпэраманту аўтара. Мусім і тут адзначыць: адзеньне ў паўстанцаў залішне новае і ахайнае, а гэта аслабляе думку аб тым, што жыцьцё паўстанца ёсьць нясупыннае цяжкае змаганьне з голадам, холадам і больш дужым і організаваным ворагам.

Надта праўдзівы, жыцьцёвы малюнак даў мастак Бурдзікоўскі (вучань Віцебскага мастацк. тэхнікуму). Яго „Паўстанцы"—людзі адарваныя ад

цёплае хаты і гарачае стравы; яны схлупіліся на конях сярод сьцюдзёнага няўтульнага сьнежнага поля і жвава раюцца аб нечым, шукаюць выйсьця. Паўстанцы Бурдзікоўскага сапраўды мерзнуць, яны жывуць! Прыгледзішся да гэтай сьнегавой роўнядзі, шэрага зімовага неба, да захутаных па самую макаўку старых сялян, і мімаволі адчуваеш холад, няўтульнасьць і нягоды паўстанцкага жыцьця. Тут прырода, коні і людзі—усё поўна самага сапраўднага рэалізму.

Мастак Бразэр даў на гэту выстаўку вялікі алейны малюнак: „Расстрэл дукорскіх партызанаў". Усім, хто цікавіцца жыцьцём беларускага выяўленчага мастацтва, вядома, што Бразэр увесь час працуе, як графік, партрэтысты, разьбяр. Усе былі зьдзіўлены гэткім рэзкім і адважным крокам т. Бразэра. Выбар тэхнічных сродкаў і кірунку—асабістая справа мастака, але калі яны нічым не апраўданы, апроч адвагі, з творам мастака амаль заўсёды здараецца бяда. Здарылася яна і з творам Бразэра. Ен навочна сьведчыць аб непадрыхтаванасьці аўтара працаваць алейнымі фарбамі. Форма так і ўплывае з рук мастака, тымчасам, як у сваіх чарнільных партрэтах ён дае амаль скульптурную лепку. Бразэр у „Партызанах" ня здолеў выявіць сябе. Ён, мабыць, спадзяваўся, што тэндэнцыйнасьць выратуе твор, але забыўся на тое, што справа ня ў тым, каб толькі нарысаваць трагічны эпізод з часоў белапольскай окупацыі. Мастаку трэба глыбока зразумець, адчуць, „ператравіць" у глыбіні свайго ўнутранага мастацкага „я" ідэю і зьмест свайго твору. Толькі тады ён атрымае сваё вышэйшае мастацкае афармленьне, прычым тэхнічны спосаб выкананьня будзе дапамагаць, а не перашкаджаць творчасьці аўтара.

Бразэр даў малюнак у сырым, „неператраўленым" выглядзе. Адгэтуль усё: і гліняныя твары паўстанцаў, якім усё роўна, ці страляюць у іх настаўленыя на іх стрэльбы польскіх салдат, ці не, і тое, што ўсе паўстанцы з твару і з вопраткі падобны адзін да аднаго, як блізьнюкі, і нейкае „дзікае" неба, і характар асьвятленьня, што не адгадаць, калі адбываецца расстрэл—ні то ўвечары, ні то ўдосьвіткі.

Выразна адчуваецца, што аўтар схаваўся за ўдарнасьць тэмы, за рэволюцыйны зьмест.

На гэтым факце мы бачым, што мастакі часам перагінаюць палку ў справе барацьбы за ідэолёгічную якасьць мастацкіх твораў. Калі партыя, улада і ўся савецкая грамадзкасьць даюць лёзунг „мастацтва—масам", дык гэта абазначае, што ад мастака вымагаецца ня толькі падвышэньне ідэолёгічнай якасьці яго продукцыі, але разам з тым падвышэньне чыста мастацкае, тэхнічнае якасьці. Дарма думаюць некаторыя мастакі, што рэволюцыйны сужэт, „чырвоныя сьцягі", знадворная ідэолёгічная вытрыманасьць могуць падмяніць унутраны глыбокі зьмест, які непарыўна злучаны з высокай мастацкай формай. Форма і зьмест—гэта адно цела, і толькі дасканалая форма можа выявіць глыбокі зьмест. Нельга выявіць вобраз новае жанчыны, калі мы, падаючы яе вобраз,

абмяжуемся чырвонай хусткай, праставатым творам і портфэлем. Атрыбуты ня могуць замяніць унутранай грамадзкай характарыстыкі"[1]). Дарма т. Бразэр думаў, што даволі абы як намаляваць польскіх салдат, якія расстрэльваюць адзетых у рабочыя і сялянскія вопраткі людзей, каб выявіць увесь сэнс і зьмест дукорскае трагедыі.

З ліку нетэматычных прац трэба адзначыць алейныя малюнкі мастака Булычова (члена ленінградзкай філіі ЎМА): „Портрэт мэдычкі", „У Смольным", „На гарбарным заводзе", „Самавызначэньне Беларусі" (эскіз), „Аўтопортрэт". Не памыляючыся можна сказаць, што ў асобе т. Булычова расьце орыгінальная сьмелая мастацкая сіла. Адчуваецца, што гэта сіла яшчэ „дзікая", што ёй бракуе вытрымкі і таго, што расійцы называюць „усидчивость". Малюнак „Аўтопортрэт", якому, мабыць,



*А. Булычоў.* „Самавызначэньне Беларусі". Алей.

тав. Булычоў аддаў шмат цярплівасьці, упрост захапляе сваёй глыбінёй. Портрэт да таго насычаны ўнутраным зьместам, што ён гіпнотызуе гледача. Вялікі алейны малюнак „У Смольным" цікава задуманы, але аўтар спыніўся на палове дарогі: скончыў фігуру матроса (і як дасканала!), а далей усё скамечана і паплыло ў тумане. Тое самае і з „Самавызначэньнем Беларусі": цікавая композыцыя, востры, насычаны зьместам сужэт, але далей эскізу справа не пашла. Шкада! Застаецца адно пажадаць тав. Булычову—мацней узяцца за самадысцыпліну.

Мастак Кашталянскі і на гэты раз абмежаваўся тэмамі яўрэйскага мястэчка, таго мястэчка, якое ўжо адыходзіць у нябыт. Яго тыпы—людзі

[1]) З дакладу А. Острацова на дыспуце ў Комуністычнай Акадэміі—„Искусство в СССР и задачи художников". Москва. 1929 г.

„уходящего мира“. Цёмныя тоны, у якіх ён выраштае свае тэмы, якраз адпавядаюць яго тэматыцы. Тут усё цьмяна, глуха, на ўсіх ляжаць сумныя цені пакоры і безнадзейнасьці. „Алькоголік“ Кашталянскага— гэта сымболь дэгенэрацыі, тупасьці і завады. Блядыя цені дзяцей алькоголіка стаяць як жывы дакор бацькавай хваробе, як жудасная спадчына. У малюнку „Дзяўчынкі“ надоўга спыняе вока выраз твару і вачэй аднае з дзяўчынак. У гэтым вобразе мастак даў цікавае злучэньне „дарослага з дзіцячым“, якое мы часам бачым на тварах дзяцей, пазнаўшых шмат гора і голаду. Гэта ня твар дзяўчынкі, а сынтэз твару выміраючай местачковай яўрэйскай бедняты. У вачох гэтай дзесяцігадовай дзяўчынкі столькі пакуты, што на іх цяжка глядзець.

Аднастайнасьць тэматыкі Кашталянскага сыгналізуе аб нейкай стабілізацыі, аб немагчымасьці для аўтара адарвацца ад мінулага і зрушыць бліжэй да сучаснасьці. Местачковае яўрэйства ў БССР ужо выходзіць з крызісу, яно шукае і знаходзіць лепшае жыцьцё: ідзе працаваць на зямлю, у гарады, на заводы і фабрыкі, перасяляецца ў Біра-Біджан. Вось адкуль трэба браць тэмы. Гэта ўжо новы, савецкі быт яўрэйскіх працоўных, быт бадзёры, якому ўжо час даць мастацкае афармленьне. Мастакі нашы занадта ўжо многа спыняюцца на мотыве местачковага жабрацтва (Пэн, Аксэльрод, Горшман, Мрачкоўская).



*С. Каўроўскі.* „Тачыльнік“. Алей.

Гомельская філія У. Ас. Маст. дала на трэцюю выстаўку даволі многа экспанатаў, з якіх найбольш каштоўнымі мы лічым алейныя працы мастака Каўроўскага. Яго творы шмат кажуць аб упартай працы над тэхнікай: амаль кожны малюнак выкананы інакшым тэхнічным спосабам, чымся іншыя. Тое ж нясупыннае шуканьне колёрытнай гамы для сваіх твораў. У гэтым сэнсе надта цікавы малюнак „Рэволюцыя“: тут Каўроўскі даў такую багатую ігру колераў, што яе хочацца назваць „каляровым бунтам“. Фарбы рухаюцца, плывуць у паветры, ствараюць максымум імпэту і дынамікі, што нязвычайна ўдала злучаецца з

рухам людзей і чырвоных сьцягаў. Каўроўскі дасканала выявіў у фарбах ідэю нястрыманага ходу рэволюцыі. Малюнкі Каўроўскага „Тачыльнік“ і „Каля прычальля“ трэба аднесьці да ліку лепшых экспонатаў трэцяй выстаўкі.

Канчаючы разгляд тэматычных мастацкіх прац, асобна спынімся на разьбярскіх творах т. Грубэ. Ён выставіў тры экспонаты: „Паўстаўшы нявольнік“, „Галава чырвонаармейца“ і барэльеф „Будаўніцтва“. Усе яны з дрэва, выкананы старанна, з замілаваньнем, з натхненьнем. Творы разьбяра Грубэ сьведчаць ад нясупыннай, упартай і цяжкай працы аўтара над такім малаўдзячным разьбярскім матэрыялам, як дрэва. І вось мы бачым, як звычайныя пні ажылі пад таленавітай рукой сур'ёзнага і працавітага мастака. Адчуваецца глыбокая думка, палажаная ў аснову гэтых ажыўлёных кавалкаў дрэва.



*А. Грубэ.* „Чырвонаармеец“. Скульптура з дрэва.

Лепшы з экспонатаў, на наш погляд,— „Галава чырвонаармейца“. Гэта ня проста галава аднаго чырвонаармейца, але сынтэтычны вобраз усяе нашае Чырвонае арміі. Глядач адчувае ў гэтым твары згустак сталёвай волі, упартасьці, нязломнай сілы. Гэта хутчэй жалезная маска, як твар жывога чалавека. Умоўна падкрэсьліўшы скуліцы і моцныя сківіцы, надаўшы твару „бесстрастность“, тав. Грубэ нязвычайна ўдала перадаў іменна жалезнасьць, сілу нашай Чырвонай арміі. Але тав. Грубэ забыўся на галоўнае: Чырвоная армія хоць і жалезная, але яна перш за ўсё—сьвядомая. Яна ня толькі абаронца нашай мяжы. Яна *сьвядома* абараняе нас ад ворагаў, яна ведае, што яна ня толькі армія, але *Чырвоная* армія. Наша армія ёсьць ня толькі войска ў вузкім значэньні гэтага слова: яна актыўны ўдзельнік усяго соцыялістычнага будаўніцтва, яна вялікая грамадзкая і культурная сіла... „Чырвонаармеец“ т. Грубэ пазбаўлены ўсялякае думкі, усялякае сьвядомасьці, г. зн. якраз таго, што мы найбольш цэнім у нашай арміі і чым мы ганарымся перад усім капіталістычным сьветам.

„Паўстаўшы нявольнік“ у першы момант робіць уражаньне нейкай глыбы мяса. Больш дэталёвы агляд выяўляе перад гледачом вялізарнай фізычнай сілы чалавека, які ўстае з зямлі і, напружыўшы мускулы, рве путы. Аднэй рукой нявольнік бярэ з зямлі камень.

Гэты твор пакідае моцнае ўражаньне па глыбіні думкі, якая заложана ў яго. Але адчуваецца, што неўдасканаленасьць разьбярскай тэхнікі перашкодзіла аўтару даць вышэйшае афармленьне сваёй ідэі. У той час як ўсё цела нявольніка сьціснулася ў мускульны напружны камяк, твар

яго—няжывая каменная маска. Твар ня прымае ўдзелу ў агульным змаганьні цела: гэта непраўдзіва, ненатуральна і псуе ўвесь твор. Дый крыху затоўсты нявольнік. З боку сьпіны гэта залішняя атлусьцеласьць стварае няпрыемную адвісласьць, абмякласьць: заместа напятых мускулаў вы бачыце грубую скуру, пад якой ляжыць пласт тлушчу. Законы плястычнай анатоміі тут даволі груба парушаны, і гэта зьневажае вока. І наогул т. Грубэ ўмоўна вырашае проблему разьбярскага афармленьня чалавечага цела. Анатомія цела прынята пад увагу пастолькі, паколькі яна дапамагала мэтам разьбяра.



*А. Грубэ.* „Паўстаўшы нявольнік“. Скульптура з дрэва.

„Будаўніцтва“ і па тэхніцы і па зьместу стаіць значна ніжэй першых двух прац т. Грубэ. Ізноў мы тут сустракаемся з пасыўным афармленьнем рэволюцыйнай ідэі. На барэльефе пераважаюць моцна нахіленыя галовы, бясьсільна зьвіслыя рукі, зморавыя твары рабочых, вочы якіх бяздумна ўтароплены пад ногі. Здаецца, што ўжо тысяча год цягаюць цэглу рабочыя і няма канца-краю гэтай працы. Гэта—сымболь катаргі працы, а не сьвядомага пролетарскага будаўніцтва. Ніхто не запярэчыць, што нашаму пролетарыяту цяжка будаваць, што ён напружна працуе. Але-ж ён сьвядома, з запалам, з натхненьнем будуе. А галоўнае—ён верыць і ўпэўнены, што пабудуе. На грубэўскім барэльефе гэтай думкі і ня шукайце. Хіба ў „старшога“, які стаіць з высока ўзьнятай галавой і кіруе працай. Але твар, вочы і гэты цьвёрды, як сталь палец—гэта ня радасьць будаўніцтва, а толькі моцны загад.

Тав. Грубэ—здольны, таленавіты разьбяр-самавука. Кожны яго новы твор сьведчыць аб бязьмернай адданасьці аўтара свайму мастацтву, аб яго ўпартай працы над удасканаленьнем сваёй тэхнікі.

Група мастакоў маскоўскай філіі, як Аксэльрод, Горшман, Тайц, Зэвін, Рубанаў, Руцай, Семашкевіч, чамусьці абмяжоўваюцца накідамі, этудамі, натурмортамі. Праўда, іх працы часам заслугоўваюць дадатнай ацэнкі (рысункі тэмпэрай і акварэляй Аксэльрода, каляровая аўталітаграфія

Горшмана, офорты Тайца), але к 10-й гадавіне БССР мы чакалі большага. Шуканьні і студыйныя ўдалыя зарысоўкі добрая рэч, але калі яны ператвараюцца ў самамэту, калі мастакі ідуць па лініі найменшага адпору, дык тут мы ўжо падыходзім да „мастацтва дзеля мастацтва“. Мы шануем працу т. Аксэльрода ў яго шуканьнях „малымі сродкамі дасягнуць вялікага“, мы любуемся яго тэхнікай і тэхнікай Горшмана. Але-ж дайце нам твор, які меў-бы наш сучасны зьмест, далажэце вашу тэхніку да афармленьня нашай працы, нашага быту, нашага змаганьня, нашай рэволюцыі і гісторыі!



*А. Грубэ.* „Будаўніцтва“. Барэльеф з дрэва.

Пра малюнкі т. т. Аксэльрода, Горшмана, Тайца, Зэвіна, Рубанава, Руцая, Семашкевіча трэба сказаць болей, бо гэтымі імёнамі амаль вычэрпваецца ўся маскоўская філія беларускіх мастакоў. Па-першае, трэба адзначыць, што ніводзін з іх не адгукнуўся на тэмы, вызначаныя Галоўмастацтвам. Мала часу было? Чаму-ж іншыя члены філіі, як т. Ахрэмчык, Філіповіч, Салавейчык, далі нават вялікія алейныя палотны і цяжкія для тэхнічнага выкананьня дрэварыты (Салавейчык)?

Па-другое, маскоўская група дала вялікую колькасьць экспанатаў, дзе пераважаюць эскізы тыпаў мястэчка, краявіды, портрэты, аўтопортрэты, натурморты. Можна згадзіцца з усімі гэтымі экспанатамі, калі яны—узоры студыйных практыкаваньняў пералічаных таварышоў. Але-ж чаму абавязкова для практыкаваньняў абіраць тэмы зусім пазбаўленыя соцыяльнага зьместу? У творчасьці мастака заўсёды адбіваецца яго сьветапогляд, яго адносіны да наўкольнага жыцьця. І вось, разглядаючы творчасьць маскоўскай групы, можна зрабіць вывад, што яны замураваліся, замкнуліся ад сьвету і займаюцца выключна проблемамі формальна-мастацкімі. Яны шмат працуюць—і з посьпехам—над формай, над стылем, над фарбамі, не адклікаючыся на соцыяльныя зьявішчы.

Вядомы нямецкі мастак-графік Г. Грос (зараз ён знаходзіцца пад судом за ядавітыя ілюстрацыі проці нямецкай буржуазіі) піша ў сваіх

артыкулах „Мастацтва ў небясьпецы“ [1]): „Той, для каго рэволюцыйная справа працоўных—ня пустая балбатня... той ня можа здаволіцца бязмэтнымі шуканьнямі ў галіне формы. Ён пастараецца знайсьці мастацкае выяўленьне рэволюцыйнай барацьбы рабочых, будзе ацэньваць сваю працу паводле яе соцыяльнай карыснасьці і дзейнасьці, а не паводле таго, ці адказвае яна нейкім чыста індывідуальным мастацкім прынцыпам, якія не паддаюцца контролю“.

Гэты-ж Грос кажа, што рэволюцыя высунула новыя проблемы, і калі мастацтва хоча захаваць за сабой хаця-б якую-колечы каштоўнасьць, яно павінна падпарадкавацца гэтым проблемам; мастакі-ж, якія зусім не адклікаюцца на соцыяльныя зьявішчы, ня ўдзельнічаюць у іх, застаюцца безадказнымі, і праца іх бязмэтная і бясплодная.

Вельмі сумна, што ў той час, як нямецкія прогрэсыўныя колы мастацтва трымаюцца такіх рэволюцыйных поглядаў, у нас, у СССР, як выявілася ў часе дыспуту ў Комуністычнай Акадэміі, сустракаюцца выдатныя мастакі, якія да гэтага часу ганарацца тым, што яны аніводнага рэволюцыйнага сюжэту ня выканалі і да сьмерці сваёй ня выканаюць [2]).

Мы ня можам маўчаць, калі маладыя беларускія мастацкія сілы заместа таго, каб прымаць сваёй творчасьцю чынны ўдзел у культурнай рэволюцыі, замыкаюцца ў вузка-профэсыянальныя рамкі і абмяжоўваюцца формальнымі шуканьнямі. Нам важна, ня толькі *як* малюе мастак, але і *што* ён малюе, якія ідэі праводзіць ён сваёй творчасьцю.

Сярод мастакоў маскоўскай філіі асобнае месца займае Салавейчык. Яго дрэварытныя малюнкі вызначаюцца і высокай тэхнікай і рэволюцыйнай сучаснай тэматыкай. У галіне дрэварыту яму бязумоўна належыць першае месца.

Чыстая графіка прадстаўлена на выстаўцы вялікай колькасьцю экспонатаў. Гэты від мастацтва мае ў нашых умовах найбольшы попыт, і таму яно буйна расьце. Аднак, гэты ўзмоцнены попыт штурхае большасьць мастакоў-графікаў на выкананьне сваіх прац насьпех, абы як, і яны пачынаюць зьбівацца на танную „халтуру“.

. Самымі ўдумлівымі, сур'ёзнымі і таленавітымі графічнымі працамі на выстаўцы зьяўляюцца малюнкі мастака Астаповіча. Некаторыя яго малюнкі—гэта ўзоры штукарскага скарыстаньня графічных прыёмаў (blanch et noir). На жаль, тэматыка астаповіцкай графікі абмяжоўваецца выключна пэйзажамі.

У аддзеле мастакоў-самавучак, сярод безьлічы слабых і наіўных олеографій, вызначаецца праца віцебскага рабочага Дамінскага: „Портрэт ваданоса“. Шырокую дарогу гэтаму самавуку можа адчыніць толькі ўпартая, доўгая вучоба і мастацкае кіраўніцтва. У Дамінскага мастацкае вока, але рукі малююць ня тое, што яно бачыць.

[1]) Георг Гросс и Виланд Герцфэльдэ—„Искусство в опасности“, Гиз., Москва 1926 г.
[2]) „Искусство в СССР и задачи художников“, стар. 98.

Трэцяя ўсебеларуская мастацкая выстаўка дала багата матэрыялу, каб зрабіць пэўныя вывады аб стане беларускага выяўленчага мастацтва наогул, аб яго паасобных кірунках і яго ролі ў культурным жыцьці нашага грамадзтва.

На выстаўцы былі прадстаўлены ўсе віды выяўленчага мастацтва: малярства, разьбярства, графіка, амаль ва ўсіх яе разгаліненьнях—чыстая графіка, дрэварыт, офорт, лінагравюра, — архітэктура (графічныя проекты), дэкарацыйнае мастацтва (тэатральныя макеты) і нават вытворчае ў выглядзе мастацкіх керамічных вырабаў (Віцебскі мастацкі тэхнікум). Экспонаты па кожнаму з гэтых відаў выяўленчага мастацтва навочна кажуць аб нячуваным на Беларусі ўздыме мастацкага жыцьця, а буйным росьце маладых мастацкіх сіл, якія маюць усе даныя для далейшага росту і росквіту. У параўнаньні з мінулымі мастацкімі выстаўкамі, трэцяя значна вышэй як па формальна-мастацкіх дасягненьнях нашых мастакоў, так і ў сэнсе больш шчыльнага падыходу іх да сучаснае тэматыкі.

Самае дадатнае зьявішча ў жыцьці беларускага мастацтва—гэта шчырыя і ўпартыя шуканьні новых форм для афармленьня рэволюцыйнай героікі. Чулыя нэрвы мастакоў вібруюць ад натоўпу новых ідэй і вобразаў, якія нарадзіліся ў часы рэволюцыі і якія кожны дзень, кожную гадзіну зьяўляюцца нанова пад уплывам нясупыннага змаганьня пролетарыяту за новы лад грамадзкага жыцьця, за соцыялізм. Мастацкая думка хвалюецца і пакутуе над тым, каб выявіць гэтыя ідэі і вобразы, каб у нейкай новай форме, новымі мастацкімі сродкамі сказаць масам сваё слова аб рэволюцыйных падзеях, а перамогах, будаўніцтве. Мастакі, як члены нашага грамадзкага колектыву, жадаюць мастацкімі вобразамі паказаць колектыву, што і яны перажываюць і хвалююцца новым зьместам савецкага жыцьця.

Аднак сярод беларускіх мастакоў ёсьць і такія, творчасьць якіх застыла на старых формах і старой тэматыцы. Частка старых мастакоў як Пэн, Кругэр, хаця і аўладалі тэхнічнымі прыёмамі творчасьці, але малююць паводле старога рэцэпту, штучна, без натхненьня, вымучана. Іх творы не выклікаюць ніякае цікавасьці. Другая іх частка, як Віэр, Пархоменко, хоць і выбіраюць сучасныя тэмы, але даюць гледачу „маладое віно ў старых мяхох". Рэволюцыйны зьмест іх малюнку згас, памёр ад збуцьвелай тэхнікі афармленьня.

Справядлівасьць прымушае сказаць, што і некаторыя з маладых мастакоў стабілізавалі сваю тэматыку на пэйзажах, портрэтах, натурмортах, забываючыся, што галоўная мэта пролетарскага мастацтва—дапамагаць разбурэньню старой ідэолёгіі ў масах, актывізаваць гэтыя масы. Сьвядома ці не, яны ўхіляюцца ад таго, каб хаця часткова падпарадкаваць сваю творчасьць мэтам клясавай барацьбы. Праз гэтае яны адрываюцца ад шырокіх мас, адрываюцца ад нашага быту і штурхаюць сябе на адзіноцтва, думаючы задаволіцца прызнаньнем вузкага кола сваіх-жа таварышоў па профэсіі, кваліфікаваных знаўцаў мастацтва і эстэтаў.

І гледачу і мастаку трэба раз і назаўсёды адмовіцца ад таго, што „мастацтва ёсьць другое жыцьцё сярод звычайнага існаваньня, жыцьцё, якое плыве ў вышэйшым, ідэальным коле бытаваньня і ў якім мы знаходзім тое задаваленьне, якога не дае нам звычайнае існаваньне“[1]). Буржуазныя ідэолёгі мастацтва, як Рэпін, В. Лесовой, стараліся праканаць сваімі пісаньнямі, што „мы ўцякаем у мастацтва ад рэальнага жыцьця з яго барацьбой, грубасьцю і матэрыялізмам, паднімаемся над узроўнем жывёльнага існаваньня і пераносімся ў той мэтафізычны сьвет, куды няма доступу іншым шляхам звычайнаму сьмяротнаму, што мэта мастацтва і прызначэньне мастака — уздымаць людзей па-над сфэрай жывёльнага стану, вырываць іх з умоў матэрыяльнага, фізычнага жыцьця і пераносіць у сьвет вышэйшых, мэтафізычных каштоўнасьцяй“[2]).

Ва ўсім нашым культурным будаўніцтве мы праводзім прынцып дыялектычнага матэрыялізму; значыцца, і ў мастацтве выяўленчым мы павінны пільнавацца таго, каб яно ня ўхілялася ад сьціслай ідэолёгічнай лініі. Іначай мастацтва, якое павінна выхоўваць шырокія масы, адарвецца ад гэтых мас і страціць самы сэнс свайго існаваньня.

Нязвычайна характарным зьяўляецца той факт, што беларускія мастакі надта вузка разумеюць сучаснае пролетарскае будаўніцтва. Далей малюнкаў пабудовы маста (Хрусталёў), будынку з цэглы і рэек (Паўлоўскі, Грубэ, Станюта), ды нават рамонту бруку (Тычына), г. зн. літаральнага разуменьня слова „будаваць“, нашы мастакі не пашлі. А таго, што ў нас зараз адбываецца клясычнае і сьмяртэльнае змаганьне двух рэзка процілеглых форм быту, што ўрачыста пачала свой паход культурная рэволюцыя, што ў нас ідзе колектывізацыя вёскі, організацыя буйных культурных саўгасаў, што мы змагаемся з рэлігіяй, забабонамі, алькоголізмам, бяспрытульнасьцю, бюрократызмам і г. д.,—усё гэта застаецца па-за сфэрай увагі нашых мастакоў. Рэволюцыйныя і гістарычныя тэмы мастакі практыкуюць даволі павярхоўна, а часам і зусім плытка. У большасьці яны абмяжоўваюцца знадворнымі, паказнымі атрыбутамі, забываючыся на ўнутраную насычанасьць сужэту, на яго зьмест.

Усё гэта сьведчыць аб ідэолёгічнай адсталасьці часткі беларускіх мастакоў. У іх творах адчуваецца, што гісторыя рэволюцыйнага руху, гісторыя партыі, гістарычны матэрыялізм і вялікія проблемы соцыялістычнага будаўніцтва,—усё гэта рэчы, якія больш вядомы ім па назвах, чымся па сутнасьці. Калі ад майстра пэндзля, разца і пяра грамадзтва вымагае *сьвядомай* працы на карысьць пролетарскай рэволюцыі, дык яны павінны мець максымум гэтай сьвядомасьці. Беларускія мастакі, як паступовая культурная сіла, павінны ісьці ў першых шэрагах пролетарскага грамадзтва, каб захаваць за сабой ролю пропагандыстых клясавай ідэолёгіі і актыўных удзельнікаў нашага савецкага будаўніцтва.

---

[1]) Вадим Лесовой. Беседы об искусстве. З кнігі „Искусство для всех“, т. II. Ленінград.
[2]) Там-жа.

# СУЧАСНАЯ ЮГА-СЛАУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Р. Кальтофэн**

У канцы сусьветнае вайны жаданьне сэрбаў аб'яднацца ў большай сваёй частцы ажыцьцёвілася, праўда толькі знадворна, формальна, і хутка выявілася, што ў культурных адносінах паасобныя браты пашлі па розных шляхох. Кроаты, якія па сваёй замкнёнасьці былі моцна прывязаны да старых традыцый, былі пад аўстрыяцкай уладай адарваны ад жыцьця сэрбаў і трапілі пад нямецкі і італійскі ўплыў. А сэрбы зноў, з прычыны стогадовай падлегласьці турэцкаму рэжыму, зусім падупалі пад уплыў туркаў. Такім чынам, адразу-ж выявіліся і ў політычных, і ў культурных адносінах два цэнтры: Загрэб—Бэоград. Спатрэбіцца шмат часу, пакуль гэтыя процілегласьці, выкліканыя зусім розным разьвіцьцём, будуць выраўнены. У кожным выпадку больш адчуваецца ўплыў толькі аднаго цэнтру: утварэньне юга-слаўскае дзяржавы адсунула італійска-нямецкі ўплыў на карысьць уласнага нацыянальнага разьвіцьця.

У сучаснай юга-слаўскай літаратуры можна адзначыць тры пэрыоды. Старэйшая літаратура, прыблізна да 1900 году, была романтычная і знаходзілася пад нямецкім уплывам. Да яе належаў вядомы кроацкі романісты Зэноа. Пад францускім і італійскім уплывам распаўсюдзіўся потым эстэтызм і формалізм. Спосаб пісаньня д'Анунцыё пераймаюць Вайновіч і Бэговіч. З 1914 году можна заўважыць ужо ўсе эўропэйскія плыні: экспрэсыяналізм, дадаізм, футурызм, гіспорэалізм. Кроаты імкнуцца больш да немцаў, сэрбы—больш да французаў. Пісьменьнікаў з соцыялістычным ухілам амаль што няма. Зародкі гэткае літаратуры выяўляе рабочы друк: „Борба", „Загрэб" і г. д.

Апошні водгалас романтычнай школы і пераход да эстэтыстых—гэта кроацкі романісты Бабіч, які пісаў пад псэўдонімам Ксавэр і Сандэр Бальскі. Ён—містык і вучань Зэноа, які бярэ матэрыял для сваіх твораў з старажытнага кроацкага шляхецтва, з гісторыі яго. Галоўныя творы яго: „Na rodenoi grudi" і „Diljem doma".

Драматургам па форме зьяўляецца і вышэйпамянёны рагускі пісьменьнік Вайновіч. Зьместам яго твораў зьяўляецца гісторыя Рагузы. Яго драмы, як „Exvinocijo" і „Dubrovacka Trilogia" перакладаліся неаднакроць на чужаземныя мовы. У апошняй расказвае ён аб заняпадзе Рагускае рэспублікі. Падзеі першай часткі, „Allons enfants", адбываюцца ў наполеонаўскі час, калі народ страціў сваю волю. Другую частку

„Змрок“ пераносіць ён у трыццатыя гады XIX стагодзьдзя, калі пачыналі занепадаць старажытныя патрыцыянскія пакаленьні. У трэцяй частцы, „Na taraza“ малюе ён пачатак змаганьня паміж сэрбамі і кроатамі ў дзевяцьдзесятых гадох.

Сьпярша ў якасьці лірычнага поэты, пазьней—як драматург выступіў Вэговіч, які працаваў доўгі час, як драматург, у Гамбурзе. Яго першыя лірычныя вершы „Zoe Boccadoro“ зьявіліся пад псэўдонімам „Xeres de la Maraja“. У апошні час імя яго часта успаміналася ў сувязі з вельмі ўдалай драматызацыяй вядомага роману Зэноа „Diogenes“, першае прадстаўленьне якой адбылося нядаўна ў Загрэбе.

Сымболічную лірыку выяўляюць творы кроата Назора, які ў сваім „Živana“ апявае мітолёгію першабытнага часу славян.

Апрача іх, трэба яшчэ заўважыць сэрба Ліована Дуцыча, Богдана Паповіча, Бандуровіча—юга-слаўскага перакладчыка Шэксьпіра.

Малодшыя пісьменьнікі, якія знаходзяцца пад моцным уплывам Парыжу,—усе геніяльныя і натхнёныя. Імі прадстаўлены ўсе модныя кірункі. Манойловіч, сэрбскі лірык, злучае старажытныя і модныя сучасныя кірункі. Ён мастацка адукаваны і вялікі прыхільнік італійскае культуры. Ён аўтар перакладаў Бірандэлоса і Нікодэмоса. Адным з найбольш плённых пісьменьнікаў зьяўляецца Зібэ Мілічыч, які чэрпае матэрыял для сваіх вершаў і апавяданьняў з далмацкага жыцьця. З-пад яго пяра ўжо вышлі пяць зборнікаў вершаў і некалькі апавяданьняў, сярод іх „Кніга радасьці“ ў двух частках („Бліск дня“ і „Сон пад зорыстым небам“) і „Пініі і олівы“. З Вайводзіны родам Крыянскі (Crjanski), які выказвае моцнае мастацкае пачуцьцё ў сваіх творах аб Альбрэхце Дюрэру і аб італійскім мастацтве. Словенец Жупанчыч (Župancic) выступіў у якасьці лірыка і перакладчыка Шэксьпіра на словенскую мову.

Жывы тэмпэрамант выяўляе апошні зборнік сэрбскага лірыка Дрэйнаца „Бандыт і поэта“. Далей ідзе маладая таленавітая сэрбская поэтка Дэсанка Максімовіч. Зборнікі „Жальба нявольніка“ і іншыя з соцыяльным і політычным зьместам сьведчаць аб Уевічу (Ujević), як аб культурным і тонка чульлівым лірыку.

Да гэтых малодшых пісьменьнікаў трэба далучыць яшчэ Дэдзінаца, Рыстыча, Вуко і лірыка Крkліча (Krklić).

Пад уплывам соцыялістычных пісьменьнікаў захаду знаходзяцца пісьменьнікі Цэзарыч і Клёша, які дзе-ні-дзе падобны да Барбюса. Цэзарыч зрабіўся вядомым, дзякуючы свайму роману „Careva Kraljeva“. Клёша ёсьць галоўны правадыр узьнікшага ў сувязі з нямецкім экспрэсыянізмам „руху літаратурнай рэволюцыі“. Да 1927 году ён зьяўляўся адказным рэдактарам „Književna Re Publica“, часопісу вельмі левага кірунку. Піша ён галоўным чынам драмы. Апошняя яго драма, „Glembajevi“—гісторыя шляхецкае аўстрыяцкае сям'і генэрала, якая ня можа справіцца з модным часам. Уражаньні ад сваёй падарожы ў Расію, якую ён нядаўна зрабіў, малюе ён у сваёй кнізе „Уражаньні ў Расіі“.

Агульныя літаратурныя часопісы выдаюцца ў Загрэбе і Бэаградзе. У Загрэбе—„Savremenik“, „Hrvatske Revija“, „Крытыка“ і „Vijenac“, а таксама каталіцкі літаратурны часопіс „Hrvatska Proseda“. У Бэаградзе—„Misao“ і „Srpski Knjizevnik Glasnik“. „Misao“ мае сваё ўласнае кола супрацоўнікаў, сярод якіх і вышэйпамянёны Бандуровіч. „Misao“ мае вельмі багатую з боку зьместу літаратуру, але пярэчыць проці экстравагантнасьці і проці форм бяз зьместу. „Srpski Knjizevnik Glasnik“ ёсьць найменшы юга-слаўскі літаратурны часопіс. Ён быў заснаваны выдатным сэрбскім літаратурным крытыкам Скэрлічам. Раней у ім пісалі толькі прадстаўнікі вышэйшай школы, а цяпер пішуць тут літаратары ўсіх кірункаў. Нядаўна Bihaly заснаваў у Бэаградзе „Nolit-выдавецтва“, каб выдаваць новую эўропэйскую літаратуру. Выдавецтва выдае і ўласны часопіс.

# КНІГАПІС

**Соцыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году.** *Менск. 1927, стар. 256. Выд. ІБК.*

Вышэйпамянёны зборнік праклямацый зьяўляецца першай спробай выданьня матэрыялаў агітацыйна-пропагандыцкага характару соцыялістычных партый, што працавалі на Беларусі ў 1905 годзе. Рэдакцыя, па магчымасьці, сабрала ўсе праклямацыі, якія былі выпушчаны камітэтамі гэтых партый у 1905 годзе. Апублікаваныя матэрыялы надзвычайна цікавыя і каштоўныя для вывучэньня рэволюцыйнага руху на Беларусі ў 1905 годзе. Можа тут апублікаваны ня ўсе матэрыялы, але і тое, што апублікавана, мае надзвычайную навуковую каштоўнасьць, і кожны дасьледца рэволюцыйнага руху будзе лічыцца з гэтым першараднай цікавасьці матэрыялам. У зборніку паданы матэрыялы—праклямацыі, выпушчаныя Расійскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй, яе провінцыяльнымі групамі (Менскай, Віцебскай, Бабруйскай, Панявескай, Полацкай, Веліскай, Дзьвінскай і Крэслаўскай), дакуманты, якія датычацца Беларускай соцыялістычнай грамады і Соцыялістычнай партыі Белай Русі, а таксама праклямацыі, выпушчаныя Ўсеагульным яўрэйскім рабочым саюзам у Літве, Польшчы і Расіі. Гэтыя праклямацыі таксама разьмеркаваны паводле камітэтаў: Менскага, Віцебскага, Дзьвінскага, аб'яднанага Менскага і Віцебскага, Краслаўскага камітэтаў і Волацкай, Невельскай і Веліскай організацый. У зборніку апублікаваны матэрыялы партыйна-коаліцыйных камітэтаў, РС-ДРП і Бунду. Праклямацыі партыі С-Р прадстаўлены матэрыяламі Менскага, Віцебскага і Дзьвінскага камітэтаў. Яўрэйская сіоніцка-соцыялістычная партыя „Поалей-Цыон" прадстаўлена Віцебскім камітэтам і Полацкай організацыяй, а сіоніцка-соцыялістычная рабочая партыя—Менскім і Дзьвінскім камітэтамі. Урэшце, аднэй праклямацыяй прадстаўлена сіоніцкая соцыялістычная партыя працоўных Сіону і Дзьвінскі камітэт самаабароны сіоністых-соцыялістых. У вялікай большасьці прадстаўлены праклямацыі вучняў, апублікаваныя, галоўным чынам, да вучняў гораду Менску. Апрача гэтага, паданы розныя праклямацыі, апублікаваныя да Віцебскага вобчаства, да салдат, да сялян і да розных грамадзян. Кожны тып праклямацыі мае ўступ, у якім даецца агульная характарыстыка апублікаваных матэрыялаў. Трэба сказаць, што выдана кніжка вельмі добра, і для кожнага гісторыка 1905 году павінна стаць настольным зборам дакумантаў, без якіх нельга вывучаць 1905 году.

**У. Пічэта.**

**„Маладняк",** штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадзка-політычны часопіс, орган ЦБ Усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк", *№№ 1—10 за 1928 г.*

Выдае часопіс ЦК ЛКСМБ у сваім выдавецтве „Чырвоная Зьмена". У нумары бывае 6—7 друкаваных аркушаў. Цана нумару 60 кап.

Друкуюцца ў часопісу блізу выключна члены „Маладняка", але некаторыя маладнякоўцы не далі ў

гэтыя нумары свайго часопісу ніводнага твору, а друкуюцца ў „Полымі“, а некаторыя больш друкуюцца ў „Полымі“ і ў „Узвышшы“, чым у сваім часопісу.

Даецца ў нумары „Маладняка“: вершы, мастацкая проза, часам пераклады з іншых літаратур, розныя артыкулы на літаратурныя і зрэдку на агульна-грамадзкія тэмы, рэцэнзіі і хроніка.

У паказаных дзесяці нумарох наймацней выяўлена мастацкая проза, значна слабей—лірычныя вершы. З драматычнае маладнякоўскае творчасьці ў гэтых нумарох няма ніводнага твору.

У мастацкай прозе, найперш, знаходзім досыць рознастайную і досыць поўную для нашае сучаснасьці тэматыку. Найбольш апісваецца вёска, але горад таксама адлюстроўваецца даволі значна. Адно што— і маладнякоўцы, як і ўзвышаўцы і полымцы, яшчэ і ў гэтым годзе не паказалі, чым і як жыве беларускі гарадзкі фабрычны рабочы.

Грамадзянскую вайну, польскую окупацыю на Беларусі апісвае Барашка ў вялікім апавяданьні „Дар за дар“ (№ 6). Яскравыя эпізоды з вайны з палякамі і з Калчаком дае ва ўспамінах сваіх герояў Хурсік у апавяданьнях „Зьмітрок“ (№ 1) і „Янка з Падлесься“ (№ 3). Часам закранаюць грамадзянскую вайну і іншыя аўтары: Мікуліч („Адыйшло... адкацілася“, № 1), Трус („Дзікі сьмех“, № 1). Тымчасам, тэмы з грамадзянскае вайны ў „Маладняку“ за гэты год ужо не займаюць першага месца.

Жыцьцё на мяжы з Польшчаю, палітычнае шпегоўства, агідную дзейнасьць палітычных агентаў буржуазіі ў СССР паказваюць: Мурашка ў прыгодніцкім апавяданьні „Прыгранічны манастыр“ (№ 1) і часткова ў аповесьці „У іхным доме“ (№№ 2—7), Пальчэўскі ў апавяданьні-анэкдоце „На беразе Нёмну“ (№ 4) і Баранаў у романтычна-прыгодніцкім апавяданьні „Начныя цені“ (№ 10).

Жыцьцё так званае „нутранае эміграцыі“ даволі шырока абмаляваў Мурашка ў аповесьці „У іхным доме“. Тут праходзіць цэлы шэраг пэрсонажаў з былой расійскай буржуазіі. Тут і былыя паны-абшарнікі, і капіталістыя-нэпманы, і белыя афіцэры, і папы, і кулакі-падпанкі, і поэты богемы, і розныя цёмныя асобы. Галоўная пэрсона ў аповесьці— „моцная жанчына“, пані Вольга Аляксееўна, якая нават піонэра Сярожу, сына старога комуністага Ліпнеўскага, даводзіць да псоты. Канчаецца справа, вядома, Салаўкамі. Гэтая аповесьць—пэўная навіна ў сучаснай беларускай літаратуры. Чытаецца яна з нязьменшанаю цікавасьцю ад пачатку да канца і сваім ідэолёгічным зьместам дае шмат карысьці сучаснаму савецкаму чытачу. Адно што—мала тут асаблівасьцяй беларускага жыцьця, чуецца нейкая адарванасьць ад якой-небудзь пэўнай культурна-нацыянальнай глебы, шмат схэматызму і, магчыма, ёсьць пэўная нятыповасьць у тым сэнсе, што часам зьяўляецца неразьвязанае пытаньне: дзе-ж гэта ў савецкіх умовах маглі быць некаторыя апісаныя аўтарам зьявы. Гэтую нятыповасьць можна вытлумачыць хіба тым, што Мурашка любіць карыстацца прыгодніцтвам, як літаратурным прыёмам. Мала, апрача таго, паказаны дадатныя бакі савецкага жыцьця і соцыялістычнага будаўніцтва, і чытачу няма на чым адпачыць пасьля малюнкаў моральнага раскладу ў асярэдзіне буржуазных недабіткаў. Жадаючы падкрэсьліць моральны расклад „былых людзей“, аўтар часам лішне ўдаецца ў апісаньне розных драбніц эротычнага характару.

Тэмы з жыцьця „былых людзей“ займаюць у „Маладняку“ за гэты год, можна сказаць, аж занадта шмат месца. Аднак-жа, вытрыманы псыхолёгічны аналіз даецца рэдка. Найлепш ён даны, бязумоўна, у аповесьці Мурашкі. Што да твораў з „былымі людзьмі“ іншых аўтараў,

дык тут часам шмат якогасьці незразумелага захапленьня романтычнасьцю і прыгодніцтвам і схаванага незнаёмства аўтараў з закранутым жыцьцём. І хоць аўтар вельмі стараецца падкрэсьліць усю агіднасьць гэтага жыцьця, але ня можа дасягнуць мастацкага ўражаньня праз рэалістычныя малюнкі, і таму карыстаецца розным, мала пераканаўчым, романтычным туманам. Гэта можна сказаць аб апавяданьні Звонака „За бартом" (№ 5) і асабліва аб успомненым ужо апавяданьні Баранава „Начныя цені". Тут нейкія фантастычныя былыя палкоўнікі, польскія паны, якіх ніяк ня можна лічыць тыповымі прадстаўнікамі праўдзівага жыцьця. Меней-бы тут розных выдуманых эфэктаў, а болей-бы рэальных фактаў, хоць-бы ўзятых з газэт, і савецкі чытач меў-бы болей ідэолёгічнай і мастацкай карысьці. Лепш апісвае Мікуліч міласэрную сястру, якая перабегла ад белых („Адыйшло... адкацілася"). Але ён больш гоніцца за прыгожым стылем, чым за шырокім малюнкам і ўгрунтаваным псыхолёгічным аналізам. Што-ж да „вершу ў прозе", як заве Трус свой „Дзікі сьмех", дык тут наогул цяжка зразумець, што і да чаго хацеў сказаць аўтар аб сваёй героіні—трагічнай панскай дачцы.

Ёсьць у „Маладняку" за 1928 г. і яшчэ адно апавяданьне, аўтар якога, праўда, ня ставіць сабе мэтаю апісаньне „былых людзей", але якое і не заслугоўвае на тое, каб яго выдзяляць у якую асобную тэматычную катэгорыю,—дык можна тут-жа сказаць і аб ім некалькі слоў. Гэта „псыхолёгічнае" апавяданьне „Кавалак іх жыцьця" (№ 5) нейкага аўтара, які схаваўся пад псэўдонімам Я. В—к. Шкода, што не заўважыў такога літаратурнага пэрлю А. Гародня, пішучы свой артыкул „Ці ёсьць у нас нэо-буржуазная літаратура?" („Маладняк", № 9, 1928 г.). У гэтым апавяданьні вельмі, праўда, прыгожа апісваецца, як нейкі паніч Анатоль пакахаў нейкую паненку Валю. Пакахаў неяк раптам, бо, кажа аўтар, „яна так ціха падышла да яго і так ціха шапянула адзінае слова, з якім аддаецца жанчына ў ласках, у прагнасьці да жыцьця; растопленая і суцэльная, бадзёрая і стомленая"... (Стар. 58). Спакусіла Валя Анатоля досыць лёгка: яна сядзела на канапе, ён сядзеў „у нагах, на крэсьле", яна палажыла яго руку ў сваю руку, „тады вочы запалілі прагныя зрэнкі і няроўным стала дыханьне", яна „адчувала яго: здаровага і маладога, пругкага і палкага, якому яна аддаецца"... (Стар. 59). Ну і, зразумела, „яна раставалася", яна „аддавалася, каб яшчэ больш узяць для свайго афармленьня жанчыны"... (Стар. 60). Але праз 15 год—„Валя слала пасьцель, кідалася ў падушкі і ўся гарачая і вялая чакала яго—здаровага і ўладнага", але Анатоль ужо ня ішоў. Яму спаткалася Галя, ён тымчасам „зрабіўся вялікім комэрсантам і ўладаром многіх крам" (Стар. 61). Дзеля Галі кінуў ён Валю і дачку Ніну. Потым, па волі аўтара, трапіў Анатоль пад цягнік, яму адрэзала нагу, і Галя кінула яго, бо, кажа яна: „Я вас любіла тады, калі вы былі здаровым і ўладным, маладым і палкім, а цяпер вы—калека". „Я не магу,—казала яна,—любіць таго, хто зрабіўся пасьмешышчам і вырадкам. А за тое, што вы давалі мне гарачыя і ласкавыя хвіліны, калі я раставаралася ў палкасьці—дзякую"... (Стар. 66).

Ну, бедны пан Анатоль валасы ірваў на сабе, халераваў, нібы ўвесь сьвет перавярнуўся дагары нагамі, а яна ўсё роўна не захацела болей „раствараццa"... Баючыся, што праставатыя чытачы „Маладняка" могуць не зразумець такіх высокіх матэрый, аўтар падкрэсьлівае сваю мораль, ставячы пад загалоўкам апавяданьня эпіграфік: „Калі труп гніе, то добра, што вецер разносіць смурод". На жаль, аўтар не задумваецца на тым,

што вецер з падлы можа павеяць ва ўсе бакі, можа павеяць і на старонкі „Маладняка“, і нанясе туды гэтага смуроду. Не разумее таксама аўтар, што ён політычна няпісьменны аўтар, калі бярэцца разьвязваць нейкія проблемы бяз усякае сувязі з соцыяльна-экономічным грунтам. Устаноўка ў яго выключна „псыхолёгічная“; аўтар нават не адчувае, што ўся яго проблема магла вырасьці толькі на пэўным грунце і што на іншым грунце яна выглядала-б зусім іначай [1]).

Стары быт у вёсцы, вясковую цемру і адсталасьць добра апісвае Галавач у мастацкім нарысе „Кнак“ (№ 1). Клясавае змаганьне ў вёсцы, кулакоў, бандытаў добра малюе тойжа аўтар у апавяданьні „Суседзі“ (№ 10). Тут асабліва трэба падкрэсьліць, што Галавач ужо не абмяжоўваецца схэматычным і гола-тэндэнцыйным апісаньнем кулака-бандыта, як гэта робіць часам Нікановіч і некаторыя іншыя аўтары, а стараецца даць глыбокі псыхолёгічны аналіз, добра ўгрунтаваны фактамі соцыяльна-экономічнага характару. Гэтым-жа шляхам ідзе і Хурсік, малюючы змаганьне вясковае беднаты з заможнікамі-шляхтунамі („Янка з Падлесься“, № 3) або з нэпманамі, гаспадарамі лесапільні („Пільнікі“, №№ 7 і 8). Самае каштоўнае ў апісаньні сучаснае вёскі далі на старонках „Маладняка“ за 1928 г. якраз гэтыя два аўтары—Галавач і Хурсік. Вясковыя малюнкі Нікановіча, у некаторых месцах вельмі добрыя, псуюцца часам расьцягнутасьцю і сантымэнтальнасьцю апавяданьня.

Людзей вайны і рэволюцыі, іхняе жыцьцё цяпер на вёсцы малюе Хурсік, і ў паказаных ужо яго апавяданьнях і ў дасканалым апавяданьні-характарыстыцы „Зьмітрок“ (№ 1). Змаганьне новага быту са старым, перамену ў людзях пад уплывам рэволюцыі, соцыялістычнае будаўніцтва ў вёсцы малюе і Нікановіч у апавяданьнях: „Сьлёзы веснавыя“ (№ 2), „К прасьцягам новага“ (№ 4), „Аднаго разу вечарам“ (№ 6).

Разьнявольваньне жанчыны ў савецкіх умовах—тэма, выкарыстаная маладнякоўцамі за апошнія гады некалькі разоў. Яшчэ раз закрануў гэтую тэму ў „Маладняку“ за сёлетні год Каваль, проста і памастацку паказаўшы вызваленьне вясковае жанчыны ў апавяданьні „Наўздагон за доляю“ (№ 10). Яшчэ лепш, з тэматычнага боку, зрабіў Галавач, абмаляваўшы шлях вясковае дзяўчыны на рабфак (апавяданьне „Дасужая“, №№ 2 і 3). Такім чынам, Галавач паказвае і стары быт і змаганьне з ім новага быту і дае жывыя партрэты новых людзей, людзей, якія ўзрасьлі і закрасавалі ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва. Перажываньні сялянскага хлопца, выхадца з вёскі ў горад, закранае Каваль у вельмі мастацкім аўтобіографічным апавяданьні-нарысе „Крыніца“ (№ 4).

Жыцьцё бяспрытульнікаў закрануў Губарэвіч, даўшы некалькі цікавых сцэнак у новэлі „Болесь“ (№ 6). Але неяк няпраўдападобным здаецца, каб у бяспрытульнікі трапіў вясковы хлопец, які ехаў на рабфак ды быў абкрадзены ў дарозе.

Аб жыцьці ў Заходняй Беларусі ёсьць у „Маладняку“ за гэты год толькі адно апавяданьне — „Бэзавы гэрой“ Вечара, якое, аднак, з мастацкага боку не стаіць вельмі высока. Моцна напісаны мастацкі нарыс Салагуба „Галадоўка“ (№ 7) з сучаснага т у р э м н а г а жыцьця ў Польшчы.

Нарэшце, трэба яшчэ адзначыць пакуль што адзінае за ўвесь год у „Маладняку“ апавяданьне Лынькова „Радо“. Тут аўтар закрануў у духу Зарэцкага цікавую соцыяльна-бытавую проблему: грамадзкія імкненьні,

[1]) Між іншым, аўтар піша вельмі прыгожа, але пабеларуску павінна быць „іхнага“ жыцьця, а ня „іх“ жыцьця; таксама слова „пэнкнулі“ (струны, на стар. 58)—недапушчальны полёнізм. Шмат і расыянізмаў у аўтара.

з аднаго боку, і матчына любоў да сына—з другога.

Як бачым, у дзесяці нумарох „Маладняка“ за гэты год няма нічога аб жыцьці фабрычных рабочых, няма нічога аб такой выдатнай зьяве ў жыцьці БССР, як Асінбуд і да таго падобныя этапы соцыялістычнага будаўніцтва, наогул, мала адлюстроўваецца соцыялістычнае будаўніцтва. Жыцьцё савецкіх служачых паказана зусім мала. Нявыкарыстанымі засталіся тэмы з нядаўнага мінулага, як імпэрыялістычная вайна, бежанства. І толькі вёска, быт сялян паказалі сёлета маладнякоўцы ў сваім часопісу значна глыбей, чым у сваіх даўнейшых творах.

Мастацкая проза ў „Маладняку“ за сёлетні год сьведчыць аб значным поступе і памысным разьвіцьці прозаікаў-маладнякоўцаў. Даўнейшае захапленьне романтычным стылем аддае сваё месца рэалістычнай плыні, якая ўсё мацнее. У найбольш чыстым выглядзе рэалізм выяўляецца ў творах Галавача і Хурсіка. У творчасьці ўсіх іншых аўтараў рэалізм яшчэ перавіваецца з романтычнымі літаратурнымі прыёмамі. У рэалізьме Каваля шмат народнае романтыкі. Мурашка—рэалісты з ухілам у романтычнае прыгодніцтва. У Хурсіка і Нікановіча часам бывае шмат натуралізму і нават грубага натуралізму.

Найлепшы мастак у прозе „Маладняка“ за гэты год—Каваль, але, галоўным чынам, у формальна-мастацкіх асаблівасьцях стылю. Хурсік даў вельмі сакавітыя і жывыя малюнкі вясковага жыцьця. Галавач за гэты год значна вырас, як мастак. Галоўная заслуга Мурашкі ў тым, што ён даў шырокае палатно — аповесьць. Творы яго—заўсёды цікавыя. На жаль, мала друкаваўся Лынькоў, а маладняковец Ліманоўскі чамусьці ня даў у гэты 10 нумар „Маладняку“ ніводнага твору і друкуецца ў „Полымі“.

Мала працуюць некаторыя маладнякоўцы над сваёю моваю. Агульная бяда ў нашай сучаснай літаратуры, што рэдактары часопісаў мала зважаюць на мову і стыль тых твораў, якія яны зьмяшчаюць у сваіх часопісах. Гэта асабліва шкодна адбіваецца на творах маладых аўтараў, якія зазвычай пачынаюць друкавацца ў „Маладняку“. Іхнія творы перад друкаваньнем трэба вельмі пільна рэдагаваць у стылі і ў мове. Ня шкодзіць выпраўляць мову і ў творах некаторых старэйшых маладнякоўцаў. Самая прыгожая мова ў Каваля, а самая сакавітая ў Хурсіка. Абодва гэтыя аўтары дасканала ведаюць народную мову свае мясцовасьці, а Каваль добра ведае і літаратурную беларускую мову, але ўсё-ж і ў яго трапляюцца недагляды, а ў Хурсіка іх—колькі хоць. Мала дбае аб сваёй мове Нікановіч. У Мурашкі—кніжная мова. Найгоршая мова ў Лынькова. У яго, як і ў іншых маладнякоўцаў, як у таго-ж Нікановіча, шмат дзеяпрыметнікаў, неўласьцівых народнай беларускай мове, шмат родных склонаў для паказаньня прыналежнасьці (хата бацькі), трапляюцца расыянізмы, а ў Нікановіча і ў інш. і полёнізмы. Сынтаксычная пабудова сказаў у Лынькова, Мурашкі, часта і ў Нікановіча і ў іншых аўтараў—расійская, кніжная, неўласьцівая жывой беларускай мове.

У вершаванай поэзіі мацней выявілася ў гэтым годзе ў „Маладняку“ эпічная поэзія. Тут на першым месцы трэба паставіць вялікую, яшчэ няскончаную друкам романтычную поэму Звонака „Загай“ (№№ 9 і 10). У гэтай поэме ёсьць часам вельмі яскравыя і даволі мастацкія абразкі з рэволюцыйна-клясавага змаганьня і з мяшчанскага жыцьця. Потым трэба адзначыць невялікую поэмку Казлоўскага „Паход“ (№ 4), у якой апісваецца, як на Калчакоўскім фронце „брата зарэзаў брат, комунара ліхі бандыт“.

З лірычных вершаў лепшае ўражаньне робяць вершы Вечара і Фаміна. Гэтыя два поэты, спаміж 26

надрукаваных за год поэтаў-маладнякоўцаў, найбольш соцыяльны і найбольш зьвязаны з сучаснымі грамадзкімі мотывамі. У вершах Вечара (№№ 1 і 2) ёсьць цьвёрдасьць і пафос барацьбіта, конкрэтна выяўленае імкненьне да соцыялізму, услаўленьне шляхоў пролетарыяту. Верш у яго моцны і даволі самабытны. На жаль, часам і ў Вечара заўважаюцца рыторычныя разважаньні і робленыя фразы. У вершах Фаміна (№№ 3, 4, 5 і 6)—комсамольскія настроі, комуна, май, машынізацыя вёскі, радасьць юнака, мотывы здаровага каханьня. Вершы яго лёгкія і плаўныя, хоць на іх яшчэ ёсьць розныя ўплывы. Трапляецца ў Фаміна часам і лішняя поэтычная фразэолёгія, прыгожыя словы без патрэбы.

Цэлы шэраг поэтаў-маладнякоўцаў (Моркаўка, Плаўнік, Лявонны, Туміловіч, часам, на жаль, нават Фамін і інш.) любяць філёзофстваваць на тэму аб тым, што ўсё мінецца, усё рассыплецца „зорным пылам ля дарог“ (Моркаўка), але хараство жыцьця, між іншым, ёсьць і ў змаганьні, дык будзем змагацца... З формальна-мастацкага боку лепшыя вершы ў Моркаўкі; поэта робіць установку на моцны вобраз і стараецца даць дагледжаную форму; тут заўважаецца часам пэўны эстэтызм. Але ў вершах Моркаўкі занадта шмат гэтае філёзофіі, „космізму“, „агульна-людзкасьці“ ці прост інтэлігенцкага хныканьня. І яшчэ псуюць справу ў яго вершах якраз выкручаныя вобразы і няўдалыя фразы. Плаўнік таксама імкнецца даваць моцны вобраз, але ў яго шмат і напеўнасьці, гучаньня. На жаль, шмат у яго і таго-ж самага хныканьня, шмат і перанятае поэтычнае фразэолёгіі, асабліва шмат розных вэлюмаў, мармураў, руж, лілеяў і да т. п. архаічнае бутафорыі. У Лявоннага—і моркаўская філёзофія, і эстэтызм, і каханьне, і адзінота, і сумота, а найбольш, дык гэта поэтычнае фразэолёгіі, пад якою мала свайго пачуцьця. Між іншым, у вершы „Крымскае“ (№ 6) услаўляе нейкую сваю любую Хацімат у духу романтычнае расійскае поэзіі пачатку XIX веку. А сам пэўна, і ў Крыме яшчэ не пасьпеў пабыць, а калі і быў, дык мала бачыў, і Хацімат сваю выдумаў. Туміловіч мае два лірычныя вершы. У адным (№ 9) ён угаварвае нейкіх сваіх сяброў не сумаваць, а ў другім (№ 9) дзеліцца з чытачамі сваімі ялцінскімі настроямі, якія мала адышлі ад крымскіх настрояў Лявоннага, толькі відаць, што чалавек сапраўды быў у Ялце і чуў там нейкія архаічна-романтычныя гісторыі з далёкага панскага мінулага.

Больш за Лявоннага і Туміловіча шануе сваіх чытачоў таварышка Пфляўмбаўм, дзелячыся сваімі ўражаньнямі аб музэі рэволюцыі ў Маскве. Аднак, яна лепей-бы зрабіла, каб тое самае напісала ў мастацкім падарожным нарысе. У іншых (двух) яе вершах—поэтычная фразэолёгія і моднае расстаўленьне радкоў.

Даволі прыгожа, а, галоўнае, шчыра напісала Бандарына аб сваім разьвітаньні з Сібірам (усяго адзін верш, у № 7).

Трэба адзначыць і вершык Шаўрука, хоць-бы з тэй прычыны, што пад вершам паказаны Томск („Песьня аратага“, № 1). Вершык, праўда, вельмі прымітыўны, як прымітыўны і пагляд аўтара на адсталыя формы сялянскае працы. Мусіць, Шаўрук ня дужа даўно ў Сібіру, а ў сібірскай вёсцы, ці, як там кажуць, пасёлку, яшчэ ня быў, а то-б ён ведаў, што нават у перасяленцаў з Беларусі малацьба цапамі там ужо не ў такой ласцы, як у яго.

Бобрык мае ўсяго адзін верш (№ 3), у якім чамусьці натхненна апісвае сьмерць ваўчыцы.

У Маркавай галоўны мотыў—каханьне. Вершы яе (№№ 1 і 5) даволі гладзенькія і мілагучныя, падзявочаму далікатныя. Шкода, што пясьнярка ніяк ня можа канчаткова

вызваліцца ад „пунсовасьці красак“ і да таго падобнае, ужо вельмі дакучлівае, поэтычнае фразэолёгі з першага пэрыоду існаваньня „Маладняка“.

Шушкевіч (№№ 1, 3 і 6) часам ня дрэнна піша аб сваім беспрычынным засмучэньні і аб сваёй ціхай радасьці, але „разгул сэрца“ ў яго ад Маракова, клён „прасьцілае далоні“ на ўзор клёну ў даўнеўшых вершах Пушчы. (У Пушчы клён, здаецца, „пляскае далонямі“). Лепей удалося Шушкевічу „Паўстаньне вершаў“, але і ў гэтым і ў іншых яго вершах шмат пакаёвай поэзіі, поэзіі пісьмовага стала і чатырох сьцен. Хіба-ж поэта-маладняковец ня мае шырэйшых прастораў.

Мімаходам аб Маракове. Ён адзін з самых моцных поэтаў у сучасным складзе Маладняка, і ў двух яго вершах, зьмешчаных у „Маладняку“ за гэты год, няма ўжо тэй абмежаванасьці кола вобразаў, якая заўважалася ў двух яго зборніках; поэта вырас і памацнеў, але чамусьці ён часьцей друкуецца ў „Узвышшы“ і „Полымі“, чым у сваім часопісу. Лірыка яго і цяпер галоўным чынам пэрсональная.

Хадыка (№№ 1, 8 і 10) мала пасунуўся наперад пасьля свайго зборніка „Суніцы“, які выйшаў у 1926 г., хоць форма ўжо лепшая, заўсёды добра дагледжаная. Сьвежасьці мотываў тымчасам мала, лірыка дужа туманная.

Больш непасрэднасьці і сьвежасьці пачуцьця ў вершах маладога поэты Хадкевіча. Пачынае вызначацца і малады поэта Таўбін, але яшчэ ня вызначыўся.

Агульнае ўражаньне ад маладнякоўскае лірыкі, паводле болей як 60 вершаў у іхным часопісу за гэты год, ня вельмі моцнае, хоць гэта самае можна сказаць і аб сёлетняй лірыцы ў „Узвышшы“ і „Полымі“, тым болей, што ў аддзеле вершаў у „Полымі“ апошнім часам найчасьцей бачым маладнякоўцаў. Праўда, лірыка поэтымаладнякоўца ў №№ 1—10 „Маладняка“ за гэты год зазвычай выяўляе любоў да новага жыцьця, імкненьне да соцыялістычнага будаўніцтва, юнацкую радасьць на комуністычным шляху жыцьця. Але рэдка гэтыя мотывы займаюць належнае месца ў агульным настроі поэты. У большасьці поэтаў, у тым ліку і ў поэтаў выдатнейшых, ужо вядомых, пераважае вельмі вузкая лірыка свайго „я“. Соцыяльных мотываў ня шмат, а мотываў, зьвязаных з грамадзкасьцю, зусім мала. Зусім няма песень фабрычнае працы. Наогул, блізу няма песень працы і вельмі мала песень змаганьня і соцыялістычнага будаўніцтва, песень творчага грамадзкага жыцьця. Кідаецца ў вочы абмежаванасьць мотываў і лішняя поэтычная фразэолёгію. Можна сказаць, няма ніводнага вершу, які мог-бы зрабіцца песьняю мас, песьняю рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, савецкіх студэнтаў, комсамольцаў ці хоць самых маладнякоўцаў. Лірыка, у большасьці, занадта інтэлігенцкая і пэрсональная, з формальна-мастацкага боку, зазвычай, пакніжнаму,—палітаратурнаму робленая.

З перакладаў у №№ 1—10 „Маладняка“ за гэты год ёсьць 1 пераклад з ангельскае мовы („Гайавата і Мэджыківіс“ Лёнгфэлё), 2 пераклады з яўрэйскае мовы (вершы Ізі Харыка), 4 пераклады з украінскае мовы (лірычныя вершы і невялікія поэмы Тычыны, Сасюры і Масэнко) і 2 пераклады з расійскае мовы (Талстой і Горкі). Усе пераклады зроблены самімі маладнякоўцамі. Але маюць найчасьцей выпадковы характар (юбілеі, падарожы). Плянавага і мэтазгоднага перакладаньня мала. А было-б вельмі пажадана, каб „Маладняк“ знаёміў сваіх чытачоў з лепшымі узорамі пролетарскае творчасьці іншых народаў, тым болей што ў сучасным складзе „Маладняка“ ёсьць што ведаюць ангельскую, францускую, нямецкую, італійскую, польскую і іншыя мовы.

Спаміж артыкулаў, на жаль, няма ніводнага спэцыяльнага артыкулу аб творчасьці саміх маладнякоўцаў, калі ня лічыць невялічкі артыкул М. Гарэцкага „Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова“ (№ 6). Асабліва трэба пашкадаваць, што цэнтральны орган „Маладняка“ блізу нічога ня піша аб дзейнасьці сваіх філій. Найбольш каштоўны артыкул напісаў маладняковец Мік. Аляхновіч „На шляхох беларускае пролетарскае літаратуры“ (№ 1). Артыкул П. Р. „Барацьба за якасьць“ (№ 2)—цікавы і вельмі патрэбны артыкул, але мае даволі пабежны характар. У № 9 зьмешчаны вялікі крытычны нарыс А. Гародні „Ці ёсьць у нас нэобуржуазная літаратура?“ Спаміж іншых артыкулаў ёсьць артыкулы аб нашых перакладах (№ 3), аб беларускай літаратуры пасьля „Нашае Нівы“ (№ 4), аб творчасьці Коласа (№ 8), Гаруна (№ 7), Каганца (№ 10), Баршчэўскага (№ 1) Потым трэба адзначыць артыкулы інформацыйнага характару—аб латынскай літаратуры (№ 8), аб літоўскай літаратуры (№№ 5 і 6, вельмі доўгі, расьцяг уты артыкул). Наогул, артыкулаў у „Маладняку“ за гэты год ёсьць, можна сказаць, шмат, і артыкулы ўсё патрэбныя і важныя. Але-ж і ў справе артыкулаў поўнае пляновасьці няма. З грамадзка-палітычных артыкулаў ёсьць толькі адзін— Ул. Каліноўскага „К суду над Б. С.-Р. Грамадою“ (№ 2). Аб літаратурным жыцьці ў Зах. Беларусі няма артыкулу. На жаль, няма нічога і на такія савецкія тэмы, як індустрыялізацыя, культурная рэволюцыя, самакрытыка і да т. п.

Рэцэнзій у №№ 1—10 „Маладняка“ за гэты год зьмешчана 36. Рэцэнзіі пісаны найбольш самімі маладнякоўцамі. На маладнякоўскія выданьні напісана 8 рэцэнзій. Спаміж рэцэнзій на іншыя беларускія выданьні няма рэцэнзій на „Салаўя“ Бядулі, на „Сьцежкі-дарожкі“ Зарэцкага, на „Нарысы гісторыі беларускай літаратуры“ проф. Піотуховіча, на часопіс „Узвышша“, на яўрэйскія літаратурныя выданьні ў БССР і да т. п. Тымчасам ёсьць некалькі рэцэнзій на беларускія, украінскія, расійскія выданьні, не асабліва патрэбных у „Маладняку“. Усё гэта сьведчыць аб тым, што аддзел рэцэнзій у часопісу яшчэ ня зусім добра наладжаны. Зазвычай рэцэнзэнты мала спыняюцца на формальна-мастацкіх асаблівасьцях твораў, а больш пераказваюць зьмест і робяць такія-сякія заўвагі ідэолёгічнага характару, прычым бываюць заўвагі, якія лёгка мог-бы зрабіць кожны чытач сам без дапамогі рэцэнзэнта.

Хроніка ў „Маладняку“ вядзецца на ўзор хронікі ў „Полымі“ і ў іншых беларускіх літаратурных выданьнях. Яна галоўным чынам літаратурная.

N.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў

* *Якуб Колас* у хуткім часе канчае пісаць драму „Вайна да пабеднага канца“. Першая частка гэтай драмы ўжо друкавалася ў „Полымі“ № 2 за 1927 г.

* *Цішка Гартны* піша ўспаміны з часоў нашаніўскага пэрыяду беларускага руху пад назвай „20 год назад“.

* *Міх. Лынькоў* зараз піша дзьве новыя аповесьці: „Апошні зьверыядавец“ і „Трыкатаж“.

* *Андрэй Александровіч* напісаў новую поэму пад назвай „Бальшавік Багрым“.

* *Валеры Маракоў* канчае пісаць новую поэму „Рабінавая ноч“, якая будзе друкавацца ў нашай часопісі.

* *Міхась Зарэцкі* закончыў пісаць новае апавяданьне, пад назвай „Ой, ляцелі гусі“ з сучаснага жыцьця, якое і будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарох „Полымя“.

* *Барыс Мікуліч* піша аповесьць „Лірыка базарнай вуліцы“.

* Савет Народных Камісараў БССР пастанавіў павялічыць з 1 лютага 1929 г. пэнсію народным поэтам—Янку Купалу і Якубу Коласу да сярэдняй стаўкі акадэмікаў Беларускай Акадэміі Навук.

* 27 сьнежня 1928 г. на камісіі па вывучэньні гісторыі Беларусі XIX—XX ст. БАН член камісіі М. Мялешка прачытаў даклад на тэму „З. Т. Жылуновіч, як гісторык“.

* Катэдра літаратуры Бел. Акадэм. Навук набыла 2 вельмі цікавыя рукапісы нявыданых твораў беларускага пісьменьніка Дуніна-Марцінкевіча. Гэтыя рукапісы знайшоў на Гомельшчыне артысты БДТ-1 Флёрыян Ждановіч. Рукапісы зьмяшчаюць у сабе поэмы, пераважна з сялянскага жыцьця, якія былі прызначаны для друку. Гэта відаць з таго, што на іх ёсьць заўвагі і адзнакі цэнзара Кукальніка. Рукапісы ня былі апублікаваны таму, што ў 60-х г. мінулага сталецьця была выдана забарона друкаваць пабеларуску.

* У апошніх лічбах сьнежня 1928 г. ў Беларускай Акадэміі Навук адбылося ўрачыстае пасяджэньне Акадэмічнае рады, прысьвечанае 20-цігадоваму юбілею Цішкі Гартнага. З дакладамі выступалі проф. М. Піотуховіч і Я. Лёсік. Уступнае слова сказаў старшыня БАН проф. У. Ігнатоўскі і падзяліўся ўспамінамі пра стрэчу з юбілярам 20 год назад сакратар Акадэміі В. Ластоўскі. Сход прыняў наступную рэзолюцыю:

„Урачысты сход Акадэмічнае рады Інстытуту Беларускае Культуры, разам з навуковым і тэхнічным пэрсоналам вітае правадзейнага члена ІБК, народнага песьняра і барацьбіта за Савецкую Беларусь Цішку Гартнага (Зьмітра Жылуновіча) з 20-годзьдзем яго карыснай працы і барацьбы. Мінулая літаратурная і рэволюцыйная чыннасьць Зьмітра Тодаравіча дае нам моцную ўпэўненасьць у тым, што і далейшая дзейнасьць яго, як поэты і пісьменьніка, як комуністага-рэволюцыянэра будзе таксама плённай і карыснай для працоўных, якою была яна і дагэтуль“.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Першы Бел. Дзярж. Тэатр атрымаў згоду ад драматурга Кіршона на пастаноўку яго п'есы „Горад ветраў", якую ён напісаў для тэатру МГСПС. П'еса малюе падзеі, зьвязаныя з імем 26 бакінскіх камісараў. Дырэкцыя тэатру мяркуе гэту п'есу падрыхтаваць і паставіць яшчэ ў канцы бягучага сэзону. Апрача гэтага, БДТ-1 наладжана сувязь з пісьменьнікамі Біль-Белацаркоўскім, Афінагенавым, Файко і Глебавым, якія будуць прысылаць свае творы для распрацоўкі ў рэпэртуарную камісію БДТ-1.

Апрача гэтага, дырэкцыя БДТ-1 мае на мэце ўзяць для новых пастановак п'есы ўкраінскіх пісьменьнікаў, як „Іду"—Мікітэнкі, „Мына мазойла"—Куліша, „Шахта № 7"—Дняпроўскага.

* Галоўмастацтва прыступае да організацыі ў Менску Беларускай філармоніі, якая будзе ведаць усімі сымфонічнымі выступленьнямі оркестраў, концэртамі, запрашэньнем на гастролі выдатных музыкаў і г. д. Бел. філармонія наладзіць цесную сувязь з філармоніямі УССР і РСФСР.

* У Менск зьвярнуўся з падарожжа Беларускі Вандроўны Тэатр „Полымя" саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. У канцы лютага тэатр зноў выяжджае ў акругі для абслугоўваньне батрацтва і сельгаслесрабочых.

Тэатр пабывае ў Менскай, Віцебскай, Полацкай і Аршанскай акругах.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр наведвае Гомельшчыну ўжо чацьверты раз. Штораз, то ўсё больш падабаюцца яго пастаноўкі рабочым і сялянам Гомельшчыны.

У гэты раз тэатр выехаў на Гомельшчыну к сьвяткаваньню 10-годзьдзя БССР і абслугоўваў у гэтыя дні Гомель, Добруш, Нова-Беліцу, Рэчыцу. Запатрабаваньні на пастаноўкі ў гэтыя дні былі настолькі вялікія, што тэатр мусіў даваць па два па казы ў дзень.

У сувязі з кампаніяй выбараў у саветы тэатр пасьпяшыў на вёску. За кароткі час ён пасьпеў пабываць у Васілевічах, Хойніках, Брагіне, Судкове, Холмічах і інш. і абслугоўваў у гэтыя дні перадвыбарныя сходы сялян і жыхароў мястэчак. Асабліва значную працу тэатр правёў у м-ку Хойніках. Вялізны будынак нардому спрыяў працы.

За 7 дзён звыш 1.500 сялян-беднякоў пабачылі спэктаклі тэатру зусім дармова.

Усюды з вялікай зацікаўленасьцю і захапленьнем рабочыя і сяляне сустракалі концэрты тэатру, якія складаліся з народных сьпеваў і скокаў.

Даўшы ў вышэйпамянёных вёсках каля 40 пастановак, тэатр з 10-га лютага пераехаў на ветку Чачэрск—Буда-Кашалёўскую, дзе таксама даў цэлы рад пастановак.

* БДМ набыў карціну, напісаную на дрэве з надпісам „І. Р.".

Ёсьць думка, што ініцыялы „І. Р." азначаюць прозьвішча вядомага профэсара малярства Яна Рустэма, які меў уплыў на беларускае малярства праз усю першую палову XIX стагодзьдзя.

На карціне—краявід заходня-немецкага характару, мабыць напісаны аўтарам у часе яго студыі ў Нямеччыне.

* У сучасны момант на кіно-фабрыцы Белдзяржкіно канчаецца апрацоўка наступных карцін:

„Сосны шумяць"—па сцэнарыю Вольнага, рэжысэр Малчанаў, опэратар Казлоўскі. Работа па монтажы ідзе з такім разьлікам, каб скончыць яе ў пачатку сакавіка.

Зусім скончаны монтаж карціны „Песьня вясны"—па сцэнарыю Гардзіна, пры опэратарах Шлюглейце і Навумаве.

З посьпехам ідзе работа па карціне „Вір" (назва ўмоўная)—з жыцьця вучнёўскай моладзі Заходняй Бе-

ларусі. Сцэнары Ю. Тарыча і Я. Бахара пры опэратарах Шлюглейце і Навумаве.

* Зараз балетмэйстэр Сямёнаў працуе над лібрэто для орыгінальнага беларускага балету. Музыку да гэтага балету піша музыка-композытар Маркевіч.

* Галоўмастацтва набыло для Белдзяржмузэю каля 10 карцін мастакоў, якія прымалі ўдзел у 3 усебеларускай мастацкай выстаўцы.

* Цэнтральны радыёвяшчальны вузел адчыніў у Цэнтральным Доме Селяніна першы ў БССР радыё-тэатр. Мэтай тэатру зьяўляецца популярызацыя сярод шырокіх мас музычнай культуры і, у паасобку, дасягненьняў беларускай музыкі.

* Анатоль Вольны разам з рэжысэрам Файнцымэрам напісаў і здаў у Белдзяржкіно новы сцэнары „Отэль Савой“. Новы сцэнары малюе гістарычныя падзеі ў Гомлі, вядомыя пад назвай „Стрэкапытаўшчына“. Рэжысэр Файнцымэр канчае падрыхтоўчую працу да здымкаў, якія будуць зроблены ў Гомельшчыне і Ленінградзе.

## Рознае

* Беларускі Дзяржаўны Музэй нядаўна набыў у Полаччыне скарб старажытных монэт канца XVI стал. з эпохі Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага. Большасьць монэт адбіты ў Вільні.

* У бібліотэку Бел. Акадэм. Навук паступіла надзвычайна цікавая часопісь з эпохі Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага, якая дае новае асьвятленьне некаторым гістарычным падзеям.

У гэтым нумары адзначаецца, што ў 1792 г. Мэтрыка Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага і сам мэтрыкант (асоба, якая вяла запісы) знаходзіліся ў Вільні.

Такім чынам зараз на падставе гістарычных дакумантаў устаноўлена, што Мэтрыка Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага была вывезена не з Варшавы, як гэта сьцьвярджаюць польскія і некаторыя расійскія вучоныя, а з Вільні.

Часопісь гэта была выдадзена ў Горадні ў 1792 г.—ад 9 сьнежня за № 7.

* Белдзяржмузэй рыхтуе да выданьня зборнік „Стары Менск“. У зборніку будуць зьмешчаны матэрыялы, характарызуючыя матэрыяльную культуру жыхароў Менску з самых старых часоў да XIX сталецьця.

* Акадэмічная рада зацьвердзіла выдавецкі плян Акадэміі Навук на 1928-29 год. Плян значна дапоўнены і пашыраны. Намячаецца выданьне „запісак аддзелаў гуманітарных навук“. Выйдуць 6 томаў, якія ахопяць працу клясаў філёлёгіі, гісторыі, катэдраў этнографіі, сучаснага права, архэолёгіі ды камісіі гісторыі мастацтва.

З дасьледчых прац будуць выданы лінгвістычная географія (частка 2-я) проф. Бузука, слоўнікі Ігуменшчыны Шатэрніка, проект беларускага правапісу, слоўнікі сельска-гаспадарчае расьлінагадоўлі, лесаводзтва, практычнае мэханікі, пэдагогічнай дысцыпліны, а таксама поўны зборнік твораў Алеся Гаруна, альбом беларускіх народных ткацкіх орнамантаў, зборнікі беларускіх народных мэлёдый ды інш.

* Белдзяржмузэй атрымаў з Маскоўскай аружэйнай палаты скрынку срэбраных рэчаў пераважна XVII—XVIII стаг., якія былі эвакуяваны з Беларусі ў часе імпэрыялістычнай вайны. Між гэтымі рэчамі, вага якіх даходзіць да 3-х пуд. срэбра, ёсьць частка мастацкіх яўрэйскіх вырабаў і культавых царкоўных рэчаў. Сярод апошніх—адна срэбная браціна і дае два срэбраных коўшыкі. Коўшыкі надзвычайна цікавай стылізацыі. Апрача таго, ёсьць срэбная залочаная мітра магілеўскай работы XVII стагодзьдзя беларускага эпіскапа Каніскага.

* Селянін Азаронак, Пятрыкоўскага р., Мазырскай акругі, пераслаў у

Беларускі Дзяржаўны Музэй знойдзены ім скарб вагою каля 5 фунтаў. Скарб складзены з монэт XVI стагодзьдзя.

* Пры Белдзяржмузэі організавана навуковая рада у складзе навуковых супрацоўнікаў музэю, прадстаўнікоў ад Галоўнавукі і Беларускай Акадэміі Навук.

Мэта організацыі навуковай рады — кіраваньне навуковай працай музэю.

* У архіве былога беларускага генэрал-губарнатара ў Віцебску знойдзена цікавая справа за 1829 г. пад назвай „Об уничтоженин вредных людей в Невельском уезде, Витебской губ". З гэтай справы відаць, што „вредными" людзьмі зьяўляліся беглыя рэкруты і прыгонныя сяляне, якія ад зьдзекаў паноў уцякалі ў лясы і організаваным парадкам нападалі на панскія маёнткі, забівалі абшарнікаў і разбурвалі маемасьць. У гэтым-жа архіве ёсьць справы аб усьмірэньні сялянскага руху на тэрытсрыі Віцебскай і Магілеўскай губэрань.

### Беларуская культура ў савецкіх рэспубліках і за рубяжом

* Выдавецтва „Зіф" („Зямля і фабрыка") нядаўна выпусьціла з друку кнігу збору твораў расійскага пісьменьніка Нечаева Егора пад назвай „Гута". У аддзеле поэзіі гэтага тому ёсьць шмат вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, перакладзеных з беларускай на расійскую мову.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны выпусьціла на украінскай мове беларускі літаратурны альманах пад назвай „Нова Білорусь" з уступным артыкулам М. Байкова „Новая беларуская літаратура". Альманах складаецца з вершаў і апавяданьняў амаль трыццаці беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў, творы якіх перакладзены на украінскую мову рознымі асобамі. Альманах рэдагаваны вядомым пісьменьнікам і грамадзкім дзеячом С. Піліпенка і прысьвечаны яднаньню братэрскіх беларускай і украінскай культуры.

* У першым томе літаратурнай энцыклёпэдыі зьмешчаны артыкулы: Т. Глыбоцкага „А. Александровіч", пр. М. Піотуховіча „Беларуская літаратура", З. Жылуновіча „Пасьлякастрычнікаўскі пэрыод у беларускай літаратуры" і проф. І. Замоціна „М. Багдановіч".

* У эспэранцкім часопісу „Sennaciulo" № 219 за 13 сьнежня 1928 г. якая выходзіць у Парыжы, зьмешчаны артыкул „Цішка Гартны—да 20-цігадовага юбілею пісьменьніка" і портрэт юбіляра.

* У чэскай комуністычнай газэце „Iskra" № 1 за бягучы год надрукаваны верш Цішка Гартнага ў перакладае вядомага чэскага пісьменьніка Я. Горы „Работніцка-сялянская рэволюцыя"

* У № 24 ілюстраванага чэскага часопісу „Reflektor" зьмешчаны артыкул „20 год літаратурнай чыннасьці Цішкі Гартнага" з портрэтам юбіляра. Там-жа надрукаваны яго верш „Хто мы?" у перакладзе чэскага пісьменьніка Язэпа Горы.

* У Дзяржаўным Выдавецтве РСФСР вышаў зборнік апавяданьняў Цішкі Гартнага на расійскай мове ў перакладзе В. Д. Ракоўскай пад назвай „Повести и рассказы". У зборнік увайшлі ўсе апавяданьні і аповесьці, зьмешчаныя ў „Прысадах"; за выключэньнем п'ес „На стыку" і „Дзьве сілы". Уступны артыкул напісаны С. Гарадзецкім.

* У № 1 расійскага часопісу „Рэволюцыя і культура" зьмешчаны артыкул пр. М. Піотуховіча „Беларуская літаратура".

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Аўстрыйскае кіно-прадпрыемства „Мернер Фільм“ апавясьціла конкурс на лібрэто з гісторыі украінскага казацтва эпохі гетманшчыны.

* У Маскве ў першых лічбах лютага г.г. адчынілася ў памяшканьні ГАХН выстаўка сучаснай украінскай графікі. На выстаўцы будуць прадстаўлены работы ўсіх буйнейшых украінскіх графікаў, а менавіта: Івановай, Касьяна, Катлярэўскай, Налепінскай-Байчук, Седляра, Падолкі, Павленко, Пуставіта, Хэхтмана ды іншыя.

* Харкаўскім выставачным камітэтам друку ў Кёльне (Нямеччына) выпушчаны дзьве кніжкі на нямецкай мове: „Ukraina“ і „Das Buch und Zeitungswesen in der Ukraine“. У гэтых кніжках шмат зьмешчана клішэ вокладак ранейшых дарэволюцыйных кніг і газэт на украінскай мове, а таксама і портрэты пісьменьнікаў і грамадзка-палітычных дзеячоў Украіны.

* У выдавецтве „Західня Украіна“ вышаў з друку першы том апавяданьняў Стэфана Цвайга ў перакладзе на украінскую мову В. Бабінскага, пад рэдакцыяй і прадмовай Зьм. Загула. У гэтым годзе выдавецтва мае намер выпусьціць 4 тамы збору твораў Ст. Цвэйга.

* Фэдэрацыя савецкіх пісьменьнікаў РСФСР запрасіла украінскіх пісьменьнікаў прыехаць у Маскву дзеля ўмацаваньня сувязі між расійскаю і украінскаю літаратураю і палажэньня сталых дзелавых зносін.

Украінскія пісьменьнікі адказалі згодаю, і 9 лютага ў Маскву наведала група украінскіх пісьменьнікаў і літаратурных крытыкаў (50 асоб)—прадстаўнікоў ад усіх асноўных літаратурных аб'яднаньняў Украіны. Вылучана спэцыяльная камісія пад старшынствам т. Керманцава для наладжаньня „Украінскага тыдню“ ў Маскве. Агульная програма украінскага тыдню была намечана такая: 9 лютага прыезд і таварыскае спатканьне украінскіх і расійскіх пісьменьнікаў у доме Герцэна; 11 лютага ўдзень нарада украінскіх пісьменьнікаў з дзяржаўным выдавецтвам РСФСР, выдавецтвам „Зямля і фабрыка“, фэдэрацыяй пісьменьнікаў і рэдакцыямі асноўных мастацкіх часопісаў, увечары—пасяджэньне ў Колённай залі дому саюзаў (прывітаньні ад грамадзкіх організацый, даклад т. Луначарскага, літаратурная і канцэртная частка); 12-га—выступленьні украінскіх і расійскіх пісьменьнікаў у рабочых клюбах; 13-га—вечар ва украінскім зямляцтве; 14-га—адчыненае пасяджэньне сэкцый літаратуры і мастацтва комуністычнае акадэміі з дакладам аб украінскай літаратуры; 16-га—вечар у доме Герцэна.

17 лютага частка украінскіх пісьменьнікаў вярнулася на Украіну, а частка паехала ў Ленінград.

* У Харкаве ў гэтым годзе працуюць: Дзяржаўны Украінскі тэатр „Березіль“, Дзяржаўная опэра, Чырвоназаводзкі украінскі тэатр, рабоча-сялянскі вандроўны тэатр і яўрэйскі дзяржаўны тэатр. У Кіеве—украінскі дзяржаўны тэатр імя Франка, дзяржаўная опэра, дзіцячы тэатр, тэатр рабочай моладзі, вандроўны рабочы тэатр, яўрэйскі тэатр і дзяржаўная капэля „Думка“, што нядаўна выехала на гастролі ў Францыю. У Днепрапятроўску працуе Украінск. Дзярж. тэатр імя Шэўчэнкі. У Сумах—укр. дзярж. тэатр імя Занкавецкай. У Адэсе—дзяржаўны драматычны тэатр, дзярж. опэра. Для абслугоўваньня іншых раёнаў працуе

дзярж. вандроўная опэра. Апрача гэтага, амаль у кожным акруговым цэнтры працуюць, пад кіраўніцтвам політасьветы, украінскія драматычныя тэатры. На Украіне ўжо даўно адмовіліся ад усялякіх выпадковых „расійскіх драм". У Галоўмастацтве УССР распрацоўваецца таксама пытаньне аб організацыі украінскай дзяржаўнай опэрэты.

Пры такім шырокім разгортваньні тэо-справы, украінскія тэатры дабіліся і значных посьпехаў у сэнсе будаўніцтва тэатральнай культуры. Праўда, украінскі тэатр пасьля Кастрычніка атрымаў поўную спадчыну старой украінскай тэо-культуры. Але ўсё-ж дасягненьні новых украінскіх тэатраў проста дзівяць. І першае месца па праву можа заняць дзяржаўны тэатр „Березіль", які працуе ўжо 7-мы сэзон. Організатарам, душою тэатру і яго мастацкім кіраўніком зьяўляецца народны артысты рэспублікі Лесь Курбас. Трымаючы кірунак на пролетарскі зьмест—тэатр адмовіўся ад старога тэо-рэалізму як у акторскай ігры, так і ў аформленьні, паклаўшы ў аснову тэатральнай дзеі рытм і „действие", у аформленьні, конструкцыі пры дапамозе якіх можна выкарыстоўваць сцэну ва ўсіх плянах і кірунках. Крок за крокам, робячы ў кожнай новай пастаноўцы пэўны экспэрымэнт, тэатр дамогся тэй мастацкай вартасьці, якую ён мае зараз. Усебакова выхаваны актор (біомэханіка, плястыка, рытм, голас) даюць шырокі дыяпазон у працы гэтага тэатру. Ад народнай драмы „Народны Малахий" цераз опэрэту „Мікадо", тэатр прышоў да надта цікавага па форме рэвю (агляд) „Алло на хвилі 477". Наогул гэта жывая газэта ў форме замежнай „Рэвю". Паказ захапляе, асабліва харкаўцаў, для якіх усе гэтыя дзеі вядомы.

У рэпэртуары тэатру, апрача гэтых рэчаў, у бягучым сэзоне ідуць „Пралог", „Змова Фіеско ў Генуі"— Шылера, „Яблоновий полон"—Дніпровського, „Сава Чалы", „Сэді". Апрача гэтага рыхтуецца опэрэта Балабана — „Королева ніведомого острова" і комэдыя М. Куліша „Мына Мазойля" (апошнюю мяркуе ўключыць у свой рэпэртуар БДТ-2).

Тэатр у пераважнай большасьці абслугоўвае організаванага гледача і карыстаецца вялікім, цалкам заслужоным посьпехам.

Калі тэатр „Березіль" усё-ж у асноўным тэатр экспэрымэнтальны, заклікавы ўдасканаліць тэатральнае украінскае мастацтва, знаходзіць новыя яго формы, дык „Чырвоназаводзкі дзяржаўны тэатр" мае сваёй мэтай абслугоўваньне украінскім паказам шырокіх рабочых мас. Тэатр, як тэатр, працуе толькі першы год. Мастацкім кіраўніком тэатру зьяўляецца В. Васілько—вучань Курбаса. Тэатр яшчэ не аформіўся, яшчэ адчуваецца неапрацаванасьць колектыву, складзенага як з актораў старой сцэны, студыйцаў „Березіля", так і проста новых людзей, але тэатр заслужыў люб ў рабочых мас Чырвоназаводзкага раёну, і паказы яго амаль цалкам разьбіраюцца прадпрыемствамі.

Дзяржаўная сталічная опэра пераважна карыстаецца перакладнымі опэрамі. Хаця побач з гэтым апрацаваны і орыгінальныя опэры („Тарас Бульба" і інш.). Опэрнае мастацтва найболей консэрватыўнае мастацтва і вякамі карыстаецца аднымі і тымі-ж прыёмамі. Украінская опэра, як відаць, прабуе адыйсьці ад гэтых традыцый, дамагаючыся, каб на сцэне ня толькі сьпявалі, але і ігралі. Важным зьяўляецца ўжо сам факт існаваньня украінскай опэры, перад якой наперадзе неабмежаваныя магчымасьці.

Цікавы, як відаць, і Украінскі дзяржаўны тэатр для дзяцей. Ужо самы факт існаваньня шмат аб чым сьведчыць і ў прыватнасьці аб тым, што НКО не забывае і пра дзіцячага гледача.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНЫХ КРАІН

* Д'Анунцыо напісаў дзьве драмы: „Сон вясеньняй раніцы“ і „Сон восеннага вечару“.

* У Арэнцо ў Тосканіі, дзя нядаўна паставілі вялізны помнік вядомаму поэту італьлянскага рэнэсансу Пятрарку, распачаты работы па адкапаньні рымскага амфітэатру і адбудаваньні яго ў даўнейшым выглядзе.

* Як вядома, галоўнай біографічнай крыніцай А. Міцкевіча зьяўляецца жыцьцёпіс, напісаны сорак год таму назад яго сынам Уладыславам. Цяпер-жа па ініцыятыве „Пазнанскага т-ва прыяцеляў навукі“ вышау 1-шы том новых біографічных матэрыялаў аб А. Міцкевічу. Кніжка гэтая грунтоўная (450 стар. і 37 малюнкаў) і зьяўляецца вельмі каштоўнай крыніцай ведаў аб поэце.

* Амэрыканская статыстыка дае на пытаньне „што чытае Амэрыка?“ надзвычайна орыгінальны адказ.

Перш усяго: популярызатарскія брошуры з галіны біолёгіі, літаратура эпічнага зьместу, падручнікі для самаадукацыі і лёгкая літаратура. Пад канец ідуць мастацкія аповесьці. Вось некалькі лічбаў з амэрыканскага кніжнага гандлю.

„Любоўныя пісьмы М. Ф. Алькофорадо“ разышліся ў працягу году ў 50.000 экз. Псэўдо-дыдактычныя кніжкі: „Якім спосабам палепшыць сваю вымову“, „Як змагацца з дурасьцю“ разыходзяцца па 20.000 экз. у год.

Некаторыя каштоўныя мастацкія творы ня маюць пакупнікоў з прычыны... назвы. Слабая, неэфэктная назва перашкаджае распаўсюджаньню. „Поэмы“ Вільдэ пасьля зьмены назвы на „Дом какоткі“, як і іншыя поэмы, ішлі на расхват. Аповесьць Т. Гоніча „Залатыя валасы“ разышлася толькі ў 5.000 экз., але пасьля того, як яе назвалі „У пошуках яснавалосай каханкі“, разышлася ў 50.000 экз.

* Сярод сучасных інтэрнацыянальных культурных організацый Эўропы выдатнае месца займае Чэхаславацкая асоцыяцыя „Дзеветсіл“ („Дзеветсіл“ —чэская назва кветкі дзевясіл). Гэта асоцыяцыя яднае маладых пісьменьнікаў, рэжысэраў, архітэктараў, музыкаў, мастакоў.

Асоцыяцыя ўзьнікла ў 1920 г., калі ў выніку бурнага тэмпу рабочага руху ў Чэха-Славакіі ад чэскай соцыял-дэмократычнай партыі адкалолася яе левая частка і далучылася да III Інтэрнацыяналу. Гэта адбілася як у дэклярацыі асоцыяцыі, так і ў творчасьці паасобных яе членаў. У першыя гады ўзьнікненьня асоцыяцыі вышлі кнігі: „Горад у сьлязах“— Ярослава Сэйфэрта, „Музыка на пляцы“—І. Гаржэйшы „Цяжкая гадзіна“ Ю. Волькера, „Мост“—В. Незвал, „Палі пахаты і вайны“—В. Ванчура і іншыя. Гэтыя кнігі можна назваць кнігамі чэскай соцыяльнай рэволюцыі. З іх „Горад у сьлязах“, па словах самой асоцыяцыі (колектыўная прадмова да кнігі), гэта—кніга пра „ўзыходзячую зорку комунізму“, пра „комуністычную зямлю, якая нараджаецца з хаосу“. Пясьняр Яраслаў Сэйфэрт паходзіць з рабочай гушчы. Ён успрыняў горад як месца, дзе выразьней за ўсё кідаецца ў вочы няволя рабочай клясы. Горад— гэта Бабілён, які нельга пакінуць,

бо да яго прыкута ўся кляса: „Пакуль хоць адзін з маіх братоў будзе тут, я ня буду шчасьлівым, і, абапёршыся да сьцяны фабрыкі, буду глытаць дым і сьпяваць сваю песьню“. Яго лёгічны вывад—не ўцякаць з Бабілёну, а ўзяць яго.

Кніга „Цяжкая гадзіна“ маладога Ю. Волькера (1924 г.) паводле сваіх мотываў мае шмат супольнага з „Горадам у сьлязах“. Толькі Волькеру прышлося перамагаць ужо закаранелую традыцыю свайго ўнутранага міру, традыцыю поглядаў, якія ён набыў сярод дробна-буржуазнай інтэлігенцыі. Аднак-жа, ён адзін з першых у Чэха-Славакіі выступіў з тэорыяй пролетарскай літаратуры і культуры і цьвёрда заняў позыцыю ў пытаньні аб клясавым характары мастацтва.

Рэволюцыйны рух таго часу адбіўся і на творчасьці трэцяга здольнага песьняра В. Незвала. У той пэрыод ён выступіў са сваім „Дзіўным чараўніком“, у якім шмат маладога задзёру і рэволюцыйнага тэмпэраманту.

Гэта—пясьнярская сэкцыя асоцыяцыі „Дзеветсіл“. Да яе трэба аднесьці і прозаіка В. Ванчуру, проза якога ня менш поэтычная і багатая рэволюцыйнымі навевамі.

1922—26 гады прайшлі пад знакам зацішша рабочага руху і замацаваньня аслабленага вайной капіталізму. У пачатку гэтага пэрыоду асоцыяцыя рашыла перагледзець занятыя занадта сьпешна позыцыі.

Яна фактычна асудзіла пролетарскую тэндэнцыю ў мастацтве. Узьніклі нелады ў асоцыяцыі, якой неўзабаве вышлі Ю. Волькер, Гаржэйшы і Піша.

Пад уплывам гэтага новага курсу асоцыяцыі ў гэты пэрыод вышлі кнігі: „На хвалях радыё“ і „Салавей сьпявае блага“—Ярослава Сэйфэрта, „Пантоміма“ і „Садок ружаў“—В. Незвала, „Багдадзкі злодзей“ і „Злом“—К. Бібля, „Раскошнае лета“—Ванчуры, „Кніга пра кіно“—К. Тайге, „Сцэна, якая круціцца“—І. Гоньль і інш.

Калі ў першы пэрыод пісьменьнікі адгукаліся на соцыяльныя процэсы, калі яны жылі барацьбой, дык цяпер уся іхная ўвага спынілася на фактах сучаснай цывілізацыі, на яе прыгоствы, якія былі сярод машын, заводаў і фабрык. Яны паплылі на хвалях рэконструкцыі капіталістычнай гаспадаркі. Замест соцыяльных тэм запанавалі „прыгоствы ўсяго сьвету“ (новы лёзунг асоцыяцыі), апрача Бібля, у поэзіі якога яшчэ быў моцны струмень соцыяльных мотываў.

Аднак, ужо ў другой сваёй кнізе „Салавей сьпявае блага“ Я. Сэйфэрт зноў варочаецца да соцыяльных тэм.

Архітэктурная і музычная сэкцыі такіх хваляваньняў не перажывалі і ўвесь час ішлі па пратаптаных ужо сьцежках Заходняй Эўропы. Тэатральная-ж сэкцыя з самага пачатку апынулася паміж двух агнёў. Яе два галоўных кіраўнікі: Гонзьль і Фрэйка аказаліся праваднікамі розных культур. Гонзьль быў пад моцным уплывам расійскай тэатральнай культуры, галоўным чынам, яе левага крыла (Мэйерхольд і інш.), Фрэйка-ж трапіў пад уплыў францускай тэатральнай культуры. У выніку ў Празе організаваліся два тэатры: „Вызвалены тэатр“ (І. Гонзьль) і „Тэатр Дада“ (Фрэйка). Пад уплывам гэтых тэатраў знаходзяцца і іншыя тэатры.

У 1927 годзе ў асоцыяцыю ўвайшлі буйныя сілы: пясьняр Голас, пясьняр Ф. Вайскопф, крытыкі Фучык, Вацлавэк і інш. Гэта значна ўзмацніла комуністычную фракцыю асоцыяцыі і комуністычны ўплыў. З пачаткам выхаду (у тым-жа годзе) вялікага часопісу асоцыяцыі „Рэд“ яе ўплыў узрос як у Чэхіі, так і за межамі. У бліжэйшы час асоцыяцыя, бязумоўна, вырасьце ў вялікі культурны інстытут у асяродку Эўропы і зробіць вялікі ўплыў на жыцьцё сучаснай эўропэйскай культуры.

* У Польшчы вышла нядаўна з друку аповесьць „Флёрыян“ вядомай польскай пісьменьніцы Марыі Радзевіч. Як і ва ўсіх іншых творах М. Радзевіч, і ў „Флёрыяне“ адчуваецца глыбокая сымпатыя і нават улюбёнасьць аўтаркі да сфэр, з якіх яна паходзіць, —да польскай шляхты на „Ўсходніх Крэсах“, г. зн. Зах. Беларусі, а часта,—яшчэ выразьней пасьля вайны,—абрыдлівасьць да вакольных беларускіх „гадаў“.

„Флёрыян“ гэта звон мястэчка на „Крэсах“ Беларусі. зьяўляецца нібы сымболем магутнасьці і вытрываласьці гэтай зьдзічэлай крэсавай шляхты, якая, як мы гэта добра ведаем, ніякай цывілізацыі, ніякай польскай культуры з сабою на „Крэсы“ ня прынесьлі, а над беларускай культурай і асьветай толькі зьдзекуюцца.

Як і іншыя творы аўтаркі, „Флёрыян з Вялікай Глушы“ цікавы і карысны для нас сваім чыста клясавым польска-шляхецкім падыходам да балючых у Зах. Беларусі палітычных, эканомічных і культурных вымаганьняў беларускага народу Па „Флёрыяну“ можна бачыць, з якімі „культурнымі“ зубрамі прыходзіцца мець справу беларускаму народу ў Польшчы і чаго ад іх можна чакаць.

* Чэская Акадэмія Навукі і мастацтва абвясьціла на 1929 год наступныя прэміі: па галіне літаратуры дзьве першыя прэміі па 5.000 чэскіх крон за твор вершамі і прозай, другую прэмію у 3.000 чэскіх крон і трэцюю прэмію у 2.000 чэскіх крон. Па галіне музыкі будуць разьмеркаваны чатыры прэміі: дзьве па 5.000 чэскіх крон, адна у 3.000 чэскіх крон і адна ў 2.000 чэскіх крон. Па галіне вытворчых мастацтваў—тры прэміі у 10.000 ч. крон, 6.000 чэскіх крон і 3.000 ч. крон. Дамагацца гэтых прэмій могуць члены Акадэміі, а таксама пры пасярэдніцтве апошніх і нячлены, і выключна самабытнымі працамі, якія былі выданы ў 1928 годзе, створаны і афіцыяльна прадстаўлены і дагэтуль ня былі. ўшанаваны прэміямі. Далей з фонду Мацея Гавэлхта выдаюцца: а) 1.600 ч. крон за драматычны твор, б) 600 ч крон за твор мастацкай прозы (з адказаньня на гэты фонд Здэнкі Глаўковай). З таго-ж фонду (на ўспаміны сясьцёр Здэнкі і Мілославы Гавэльковых)—1.200 ч. крон за музычны твор большага стылю. З фонду доктара права Яна Каньќа прысуджаецца сума у 1.600 ч. крон за работы і працы ў галіне вытворчага мастацтва ці музыкі або за выканьне мастацкіх і музычных твораў. З фонду Леогольда Шмідта выдаецца прэмія ў 1.000 ч. крон за дапамогу мастацкай чыннасьці ў галіне медальённага мастацтва. З фонду Марылі Клузачковай даецца дапамога ў 400 ч. крон аднаму з маладых бедных композытараў ці композытарак. Апрача таго, выдае яшчэ Чэская Акадэмія з сваіх сродкаў стыпэндыю ў 4.000 чэскіх крон для кожнай з сваіх сэкцый і шэраг дапамог.



*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Баліцкі, Я. Васілевіч, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ.